Пераклад Васіля Раманава 2015 г.

Марозаў Мікалай Аляксандравіч

# Адкрыццё ў навальніцы і буры. Гісторыя ўзнікнення Апакаліпсіса



Выданне рэдакцыі часопіса "Былое", тыпа-літаграфія "Энергія"; СПБ; 1907

Анатацыя

Ў гэтай кнізе Мікалая Марозава (1854-1946) асноўным з'ўляецца астранамічнае вылічэнне часу ўзнікнення Апакаліпсіса. Кніга ўтрымвае 62 малюнкі працы мастакоў Э. Э. Ліснера і Я. Г. Беліта, здымкі са старажытных астранамічных мап Пулкаўскай абсерваторыі і ўклейку "Старадаўнія Астролага-Астранамічныя мапы неба".

## ЗМЕСТ

Для тых, хто не ведае: жыды пішуць СПРАВА-НАЛЕВА, пры карыстанні алфавітам майце на ўвазе.

| | на прыканцы слова | | |
|---|---|---|---|
| א | | алеф | — ***А,*** зараз вымаўляецца то як ***а,*** то як ***о,*** то як ***э*** падобна ангельскаму ***а***. |
| ב | | бет | — ***Б*** і ***В***, зараз вымаўляецца як ***б і*** як ***в***, а ў старажытнасьці хутчэй за ўсё было прыдуўное ***б***, сярэдняе паміж абодвума нашымі гукамі. |
| ג | | гімел | — ***Г*** у ягіпецкім і ***g*** (*італійскае дж*) ва ўсходняй гаворцы. |
| ד | | далет | —***Д***, як ***д***. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| ה | | хе | — ***Е***, вымаўлялася з прыдыханнем як грэчкая ***η*** (эта). |
| ו | | ваў | — ***У***, часам як ***ў*** блізка да ***в***. |
| ז | | зайн | — ***З***, як польское ***dz***. |
| ח | | хет | — ***Х***, як лацінскае ***h***. |
| ט | | тэт | — ***Т***, звычайна чытаюць як ***т***. |
| י | | йёд | — ***І*** і ***Й***, як ***і*** і ***й***, і ***ай***. |
| כ | ך | каф | — ***К***, гартанна, як злучанае ***кх***. |
| ל | | ламед | — ***Л***, як рускае ***л***. |
| מ | ם | мем | — ***М***, як ***м***. |
| נ | ן | нун | — ***Н*** як ***н***. |
| ס | | самех | — ***С***, як ***с***. |
| ע | | айн | — ***Э***, зараз вымаўляецца як ***э***, і як ***у***, і як ***о***. |
| פ | ף | пе | — ***Ф*** і ***П***, падобна на прыдуўное ***п***. |
| צ | ץ | цадзі | — ***Ц***, як ***ц*** (у кнізе Пракокі ёсць такое напісанне: . Замест яго ў мяне выкарыстоўваецца צ ) |
| ק | | коф | — ***К***, вымаўленне загадкава, магчыма, што пераходзіла і ў рускае ***ч***. |
| ר | | рэш | — ***Р***, верагодна ў картавае ***р***. |
| ש | | шын | — ***Ш***, як ***ш*** і як ***с***. |
| ת | | таў | — ***Т***, лічыцца блізкім да ангельскага ***th***. |

# Прадмова да 1-га выдання.

Ў кожным навуковым даследаванні існуе патрэба адрозніваць асноўнае ад другараднага. У гэтай кнізе асноўным з'яўляюцца астранамічныя вылічэнні часу стварэння Апакаліпсіса. Новы метад вызначэння часу, прыкладзены да старой кнігі, прывёў, як гэта часта бывала ў навуцы, да нечаканага адкрыцця. І год, і дзень, і сама гадзіна назірання Яна выявіліся вызначанымі з астранамічнай дакладнасьцю.

Як наступства гэтага з'явілася і іншая выснова, што Апакаліпсіс напісаны знакамітым змагаром супраць візантыйскага рэлігійнага і палітычнага абсалютызма, зрынальнікам імператарскіх статуй, Янам Антыяхійскім, празваным Хрызастомам ці Залатавустам.

Але калі чытач нават і не пагодзіцца з гэтай апошняй высновай і пажадае знайсці іншага аўтара, усё адно. Шукаць яму давядзецца ў тым жа самым 395 г., які далі нам астранамічныя вылічэнні. Пакуль гэтая дата не пахіснута, – а гэта цяжка зрабіць пасля праверачных вылічэнняў М. М. Каменскага і Н. М. Лепіна ў Пулкаве, – падмурак гэтага даследавання застаецца трывалым, а разам з тым застануцца трывалымі і ўсе істотныя надбудовы. Ніякага іншага аўтара Апакаліпсіса чытач у гэты час не знойдзе.

Дробныя прыватнасьці, пра якія можна спрачацца, для мяне цалкам не маюць значэння: я гатовы імі ахвяраваць пры першым сур'ёзным пярэчанні, і кніга ад гэтага ніколькі не зведае перамен.

11 сакавіка 1907 г.

Мікалай Марозаў.

# Прадмова да 2-га выдання.

Прайшло пяць месяцаў пасьля з'яўлення ў продажы гэтай кнігі. Яе першае выданне ў 6000 асобнікаў разышлося чатыры месяцы назад і зараз паўстала неабходнасць у новым выданні.

Што магу я дадаць да гэтага новага выдання? Вельмі мала.

Нягледзячы на цэлую літаратуру газетных і часопісных рэцэнзій, якія з'явіліся за гэты час з нагоды маёй кнігі, ніводнае із яе асноўных цвердджанняў не пахіснулася. Большасць крытыкаў, асабліва із астраномаў і людзей вальнадумаючых, горача віталі яе. Іншыя, із тэолагаў і збольшага гісторыкаў, спрабавалі выставіць у якасьці пярэчанняў мне тыя самыя цытаты, якія прыпісваюцца даўнейшым аўтарам, ненадзейнасць якіх я ўжо дастаткова паказваў і ў першым выданні і ў маім адказе, размешчаным у "Русі" (21 красавіка 1907 г.)

Усё, што зроблена новага ў гэтым 2-м выданні, гэта далучэнне да яго нататкі пра тлумачэнне Ньютана на Апакаліпсіс і нататкі пра цытаты із Апакаліпсіса ў старажытных аўтараў. Апроч таго, я зрабіў яшчэ некалькі змен у літаратурнай апрацоўцы майго папулярызацыйнага выкладання Апакаліпсіса. Аднак усе яны звяліся амаль вылучна да таго, што частку тлумачальных уключэнняў, якія ў першым выданні былі размешчаны ў дужках, я зараз размясьціў разбіўкай. Навуковая каштоўнасць гістарычнага дакумента ад гэтага нітрохі не зведала шкоды, бо я ў ім імкнуўся перадаць толькі дух, а не літару, але чытанне стала значна лягчэйшым і выявы больш яскравымі.

Спагада, з якой было сустрэта чытачамі "Адкрыццё ў навальніцы і буры", падтрымлівае мяне і ў другім пачынанні цалкам падобнага роду: закончыць маю кнігу "Прарокі", таксама пачатую яшчэ падчас майго зняволення ў Аляксееўскім равеліне і ў Шлісельбургу. Справа ў тым, што старажытныя прарокі Іезікіль, Данііл, Захарыя і Малахія былі таксама астролагамі. У іх фігуруюць тыя ж звяры і планетныя выявы, якія даюць магчымасць вылічыць час з'яўлення гэтых кніг і якія прыводзяць таксама да цалкам нечаканых вынікаў. Галоўнейшай перашкодай да заканчэння кнігі пра пракокаў да гэтага часу служыла для мяне амаль поўнае няведанне старажытнажыдоўскай мовы і дрэнная якасць усіх перакладаў з яе, бо перакладнікі, не быўшы астраномамі, самі не разумелі таго, што яны перакладалі, і таму моцна скажалі сэнс.

Мікалай Марозаў.

5 жніўня 1907 г.

# Частка I. Пралог

## Глава I

### Некалькі слоў пра мінулыя сьветапогляды і пра цяжкасьці іх разумення для сучаснага чалавека.

Із усіх цяжкіх задач, узнікаючых для нашага розуму пры вывучэнні чужой нам гістарычнай эпохі, адна із самых цяжкіх – гэта неабходнасць яскрава і выразна засвоіць сабе ва ўсёй іх лагічнай пасьлядоўнасьці як чужы для нас склад мышлення, так і чужы для нас светапогляд яе сучаснікаў. Для таго, каб зразумець душу каго-небудзь із аддаленых пакаленняў, трэба быць настолькі спагадлівым чалавекам, каб пад уражаннем некалькіх разрозненых рэшткаў, якія характарызуюць яго разумовае жыццё і якія захаваліся, падобна

закамянеласьцям, у забытых старадаўніх кнігах, зрабіцца здольным не толькі прадставіць, але і часова адчуць сябе іншым чалавекам, думаючым цалкам інакш і верычым у тое, у што ён ужо не можа верыць.

Вельмі шмат хто із нас да гэтага цалкам няздольны. Ды гэта і зразумела. Як можа чалавек, ніколі не еўшы, напрыклад, плод хлебнага дрэва, ўявіць сабе смак гэтых пладоў, і ніколі не курыўшы опію – уявіць сабе яскрава і выразна душэўны стан тых, якія аддаюцца гэтаму курэнню? Як можа чалавек, які звыкся глядзець з дзяцінства на камяні, паветра, дрэвы і аблокі як на прадметы "неадушаўлёныя", зразумець адчуванні людзей якія моляцца ім горача і шчыра і ўявіць сабе простадушны светапогляд гэтых людзей так жа добра і дакладна, як калі б ён быў яго ўласным?

Усё гэта для нас магчыма і лёгка толькі ў тым выпадку, калі ў нашай уласнай душы яшчэ гучаць, у той ці іншай форме, аддаленыя адгалоскі першабытнага светапогляду нашых продкаў, слабыя водгукі іхных даўно знікшых для нашай свядомасьці пачуццяў і інстынктаў. Тады, пад уражаннем жывога апавядання якога-небудзь вялікага мастака, мы можам зрабіцца здольнымі на час адмовіцца ад нашага ўласнага Я, адчуць у сабе іншую душу, думаць іншым розумам, глядзець на свет іншымі, не нашымі, вачыма, паважаць і ненавідзець іншым, нязвыклым для нас спосабам.

Але калі ў нашай душы ўжо цалкам адсутнічаюць нават і сляды якіх-небудзь із мінулых светапоглядаў, назаўсёды пахаваных на невядомых для нас могілках гістарычнага жыцця, тады ўсё скончана. Памёршага немагчыма ажывіць...

Каму із нас не даводзілася ў больш сталым узросьце перачытваць якую–небудзь аповесць або раман, зрабіўшы на нас незвычайна моцнае ўражанне ў дзяцінстве, і з усмешкай пытацца ў сябе: як магла падобная пустая або прама недарэчная кніжка падзейнічаць на нас тады такім ашаламляльным чынам? Тое ж самае і з мінулымі светапоглядамі. Большасць з іх ужо недаступна для нас у поўнай магутнасьці, мы глядзім на іх абыякава, як чужыя, і толькі пытаем сябе: як маглі некалі людзі хвалявацца і нярэдка ахвяраваць сваім жыццём праз падобныя дробязі? – Паўстаючыя перад намі гістарычныя трагедыі на глебе барацьбы за аджыўшыя ідэі ўжо не выклікаюць больш у нас нічога, акрамя пачуцця шкадавання з нагоды чалавечага глупства...

А між тым глупства тут менавіта і не было. Усё гэта было толькі першае абуджэнне чалавечага розуму, яго першыя патрэбы блукаць у пошуках ісціны!..

Вось чаму найбольш здольнымі добра разумець душу мінулых пакаленняў выяўляюцца менавіта тыя із адукаваных людзей, чыя галава з дзяцінства была перапоўненая апавяданнямі забабонных, першабытных нянек. Калі павевы сучаснай навукі пра прыроду і прагоняць, нарэшце, з іхных галоў усе гэтыя прывіды мінулага змроку, успамін пра іх усё ж застаецца назаўсёды. Не падзяляючы больш мінулага светапогляду, яны яго будуць цалкам добра ўяўляць.

Мне асабіста ў гэтым дачыненні выпала на долю вялікае шчасьце. І стары і новы светапогляды былі асабіста пержыты мной. Пад уплывам апавяданняў маёй вясковай нянькі, якія адбываліся большай часткай на працягу доўгіх зімовых вечароў ці пад час самотных гулянняў, увесь свет пачаў уяўляцца мне ў

раннім дзяцінстве ў выглядзе круглага дыска – Зямлі, – прыкрытага шкляным каўпаком – небам, на вяршыні якога стаяў пасад, а на пасадзе бог, высокі сівы стары з доўгай белай барадой, заўсёды аточаны ўслаўляючымі яго і схіляючыміся перад ім анёламі і сьвятымі. Зоркі былі васковымі свечкамі, якія гарэлі начамі на гэтым празрыстым скляпеньні, і кожная з іх была чалавечым жыццём. Зорка дагарала і падала ўніз з неба, калі адпавядаючае ёй чалавечае жыццё згасала на зямлі.

Неадушаўлёных прадметаў не было цалкам: кожнае дрэва, слуп ці камень мелі сваё ўласнае жыццё і маглі перадаваць адзін аднаму свае думкі. Лісты дрэў перагаворваліся адзін з адным шолахам, хвалі – плёсканнем, а аблокі, гуляючы, ганяліся адзін за адным і несьліся на крылах ветру удалечыню, да нейкай нябачнай і ім адным вядомай мэты, прымаючы на сваім шляху формы разнастайных жывёл і іх асобных частак.

Кожнае вымаўленае слова або гук не былі простым сатрасаннем паветра, а асаблівымі, хутка знікаючымі нябачнымі паветранымі істотамі, якія нараджаліся ў грудзях вымаўляючага іх чалавека, выляталі праз яго рот і, зайшоўшы праз вуха ў галаву іншага чалавека, прымалі там формы тых прадметаў, пра якія яму хацелі паведаміць, а затым распадаліся і знікалі назаўсёды...

Ўспаміны пра гэты ранейшы, даўно пражыты, светапогляд засталіся ў мяне настолькі жывымі, што праз шмат гадоў пазней, калі я быў ужо назаўжды зняволены ў Аляксееўскі равелін Петрапаўлаўскага ўмацавання, мне прыйшла ідэя прайграць яго ў найбольш прыдатнай літаратурнай форме, у паэме, дзе дзеючымі асобамі былі розныя зрываючыяся з чалавечых вуснаў і адляцеўшыя ў паветра словы і гукі. Гэтай паэме, як і большасьці задуманых мной калісьці вялікіх вершаў, не было наканавана з'явіцца на свет. Зараз я ўжо амаль нічога не магу згадаць із яе, акрамя некалькіх адрывістых куплетаў, накшталт, напрыклад, сумнага апавядання Оха ў адказ на пытанне выпадкова заляцеўшага да яго ў альтанку сада Зеўка пра нагоду яго маркотнага выгляду:

"Ах, Зеўка, мой сябар ласкавы, адказвае бедны Ох,
Вось чаму я так засмучаны, што здароўе вельмі дрэннае,
Позняй ноччу я нарадзіўся ў бабулькі, у хворай,
Увесь змучаны я ламатой і лётаю сам не свой ".

Аднак калі гэтай паэме не было наканавана цалкам захавацца ў маёй памяці, то навошта ж і згадваць пра яе? Якое дачыненне можа яна мець да прадмета гэтага твора? Толькі тое, што прайграваныя ў ёй фантастычныя вобразы, накшталт толькі што прыведзенага, складалі адну із дэталяў старадаўняга светапогляду, які перажывалі ўсе народы, знаходзячыяся на світанку свайго разумовага жыцця. Мы ніколі не павінны забывацца, што навакольная прырода была для іх не такой, як для большасьці із нашых сучаснікаў. Шмат хто із нас нават не здольны ўявіць сабе, каб свядомыя істоты былі складзены інакш, як із бялковых рэчываў у выглядзе чалавека і вышэйшых жывёл, ды і то выключна на зямным шары. Паверхні астатніх свяцілаў здаюцца ім вечна нямымі і нежывымі пусткамі.

# Глава II

# Трохі пра астралогію і таямнічыя адзнакі на нябесным зводзе.

Ўся прырода для нашых продкаў была поўнай схаванага жыцця і таямнічых уплываў. У кожнай камеце з яе хвастом яны з жахам бачылі агністы меч, які з'явіўся на хрустальным нябесным зводзе ў адзнаку надыходзячых войнаў, знешніх нападаў ці ўнутраных міжусобіц і іншых крывавых падзей. У кожным метэарыце, пралятаўшым па начному небу, яны бачылі дракона з вогненным хвастом, а ў кожнай падаючай зорцы – ці згасаючае чалавечае жыццё, ці, яшчэ часьцей, вогненнае дзіда, пушчанае адным із нябачных паветраных істот у іншую, варожую яму.



"Анёлы ваюють з дэманамі", перахрышчваючыся, прамаўлялі старажытныя хрысьціяне, з жахам назіраючы так званыя дажджы падаючых зорак. Усе старадаўнія летапісцы надавалі гэтым "нябесным адзнакам" настолькі важнае містычнае значэнне, што акуратна заносілі іх у свае хронікі, паміж звычайнымі празаічнымі падзеямі навакольнага жыцця. Іхныя запісы ўжо паслужылі для сучасных астраномаў важным матэрыялам пры распрацоўцы пытання аб незлічоных дробных целах, якія рухаюцца разам з планетамі і каметамі вакол сонца.

Вось, напрыклад, некалькі найбольш сухіх, а таму і добрасумленных нататак із розных летапісаў, як яны дадзены ў астраноміі Араго (т. 4, кн. 26, гл.VI):

1144 "Кажуць, што ў гэтым годзе выявіліся цуды на небе. Вогненныя шары ўспыхвалі ў розных месцах і потым знікалі ў іншай частцы неба" (хрон. Лікасфена).

952 г. "Бачны быў змей на небе" (Фродаардава хр.)

944 г. "Вогненныя шары лётаюць па паветры" (Вюрцбургскі летапіс).

1462 г. "Бог паслаў вялікія камяні з неба" (Лікасфен. Хр.)

1665 г. "2-га студзеня падалі з неба вогненныя стрэлы".

849 г. "2-га студзеня былі бачнымі жудасныя дзіды на поўначы і ўсходзе".

838 г. "21-га лютага ў паветры было бачна полымя, якое мела выгляд змея".

918 г. "7-га лютага рознакаляровыя вогненныя дзіды з'яўляюцца на небе і пасьлядоўна накіроўваюцца адна на адну".

842 г. "18-га сакавіка. Жудасныя дзіды зноў з'яўляюцца на небе каля другой гадзіны ночы, з боку усходу. Яны няспынна то згасаюць, то зноў адраджаюцца. Вялікае святло паміж Усходам і Захадам, але дзіды тыя пераважна напаўняюць поўнач".

993 г. "3-га сакавіка, вечарам. Быў бачны на небе змей".

1096 г "10-га красавіка амаль усе зоркі лёталі, як пыл, які нясецца ветрам, і гэта працягвалася ад ранішніх пеўняў да світання".

561 г. "12-га лістапада полымя прабягала па небу ў ноч сьмерці Клаторыя".

839 г. "12-га траўня, праз увесь той час ночы, зоркі паўсюль пераследвалі адна адну".

876 г. "13-га сьнежня жудасныя дзіды, ніколі да гэтага часу не бачаныя, з'яўляюцца на небе. Кажуць, што бачылі крывавы дождж".

1002 г. "У снежні. Каля заходу сонца пралятаў па паветры змей і былі бачнымі вогненныя дзіды на небе".

848 г. "31-га снежня жудасныя дзіды бачны на поўнач і на ўсход".

586 г. "Святло, падобнае на змея, з’явілася на небе".

Такімі паведамленнямі перапоўнены ўсе старадаўнія летапісы. Можна сабе ўявіць, колькі забабонных меркаванняў або наіўных тлумачэнняў выклікалі ў старажытныя часы гэтыя штогод назіраемыя падзенні метэарытаў і метэораў, пры агульным містычным настроі таго часу і поўнай адсутнасьці дакладных ведаў пра прыроду такіх з'яў нават сярод самых светлых розумаў.

Тэарэтычная навука першых стагоддзяў нашай эры, за нешматлікімі выключэннямі, стаяла на прыступцы простага гадання. Так, ва ўсякім разе, можна было сказаць пра астраномію, якая тады непрыкметна ператварылася ў астралогію. Усе фігуры 12-ці сузор'яў задыяка: Баран, Цяля, Двайняты, Рак, Леў, Панна, Шалі, Скарпіён, Стралец, Казярог, Вадалей і Рыбы, якія мелі падчас свайго ўзнікнення задоўга да хрысціянскай эры толькі сімвалічнае значэнне, пачалі з цягам стагоддзяў лічыцца сапраўднымі фігурамі, нябачна накрэсленымі на крышталічным нябесным зводзе, ці нават жывымі істотамі, якія выказваюць надзвычай моцны ўплыў на ўсе зямныя падзеі (мал. I, 2 і 3).




Мал. 1:Сузор'і Казярог і Вадалей.




Мал. 2: Сузор'і Рак і Блізняты.




Мал. 3: Сузор'і Шалі і Скарпіён.

Мал. 1, 2 і 3. ўзоры старажытных задыякальных звяроў і сузор'яў згодна з лацінскім манускрыптам Grienberger'а, змешчаным у бібліятэцы Пулкаўскай абсерваторыі.

Самі планеты, або, як іх называлі, "блукаючыя зоркі", якія атрымалі ў паганскі перыяд рымскай гісторыі назвы рымскіх багоў: Меркурыя, Венеры, Марса, Юпітэра і Сатурна, пазней набылі спецыфічную афарбоўку ад сваіх уласных назваў, ўвайшлі з імі як бы ў таемную сувязь. Заходжанне "крыважэрнага" Марса ў знак Ільва лічылася надзвычай небяспечным і пагражала войнамі і кровапраліццем; заходжанне злавеснага Сатурна ў знак

Скарпіёна было яшчэ горшым і прадвяшчала людзям гібель ад моравага павеву і іншых фізічных бедстваў, таму што і Сатурн і Скарпіён абодва з'яўляліся сімваламі сьмерці.

Але для таго, каб цалкам выразна зразумець некаторыя выказванні старажытных кніг, трэба яшчэ мець добрае ўяўленне пра сутачныя рухі нябеснага скляпення і пра шляхі планет паміж зоркамі. Дзякуючы адначасоваму руху як Зямлі, так і планет вакол Сонца, бачныя шляхі апошніх адбываюцца не паслядоўна, а як бы скокамі.




Мал. 4. Шлях Сатурна паміж сузор'ямі Рака і Ільва ў 1888 і 1889 гг.

Пры сваім перамяшчэнні паміж зоркамі ад захаду на ўсход кожная планета спачатку запавольвае свой рух, потым цалкам спыняецца, затым паварочвае назад і робіць так званы папятны рух, які залежыць ад таго, што яе пераганяе Зямля. Затым планета зноў робіць прыпынак і зноў кідаецца наперад ад захаду на ўсход, паскараючымся рухам, як быццам бы конь, які скокнуў наперад із разбегу (мал. 4, 5 і 6). І ўсё гэта здзяйсняецца перыядычна кожны год, хоць і ў розных месцах неба.



Мал. 6. Шлях Марса па сузор'ю Панны ў 1888 г.



Мал. 7.

Пры сучасным развіцці астранамічных ведаў тлумачэнне гэтага руху планет скокамі па бачным небасхіле не можа прадстаўляць цяжкасцей нават і для дзіцяці. Трымайце, напрыклад, перад сабой шарык, як паказана на мал. 7, і павольна абводзьце яго вакол вашай галавы, на вышыні вачэй, справа налева, а галавой вырабляйце кругавы рух у той жа бок, папярэдне заплюшчыўшы адно вока. Тады другое, адкрытае, вока будзе адлюстроўваць сабою Зямлю, якая рухаецца па сваёй арбіце, а шарык – планету, якая рухаецца па іншай арбіце, больш далёкай ад Сонца, чым зямная.

Назірайце пры гэтым лінію, вычэрчваемую праекцыяй вашага пальца на аддаленай сьцяне ці, усё роўна, на фоне неба перад адчыненым вакном, або, калі жадаеце, паміж галінамі дрэў саду. Вы пабачыце, што яна вычарціць шэраг петлепадобнага фігур, цалкам аналагічных з тымі, якія вычэрчваюць на фоне аддаленых зорак тыя планеты, арбіты якіх знаходзяцца далей ад Сонца, чым зямная. У абодвух выпадках падставы з'явы тыя ж самыя: планеты настолькі ж бліжэй да Зямлі, параўнальна з адлегласьцю ад іх да бліжэйшых зорак, як згаданы шарык бліжэй да вашага вока, параўнальна з адлегласьцю да аддаленай сьцены або лісьця навакольнага саду. Толькі таму уяўныя рухі планет і выглядаюць із Зямлі зігзагападобнымі, тады як на самой справе ўсё гэтыя свяцілы вельмі плаўна рухаюцца па сваіх арбітах.

Але старажытныя не ведалі гэтага простага тлумачэння, якое стала магчымым толькі з часоў Каперніка (у 1543 г.), а таму можна сабе ўявіць, якое ўражанне павінны былі выракляць усе гэтыя нечаканыя рухі планет ўзад і наперад на старадаўніх назіральнікаў, якія не ведалі сапраўднай іхнай падставы. Усе тры вядомыя ім знешнія планеты – Марс, Юпітэр і Сатурн – прадстаўляліся ім, як мы гэта і бачым у старажытных кнігах і на манетах, нейкімі канямі, якія скачуць галопам па задыякальнай паласе крыштальнага нябеснага скляпення, а самі задыякальны фігуры – усе гэтыя стральцы, казярогі і вадалеі (калі планета знаходзілася як раз пад якім-небудзь з іх) – вершнікамі, якія селі на гэтых коней (мал. 8 і 9) і скачуць на іх па крышталічнаму нябеснаму купалу вакол нябеснага полюса, па адзін бок якога размяшчаўся Трон неба, г. азн. сучаснае сузор'е Касіяпеі, а па другі – Сем Душ, г. азн. сузор'е Вялікай Мядзведзіцы.



Мал. 8 і 9. Із узораў старажытных гальскіх манет, прыведзеных ў Astronomical Myths John's Blake'a, 1887 г. (бібліятэка Пулкаўскай абсерваторыі) Першая выява ўяўляе, відаць, Сатурн (S), перараскокваючы праз скрыню Вадалея, другая – планету, на якой сядзіць Рак, а ўнізе – Казярог.

Кожныя суткі сузор'і разам з Сонцам і Месяцам абыходзілі вакол нябеснага полюса, пачынаючы ад усходняга канца гарызонту і заканчваючы заходнім, а потым найбольш далёкія ад полюса хаваліся часова недзе пад зямлёй, для таго каб раптам зноў з'явіцца на ўсходзе і здзейсніць новы сутачны абыход вакол сузор'я Трона і Сямі Душ.

Quid moveant Pisces, animosaque signa Leonis?
Lotus et Hesperis quid Capricornus aqua?
(Што б паслалі нам Рыбы і зласлівыя Ільва абрысы?
Што пашле Казярог, увесь амыты вадой захада?)

# Глава III

## Трохі пра тыповыя формы, якія набываюць аблокі падчас восеньскіх навальніц.

Калі вы, чытач, думаеце, што ўсе вышэйпрыведзеныя заўвагі залішнія ў гэтым астранома-гісторыка-літаратурным даследаванні, то вы моцна памыляецеся. Усе яны такія важныя, што калі б хоць дзясятак радкоў былі выключаны із папярэдняга выкладання, то іх усё ж такі давялося б напісаць у якім-небудзь іншым далейшым месцы. А калі б гэтых развbooжанняў пра старадаўнія светапогляды і пра астралогію ў мяне не было да чытання Апакаліпсіса, то і я, падобна іншым сучасна-адукаваным людзям, лічыў бы яго проста за трызненне і галюцынацыі псіхічна хворага чалавека.

Усё гэта я згадаў і напісаў толькі для таго, каб найбольш простым і лёгкім чынам адлюстраваць у розуме чытача фігуры некаторых важных сузор'яў, з якімі нам яшчэ не аднойчы давядзецца сустрэцца далей.

Але нават і гэтыя мае ранейшыя развагі нічога б не дапамаглі мне ў разуменні некаторых важных месцаў разглядаемай кнігі, калі б у маёй галаве з дзяцінства не назапасіўся, так бы мовіць, вялікі запас аблокаў. Вось з гэтым-та своеасаблівым запасам я і павінен азнаёміць зараз чытача для таго, каб і ён мог яскрава разумець некаторыя месцы Апакаліпсіса, таму што, скажу прама, увесь ён уяўляе суцэльную сумесь астралагічных меркаванняў з надзвычай паэтычнымі апісаннямі рухаў і формаў розных хмар, якія аўтар Апакаліпсіса назіраў пад час навальніцы, якая адбылася 30 верасня 395 г. над выспай Патмас у складзе грэцкага архіпелага.

Мой запас аблокаў, пра які я кажу, не ўяўляе, вядома, нічога асабліва незвычайнага. У галаве кожнага із нас ўтвараюцца з цягам часу падобныя навалы шануемых уражанняў і выяваў. Я ведаў, напрыклад, людзей, галава якіх была, у літаральным сэнсе слова, зборам разнастайных крыўд, атрыманых імі на працягу свайго жыцця ад іншых, тады як усе крыўды, якія яны самі зрабілі іншым, ніколі туды не заносіліся. У галаве таленавітага мастака абавязкова існуе запас разнастайных вобразаў, адпавядаючых роду яго творчасьці, а ў галаве музыкі – разнастайных мелодый. Падбор прадметаў у такіх зборах непазбежна абумоўліваецца псіхічнымі асаблівасьцямі і схільнасьцямі дадзенага чалавека. Кожны із нас міжвольна збірае сюды і беражліва захоўвае тут толькі тое, што яго асабліва хвалюе, закранае яго ў навакольным сьвеце. Усё астатняе, да чаго мы абыякавыя, хутка губляецца для нас і знікае невядома куды...

Так і ў маёй галаве памаленьку назапасілася вельмі шмат разнастайных выяваў хмар толькі таму, што я заўсёды адчуваў да аблокаў нейкую радавую цягу. Мне здаецца, што нешта падобнае было таксама і ў галаве ў Лермантава. Інакш як бы мог ён напісаць такія два цудоўныя вершы:

Хмаркі нябесныя, вечныя вандраўнікі!
Стэпам блакітным, ланцугом жамчужным
Імчыцеся вы, быццам як я ж, выгнаннікі,
З мілай поўначы ў бок паўднёвы!
Што ж вас гоніць: ці лёсу рашэнне?
Ці зайздрасць таемная, ці злосць адкрытая?
Або вас гняце злачынства?
Ці сяброў паклёпы атрутныя?
Не, вам надакучылі нівы бясплодныя...
Чужыя вам запалы і чужыя пакуты...
Вечна халодныя, вечна свабодныя,
Няма ў вас радзімы, няма вам выгнання...

Начавала хмарка залатая
На грудзях скалы-волата.
Раніцай у шлях яна памчалася рана,
Па блакіту весела гуляючы.
Але застаўся вільготны след у маршчыне
Старога-скалы. Самотна
Ён стаіць, задумаўшыся глыбока...
І ціхенька плача ён у пустыні.

Падобныя пачуцці навявалі аблокі і на мяне, і я нярэдка ў думках звяртаўся да іх з гэтымі самымі вершамі. Калі ў ясны вераснёўскі дзень з'яўляліся высока ў блакітнай лазуры над Шлісельбургскім умацаваннем статак пёрыстых воблакаў, сведчачы сабой пра снежныя завеі, якія пачаліся ў амаль недаступных для нас і вечна халодных слаях атмасферы, у той час, як унізе на зямлі яшчэ шумела зялёнае лісьце дрэў і ўся прырода была поўная жыцця, у маёй душы абуджалася не адно толькі сумнае прадчуванне няўмольна спускаўшайся з вышыні зімы, але таксама і нейкая непераадольная цяга быць

самому на гэтай вышыні і гэтак жа вольна насіцца сярод воблакаў у гэтых недасягальных прасторах.

Але больш за ўсё мяне апаноўвала нейкае асабліва захопленае пачуццё падчас насоўваўшайся на неба ці ўжо бушаваўшай навакол навальніцы. Калі над гарызонтам павольна падымалася цяжкая свінцова-шэрая хмара з яе белым, пеністым краем, завёрнутым уніз, **як скрутак старадаўняга пергамента**, і як быццам рыхтаваўшайся абрынуцца ўсім сваім цяжарам на прыціхлую ад жаху зямлю, – я проста не мог адарваць сваіх вачэй ад гэтага відовішча. У той час, як навакольныя спяшаліся хутчэй схавацца пад дах, я заўсёды заставаўся пад адкрытым небам, аж да самага заліўнога дажджу, і з прагнасьцю лавіў кожны рух надыходзячай навальніцы, кожнае новае адценне пейзажу і кожны пробліск ўспыхваючай за гэтай хмарай аддаленай маланкі, якая асвятляла яе часова ззаду, так бы мовіць, ізнутры, нейкім злавесным, у адных навальніц **пунсовым**, **крывавым**, а ў другіх – **блакітнаватым** святлом.

І пазней, калі гэтая першая із навальнічных хмар праносіліся над галавой і хавалася за процілеглы край гарызонту, абліўшы зямлю першым вялікім ліўнем, я карыстаўся кожным прамежкам дажджу, для таго, каб пагглядзець із вакна або з адкрытага месца, якія формы прымалі рухаўшыяся за ёю аблокі, як яны, пад уплывам бушаваўшага па ўсяму бачнаму небу гіганцкага ўрагана, ганяліся па ўсіх напрамках адзін за адным, прымаючы самыя мудрагелістыя формы. Большасць із гэтых формаў недасведчанныя не ведаюць цалкам, таму што звычайна хаваюцца ў памяшканні і калі заўважаюць і памятаюць што-небудзь із сярэдзіны праходжання навальніцы, дык гэта толькі вясёлку, ды і то толькі таму, што яна з'яўляецца звычайна ўжо на прыканцы...

А між тым у сярэдзіне навальніцы хмары таксама бываюць вельмі характэрнымі. З іх у маёй галаве яшчэ ў юнацкія гады склаліся некалькі тыповых формаў, і шмат якія з іх захаваліся так выразна, што я без вялікіх намаганняў магу перадаць іх з дапамогай малюнка. Прывяду тут толькі некалькі з іх, таму што яны будуць мець прамое дачыненне да тлумачэння некаторых із "звяроў" Апакаліпсіса.

Аднойчы, прыблізна ў палове жніўня, я вяртаўся дадому із лесу, які прылягаў да берага Волгі. Сонца ўжо моцна схілілася на захад і свяціла мне прама ў твар, а пад ім на гарызонце падымалася і хутка рухалася насустрач мне навальнічная хмара. Я спяшаўся паспець дадому да заліву, але надзеі было мала. Сонца хутка схавалася за хмарай, і наступіў той асаблівы род асвятлення, які заўсёды характарызуе набліжэнне навальніцы. Усё, на што ні падаў цень ад хмары, зараз жа набывала асаблівы змрочны каларыт, і ўся прырода, здавалася, замёрла ў чаканні чагосьці дзіўнага і незвычайнага.

Я ўжо не памятаю, ці доўга працягвалася ўсё гэта, таму што я пра нешта мроіў. Але раптам я спыніўся, як аслупянелы, выведзены са свайго задумёнага стану рэзкай і нечаканай пераменай у асвятленні навакольнага ландшафту і дзіўнай выявай у аблоках. Сонца раптам вызірнула ў вузкую шчыліну, як бы ў прабоіну нейкай асаблівай хмары, якая складаецца із двух слаёў, накладзеных адзін на другі. Кантраст навакольнай мясцовасьці, асветленай адным гэтым пучком паралельных прамянёў з іншымі, пакрытымі злавесным ценем, часткамі ландшафту быў дзіўны. Для таго каб зразумець, што гэта была за выява, трэба

самому яе пабачыць у прыродзе ці, ва ўсякім разе, на карціне, напісанай геніяльным мастаком, таму што ўсякае апісанне не здольна перадаць яе.

Дзякуючы таму, што шчыліна ў хмарах рухалася міма сонца, адценні яго бляску хутка змяняліся. Сонца здалося цалкам жывой асобай ўгневанага чалавека, намагаючага прасунуць сваю галаву паміж двума пластамі хмары для таго, каб паглядзець, што робіцца на зямлі. Гэта падабенства з жывой чалавечай галавой дапаўнялася яшчэ тым, што верхні край вузкай адтуліны ў свінцова-шызых хмарах, асветлены ззаду сонечнымі прамянямі, набыў выгляд густой шавялюры снежна-белых валасоў над разгневаным абліччам сонца, а ніжні край утварыў пад ім як бы каўнер футра, такога ж снежна-белага колеру, захутваўшым яго падбародак, а папярок сонечнага дыска лягло, цёмнай лініяй, працяглае воблака, уяўляючы сабой нешта накшталт двухканцовага старажытнага кінжала, які сонца трымае ў сябе ў роце (мал. 16 у I гл. часткі 2).

Бяспрэчна, што гэтая ўяўная прабоіна ў хмарах была толькі перспектыўнай з'явай, простым пашырэннем вузкага прамежку паміж двума пластамі навальнічнай хмары, якія размяшчаліся адзін над другім. Вузкае і ў звычайных умовах цалкам непрыкметнае адслаенне працягвалася ў аблоках і далей у абодва бакі некалькімі звужэння і пашырэннямі, так як касыя прамяні сонечнага святла, праходзячы ззаду ў суседнія пашырэнні, утваралі па абодва бакі нахмуранага сонца некалькі свяціўшыхся пунктаў, як бы полымя некалькіх падпаленых паходняў, пастаўленых направа і налева ад угневанай сонечнай асобы.

Усё гэта было так раптоўна, так поўнілася нейкім сваім уласным жыццём і рухамі, што, як мне ні смешна прызнацца, я несумненна спалохаўся і быў гатовы вымавіць з забабонным жахам:

– Што такое здарылася? Што табе трэба?

Гэтая з'ява, якая ў літаральным сэнсе слова адлюстравана ў першай частчы Апакаліпсіса, працягвалася не больш за хвіліну. Сонца павольна хавалася за ніжні край адтуліны, набываючы ад паступова азмрочваўшых яго прамежкавых выпарэнняў усё больш і больш хмуры злавесны выгляд. А затым на месцы сонца засталася толькі вялізная паходня светлых прамянёў пасярод шэрагу іншых такіх жа пучкоў залацістага святла... Праз паўгадзіны наляцела бура, а што было далей, я ўжо не памятаю.

Другі раз, калі я выйшаў у сярэдзіне навальніцы, у прамежку паміж двума ліўнямі, на адкрытае месца, каб паглядзець на рухі і формы хмар гэтага перыяду, я пабачыў на блакіце збольшага праяснiўшагася неба, вельмі высока ўверсе, але некалькі на паўднёвы-ўсход, доўгі шэраг снежна-белых воблакаў, згорнутых спіралямі ў выглядзе рагоў для палявання (мал. 10). Яны хутка несьліся адзін за адным, пазначаючы гэтым шлях бушаваўшыя наверсе ўраганы, і ўся іхная спіраль ўяўляла, відавочна, цэнтры круціўшыхся адпаведных частак атмасферы, дзе з нагоды раптоўнага разраджэння паветра выдзяляліся лёгкія вадзяныя пары. Але ўнізе мімаволі здавалася, што па небу ляціць чарада нябачных анёлаў, трубячых сярод навальніцы...

Калі ж я праз некаторы час зноў выйшаў паглядзець, то пабачыў высока на поўначы іншую, не менш ўразіўшую мяне выяву. Тры вялікія бялёсыя воблакі, якія распасьціраліся на ўсю верхнюю частку неба, набылі там выгляд

сапраўдных вялізных жаб (мал. 11), схапіўшыміся адна з другой пярэднімі лапамі і нёсшыміся, як бы ў дзікіх скоках, каля самага паўночнага полюса неба. Гэтая ілюзія скокаў у паветры абумоўлівалася іх крывалінейнымі рухамі і тым, што на шляху, яны выцягвалі то тую, то іншую са сваіх лап і крывіліся самым выродлівым чынам. Але і гэтае відовішча таксама працягвалася нядоўга, і праз некалькі хвілін усё жабы распаліся на чатыры асобныя воблакі, накшталт кучавых...

Аналагічныя формы мне даводзілася назіраць і ў сярэдзіне іншых навальніц. Але я дадам тут толькі два выпадкі, якія спатрэбяцца нам пазней.



Мал. 10. Трубныя веснікі ў сярэдзіне некалькіх із назіраемых мной навальніц.



Мал. 11. Скачучыя жабы ў сярэдзіне адной із назіраемых мною навальніц.



Мал. 12. Шматгаловы звер у сярэдзіне адной ізназіраемых мной швейцарскіх навальніц.

Аднойчы, пасьля жніеньскай навальніцы, якая скончылася да заходу сонца, калі ўвесь заходні край гарызонту быў ужо пакрыты крывавай паласой вячэрняй зоркі, адна із апошніх хмар набыла надзвычай арыгінальны выгляд. На вогненным фоне гарызонту сядзела нейкая ганарлівая жаночая постаць у пышным барвовым адзенні і трымала ў выцягнутай руцэ келіх, надзвычай падобны на тыя, якія выкарыстоўваюцца ў цэрквах для прычашчэння. Ад прасвечваючыхся і адбітых прамянёў ўжо схаваўшагася сонца гэты келіх здаваўся вылітым із золата, а сама жанчына як быццам была ўпрыгожана з усіх бакоў залацістымі карункамі. Праз павольны рух хмары здавалася, што яна плаўна нахіляецца наперад, як бы жадаючы некаму паднесьці гэтую чашу. Яе рука ўсё больш і больш цягнулася на поўдзень і, нарэшце, праз некалькі хвілін адарвалася, і воблака набыло выгляд двух асобных кавалкаў (гл. 17 Апакаліпсіса).

Іншы выдатны выпадак, які мае дачыненне да воблакаў, выходзячых у сярэдзіне навальніцы із-за гарызонта, я назіраў ужо не ў Расіі, а ў Швейцарыі. Я вяртаўся з гуртом некалькіх жэнеўскіх студэнтак і студэнтаў із загараднай экскурсіі, дзе нас захапіла навальніца. Раптам адзін із нас заўважыў на краю неба, па якім ляцела ў розных месцах толькі некалькі камячковых хмар, новае воблакавае ўтварэнне незвычайнага выгляду. Здавалася, што із-пад гарызонта з паўднёвага захаду выступала пакрытая выродлівымі нарастамі і грабянямі шызая спіна нейкага дапатопнага гіганцкага яшчара (мал. 12). Пяць ці шэсць смерчаў, круціўшыхся над гэтай хмарай, утварылі над ёй некалькі спіральных белых воблакаў, якія нагадвалі доўгія змеепадобныя шыі. Яны заканчваліся белымі кучавымі воблакамі, у выглядзе выродлівых галоў...

– Глядзіце, нібы нейкая шматгловая гідра выходзіць із-пад зямлі, – прамовіла адна із нашых спадарожніц і ўсё пагадзіліся з гэтым.

Нельга было прыдумаць больш ўдалай назвы для з'явіўшайся перад намі пачвары.

# Глава IV

# Першая сустрэча з Апакаліпсісам.

Мне часта прыходзіла ў галаву: ці можна лічыць усе гэтыя формы хмар ў сярэдзіне навальніц такімі ж тыповых, як і вядомая кожнаму перадавая хмара ў выглядзе скрутка пергамента, загнутага канцом да зямлі? Ці можна сказаць, што гэтыя прамежкавыя формы можна назіраць такжа часта, як, напрыклад, вясёлку? Вядома, усе гэтыя выявы перспектыўнага характару, а таму для іх назірання трэба знаходзіцца ў вядомым месцы ў адносінах да шляху цэнтра навальніцы, і трэба, акрамя таго, захапіць яе ў вядомы перыяд развіцця. Але ж тое самае можна сказаць і пра перадавую хмару, а аднак усе ведаюць яе тыповую форму.

Вось чаму мне вельмі хацелася даведацца, ці назіраў хто-небудзь у сярэдзіне навальніцы такія ж або аналагічныя формы воблакаў? Калі так, то, магчыма, усе навальніцы можна было б падзяліць на некалькі тыпаў і нават прадказваць характэрныя формы далейшых хмар грунтуючыся толькі на адным вобразе перадавой хмары. Акрамя таго, навальніцы рэзка падзяляюцца на два тыпу, выразна распазнаваемыя толькі познім вечарам: у адных маланкі бываюць **блакітнавата-белыя**, а ў другіх **пунсовыя**, часта цалкам **крывавага** колеру, верагодна, даючыя спектр вадароду ад распадаючыхся вадзяных выпарэнняў. Пунсовыя маланкі мне часта даводзілася назіраць у полі вечарамі: іхныя ўспышкі залівалі крывавым бляскам ўвесь гарызонт.

Якія формы хмар тыповыя для тых ці іншых навальніц? Я нідзе не знаходзіў падобных апісанняў да таго часу, пакуль не быў зняволены ў Аляксееўскі равелін Петрапаўлаўскага ўмацавання. Там мне сем месяцаў не давалі чытаць роўна ніякіх кніжак, а потым раптам (палічыўшы мяне ўжо дастаткова падрыхтаваным рэлігійна) выдалі, для замацавання ў праваслаўным веравызнанні, старадаўнюю Біблію на французскай мове, застаўшуюся, магчыма, яшчэ ад дзекабрыстаў. Яна была выдадзена ў 1817 годзе, і мне яе выдалі праз недахопам асобнікаў рускага выдання, раздадзеных іншым таварышам. Як чалавек вальнадумны, я адразу ж пачаў вывучаць гэтую кнігу як узор старажытнага светапогляду, і перш за ўсё, пачаў з Апакаліпсісу. Да таго часу я ні разу яго не чытаў і са слоў Рахметава, у вядомым рамане Чарнышэўскага "Што рабіць?", Лічыў гэтую кнігу за твор вар'ята.

З гэтым меркаваннем я і ўзяўся за чытанне, але з першай жа главы я, уражаны, павінен быў цалкам перамяніць сваё запазычанае меркаванне пра гэтую кнігу. Падобна батаніку, які пазнае свае шануемыя расліны па некалькіх словах іхнага апісання, тады як для астатніх людзей гэтыя словы – пустыя гукі, якія выклікаюць толькі невыразныя вобразы, я з першай жа главы раптам пачаў пазнаваць у апакаліптычных звярах напалову алегарычныя, а напалову літаральна дакладныя і прытым надзвычай мастацкі апрацаваныя выявы даўно вядомых мне навальнічных выглядаў, а акрамя іх яшчэ выдатнае апісанне сузор'яў старажытнага неба і планет у гэтых сузор'ях. Праз некалькі старонак для мяне ўжо не заставалася ніякага сумневу, што сапраўднай крыніцай гэтага старажытнага прароцтва быў адзін із тых землятрусаў, якія нярэдкія і зараз у Грэцкім архіпелагу, і суправаджаўшыя яго навальніцу і злавеснае астралагічнае размяшчэнне планет па сузор'ях, гэтыя старадаўнія знакі божага гневу, палічаныя аўтарам, пад уплывам рэлігійнага энтузіязму, за знак, спецыяльна

пасланы богам ў адказ на яго гарачыя прашэнні пра тое, каб паказаць яму хоць нейкім намёкам, калі ж, нарэшце, Ісус прыйдзе на зямлю.

Аўтар гэтай кнігі раптоўна паўстаў перад маімі вачамі, як чалавек з глыбока паважаючым сэрцам і з надзвычай спагадлівай і паэтычнай душой, але спакутаваны і змучаны абступаўшымі яго крывадушнасьцю, ханжаствам і рабалепствам сучаснай яму хрысціянскай царквы перад "царамі зямнымі".

З першай жа главы гэты невядомы Ян прымроіўся мне самотна седзячым на беразе выспы Патмас і паглыбленым у сумныя разважанні. Ён чакаў вылічанага ім на гэты дзень (згодна з ужываўшымся тады Сароскім цыклам) сонечнага зацьмення і спрабаваў вызначыць з дапамогай астралагічных разлікаў час горача жаданага ім другога прышэсьця Хрыста, не звяртаючы ўвагі на насоўваючаюся ззаду яго навальніцу. Але вось раптоўнае святло сонца, прарваўшаяся праз шчылінападобны прамежак паміж двума нясучыміся адна над другой хмарамі, раптам вывеў яго із трызнення і, хутка павярнуўшыся, ён пабачыў такое ж самае раззлаванае сонца, якое глядзела на яго із-за хмар, што аднойчы назіраў і я...

Якое ўражанне павінна была зрабіць на яго гэтая злавесная выява, якая з'явілася раптам у той самы час, калі ён чакаў такой грознай для ўсіх старажытных з'явы, як сонечнае зацьменне, зразумець не цяжка з яго ўласнага апісання.

А рэчаіснасць затым ускладнілася іншай, яшчэ невымяральна больш жахлівай падзеяй – землятрусам. Ён у жаху упаў на калені, і ўсё, што адбывалася пазней, пачало ўяўляцца яму суцэльным шэрагам адзнак, дасылаемых для таго, каб ён запісаў і патлумачыў іх так, як падказвала яму "боскае натхненне", г. азн. узнік той выбух энтузіязму, з якім знаёма ўсякая праўдзіва-паэтычная душа, і які ён лічыў водгаласам думак бога ў сваёй уласнай душы.

Але лепш мяркуйце самі згодна з прыводзімым мной ніжэй тлумачальным выкладаннем гэтай выдатнай кнігі. Згодна з пазначаным у ёй становішчам планет у адпаведных сузор'ях Задыяка я мог вылічыць астранамічным шляхам, а, такім чынам, і з безумоўнай дакладнасьцю, што апісаная тут навальніца пранеслася над Патмасам у нядзелю 30-га верасня 395 года юліянскага летазлічэння. Уся кніга, як стэнаграфічна дакладнае апісанне выгляду неба, якое мела месца толькі адзін гэты раз за ўвесь гістарычны перыяд часу, была несумненна складзена згодна з нататкамі зробленымі на працягу гэтага ж дня і ночы і канчаткова напісана ў наступныя затым дні, г. азн. на пачатку кастрычніка таго ж года.

У гэты час хрысціянская царква ўжо некалькі дзясяткаў гадоў (з 330 года) была дзяржаўнай у абедзвюх частках Рымскай імперыі, але разам з самой імперыяй, разрывалася на часткі пастаяннымі разладамі і ўзаемнымі інтрыгамі сваіх славалюбівых і заганных біскупаў. Па гэтай даце і па самому зместу кнігі выявілася не цяжка вызначыць і асобу яе аўтара. Гэта, несумненна быў Ян Хрызастом Антыяхійскі, які нарадзіўся каля 354 года, пазней быў сасланы імператарам Аркадзем згодна з рашэннем сабора біскупаў у 403 годзе і памёршы ў выгнанні ў 407 годзе. Мае астранамічныя вылічэнні[1], якія не пакідаюць ніякіх сумненняў у справядлівасьці гэтай даты, будуць прыведзены далей, у трэцяй

[1] Ужо праверАныя к гэтаму часу двума пулкаўскімі астраномамі

частцы майго даследавання, а зараз я прыкладаю тут для разумення саму кнігу Яна.

Маё выкладанне Апакаліпсісу – не рабскі падрадковы пераклад, як звычайныя царкоўныя: гэта, так бы мовіць, яго папулярызацыя, таму што просты пераклад тут недарэчны. Прадмет, пра які трактуе ў сваёй кнізе аўтар, г. азн. сузор'і небасхілу, іхныя фігуры, рухі па іх планет і іх уласныя сутачныя рухі на ўяўным нябесным скляпенні, настолькі мала вядомы не астраномам, што голыя назвы гэтых прадметаў, як іх дае аўтар, былі б для большасьці простымі гукамі без пэўнага сэнсу. Для таго, каб сапраўдная думка аўтара стала зразумелай для адукаванага чалавека, мне давялося пры кожным спецыяльным тэрміне зараз жа дадаваць і адпаведнае тлумачэнне. Так, напрыклад, замест простага слова "Цмок", якое ў астралогіі і астраноміі азначае адпаведнае сузор'е, я пісаў: сузор'е Цмока, замест ўрыўкавага: "Конскія аброці" я пісаў для тлумачэння ў дужках: Конскія Аброці (гурт зорак у сузор'і Возніка), і г. д.

Дакладна так жа і пры апісанні хмарных фігур давялося даваць разбіўкай тлумачальныя дапаўненні. Замест, напрыклад, кароткага выразу ў арыгінале: "Сядзячая постаць была падобна камянях яшме і сердаліку", я пераклаў: "Сядзячая постаць мела ў некаторых сваіх частках паласамі, белае з цёмным адценне яшмы, а ў іншых чырванавата-аранжавае адценне сердаліку". Асноўная сутнасць засталася той жа самай і ў гэтым маім папулярызыцыйным выкладанні, але чытач з яго адразу разумее, менавіта што хацеў сказаць аўтар, не будучы вымушаным бегчы за курсам мінералогіі для таго, каб даведацца, якія колеры і адценні маюць яшма і сердалік.

У маім папулярызыцыйным перакладзе з грэцкага засталося усё тое ж, што і ў арыгінале і ў звычайных, ні на што не прыдатных перакладах[2], але толькі ў поўнай меры выявілася розніца паміж старым і новым спосабам выкладання навуковых прадметаў. Старажытны аўтар пісаў выключна для вузкага кола людзей, ведаючых усе таямніцы яго навукі, нярэдка імкнучыся ўсімі магчымасьцямі да таго, каб яго не мог зразумець недасведчаны, а новы аўтар, наадварот, прыкладае ўсе намаганні, каб быць як мага больш агульназразумелым.

Але, нягледзячы на гэты папулярызыцыйны спосаб перадачы арыгінала, я трымаўся як мага бліжэй да грэцкага арыгінала і перакладаў яго нават падрадкова, з прывядзеннем у заўвагах грэцкіх слоў ва ўсіх тых выпадках, якія былі важнымі для вызначэння часу ўзнікнення Апакаліпсіса і для ўстанаўлення светапогляду яе аўтара.

# Частка II

## Адкрыцьцё ў навальніцы і буры і ў чатырох ўдарах патмаскага землятрусу 30 верасня 395 года.

[2] Уявіце толькі сабе, што чалавек перакладае, напрыклад, з ангельскай мовы астраномію, цалкам не ведаючы гэтую навуку і нават не падазраючы, што мае справу з тэкстам маючым дачыненне да астраноміі і вы зразумееце, якім выявіцца пераклад.

**Мапа, якая перадае становішча зорак над востравам Патмас каля 5 гадзін вечара, 30 верасня 395 г. юліянскага летазлічэння і тлумачэнне да яе.**

Папулярызыцыйны пераказ згодна з грэцкім выданнем:

Τής Καινής Διαθήχης 'Απάντα. Δαπάνη τής Βρεταννιχής Βιβλιχής 'Εταιριας πρός διάδοσιν τών άγιων γραφών έν τε τή Μεγαλη Βρετάννια, 1902.

Некаторыя выпраўленні зробленыя згодна са старадаўнім выданнем Эразма і іншымі старадаўнімі спісамі. Тлумачальныя ўстаўкі разбіўкай і курсівам у дужках належаць мне.

Мал. 13. Становішча сузор'яў над Патмасам падчас іхнага астранамічнага вызначэння Янам ў гл. 6-12 Апакаліпсіса.

Для карыстання гэтай мапай патрэбна ўявіць сябе стоячым на паўднёвым беразе выспы Патмас, тварам на поўдзень, прычым намаляваныя на ёй сузор'і як бы перакідаюцца за галаву назіральніка. Такім чынам, мапу патрэбна трымаць у сябе над галавой, як знаходзіцца само зорнае неба.

Бачнымі былі толькі тыя сузор'і, якія размясьціліся ў вычарчаным ніжнім крузе, уяўляючым патмаскі гарызонт. Вертыкальная лінія – мерыдыян гэтага гарызонту, а крыжык на ёй – зеніт, г. азн. кропка, якая знаходзіцца прама над галавой назіральніка.

Прама на поўдзень выступае із-пад гарызонта верхняя палова сузор'я Ахвярнік, а над ім **Скарпіён**, у якім была планета Сатурн. Направа (на захад) былі Шалі (дзе быў Меркурый), Панна (дзе былі Сонца і Месяц) і напалову

зайшоўшы Леў. Налева, на ўсход, былі Стралец (у якім знаходзіўся Юпітэр), Казярог, Вадалей і Пегас.

Прама на **поўнач** падымаліся над гарызонтам дзве зорачкі Возніка, маючыя назву Конскія Аброці, а налева ад іх на ўсход верхняя частка **Персея** з яго **Мячом**, пад якім знаходзілася тады планета Марс.

У зеніце знаходзілася Ліра, а на поўнач ад яе **Цмок** і за ім **Нябесны Полюс**, упрыгожаны Палярнай Зоркай, цэнтрам павароту нябеснага скляпення, з 24 праменепадобна адыходзячымі ад яго гадзінамі зорнага часу (так званыя гадзіны прамога ўзыходжання зорак). Направа ад яго бачны **сем светачаў Вялікай Мядзведзіцы,** а налева – **Касіяпея**, якая раней мела назву **Пасад**.

Даволі глыбока пад паўночнай часткай гарызонту знаходзілася сузор'е Цяля, а на ўсход ад яго **Авен** або **Ягня**, якое рыхтавалася да свайго ўзыходжання.

Усе гэтыя сузор'і і іхнае становішча пазначаны ў "Адкрыцці". Акрамя іх яшчэ пазначаны: **Вянок** паміж зенітам і захадам і **Змей** на поўдзень ад яго. Затым згадваюцца: **Серп**, або верхнія зоркі Баатэса, які знаходзіцца паміж зенітам і захадам, і **Паўднёвы Вянок**, на самым паўднёвым гарызонце побач з **Ахвярнікам**.




# Глава I

Угневанае аблічча сонца ў воблаку, прадвеснік навальніцы.



Мал. 16. Угневанае аблічча сонца ў воблаках – прадвеснік навальніцы.

Ян – сямі малаазіяцкім сходам:[3]

Добразычлівасць вам і мір ад таго, хто быў, ёсць і будзе, і ад Сямі Душ (*зіхацячых ў сузор'і Вялікай Мядзведзіцы*, мал. 14) насупраць яго **Пасада**[4], і ад

[3] Я перанёс сюды ў нататку няўдалы і доўгі загаловак, які старажытны перапісчык надаў гэтай кнізе. Вось ён: Адкрыцьцё, дадзенае богам Ісусу Хрысту, каб апавясьціць сваіх служак пра тое, што хутка павінна здарыцца. Хрыстос паслаў гэта праз свайго вястуна Іону, свайму служцы, а Іона перадаў словы бога і паведамленне Ісуса Хрыста і тое, што сам бачыў. Шчаслівы, хто чытае ці слухае словы гэтага прароцтва і выконвае напісанае тут, таму што час выканання блізка.

[4] Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы да гэтага часу на поўдні Францыі мае назву «Калясніца Душ», як гэта відаць із апавядання Альфонса Дадэ «Зоркі». У старажытнасьці гэтая назва ўжывалася яшчэ шырэй. Далей, у главе 4 на стар. 5-ай Апакаліпсіса сказана пра яго ж: «І гарэлі насупраць (сузор'я) Пасада сем вогненных лампад, сем душ, заўсёды знаходзіўшыміся перад богам (відавочна, бог меркаваўся седзячым на паўночным полюсе неба, як у цэнтры кручэння свяцілаў)». Выраз арыгінала σεπτα πνεύμα (сем душ,




Мал. 35.
Сонца і Месяц у нагах сузор'я Панны 30 верасня 395 года.
(Месяц для разумення пазначаны некалькі ніжэй сонца.)

І вось, пакуль яна рыхтавалася да родаў, зьявілася на небе іншая адзнака. Вунь вялікі буры сямігаловы цмок (*непрыгожая закручаная хмара ў сузор'і Змея каля ног Панны*, мал. 35) з дзесяццю рагамі. На галовах у яго сем карон (*г. азн. воблачкаў у сузор'і Паўночнай Кароны*), а хвост яго захапіў трэцюю частку зорак і цягнуў іх разам з сабой, да заходу на Зямлю.

Цмок гэты стаў перад жанчынай, якая мелася нарадзіць з намервам пажраць яе немаўля (*засланіць сабой вызваляючаяся ад хмар з боку Панны сузор'е Геркулеса*), як толькі яна народзіць яго[85].

І з'явіўся на свет із-за хмар Магутны[86] Сын (*Геркулес*, мал. 36), які павінен пасвіць усіх змей[87] жалезнай дубінай. І павольна ішло[88] яе дзіця перад богам і яго пасадам, а жанчына ўцякала за аблокі ў пустыню нябеснай прасторы, дзе знаходзілася паміж сузор'ямі Задыяка месца, прыгатаванае для яе богам, каб трымалі яе там яшчэ 1260 дзён (г. азн. да 13 сакавіка 399 года).

[85] Нагадаем, што такім чынам цмок фігуруе ва ўсіх старажытных сонечных зацьменнях. Як раз над галавой Цмока знаходзіцца і сузор'е Паўночнага вянка.

[86] Ἀρρενί – мужны, магутны.

[87] Тут відавочная апіска перапісчыкаў, не разумеўшых астранамічнага сэнсу гэтай выявы: замест τους όες – цмок, стаіць τά έθνη – народаў. Із сэнсу ўсяго гэтага месца і із назвы Магутны Сын зразумела, што гаворка ідзе пра сузор'е Геркулеса, пасвячага цмокаў жалезнай дубінай.

[88] Ρπω – павольна, урачыста іду.




Мал. 36. Сузор'е Геркулеса, збівае змей дубінай. (Згодна з манускр. Grienberger'a, у Пулкаўскай абсерваторыі)




Мал. 37. Сузор'е Цмока, згодна з манускрыптам Grienberger'a.

І вось адбылася ў небе вайна (*паміж хмарамі, якія імкнуліся адна на адну*). Богападобнае сонечнае[89] аблічча і яго светлыя, хмарныя веснікі ваявалі супраць Цмока (*несліся на гэтае сузор'е ў вышыні*), а Цмок і яго змрочныя, навальнічныя пасланнікі ваявалі супраць іх, але не выстаялі, і не знайшлося ўжо ім месца на небе.

І павярнуўся ў гэты час ўніз (*прайшоў праз мерыдыян*) вялікі Дракон (мал. 37), старажытны змей, званы паклёпнікам[90] і перашкаджальнікам[91], спакушэнне ўсёй заселенай Зямлі, пачаў апускацца ў сваім сутачным кругавароце да гарызонту разам са сваімі пасланнікамі.

І пачуў я магутны голас ветру, які гучаў у нябёсах:

---

[89] Міхал па-жыдоўску азначае: той, хто як бог. Аўтар ужыў фігуральна гэты выраз для пазначэння "богападобнасьці сонца".

[90] ???????? – паклёпнік, ад звычайнага грэцкага размаўляльнага слова ??????? – паклёп.

[91] Сатана – па-жыдоўску азначае: перашкода.

– Надышло збавенне! Надышла ўлада і царства нашага бога і ўрачыстасць яго Прысвечанага! Скінуты здраднік нашых братоў, які паклёпнічаў на іх перад богам дні і ночы. Але яны перамаглі яго крывёю Авена і тым, што абвяшчалі ісьціну, не шкадуючы душ сваіх, да самай сьмерці. Радуйцеся ж, нябёсы і ўсе, хто жыве на іх! Але гора знаходзячымся на зямлі і моры! Да вас сышоў здраднік ў вялікай лютасьці за тое, што мала часу засталося яму жыць на сьвеце!

Калі Дракон пабачыў, што ўжо спускаецца на зямлю, ён рушыў услед за Паннай, якая выпусьціла на дзённае сьвятло Магутнага Сына – Геркулеса. Але ёй былі дадзены два крылы вялікага арла (мал. 38), і паляцела яна ад асобы Змея на сваё месца ў пустыні нябеснай прасторы, каб жыць там на працягу аднаго гадавога тэрміну, двух тэрмінаў[92]* і паловы тэрміна (*г. азн. тыя ж 1260 дзён*). І выкінула сузор'е Змея[93] са сваёй пасткі патокі дажджавой вады (мал. 39) услед за жанчынай, каб змыць яе вадой, але Зямля дапамагла ёй. Яна раскрыла свае шчыліны і праглынула патокі, выкінутыя Цмокам са сваёй пасткі. І раззлаваўся Цмок на Панну і пайшоў за хмару, каб падрыхтавацца да вайны з астатнімі яе дзецьмі, выконваючымі боскія запаветы, і з вястунамі Ісуса-Пасвечанага.



Мал. 35. Сонца і Месяц у нагах сузор'я Панны 30 верасня 395 года. (Месяц для зразумеласьці пазначаны некалькі ніжэй сонца.)

---

[92] Тут зноў відавочная памылка перапісчыка: замест парнай лічбы χαίρω у сучасных копіях стаіць множная χαιρούς, тады як згодна з сэнсам відавочна, што тут гаворка ідзе пра тыя ж 3 ½ гады ці 1260 дзён, якія застаюцца да вылічанага аўтарам прышэсьця Ісуса 13 сакавіка 399 года.

[93] Ὄφις – у астраноміі азначае: сузор'е Змея. Дакладна гэтак жа і δράχν – цмок – азначае і адпаведнае сузор'е (Цмока) і вялікага змея. Тут аўтар карыстаецца дваістым значэннем гэтых слоў, прынароўліваючы іх то да сузор'яў галоўным чынам да цмокападобнага змея Афіуха, то да знаходзіўшыхся ў гэтых сузор'ях выродлівых хмараў навальніцы.




Мал. 36. Сузор'е Геркулеса, збіваючага змей дубінай. (Згодна з манускр. Grienberger'a,
у Пулкаўскай Абсерваторыі)




Мал. 37. Сузор'е Цмока, згодна з манускрыптам Grienberger'a.




Мал. 38. Сузор'е Панны, згодна з манускр. Grienberger'a.

# Глава XIII

# Далейшае апісанне жахлівай хмары з сям’ю галавамі і другой, двухрогай хмары, святадзейнічаючайй перад ёю.

Я стаў на марскі пясок, каб разгледзець звера, які выходзіў із мора (*ў выглядзе жахлівай навальнічнай хмары*), з сям’ю галавамі і дзесяццю рагамі (мал. 40). На рагах у яго былі дзесяць карон, а над галавой яго эмблема[94] блюзнерства (*падняўшаяся на неба галава сузор'я Змея*?)

Звер, якога я пабачыў у воблаках, у рэчаіснасьці быў падобны на барса, яго ногі як у мядзьведзя, а яго пастка як у ільва (*контур Візантыйскай-Рымскай імперыі,* мал. 41). І даў яму Цмок сваю магутнасць і пасад, і вялікую ўладу. І я бачыў, што адна із галоў яго была як бы смяротна параненай, але гэтая сьмяротная рана загаілася (*тулава зверападобнай хмары наблізілася да адарванай галавы*). І ўся зямля дзівілася гэтаму зверу. І кланяліся людзі (*сімвалізуемыя хістаючайся ад ветру травой*?) перад ім і перад Цмокам, даўшым яму ўладу, кажучы:



Мал. 41. Візантыйска-Рымская імперыя канца IV стагоддзя. Галава – Гішпанія, як у ільва, ногі – Італія і Грэцыя, як у мядзведзя (згодна з Пталямеем).

– Хто падобны гэтаму зверу і хто зможа з ім змагацца?

Яму былі дадзены вусны, вымаўляўшыя ганарыста і па-блюзнерску, і ўлада весьці вайну сорак два месяцы (*тыя ж самыя 1260 дзён да нядзелі 13 сакавіка 399 года*[95]). І ён расчыніў свае вусны, каб паклёпнічаць на бога і ганьбіць яго славу[96] і яго жыллё – неба (*на якое, верагодна, падымалася хмара з грамавым ударам па сузор'ю Ахвярніка*), і тых, хто жыве ў ім. І было яму дазволена весьці барацьбу з чыстымі душой і перамагчы іх. І дадзена яму ўлада над усімі плямёнамі і народамі, над усімі мовамі і гаворкамі (*сімволізуемыя хвалямі Міжземнага мора*, гл. Гл. 17, рад. 15). І будуць падаць ніцма перад ім ўсе, хто жыве на зямлі (*як травы, прыгнуўшыся ад ветру перад хмарай*), імёны

[94] Ὄνομα βλασθημίας – імя (назва, сімвал) паклёпы.

[95] Мы бачым, як аўтар разнастайнымі спосабамі пазначае той жа самы тэрмін 1260 дзён, які застаецца да мяркуемага ім выканання яго прадказання 13 сакавіка 399 года, як бы баючыся, што перапісчыкі ці фальсіфікатары могуць яго пераіначыць.

[96] Ὄνομα – фігуральна азначае славу.

якіх не запісаны ў кнізе жыцьця ў Авена, заколатага ў сваім сузор'і пры стварэнні сусвету[97].

У каго ёсць вушы, хай чуе: хто вядзе ў палон, сам патрапіць у палон, хто забівае мячом, той павінен быць сам забіты мячом! На гэтым грунтуецца цярпенне і надзея шануючых праўду.

І пабачыў я новага звера (*сімвал дзяржаўнай царквы*), выходзіўшага (*ў выглядзе другой выродлівай хмары*) з боку сушы. У яго былі два рагі, падобныя на рогі Авена (мал. 42), але казаў ён, як Цмок (*ударам маланкі з гэтага сузор'я*?), і набыў для сябе такую ж уладу, як і першы звер-імперыя, і прымушае ўсю Зямлю і жывучых на ёй (*у сімвале нахіляючайся ад ветру палявой травы*) схіляцца перад першым зверам, у якога загаілася на галаве сьмяротная рана. Гэты двухрогі звер выробляе вялікія цудадзействы, нават полымя зводзіць з неба (*у маланках*?) на Зямлю перад людзьмі, падманвае жывучых на зямлі чудадзействамі, якія вырабляе перад першым зверам, падахвочваючы жывучых на Зямлі пакланяцца малюнку звера меўшага на галаве рану ад мяча і загаіўшага яе.


Мал. 42. Двухрогі звер.

І было яму дазволена надзяліць дыханнем выяву звера (*ад якога зараз пранёсся моцны парыў ветру)*, і каб загаварыла яна (*ўдарамі грому*?), і каб былі забіты (*маланкамі, ударыўшымі па нерухомых верхавінах выспы*?) тыя, хто не схіляюцца перад выявай звера.

І вось Звер (*г. азн. Візантыйская імперыя IV стагоддзя, сімвалізуемая зверападобнай хмарай*) пастанаўляе зараз[98], каб усім, вялікім і малым, заможным і бедным, вольным і рабам, выдавалі асобныя адзнакі (*згодна з даследваннямі Ньютана – крыжы*[99]) для нашэння іх на правай руцэ ці на галаве, каб не смелі ні

[97] Гэтае выказванне, відавочна, навеяна тым, што выява Авена ў сваім сузор'і, ўзнікшым "пры стварэнні Сусвету", адлюстроўвалася на мапах з павісшай назад, як бы надрэзанай галавой.
[98] Ποιεί – пастанаўляе, тут сучасны час, а не будучы.
[99] The mark †, or the name λατεινος, or the number thereof χζς 666 (I. Newtoni Opera, tom. V, Londini, 1785. Маецца ў мяне і ў Пулкаўскай абсерваторыі). На жаль, я не знайшоў у гэтым тлумачэнні Ньютана на Апакаліпсіс нічога такога, што паказвала б на ўразуменне Ньютанам астранамічнага і

купляць, ні прадаваць (*як загадвае эдыкт імп. Хвядоса ад 395 года*) усе тыя, хто не мае на сабе гэтай адзнакі звера або яго імя (лацінка) або лікавай выявы – сумы літар яго імя.



Мал. 40. Хмара-звер з сям’ю галовамі-смерчамі і дзесяццю адгор'ямі (назіраемая мной у Швейцарыі).

# Глава XIV

## Ўзыходжанне сузор'я Авена. Захопленае чаканне ціхай зорнай ночы пасьля навальніцы і землятрусу. Крывавая паласа вячэрняй зары.

Я зірнуў, і вось Авен стаіць над надмагільным пагоркам[100] (мал. 44), і за ім ідуць 144 тысячы зорак, на тварах якіх напісана слава яго бацькі. І чуўся мне ў грукаце мора і выцці буры голас з неба, як шум шматлікіх хваляў, як гук магутных грымотаў; і чулася мне ў таямнічым мігценні першых з'яўляючыхся зорак як бы музыка арфістаў, граючых на сваіх арфах. Яны спяваюць сваю

метэаралагічнага сэнсу апакаліптычных звяроў. Грэчаскія літары ў той жа час атаясамлялі і лічбы: α = 1; β = 2; γ = 3; δ = 4; ε = 5; ς = 6; ζ = 7; η = 8 ; θ = 9; ι = 10; κ = 20; λ = 30; μ = 40; ν = 50; ξ = 60; ο =70; π =80; q = 90; ρ = 100; σ = 200; τ = 300; *υ=400;* φ = 500; χ = 600; ψ = 700; ω = 800; э = 900; α = 1000; β = 2000. А таму для кожнага імя можна было вылічыць і "яго лічбу", г. азн. суму літар, як гэта тут і робіць Ян. Рэнан лічыў, што гэта сума літар жыдоўскага выказвання: імператар Нерон (קסר נרון). Сапраўды, яна дае лік 666, але нацяжка у тым, што гэта не простае імя, як патрабуе аўтар, а цэлых два словы: імя і тытул носячай яго асобы. Вось чаму тлумачэнне Ньютана мне здаецца адзіна дапушчальным. Знак звера, крыж (†), паказвае, што Лацінска-Візантыйская імперыя была ўжо хрысьціянскай, і што на язычнікаў і ўсіх, не належачых да панаваўшай тады (як пабачым далей, мікалаіцкай) царквы, адбываліся ў той час моцныя ганенні, як і відаць з эдыкта імп. Хвядоса, які адносіцца да пачатку 395 года, абвяшчаўшага ерэтыкоў (да якіх, відавочна, належыць і Ян) страціўшымі грамадзянскія правы, і нават скасаваўшага для іх права передаваць свае маёнткі іншым асобам праз запавет (Гісторыя Шлосера, т. 2, стр. 221). λ = 30, α = 1, τ = 300, ε = 5, ι = 10, ν = 50, ο = 70, ς = 200. Сума = 666. (Сума лікавых значэнняў для літар грэцкага слова λατεινος (лацінкай)). Тут мудрасць: у каго ёсць розум, палічы лічбу звера, таму што яна даступна чалавеку. Гэтая лічба шэсьцьсот шэсьцьдзясят шэсьць.

[100] צין па-жыдоўску азначае надмагільны пагорак, куча камянёў (на магіле).

новую песьню – гімн Авену[101] перад сузор'ем Пасада і перад Чатырма Жывёламі і перад Старцамі-гадзінамі дня і ночы. І ніхто не мог навучыцца гэтай песьні, акрамя тых 144 тысяч незямных. Яны цнатліва чыстыя душой і таму ідуць за Авенам, куды б ён ні пайшоў (*у сваім сутачным кругазвароце па нябеснаму скляпенню*). Яны адкуплены із асяроддзя людзей у дар богу і Авену. У іх вуснах няма падману, яны бездакорны перад богам.



Мал. 44.
Узыходжанне сузор'я Авен.

І пабачыў я іншага роду пасланніка (*верагодна, голуба або ластаўку*), ляцеўшага пасярэдзіне неба з вечным зьвеставаньнем, абвяшчаючы добрую вестку заканчэння навальніцы ўсім жывучым на зямлі народам і родам, гаворкам і нацыям. І прамаўляў ён гучным голасам:

– Шануйце бога і ўхваляйце яго, таму што наступіў час яго суда. Схіліцеся перад стварыўшым неба і зямлю, і мора, і водзяныя крыніцы.

І другі пасланнік ішоў за ім, прамаўляючы:

– Упала, упала вялікая цьвярдыня – Брама госпада[102] (*дзяржаўная царква*), упала за тое, што абуральным вінам сваёй амаральнасьці яна напаіла (*у звычаі прычашчэння*?[103]) ўсе народы.

І трэцці пасланнік прамчаўся за імі, прамаўляючы магутным голасам:

– Хто схіляецца перад зьверам-імперыяй і яго выявай і прымае яго адзнаку (*крыж*) для нашэння на правай руцэ ці на галаве, той будзе піць віно божага абурання, прыгатаванае без прымешак у Чашцы яго гневу (*Сузор'е Чашкі зайшло ў гэты час у вогненнай паласе вечаровай зоркі*). І будуць катаваць іх полымем і падпаленай серай (*сімвалізуемымі ў адценнях загарэўшагася заходу*) перад беззаганнымі пасланнікамі і Авенам. І дым ад іхных пакут будзе паднімацца на працягу стагоддзя стагоддзяў. І не будуць мець спакою ні днём, ні ноччу схіляючыяся перад зьверам і яго выявай і прынімаючыя на сябе знак прыналежнасьці яму. У гэтым падстава цярпення беззаганных, якія выконваюць загады бога і веру ў Ісуса!

[101] Я ўжо згадваў, што Авен ўзыходзіў 30 верасня 395 года каля 6 гадзін вечара пры заходзе Сонца.

[102] Баб-Ілу азначае Брама Госпада.

[103] Гэта зразумела із гл. 17, рад. 4-5.

І я чуў нябесны голас, які прамаўляў мне:

– Напішы: ад гэтага часу шчаслівыя тыя, хто памірае, захаваўшы боскія запаветы. Так! кажа натхненне, яны супакояцца ад працы сваёй, і іхныя дзеянні пойдуць услед за імі!

Я зірнуў на захад, і вось там светлае воблака, а на воблаку сядзіць заходзячае Сонца, падобнае на сына чалавечага, з залатым вянком прамянёў на сваёй галаве і з вострым сярпом нованароджанага Месяца[104] ў руцэ.

І другі лёгкі, хмарны пасланнік выйшаў із жытла бога-неба і ўсклікнуў гучным голасам седзячаму на воблаку:

– Апусьці свой серп і ўчыні жніво. Наступіў яго час, таму што пшаніца саспела на раллі (*за якой заходзіў серпавідны месяц*). І апусьціў седзячы на воблаку свой серп-луну на Зямлю, а на Зямлі жніво ўжо было здзейснена.

І іншага роду пасланнік (*сузор'е Валапаса*, мал. 45) выйшаў із жытла бога на небе таксама з вострым сярпом у руцэ, а яшчэ іншы пасланнік, які мае ўладу над агнём, прыйшоў (*у выглядзе хмаркі, афарбаванай заравам у вогненныя колеры*) ад сузор'я Ахвярніка і закрычаў ён гучным голасам пасланніку з сярпом (*спускаўшамуся за вінаграднікам Валапасу*):



Мал. 45. Сузор'е Валапас з яго сярпом (згодна з манускрыптам Grienberger'a).

– Апусьці свой востры серп і абрэж гронкі вінаграду на Зямлі, таму што яны паспелі!

І апусьціў пасланнік свой серп на Зямлю, і як бы зрэзаў на полі гронкі вінаграду, і кінуў іх у вялікае карыта божага гневу (*крывавую паласу вячэрняга зарыва, на якім абмалёўваліся цёмныя сілуэты раслін вінаградніка*), і патаптаў нагамі (мал. 46 і 47 ) гэтае карыта, якое знаходзіцца па-за населеным месцам, за ускраййкам Зямлі, і разлілася праз край кроў вячэрняга зарыва з карыта-

[104] Месяц згодна з астранамічнымі вылічэннямі знаходзілася ў гэты час у перыядзе маладзіка, які суправаджаўся зацьменнем 30 верасня 395 г., праходзіўшым у гэты момант па Ціхаму акіяну, але аўтар, відаць, некалькі памыліўся ў сваіх разліках і, не бачучы за хмарамі сонца, лічыў зацьменне ўжо скончыўшымся.

гарызонту на тысячу шэсьцьсот стадыяў да саміх Конскіх аброцей (*гурт зорак у сузор'і Возніка, якое тады знаходзілася на поўначы,* мал. 46 і 47).




Мал. 47. Сузор'і Возніка, Конскіх Аброцей і Персея (Згодна з манускрыптам Grienberger'a).

# Глава XV

## Першыя буйныя зоркі з'яўляюцца на ўсходняй пацямнеўшай частцы неба

І я бачыў над сабой[105] нібы-та шкляное мора, змешанае з полымем зарыва, а тыя, хто застаўся пераможцам звера-імперыі, яго выявы ў хмары, і яго адзнакі (*крыжа*), і лічбы імя яго, стаялі на гэтым шкляным моры ў выглядзе зорак з цытрай бога[106] (*сузор'ем Ліры, мал. 48, якае знаходзіліся ў зеніце?).*




Мал. 48. Сузор'і Лебедзя і Ліры (згодна з манускрыптам Grienberger'a, 1612)

Яны спявалі гімн божага служкі Майсея. ("Слухай, неба: я буду прамаўляць. Слухай, зямля, словы вуснаў маіх. Пальецца, як дождж, вучэнне маё, як раса, будзе прамова мая, як дробны дождж на зяляніну, як лівень на траву. Імя ўладара праслаўляю; адплаціце ўхвалай богу нашаму. Ён цьвярдыня, і дасканалыя ўсе яго справы... бог верны і няма няпраўды ў ім "[107]).

І яны спявалі гімн Авена:

Вялікія і дзівосныя дзеі твае,
Магутны ўладар сусветаў!
Твае шляхі справядлівыя і верныя,
Ты правадыр усіх змагароў за праўду!
Хто ўхвалы табе не аддасьць на Зямлі,
Твой шлях не прызнае сьвятым?
Злучацца народы ў магутнай хвалі
Прадвечным законах тваім!

І вось расчынілася ў небе ўнутраная частка блакітнага шатра пасведчання (*з'явіліся першыя буйныя зоркі*), і з'явіліся на захадзе сем новых хмарных пасланнікаў з сям'ю апошнімі пакараннямі – ліўнямі дажджу.

[105] Першы верш перанесены мной ў наступную главу, адкуль ён праз памылку забегшага наперад перапісчыка быў змешчаны сюды, як відавочна із сэнсу.
[106] Множны лік, відаць, належыць перапісчыку.
[107] Другі закон, гл. 32, пачатак.

Яны былі апрануты ў светлае і чыстае ільняное адзенне і падперазаны па грудзях (*ад водбліску вячэрняга зарыва*) залатымі паясамі. І адна із чатырох жывёл (*сузор'е Стральца*[108]) дала ім сем залатых хмарных чарак, поўных абурэннем вечнага Бога. І напоўнілася заселеная зоркамі частка жытла бога смугой, затуманілася ад славы божай і магутнасьці яго, і ніхто не мог пракрасьціся ўнутр неба, пакуль не скончацца сем пакаранняў гэтых пасланнікаў.

# Глава XVI

## Сем кароткіх дажджавых ліўняў із хмарак, спадарожніц навальніцы, праляцеўшых падчас вячэрняга зарыва.

І я пабачыў у небе новую адзнаку, вялікую і цудоўную: сем пасланнікаў з сям'ю апошнімі пакараннямі, каб задаволіўся імі гнеў божы[109]. І пачуў я гучны голас із заселенай зоркамі верхняй часткі жылля бога, прамаўляючы:

– Ідзіце і выліце на Зямлю сем чарак божага абурэньня!

І выйшаў першы пасланнік і выліў сваю чарку на глебу ўзбярэжжа, і з'явілася кепская і злаякасная сып (*пыркі бруду*?) на людзях (*верагодна, збегшыхся сюды ад жаху перад землятрусам*), якія маюць знак звера (*крыж*) і схіляўшыхся перад яго выявай.

Другі пасланнік выліў сваю чарку на мора, і яно стала (*ад крывавага водбліску вячэрняга зарыва*) як бы крывёй забітага, і ўсякая жывая душа спачыла ў моры (*заснула да ранку*).

Трэцці пасланнік выліў сваю чарку на ваду рэк і крыніц выспы, і яны таксама зрабіліся крывавымі. І пачуў я голас вястуна вады – журчачага ручая – прамовіўшага:

– Ты маеш рацыю, наш уладар, які быў, ёсць і будзеш беззаганным, у тым, што пастанавіў такі прысуд. Гэтыя людзі пралілі кроў шукаючых праўды і вястуноў тваіх, і ты прызначыў ім піць кроў. Яны вартыя гэтага!

І пачуў я (*ва ўсплёсках амаль супакоіўшагася мора*?) іншы голас ад сузор'я Ахвярніка:

– Так, валадар наш, бог усемагутны, праўдзівыя і справядлівыя твае прысуды.

І выліў чацьвёрты пасланнік сваю чарку над зайшоўшым сонца, і даў яму ўладу паліць людзей у полымі вечаровага зарыва. І паліў іх моцны жар, і яны клялі імя бога, валодаўшага такімі язвамі, і не здагадаліся праслявіць яго.

І выліў пяты пасланнік сваю чарку над пасадам звера-імператара[110], і стала змрочным яго царства (*ў вечаровых прыцемках*), і кусалі яго падданыя свае языкі

[108] Яно знаходзілася тады на паўднёвай частцы гарызонту, а аблокі з чаркамі былі на захадзе, як відаць па іхнаму залацістаму адценню.

[109] Гэты радок праз памылку перапісчыка памешчаны ў пачатку папярэдняй главы, дзе ёй зусім не месца згодна са зместам. Верагодна, ён наўпрост пачаў перапісваць гэтую главу адразу ж пасьля пятнаццатай, але спахапіўся і, не жадаючы выкідаць каштоўны для старажытных часоў папірус, пакінуў яе там.

[110] Г. азн. у накірунку Канстантынопаля.

ад адчаю. І пракліналі бога нябёсаў за свае бедствы і няшчасьці, але не пакаяліся ў справах сваіх.

Шосты пасланнік выліў сваю чарку над вялікай ракой Евфратам, і высахла ў ёй вада, каб адкрыць шлях усходнім царам (*сімвалізуемымі ўзыходзячым із-за Еўфрата сузор'ем Персея, з яго прыпаднятым мячом*).

І пабачыў я, як выходзілі з вуснаў сузор'я Цмока на вяршыні неба і із пасткі звера (*з боку Гішпаніі*, мал. 41) і з вуснаў ілжэпрарока (*з боку Ерусаліма*?) тры нячыстых выдыханні (*цёмныя выродлівыя воблакі*), якія набылі форму жаб (мал. 49). Гэта духі язычніцкіх багоў, якія твораць цуды. Яны сыходзяць на зямных цароў ва ўсім сусвеце для таго, каб весьці іх на вайну супраць Авена ў той вялікі дзень ўсемагутнага бога.



Мал 49. Хмарныя жабы.

І сабраліся яны на месцы, якое называецца па-жыдоўску Вартаўнік зьвеставаньня (*сузор'е Стральца, астралагічны дом Веравызнання*).

[Вось іду, як злодзей! Шчаслівы, хто не спіць і беражэ сваю вопратку, каб не хадзіць яму пазней голым і не бачылі яго непрыстойнасьці!]

Сёмы пасланнік выліў сваю чарку на паветра (*хмара пранеслася без дажджу*), і з заселенай зоркамі вантробы нябеснага шатра пачуўся ад Пасада гучны голас:

– Адбылося!

І тут пачуліся грукат і гукі, і грамавыя стрэлы[111] і вялікі чацвёрты ўдар землятрусу, якога яшчэ не было з таго часу, як з'явіліся людзі на гэтай Зямлі. Такі ўдар! Такі вялікі! І Вялікая Цьвярдыня (*прыбярэжная скала*) развалілася на тры часткі, і зваліліся паселішчы народаў. І была гэтым згадана перад богам вялікая "Брама госпада"[112] (*пануючая царква*), каб даў ён ім выпіць чарку абурэння і гневу свайго.

І ўся выспа[113], здавалася, кінулася бегчы (*звычайная ілюзія ад адхлынуўшай ад берага вады з нагоды вагання дна*) і прыбярэжных вышынь

[111] *ἄστραπαί — грамавыя стрэлы, маланкі; скарочана ад αστεροπαί*

[112] *Вавілон (Баб-Ілу) – азначае Брама Госпада.*

[113] Πάσα νήσος – уся выспа.

больш не стала. І град камянёў да паўтара пудоў вагой [114] пасыпаўся з паднябеснай вышыні на людзей (*якія сабраліся каля ўзбярэжжа*?) І лаялі людзі бога за параненні ад гэтага граду, таму што боль ад іх вельмі цяжкая.

# Глава XVII

## Хмарны сілуэт жанчыны з чаркай на барвовым фоне вячэрняга заходжання.

І зноў выступіў на небе адзін із сямі хмарных пасланнікаў, якія мелі раней сем чарак. І пачаў павучаць мяне[115]:

– Хадзем, я пакажу табе прысуд над вялікай самапрадажніцай (*дзяржаўнай царквой*[116]), седзячай на мностве хваляў-народаў. Яе куплялі цары зямныя, і напоены насельнікі Зямлі віном яе амаральнасьці.

І адвёў ён мяне ў стане захаплення ў пустыннае месца. І пабачыў я адтуль (*у сілуэтах аблокаў на вогненным фоне вячэрняга зарыва*) жанчыну, якая сядзела на барвовым семігаловым зверы з дзесяццю рагамі, напоўненым сімваламі блюзнерства (*сузор'ем Самка Гідры*). І была жанчына апранута ў парфіру і ў пурпур вячэрняга зарыва і аздоблена золатам і жэмчугамі, і каштоўнымі камянямі. У руцэ яе была Залатая Чарка (із воблакаў або на Самцы Гідры, мал. 51), напоўненая мярзотамі і брудам яе амаральнасьці. А на ілбе яе надпіс:



Мал. 50. Хмарны сілуэт на сузор'ях Самкі Гідры і Чаркі.

---

[114] Ταλαντιαίος – вагой у талант (55 фунт. 2 лоты).

[115] Λαλέω – гучу, щабечу, балбачу, нашэптваю.

[116] Гэта значыць фракцыяй Феафіла Александрыйскага, панаваўшай у 395 годзе ў Візантыі. Увесь гэты перыяд візантыйскай гісторыі быў адзначаны бязлітаснай барацьбой дзяржаўнай царквы ў Візантыі з фракцыямі першапачатковага хрысціянства, не прызнаваўшымі хаўруса царквы і дзяржавы. На чале апазіцыі стаяў у гэты час самы таленавіты прапаведнік першых стагоддзяў хрысціянства – Ян Хрызастом. У апошняй частцы майго даследавання я пакажу, што Апакаліпсіс, амаль несумненна, адзін із яго памфлетаў.



Мал. 51. Сузор'е Самка гідры і Чара, згодна з манускрыптам Grienberger'a, 1612.

Сакрамэнт![117]

Вялікая Цвярдыня "Брама Госпада", маці блудадзеяў і мярзотаў зямлі!

I я пабачыў, што гэтая жанчына была пабарвавана (*на пунсовым фоне захаду*) крывёю шукаючых праўды і паслядоўнікаў Ісуса, і, разглядаючы яе, я зьдзіўляўся вялікім здзіўленнем. Але пасланнік прамовіў мне:

– Чаму ты здзіўляешся? Я растлумачу табе сакрамэнт гэтай жанчыны і носячага яе сямігаловага звера з дзесяццю рагамі. Звер, якога ты бачыў, быў і няма яго зараз (*імперыя ўжо падзялілася паміж Аркадзем і Ганорыем*)[118], і павінен будзе зноў выйсьці із бездані, каб пайсьці на сваю пагібель. І будуць здзіўляцца жывучыя на Зямлі, імёны якіх не запісаны ў спрадвечным[119] скрутку жыцця, гледзячы на звера, які быў раней і не існуе зараз, але зьявіцца.

---

[117] Μυστήριον азначае рэлігійны сакрамэнт, містэрыя. Для звычайнай жа таямніцы, сакрэту, ўжываліся іншыя словы, напр.: τα κρυπτα. Тут справа ідзе, несумненна, пра сакрамэнт прычашчэння, якое толькі адно здзяйснялася і здзяйсняецца ў залатых чашках ва ўсіх усходніх цэрквах. Відавочна, візантыйскія біскупы IV стагоддзя дадавалі ў віно для прычашчэння нейкія "мярзоты", надаваўшыя віну выгляд і смак крыві, і выдавалі гэта ператварэнне за цуд. Толькі тады і становяцца зразумелымі ўсе выказванні Яна, сустракаючыяся ў гэтай кнізе, і тое, чаму (у гл. 16) ён жадае прымусіць усіх, служачых зверу (царкве і імперыі), піць кроў. Вось далейшыя месцы Апакаліпсісу, якія зацвярджаюць у той жа думцы: “Усе народы паспыталі абуральнага віна яе распутніцства (πορνείας, гл. 18)”... “Паставіцца да яе так, як яна паставілася да вас! Аддзячце ёй ўдвая за яе прыдумку: у чарцы, у якой яна разводзіць вам віно, развядзіце ёй самой удвая (гл. 18)”...”Міктураю (φαρμακεια) тваёю ўведзены ў зман усе народы (гл. 18)”... “Хто схіляецца перад зьверам, будзе піць віно божага абурэння, прыгатаванае без дамешак у чарцыў яго гневу (гл. 14)” Чытач самастойна можа знайсьці падобныя іншыя месцы. Калі б візантыйскія біскупы дзяржаўнай фракцыі дадавалі ў віно чыстую цёплую ваду, то ў аўтара не было б падставы называць гэтую сумесь мярзотай і брудам, і паграджаць Вялікай Цьвярдыні, што ёй самой разбавяць ўдвая тым жа чынам. Дадам яшчэ, што Вавілон (Баб-Ілу) азначае ў перакладзе “Брама Госпада”, чым і тлумачыцца прымяненне Янам гэтай назвы да Візантыйскай царквы.

[118] У студзені 395 года, за восем месяцаў да гэтай буры.

[119] Ἀπό καταβο λής κόσμου – ад пачатку свету. Гэты выказванне, відаць, мае дачыненне да стаячага перад ім слова βιβλίον. У копіі, з якой я перакладаў, уся гэтая фраза пастаўлена ў дужкі, як ўступная.

Тут мудры сэнс: сем галоў – гэта сем пагоркаў, на якіх сядзіць жанчына (*дзяржаўная царква*), і ў той жа час гэта сем цароў[120]. Пяць з іх ужо валадарылі (Канстанцін, Канстанцый, Юльян, Валент і Хвядос), шосты (Аркадзь) ёсць зараз, а сёмы (Іявіян, абвешчаны ў 363 г. падчас паходу, але памёршы, не дайшоўшы да Візантыі) яшчэ не прыйшоў, а калі прыйдзе, то нядоўга яму быць (*толькі да 13 сакавіка 399 года*).

Звер жа, які быў раней (*у хмары*) і не існуе зараз, ёсць восьмы валадар (*сама Імперыя*), і складаецца із гэтых сямі і пойдзе ў пагібель.

А дзесяць рагоў, што ты бачыў, гэта дзесяць цароў, якія яшчэ не атрымалі царстваў, але атрымаюць з дапамогай звера-імперыі на адну гадзіну. Усе яны будуць мець той жа самы вобраз думак і аддадуць магутнасць і ўладу сваю ў распараджэнне зверу. Яны будуць ваяваць з Авенам, але Авен пераможа іх, таму што ён валадар ўладароў і цар цароў, і з ім будуць усё жадаючыя, і выбраныя, і верныя.

І прамовіў ён мне яшчэ:

– Хвалі Міжземнага мора, якія ты бачыш там, дзе сядзіць прадажная жанчына, ўяўляюць сабой народныя зборышчы і натоўпы, плямёны і мовы. А сама жанчына ўвасабляе сабой Вялікую Цьвярдыню дзяржаўнай царквы, якая валадарыць над зямнымі царамі[121].

Дзесяць жа рагоў, якія ты бачыў у хмарах на зверы, зьненавідзяць яе і зруйнуюць, і забяруць яе адзенне, і зжаруць, і спаляць яе ў полымі. Таму што бог ўклаў у іхныя сэрцы выканаць яго волю, толькі адну гэтую волю, і затым аддаць іхныя царствы зверу, пакуль не спраўдзяцца словы бога.

# Глава XVIII

## Начны метэор і плач ўсіх цароў і гандляроў зямных з нагоды гібелі вялікай цьвярдыні "Брамы Госпада".

І пабачыў я пасьля гэтага ў настаўшай начной цемры новага пасланніка (*яркі начны метэор*). Ён спускаўся з неба з вялікім бляскам. Зямля асьвяцілася ад яго славы. І ўсклікнуў ён, у сваёй магутнасьці, гучным голасам:

– Упала, упала вялікая цьвярдыня “Брама госпада”! Зрабілася жыллём язычніцкіх багоў[122], прыстанкам усякай нячыстай душы, усякай бруднай і агіднай птушкі! Усе народы паспыталі абуральнага віна яе амаральнасьці. З ёй любадзейнічалі цары зямныя, і гандляры зямлі ўзбагаціліся ад яе незвычайнай раскошы.

І пачуў я другі голас з неба, які прамаўляючы:

– Выйдзі із яе, мой народ, каб не ўдзельнічаць табе ў яе злачынствах і не прыняць яе пакарання, таму што дайшлі да неба яе злачынствы, і згадаў бог яе

[120] Заснавальнік Візантыйскай імперыі Канстантын I, з 330 да 337 года, і яго спадчыннікі: Канстанцый (337-361); Юльян (361-363); не дайшоўшы да Візантыі Іявіян (363-364); Валент (364-378); Хвядос (378-17 студзеня 395 г.); і, нарэшце, Аркадзь (17 студз. 395-408 г.)

[121] Гэтае выказванне, размешчанае, верагодна, прапусціўшым яго перапісчыкам на прыканцы главы, я перанёс сюды, каб захаваць лагічны сэнс усяго ўрыўка.

[122] Δαίμων – паганскі бог, геній, дух-ахоўнік, хатні бог грэкаў і рымлян.

крыўды. Пастаўцеся да яе так, як яна паставілася да вас! Аддзячце ёй ўдвая за яе выдумку[123]: у чарцы, у якой яна разводзіла[124] вам віно, развядзіце ёй самой ўдвая той жа самай мярзотай і брудам! Колькі яна ганарылася і раскашавала, столькі ж аддайце ёй зневажання і крыўд, таму што яна выказваецца ў сваім сэрцы: знаходжуся ў хаўрусе з царамі. Я не ўдава і не зведаю клопатаў!

Затое ў адзін і той жа дзень прыйдуць на яе і пошасьці, і пагібель, і прыніжэньне, і беднасць, і будзе спалена палымем, таму што моцны бог, яе суддзя! І заплачуць, і загалосяць па ёй усё цары зямныя, якія куплялі яе і раскашавалі з ёю, бачачы дым ад яе пажару. Стоячы воддаль, ад жаху зведаць яе пакуты, яны будуць усклікаць:

– Гора, гора табе, вялікая цьвярдыня “Брама госпада”, моцная цвярдыня! На працягу гадзіны вырашыўся твой лёс!

І купцы зямныя заплачуць і загалосяць па ёй, таму што карабельныя грузы іх, якія прыйшлі для яе, застануцца непрададзенымі: грузы золата, і срэбра, і каштоўных камянёў, і пацерак, і тонкіх палотнаў, і шоўку, і пурпуру, і кіпарысавага дрэва[125], і вырабаў із слановай косткі, і розных вырабаў із каштоўнага дрэва, жалеза, медзі і мармуру. І не купіць у іх ніхто карыцу і курэнні[126], і мірру, і ладан, і віно, і алей, і пшаніцу, і жыта, і буйное быдла, і авечак, і коней, і экіпажы, і чалавечыя целы і душы.

І пладоў зямных, прыемных для душы тваёй, не стала ў цябе, і ўсё пышнае і бліскучае сышло ад цябе, і ты ўжо не знойдзеш яго болей!

І стануць у аддаленні ўсе, прадаваўшыя гэтыя тавары і узбагаціўшыяся ад цябе, праз жах зведаць твае бедствы, плачучы і галосячы, і прамаўляючы:

– Гора, гора табе, вялікая цьвярдыня, апранутая ў тонкае палатно, парфіру і ў пурпур і ўпрыгожаная золатам, жэмчугам і каштоўнымі камянямі. У адначассе прапала такое багацце!

І ўсё стырнікі, і карабельнікі, і мараходы, і ўсё мноства плывучых да яе сталі ўдалечыні ад яе і загаласілі, бачачы дым ад яе пажару і кажучы:

– Ці было што-небудзь падобнае на гэтую вялікую цьвярдыню?

І пасыпалі яны попелам свае галовы і ўсклікалі, плачучы і галосячы:

– Гора, гора табе, вялікая цьвярдыня, ад раскошы якой ўзбагаціліся ўсе, валодаючыя караблямі на моры! Апусьцела ў момант!

[Радуйся пра гэта неба і ўсе беззаганныя пасланнікі і вешчуны: здзейсніў бог свой суд над ёю!]

І адзін із моцных (*нябачных у змроку ночы*) вешчуноў падняў на беразе вялікі, як млыновы, камень і кінуў яго ў мора (*пачуўся ў цемры ўсплёск ад яго падзення*) і прамовіў гэтым:

– З такой жа імклівасьцю будзе скінута вялікая цьвярдыня "Брама госпада" і больш не будзе яё!

І не будзе ў табе чуваць ні гукаў граючых арфістаў, ні голасоў спяваючых, ні трубавых гукаў, ні музыкі выконваемай на жалейках і іншых прыладах! І не будзе ў табе больш ніякага мастака і мастацтва, і шуму жорнаў ужо не будзе

[123] Έργον – справа, твор, выдумка.
[124] Ἐκέρασε ад κεράννυμι – разбаўляю віно вадой.
[125] Θνία – кіпарыс.
[126] Θυμίαμα – курэнне, адкуль θυμιηθήριον – кадзіла.

больш чуваць у тебе! Святло свяцільні не заблішчыць у табе, і голас маладога і маладой не пачуецца ў табе, таму што зямныя вяльможы ладзілі з табой пагадненні і сумессю тваёю (*у залатой чарчы*) ўведзены ў зман усе народы. І знойдзена ў табе кроў усіх вяшчальнікаў ісьціны і беззаганных і ўсіх закатаваных за праўду на Зямлі.

# Глава XIX

## Начныя мары Яна.




Мал. 52. Праходжанне Авена праз мерыдыян, згодна з Grienberger'ам, 1612

І мне чуўся ў міргаценні зорак на небе як бы гімн шматлікага народа, які прамаўляў:

– Хвала стварыўшаму свет! Шчаслівае вяртанне! Слава, пашана і магутнасць валадару нашаму Богу! Праўдзівыя і справядлівыя яго прысуды! Асудзіў ён вялікую самапрадажніцу, зганьбаваўшую Зямлю, і спагнаў з яе за кроў сваіх вернікаў, забарвяніўшых яе рукі! І другі раз усе ускліінулі: хвала стварыўшаму свет!

І дым ад яе пакут паднімаўся (*ў выглядзе марскога туману*) ў вечнасць. А чатыры жывёлы пор года і дваццаць чатыры старцы-гадзіны пакланяліся перад Пасадам на небе, кажучы гэтым:

– Хай будзе так! Хвала стварыўшаму свет!

І пачуўся голас ад сузор'я Пасада:

– Хваліце бога, усе яго слугі і ўсе шануючыя яго, малыя і вялікія!

І мне чуўся у гуках марскога прыбоя як бы гімн вялікай шматлікасьці людзей, які гучаў як шум шматлікіх хваляў, як голас магутных громаў:

– Хвала стварыўшаму свет! Стаў царом над намі сам бог усемагутны! Будзем жа радавацца і весяліцца і праслаўляць яго! Вось наступіла поўнач – адружальная гадзіна Авена (*час яго вераснёўскага праходу праз мерыдыян*[127]), і яго жонка – Зямля – ужо падрыхтавала сябе, і ахутваецца ў чыстае і тонкае пакрывала начнога туману. Гэтае пакрывала з’яўляецца сімвалам цнатлівасьці чыстых душой.

І сказаў мне вястун-неба:

– Напішы: шчаслівыя тыя, хто будзе пакліканы на паўдзённае[128] вясельле Авена. Гэта сапраўдныя словы бажаства нябёсаў.

Я ўпаў да яго ног, каб пакланіцца яму, але ён прамовіў мне:

– Няма патрэбы! Я таварыш табе і тваім братам, якія сведчаць пра Ісуса. Богу пакланіся, так як сведчанне пра Ісуса ёсьць дух прароцтва.

І (*перанёсшыся ва уяўленні праз тры з палавінай гады*[129]) пабачыў я разчыніўшаяся неба, і вось там белы конь (*Юпітэр*), а седзячы на ім (*Авен*) завецца праўдзівы і верны, справядлівы на судзе і ў бітве. Яго вочы (*зоркі*) як вогненнае полымя. На галаве ў яго шмат дыядэм (*із апранаючых яго сонечных прамянёў*), і напісанага на ім наймення не ведае ніхто, акрамя яго самога. На ім адзенне, пабарваванае крывёю, а імя яго – слова бога. Усе нябесныя войскі сузор'і ішлі за ім на сваіх светлых конях, апранутыя ў белыя і чыстыя покрывы. Вастры меч (*ўсемагутнага слова*?) выходзіў із яго вуснаў, каб ім уразіць вобразапаклоннікаў (*пануючай царквы*[130]). Ён пасвіць іх жалезным кіем і выціскае ў карыце віно гневу і абурэння бога на вялікую самапрадажніцу[131]. На сцягне яго адзення напісана яго імя: цар цароў і валадар валадароў.

І пабачыў я ў думках аднаго нябеснага пасланніка (*сузор'е Персея*)[132], які стаяў над Сонцам. І ўсклікнуў ён гучным голасам ўсім птушкам, якія лёталі пасярод нябёсаў (*у сузор'ях Арла і Крумкача, мал. 53 і 54*):

---

[127] Сузор'е Авена праходзіць каля паловы ночы праз мерыдыян толькі ў верасні.

[128] Δείπνον – галоўны паловудзённы баль.

[129] Усё гэта зноў мае дачыненне да нядзелі 13 сакавіка 399 г., астралагічна вылічанага Янам дня прышэсьця Ісуса на Зямлю, так як пераможны белы конь – Юпітэр (гл. 6, верш. А), "які выйшаў, каб перамагчы", будзе ў гэты час у Авене, і Авен спусціцца на ім на Зямлю.

[130] У кананічных копіях стаіць: τα φνη – слова, якое азначае ў царкоўных пісьменнікаў адначасова і народы, і язычнікаў, або ідалапаклоннікаў. Вельмі магчыма, што тут апіска старажытных перапісчыкаў, так як адпаведная фраза ў псальме 2-ім, які прыпісваецца легендарнаму Давіду, хутчэй за ўсё ўстаўлена ў яго із Апакаліпсіса, чым у Апакаліпсіс із яго. Апакаліпсіс – цалкам арыгінальны твор, без запазычанняў ад іншых аўтараў. Прытым жа на прыканцы гэтай главы (арт. 29) прама сказана, што забітымі былі цары і ілжэпракорокі, а не цэлыя народы.

[131] Відавочна, тую ж самую, пра якую гаворыцца ў гл. 14, рад. 20 і гл. 17.

[132] У дзень чаканага Янам прышэсьця Ісуса, 13 сакавіка 399 года, Персей павінен быў знаходзіцца амаль над Сонцам.




Мал. 53. Сузор'е Арла, Дэльфіна і Антыноя (згодна з Grienberger'ам, 1612)



Pic.54 Сузор'е Самка Гідры, Крумкач і Чарка

– Ляціце і збірайцеся на вялікі божы банкет! Пожрыце трупы цароў, трупы вайсковых правадыроў, трупы саноўнікаў, трупы коней і вершнікаў, і трупы ўсіх іх вольных і рабоў, і вялікіх, і малых!

І бачыў я звера-імперыю, і цароў зямных, і іхныя войскі, сабраныя, каб весьці вайну з седзячым на кані і яго войскам. Але быў пераможаны звер, а з ім і ілжэпрарок (*хаўрусная яму царква*), ладзіўшы цуды перад яго лікам і прыцягваўшы імі ў свае сеткі ўсіх, прыняўшых знак звера (*крыж*) і схіляўшыхся перад яго выявай. І абодва былі жывымі выкінутыя ў лагуну (*вячэрняга зарыва*), палаючую полымем і серай. Астатнія ж былі ўражаны да сьмерці мячом,

выходзіўшым із вуснаў седзячага на кані, і ўсе птушкі накарміліся іхнымі трупамі.

# Глава XX

## Перадранішнія мары Яна.

І я пабачыў у гэтую ноч новага вястуна (сузор'е Змеяносца), спускаўшагася на захад з вышыні нябеснага скляпення з вялікім ланцугом (*нябесным экватарам*, мал. 55) на руцэ ў яго і валодаючага ключом да бездані Міжземнага мора (*у глыбіню якога ён заходзіў*[133]). Ён трымаў цмокападобную пачвару[134] старажытнага Змея, паклёпніка і перашкаджальніка, і звязаў яго (*нябесным экватарам*?) на тысячу гадоў (*на ўсю гэтую ноч да раніцы*). І апусьціў яго ў бездань мора (*куды зайшоў Змей*), і замкнуў у ёй, і наклаў над яго пячатку марскога туману, каб не спакушаў больш народы, пакуль не скончыцца прызначаны яму тэрмін[135].




Мал. 55. Сузор'е Змеяносца, з нябесным экватарам, апяразваючым бачнае нябеснае скляпенне (згодна з манускрыптам Grienberger'а).

А пасьля гэтага ён быў павінен зноў быць выпушчаным на кароткі час (*павінен узысьці на досвітку надыходзячага дня для таго, каб адразу зноў знікнуць ў вогненным ззянні ранішняй зоркі*, мал. 56).

---

[133] Гэта было перад паўноччу.

[134] Δράκων – змей, цмок, змеепадобная пачвара. На малюнку відаць, што Ян тут мае на ўвазе не сузор'е Цмока, а сузор'е Змея, якога трымае Змеяносец.

[135] Г. азн. тысячу гадоў, лічачы, верагодна, кожную гадзіну гэтай ночы за стагоддзе.



Мал. 56. Узыходжанне Змея раніцай 1 кастрычніка 399 г. на Патмасе.

І зноў пабачыў я на праясніўшымся небе сядзеньні і тых, якія сядзяць на іх (*24 зорныя гадзіны сутак*), і дадзена ім улада судзіць людзей. І душы забітых за правазвестніцства Ісуса і за божую навуку, і душы тых, якія не схіляліся перад зьверам-імперыяй і яго выявай і не прынялі яго адзнакі (*крыжа*) для нашэння на сваім ілбе або правай руцэ, – усё ажылі зноў (*у выглядзе зорак, зноў выступіўшых із начнога туману*) і запанавалі разам з Прысвечаным (*Авенам, які не заходзіў усю гэтую ноч да ўзыходу сонца*) на тысячу гадоў (*да заканчэння ночы*).

Астатнія ж із памёршых (*ужо зайшоўшых зорак*) не ажылі (*не ўзышлі зноў*), пакуль не скончыцца гэты тэрмін. Гэта першае абуджэнне[136]! Шчаслівыя і беззаганныя ўдзельнічаючыя ў першым адраджэнні[137]! Яны не памруць другі раз (*не зойдуць ўжо больш да самага ўзыходу сонца*), але будуць слугамі бога і Прысвечанага на тысячу гадоў.

А як міне тысяча гадоў (*пройдзе ўся гэтая ноч*), тады будзе вызвалены паклёпнік са сваёй цямніцы (*галава Змея зноў з'явіцца із-пад Зямлі на паўночным усходзе, дзе жылі ў гэты час гуны і манголы*) і выйдзе засмучаць народы, якія знаходзяцца на чацвёртым куце зямлі, Гога і Магога[138], каб весьці іх на вайну. Колькасць жа іх як пясок марскі.

---

[136] Ἀνάστασις – абуджэнне, падыманне.

[137] Ἀνάξασις – адраджэнне.

[138] У гэтым месцы кананічных копій, згодна з маім меркаваннем, два скажэнні: 1) замест "на чацвёртым куце Зямлі" стаіць "на чатырох кутах Зямлі". Згодна з астранамічным сэнсам дадзенага выказвання відаць, што гаворка ідзе толькі пра паўночна-ўсходні, чацвёрты ад старажытнага Эдэма кут Зямлі, якую Ян лічыў квадратнай. 2) Назвы Гог і Магог тут перароблены перапісчыкам із Гуны і Манголы наступным чынам: Γώγ καί Μαγώγ = Гог і Магог. Γούν καί Μογώλ = Гун і Магол. Адбылося гэта, верагодна, таму, што манера пісання Яна не вызначалася разборлівасьцю, асабліва ў канчатковых літарах, што здараецца з ўсімі людзей, якія пішучых шмат і хутка. На карысць гэтай маёй здагадкі сведчаць і гістарычныя факты: Гуны (Хун-ну кітайскіх летапісаў) наводзілі ў гэты час жах на ўсю паўночна-ўсходнюю частку вядомай Яну зямной паверхні. Яны раптоўна нарынулі на Візантыйскую імперыю ў 375 г., роўна за 20 гадоў да апісваемай у гэтай кнізе буры.

І выйшлі яны на раўніну Зямлі (*на задняпроўскія стэпы*?) і атачылі лагер беззаганных і шануемы горад, але вось ўпала полымя з неба ад бога (*у выглядзе вогненнай паласы ранішняй зоркі, якая занімалася на паўночным усходзе*) і праглынула іх. А паклёпнік і спакуснік (*сузор'е Змея*) трапіў у ліман, пылаючы полымем і серай (*знік у гэтай паласе зоркі*), дзе былі ўжо ўчора вечарам і звер, і ілжэпрарок. І будуць яны пакутаваць і дзень, і ноч, у стагоддзях стагоддзяў.

І ўявіўся мне вялікі светлы пасад і седзячы на ім, ад аблічча якога, здавалася, беглі неба і зямля, і не знайшлося ім месца. І ўявіліся мне ў пацямнеўшых зорках памёршыя, і малыя, і вялікія, стаячыя перад богам, і разгорнутыя скруткі папірусу і яшчэ адзін скрутак – папірус жыцця – задыякальная паласа.

І былі судзімымі памёршыя згодна з напісанным ў гэтых скрутках, па сваіх справах. І аддало мора памершых у ім, а смерць і бог падземнага царства[139] аддалі сваіх памёршых, і кожны быў судзімы па яго справах.

А самі смерць і бог падземнага царства, і ўсе, хто не быў запісаны ў папірус жыцця, былі кінутыя ў палымяны ліман ранішняй зоркі. Вось яна, другая смерць!

# Глава XXI

## Раніца новага дня. Ян вымярае кіем, выкінутым яму морам, велічыню сусвету.

І пабачыў я ў мігаценні світання новае неба і новую Зямлю, таму што папярэдняе ўчарашняе неба і папярждняя ўчарашняя Зямля ўжо сышлі ў мінулае, і мора перада мной (*выдаліўшымся ў глыбіню выспы*) ужо больш няма. І пабачыў я, Ян, святую цьвярдыню – новае Царства свету[140] (*новую блакітную заслону неба*), якая спускаецца з вышыні ад бога, як маладая, упрыгожаная для свайго малодага.

І мне чуўся магутны голас з неба, які прамаўляў:

– Вось шацёр бога і людзей. У ім ён паселіцца з імі, яны будуць яго народам, і сам жывучы з імі бог будзе іх бажаством. І выцярэ ён кожную сьлязінку з іхных вачэй, і сьмерці ўжо не будзе. І не будзе больш ні гора, ні галашэння, ні хвароб, таму што ранейшае мінула.

І прамовіў мне седзячы на пасадзе:

– Вось бачыш, абнаўляю ўсё... Запішы гэтыя словы: яны праўдзівыя і слушныя. Усё праходзіць! Я першая і апошняя літара альфабэта, пачатак і канец. Я напаю прагнучага з крыніцы жывой вады[141]. Пераможца атрымае усё ў спадчыну. Я буду яму Богам, а ён мне – сынам. Лёс жа баязлівых і здраднікаў, якія апусціліся маральна і тых, што забіваюць бліжняга, шарлатанаў і

[139] Αδης = αίδης – Гадэс або Плутон, бог падземнага царства старажытных грэкаў, адкуль у сярэднія стагоддзі пайшло пекла.

[140] Ерусалім па-жыдоўску азначае “Царства свету”, тут Ян ужыў гэтае слова як эпітэт-арнанс.

[141] Відаць, пад крыніцай жывой вады аўтар мае на ўвазе Млечны Шлях, а пад пераможцам – Змеяносца, які топча нагамі Скарпіёна. Мал. 57.

падрыхтоўшчыкаў сумесі ў залатой чарцы, прыхільнікаў выяваў і ўсіх ашуканцаў – лагуна, палыхаючая полымем і серай. Гэта іх другая смерць!




Мал. 57. Сузор'і Ахвярнік, Скарпіён, Змяяносец, Геркулес і Цмок у іхнай пасьлядоўнасьці на небе.

І з'явіўся перада мной у першым ружовым воблачку раніцы адзін із сямі пасланнікаў, якія выходзілі ўчора з сям’ю апошнімі чаркамі дабрадзействаў, і пачаў мне нашэптваць:

– Пойдзем, я пакажу табе маладую – жонку Авена.

І ён прывёў мяне, у парыве натхнення, на вялікі і высокі пагорак і паказаў мне адтуль у прыцемку світання ўсю святую цьвярдыню – новае царства свету – новую нябесную чысьціню, якая спускаецца з неба ад бога. На ёй ляжала слава божая, а свяціла яе, узыходзячае сонца, было падобна каштоўнаму каменю, як бы чырвона-жоўтай крышталічнай яшме.

Яе атачае за гарызонтам (мал. 58) вялікая і высокая сьцяна з дванаццаццю брамамі, на якіх знаходзяцца дванаццаць вястуноў (*знакаў Задыяка*, мал. 59) і напісаны імёны дванаццаці плямёнаў народа-багаборцы[142]. З кожнага із чатырох канцоў свету – усходу, поўначы, поўдня і захаду – па тры брамы. А пад дванаццаццю часткамі сьцены паміж брамамі (каля зямнога гарызонту) закладзены падмуркі і на іх імёны дванаццаці пасланнікаў Авена (*знакаў задыяку*).

[142] Раней у заўв. 2-ой да гл. 7 мы ўжо бачылі суадносіны паміж сэнсам назваў 12 плямёнаў народа-багаборцы і назвамі 12 знакаў Задыяку і 12 астралагічных радоў. Тут, на мал. 57 я паказваю ўзор гараскопа са старажытных астралогій, дзе падмурак свету – Зямля – мяркуецца чатырохкутнай. Жадаючы можа дапісаць сюды, як гэта робіць Ян, і 12 плямёнаў народа-багаборцы згодна з той жа самай заўвагай 2 да гл. 7.




Мал. 58. Сусвет старажытных хрысьціян із Cosmas Indicopleustes, 535 г.




Мал. 59. Астралагічны гараскоп старажытных грэкаў.

У распараджэнні нашэптваўшага гэта мне мелася на маіх руках[143] мера з залацістага трыснёгу (*выкінутая морам падчас учарашняй навальніцы*[144]) для вымярэння святой цьвярдыні з яе агароджай і брамамі (*верагодна, сімвалічным чынам на прыкладзе памераў хлебнага поля згодна з вядомай прыпавесьцю пра пшаніцу і пустазелле*).

Цьвярдыня размешчана чатырохкутнікам, даўжыня яе такая ж, як і шырыня (мал. 56). І вымерала яе трысняговае сцябло на дванаццаць тысяч стадый (*лічачы, верагодна, даўжыню трыснёга за сімвал стадыі*[145]). Вышыня цьвярдыні (*адлегласць да вяршыні нябеснага скляпення*) такая ж, як і даўжыня і шырыня.



Мал. 56. Узыходжанне Змея раніцай 1 кастрычніка 399 г. на Патмасе.

І вымераў ён вышыню сьцяны (якая падтрымлівае нябесны звод) у сто сорак чатыры локці (*верагодна, згодна з вышынёй агароджы таго ж поля, лічачы таўшчыню сцябла за сімвал аднаго лакця*).

Мера ж зараз знаходзілася ў распараджэнні чалавека, і была тая самая, якая была ў вястуна (выкінуўшага гэты трыснёг падчас учарашняй навальніцы).

А сьцяна была пабудавана з яшмы – крэмянёвых камянёў, і аточанае ёю месца – нябеснае скляпенне было залацістым і чыстым, як празрыстае шкло. Яго падмуркі (*у ззянні ранішняй зоркі*) адлівалі па чарзе адценнямі разнастайных каштоўных камянёў: аранжавай яшмай, сінім сапфірам, малочна-белым халцэдонам, зялёным смарагдам, белым сарданіксам з яго пунсовымі палосамі (*ранішняй зоркі*), чырвоным сердалікам, жаўтавата-зялёным хрызалітам, сінім аквамарынам, празрыстым тапазам, зеленаватым хрызапразам, чырванаватым гіяцынтам і фіялетавым аметыстам[146].

---

[143] Ό λαλών μετ έμοΰ είχε – верагодна, карэктавана не разумеўшымі сэнсу перапісчыкамі із ό λαλών έίχε μετ 'έμοΰ або з ό; αλών μετ' έμοΰ έίχε μετ 'έμοΰ, г. азн. размаўляўшы са мной меў праз маё пасярэдніцтва залацісты трыснёг (κάλαμον χρυσοΰν).

[144] Гл. 11, рад. 1.

[145] Стадыя была роўнай прыблізна 125 крокам.

[146] Аўтар, які вырас, відавочна, у вельмі заможнай сям'і, так добра ведае адценні ўсіх каштоўных камянёў, што тут обмяжоўваецца толькі іх голымі назвамі, не заўважаючы, што большасці із яго чытачоў яны

А дванаццаць брамаў (*з зямлі на неба*) – дванаццаць перлаў. Кожная брама із адной пярліны. Плошчы цьвярдыні (*паверхня ранішняга неба*) былі чыстае золата, як празрыстае шкло. Храма ж я не бачыў на ёй, таму што яе храм сам бог усемагутны і Авен.

І не мае яна патрэбы ні ў Сонцы, ні ў Месяцы, так як слава бога асвятляе яе, і сьветач яе сам Авен. Натоўпы выратаваных будуць хадзіць у яго святле[147]. Яе брамы не будуць замыкацца ўдзень, а ночы там не будзе. І прынясуць у яе славу і гонар народаў. І не ўзыйдзе ў яе нічога нячыстага, ніхто адданае мярзоце і падману, а толькі тыя, чые імёны напісаны ў кнізе жыцьця ў Авена.

# Глава XXII

## Заключэнне.

Вястун, нашэптваўшы мне ўсё гэта, паказаў мне на небе светлую раку жывой вады (*Млечны Шлях*), празрыстую, як крышталь, і выцякаючую із Пасада бога і Авена. Там пасярод гладкай паверхні нябеснага скляпення, сягаючы із аднаго боку ракі на другі (*з паўночнага паўшар'я на паўднёвае*), знаходзіцца вось жыцця (*вось кручэння нябеснага скляпення*), дванаццаць раз у год прыносячая дары, на кожны месяц свой асобны дар, і галінамі сваімі (*зорнымі гадзінамі*) ахоўваючая народы.

І не будзе ўжо на небе нічога праклятага (ні Цмока, ні Змея і ніякіх іншых пачвар), але толькі Пасад бога і Авена, і ўсе верныя будуць служыць богу. І пабачаць яго твар, і імя яго будзе напісана на іхных тварах. І ночы там не будзе, і не будзе там патрэбы ні ў свяцільніках, ні ў сонечным святле: сам бог асветліць іх, і будуць яны валадарыць ў стагоддзях стагоддзі.

– Словы гэтыя праўдзівыя і слушныя, – зноў сказаў мне вястун, – Сам валадар наш, бог святых правазвестнікаў, паслаў свайго пасланніка (*ўчарашнюю буру*) паказаць сваім служкам, што павінна хутка адбыцца[148].

І я, Ян, бачыў і чуў усё гэта! Я ўпаў да ног вястуна-неба, паказваўшага мне, каб пакланіцца яму, але ён прамовіў мне:

– Глядзі, не рабі гэтага, я таварыш табе і тваім братам, прадвеснік ісьціны. Схіліся перад тварцам свету і не запячатвай словы гэтага прароцтва, таму што час яго выканання блізка. Несправядлівы хай яшчэ творыць несправядлівасьці, нячысты хай апаганьваецца далей, добры ж хай далей робіць дабро і чысты душой хай ачышчаецца яшчэ.

– Вось прыйду хутка, – сведчыць Ісус, – І ўсім прынясу з сабой маю адплату і аддам кожнаму па яго справах. Я першая і апошняя літара альфабэта,

---

невядомыя. Вось чаму я тут і пазначыў прыметнікамі колер кожнага каменя, каб чытачу была зразумелай апісваемая Янам выява неба. Ён пералічвае тут у пасьлядоўным парадку ўсе колеры гарызонту, якія назіраліся ім раніцай 1 кастрычніка 395 года, пачынаючы з захаду і ідучы праз поўнач на ўсход, поўдзень і назад на захад.

[147] Сюды перанесены кімсьці 26-ы верш гэтай самай главы, але толькі замест τά ἔθνα пастаўлена βα σιλεῖς, што цалкам супярэчыць главе 19 рад. 18-19 і інш. Месцам падобным на гэта.

[148] Тут устаўка, якая парушае складнасць выкладання. Кімсьці дададзена “Вось прыйду хутка! Шчаслівы той, хто прытрымліваецца прарочых слоў гэтай кнігі”

пачатак і канец. Шчаслівыя выконваючыя мае запаветы: вось сусветнага жыцця будзе пад іхнай уладай і яны зайдуць у цвярдыню небе з брамы. А ўсе лісліўцы, шарлатаны, амаральныя, забойцы і прыхільнікі выяваў, і ўсякія тыя, хто шануе і тыя, якія чыняць няпраўду – будуць па-за ёю.

Я, Ісус, паслаў майго вястуна засведчыць усё гэта на сходах вернікаў. Я корань і нашчадак шанавання, зорка светлая і ранішняя!

І пачуццё натхнення і нарачоная-Зямля кажуць яму: прыйдзі! Хай жа прамовіць і слухаючы: прыйдзі! Прагнучы хай прыходзіць і хай бярэ ваду жыцьця дарэмна!

І я кажу кожнаму, хто слухае словы гэтага прававерстніцтва: калі хто дадасьць да іх што-небудзь ад сябе, на таго бог накладзе ўсе бедствы, пра якія паведамляецца ў гэтай кнізе, а калі хто забярэ што-небудзь ад іх, таго бог пазбавіць удзелу ў кнізе жыцьця!

Паведамляючы гэта кажа: ой, прыйду хутка!

О, прыходзь, валадар наш Ісусе!

Ды будзе над усімі вамі добразычлівасць нашага ўладара Ісуса-прысвечанага!

Хай будзе так!

# Частка III

## Калі напісана “Адкрыцьцё ў навальніцы і буры”? Вызначэнне часу згодна з находзячыміся ў ім самім астранамічнымі ўказаннямі.

## І. Пра тое, якім чынам можна вызначыць простымі астранамічнымі спосабамі дакладны час напісання Апакаліпсісу.

Калі падчас майго зняволення ў Аляксееўскім равеліне Петрапаўлаўскага ўмацавання я ўпершыню прачытаў Апакаліпсіс[149] і адразу зразумеў амаль усю яго астранамічную і тэмпесталагічную частку дакладна гэтак жа, як яна пададзена тут у маім перакладзе – я быў проста здзіўлены і міжволі запытаўся ў сябе: якім чынам магло здарыцца, што да гэтага часу ніхто не заўважаў у Апакаліпсісе таго, што было так відавочна для мяне[150], нягледзячы на агідны французскі пераклад, па якім я прачытаў гэтую кнігу?

[149] Восенню 1882 г.

[150] Пасьля выхаду са Шлісельбургскага ўмацавання ў лістападзе 1905 гада я адшукаў у бібліятэцы Пулкаўскай абсерваторыі тлумачэнні Ньютана на Апакаліпсіс (J. Newtoni Opera, TV Londini, 1785 г.) на ангельскай мове, але не знайшоў у іх нічога, акрамя містыкі. Ньютан, згодна з маім глыбокім перакананнем, не мог не зразумець астранамічны сэнс гэтай кнігі, але не адважыўся растлумачыць яго сваім чытачам.

Бо большая частка сузор'яў нашага паўночнага неба тут названа прама па імёнах ці цалкам дакладна апісана ў постацях прадстаўляўшых іх жывёл, імёны якіх засталіся за адпаведнымі згуртаваннямі зорак і да цяперашняга часу. Усюды паказана, што гэтыя фігуры знаходзяцца на зорным небе, ды і само гэтае неба з усімі яго гадавымі і сутачнымі рухамі апісана вельмі паэтычна...

Дакладна гэтак жа з усіх пасьлядоўных выяваў звычайнага развіцця навальніцы тут не прапушчана ніводная... Тут ёсць і характэрнае мёртвае зацішша ў прыродзе ў момант набліжэння галоўнай навальнічнай хмары з яе перадавым краем, загарнуўшымся ўніз, як скрутак старадаўняга папірусу, і сама гэтая хмара, і кожны грамавы ўдар далейшых хмар – ганцоў гэтай буры, з узмоцненым ліўнем пасьля кожнага ўдару маланкі, – і з'яўленне вясёлкі, і тыповыя жахлівыя выявы разарваных на шматкі аблокаў, пастаянна з'яўляючыміся пасьля пралёта над галавой назіральніка першай навальнічнай хмары, і некалькі маленькіх дадатковых ліўняў з гэтых хмар... Усё гэта тут апісана без якіх бы то ні было іншасказанняў і прытым часам на дзіва пастацку.

І не раз прыходзіла мне ў галаву пры маіх адзінокіх разважаннях на гэты конт у Аляксееўскім равеліне, як мала большасць тэолагаў ведае пра тыя з'явы, якія адбываюцца над іх галовамі, у гэтым бяздонным зорным небе, прыгажосьцю якога мы так часта захапляемся ў ясныя зімовыя ночы.

Я зараз жа заўважыў, што згодна са становішчам коней-планет у сузор'ях, названых Янам, было б няцяжка вылічыць з астранамічнай дакладнасьцю і сам час, калі пранеслася апісваемая ім навальніца, яе год, і месяц, і дзень, і нават долі дня, для асобных яе перыядаў, з дакладнасьцю да паловы гадзіны... Ужо просты разлік згодна з тэорыяй верагоднасьці паказваў мне, што калі выява зорнага неба, так падрабязна намаляваная Янам, была яго фантазіяй, то мы не знайшлі б адпавядаючага ёй рэальна існаваўшага становішча планет за ўвесь старажытны перыяд гісторыі, а калі яна – рэальнасць, то знайшлі б падобнае становішча толькі раз: у той самы год і дзень, калі яно сапраўды мела месца. Але ўсё паказвала мне, што кніга Яна не фантазія, а дакладнае і добрасумленнае апавяданне пра тое, што ён сапраўды назіраў, і што кніга напісана пад непасрэдным уражаннем гэтых назіранняў у наступныя за ім дні.

Аднак неадкладна ўзяцца за вылічэнні я не меў тады ніякай магчымасьці. У першыя дванаццаць гадоў майго зняволення ў равеліне і ў Шлісельбургскім умацаванні ў маіх руках не было не толькі патрэбных для гэтага табліц Леўер'е, але нават і простых элементаў планетных арбіт, пры дапамозе якіх можна зрабіць з дастатковым набліжэннем падобныя вылічэнні. Толькі пазней, праз дзясятак гадоў ці нават больш, у мяне з'явіліся гэтыя элементы ў набытых мной з вялікімі цяжкасьцямі некалькіх курсах астраноміі, але я ў той час ужо быў заняты іншымі навуковымі пытаннямі. Мае равелінскія разважанні пра гэтую кнігу паступова выдаляліся ў той зацішны куточак мозгу, дзе ў кожнага із нас захоўваецца ворах напаўзабытых прадметаў, падоўгу не прыцягваючых да сябе нашай увагі, а калі і прыцягваюць яе часам, то не закранаюць ўжо па сваёй старасьці наша мышленне дастаткова моцна, каб заахвоціць нас да іх спецыяльнай распрацоўкі...

Толькі зараз, у 1903 г., прашэнне маёй суседкі па зняволенню (ў Шлісельбургскім умацаванні) Веры Мікалаеўны Фігнер напісаць для яе штонебудзь із маіх разважанняў і даследаванняў заахвоціла мяне крыху пакапацца ў сваёй галаве і нечакана для сябе атрымаць адтуль гэты напаўзабыты прадмет[151].

Перш за ўсё, я ўзяўся за вылічэнні, каб спачатку дакладна вызначыць час з'яўлення Апакаліпсісу, а ужо потым уразумець сабе і дакладны сэнс некаторых яго месцаў, маючых дачыненне да гістарычных падзей і жыцця дадзенай эпохі, так як, не ведаючы, калі была напісана кніга, відавочна, нельга было нават і спрабаваць зразумець сабе змяшчаўшыяся ў ёй намёкі на тагачасныя падзеі.

Гэтыя вылічэнні я першапачаткова зрабіў, грунтуючыся на так званых геліяцэнтрычных становішчах кожнай із даследуемых планет, г. азн. вызначыў месцы, дзе кожная з іх знаходзілася, калі б глядзець на яе з цэнтра Сонца. Потым я з дапамогай трыганаметрычных вылічэнняў вызначаў іхнае геацэнтрычнае становішча, г. азн. у якім месцы нябеснага скляпення гэтая планета была бачнай ў дадзены час з нашай Зямлі. Праз некалькі тыдняў вылічэнняў гэтым стамляючым шляхам я прыйшоў да высновы, што ніколі за ўсе першыя восем стагоддзяў нашай эры зорнае неба не ўяўляла над выс. Патмас такога відовішча, якое апісана Янам, за выключэннем аднаго адзінага выпадку: вечара 30-га верасня 395 года згодна з юліянскім стылем. У гэты вечар усё да драбнюткіх падрабязнасьцей было так, як паказана ў разглядваемай намі кнізе. Нават выявілася, што галоўная хмара навальніцы пранеслася каля 3-4 гадзін вечара, вясёлка з'явілася каля 5 гадзін, а апошнія хмаркі "з чаркамі бедства" былі бачнымі ўжо каля 7-й гадзіны, неўзабаве пасьля заходу сонца, якое ў гэты дзень адбылося прыблізна за чвэрць гадзіны да шасьці.

Але гэтым справа яшчэ не скончылася. Як толькі ўсе вылічэнні былі зроблены і праверана, са мной здарылася тое, што вельмі часта бывае (прынамсі, са мной) у падобных выпадках. Я зразумеў, што ўсё гэта можна было б у дзесяць разоў хутчэй вылічыць іншым, спрошчаным спосабам, які мае тую перавагу, што кожны, хто знаёмы хоць бы з элементарнымі разуменнямі астраноміі, можа яго паўтарыць і асабіста пераканацца ў справядлівасьці знойдзенай мной даты 30 верасня 395 года, і ў тым, што яна адзіная із усіх магчымых. Вось гэты-та спосаб я і пакажу зараз чытачу, але апішу яго ў адмысловай главе, для таго каб аматар падобных вылічэнняў або вельмі цікавячыся рашэннем пытання пра час напісання Апакаліпсіса зрабіў усе вылічэнні самастойна, а той, хто не лічыць сябе кампетэнтным, мог бы прама прапусціць гэты раздзел і перайсьці да наступнага[152].

## II. Просты спосаб вызначэння часу, калі была напісана разгляданая намі кніга, і некалькі простых спосабаў праверыць гэта вызначэнне.

[151] Уся гэтая кніга напісана ў Шлісельбургскім умацаванні. Дададзены толькі некалькі заўваг і дадаткі на прыканцы кнігі.

[152] Пасьля майго вызвалення вылічэнні былі праверана пулкаўскімі астраномамі М. М. Каменскім і Н. М. Ляпіным, якія знайшлі для 30 вер. 395 года тыя самыя становішчы сонца і планет, якія атрымаліся і ў мяне. Такім чынам, чытач, не знаёмы з астраноміяй, можа разлічваць на дакладнасць маіх высноў.

Із главы 12-й “Адкрыцця”, дзе гаворыцца пра “**жанчыну, апранутую Сонцам, унізе ног якой быў Месяц**” відаць, што Сонца ў гэты час знаходзілася ў сузор'і Дзевы. Іншай жанчыны няма сярод сузор'яў Задыяка. Далейшыя главы распавядаюць, што ў гэты дзень быў маладзік (востры серп, які зайшоў услед за Сонцам, ў гл. 14, рад. 15 і інш. месцы). Такім чынам, і Сонца было ў ніжняй частцы ног Панны каля яе сцягна, прыблізна пад зорачкай n-Панны, якая згодна з каардынатамі канца XIX стагоддзя прыходзілася на 13 h 48 m прамога ўзыходжання. Пад час пецярбургскага апоўдня сонца знаходзілася амаль як раз пад гэтай жа зорачкай 10 кастрычніка 1895 юліянскага года, ды і зараз бывае амаль там жа (мал. 60) кожны год у гэты самы дзень. Але так як нам давядзецца мець справу з гадамі, адлеглымі ад нас не меней як на 1500 гадоў назад, то нам патрэбна, перш за ўсё, вызначыць, у які дзень згодна з юліянскім зьлічэньнем сонца знаходзілася штогод пад той жа зорачкай n-Панны ў першыя стагоддзі нашай эры. Гэтым я, перш за ўсё і заняўся і вызначыў, што тады яно было ў гэтай самай кропцы неба штогод каля 30 верасня згодна з юліянскім стылем.



Мал. 60. Становішча Сонца ў сузор'і Панны для 30 верасня 395 юліянскага года.

Такі наш зыходны пункт...

Г. азн., справа адбывалася восенню каля 30 верасня. На гэта паказваюць не толькі становішча Сонца ў Панне, але таксама і іншыя месцы разглядаемай кнігі. Напрыклад, на прыканцы главы 14-ай згадваецца, што тады ўжо паспеў вінаград. Таму пры нашых астранамічных вылічэннях нам няма патрэбы вылічваць, якое становішча мела тая ці іншая планета ва ўсе астатнія часы года. Нам трэба ведаць толькі іх вераснёўска-кастрычніцкае становішча, як быццам бы Зямля ніколі і не зрушалася з таго пункту сваёй арбіты, з якой Сонца назіраецца пад зоркай n-Панны, або, яшчэ лепш, як быццам бы назіральнік сарваўся з зямнога шара 30-га верасьня ў адно із першых стагоддзяў нашай эры і ўвесь час вісеў ў прасторы ў гэтай кропцы зямной арбіты, якую мы назавем **апакаліптычнай кропкай**.

Зараз пытанне пра час з'яўлення “Адкрыцця ў навальніцы і буры” вырашаецца незвычайна проста, як чытач сам можа пабачыць, калі прачытае наступныя некалькі старонак.

## А. – Эпохі праходжання Сатурна па Скарпіёну.

Возьмем, перш за ўсё, Сатурн, які вядомы ў астралогіі сваімі злавеснымі ўласцівасцямі, **мярцвяцка-блеклы конь**, які, згодна з 6-ай главой, знаходзіўся ў астралагічным сімвале сьмерці – Скарпіёне.

Са звычайных каляндарных дат для гэтай планеты мы лёгка вызначым, што ён у апошні раз пераходзіў із Шаляў у Скарпіён у 1897 годзе, і 10 кастрычніка таго года знаходзіўся каля самай δ-Скарпіёнавай кляшні. Гэтая дата і прыходзіцца як раз на нашу апакаліптычную кропку зямной арбіты, з якой Сонца відаць пад n-Панны.

Але з часу пачатку нашай эры да 10-га кастрычніка 1897 юліянскага года прайшло 1896 гадоў (кожны ў 365¼ дзён) плюс 283 дні, г. азн. ўсяго 692.797 дзён.

Відавочна, што калі мы будзем пасьлядоўна аднімаць ад гэтай колькасьці дзён па перыяду поўнага зорнага абарачэння Сатурна (= 10759,235 дзён), то будзем заўсёды атрымліваць тыя моманты, у якія Сатурн ўступаў у клюшню Скарпіёна для нашага ўяўляемага назіральніка, як бы адарваўшагася ад зямнога шара і пастаянна знаходзіўшагася ў апакаліптычнай кропцы зямной арбіты.

Аднімем жа адразу із знойдзенай намі колькасці дзён 64 поўных абарачэнні Сатурна, г. азн. 688591 дзён і мы пабачым, што ў рэшце атрымаецца 4206 дзён, або 11 юліянскіх гадоў і 188,25 дзён пасьля пачатку нашай эры.

Гэта азначае, што на 188,25 дзень 11-га года нашай эры Сатурн у першы раз з часу нараджэння Хрыста ўступіў у сузор'е Скарпіёна для нашага назіральніка, прыкаванага да сваёй апакаліптычнай кропкі зямной арбіты. Калі Зямля прыйшла ў гэтую кропку на прыканцы верасня 12-га года, Сатурн ўсё яшчэ заставаўся ў Скарпіёне, таму што для праходжання аднаго сузор'я задыяка ён выдаткуе з гакам два гады. Але ў гэты час разбіраемая намі кніга яшчэ не магла быць напісана, так як Ісус быў яшчэ дзіцёнкам, а ў кнізе гаворыцца пра яго, як пра ажыўшага пасьля сьмерці. Г. азн., што калі будзем пасьлядоўна дадаваць да гэтай асноўнай даты перыяды поўнага абарачэння Сатурна (10759,235 дзён = 29 гадоў 167 дзён), то мы даведаемся далейшыя перыяды яго з'яўлення ў Скарпіёне.

Тады лёгка складзем прыкладзеную тут табліцу I.

Табліца I

**Юліянскія перыяды ўступлення Сатурна ў сузор'е Скарпіёна (каля δ-скарпіёнавай кляшні) для назіральніка, які знаходзіцца на апакаліптычнай кропцы зямной арбіты, з якой Сонца бачыцца пад сцягном Панны.**

1 раз у 12 годзе на 188 дзень (у ліпені)
2 раз у 41 годзе на 354 дзень (у снежні)
3 раз у 71 годзе на 156 дзень (у чэрвені)
4 раз у 100 годзе на 323 дзень (у лістападзе)

5 раз у 130 годзе на 125 дзень (у траўні)
6 раз у 159 годзе на 192 дзень (у кастрычніку)
7 раз у 189 годзе на 94 дзень (у красавіку)
8 раз у 218 годзе на 261 дзень (у верасьні)
9 раз у 248 годзе на 62 дзень (у сакавіку)
10 раз у 277 годзе на 230 дзень (у жніўні)
11 раз у 307 годзе на 31 дзень (у лютым)
12 раз у 336 годзе на 198 дзень (у ліпені)
13 раз у 365 годзе на 364 дзень (у снежні)
14 раз у 395 годзе на 166 дзень (16 чэрвеня)

Так як Сатурн праходзіць постаць Скарпіёна на працягу года, а затым ужо пераходзіць у Змеяносца, а праз два гады пераходзіць у Стральца, то відавочна, што кніга Яна магла быць напісана толькі ў наступны за гэтымі датамі верасень або ж у верасні наступнага за ім года (калі захочам выключыць Змеяносца з сузор'яў Задыяка), таму што ва ўсе астатнія гады Сатурн знаходзіўся ў іншых сузор'ях.

Адсюль атрымаем:

Вынік 1-ы

**Калі Апакаліпсіс быў напісаны ў першыя чатыры стагоддзі нашай эры, то гэта, згодна са становішчам Сатурна, магло быць толькі ў наступныя гады:**

12-13; 42-43; 71-72; 101-102; 130-131; 160-161; 189-190; 218-220; 248-249; 277-279; 307-308; 336-337; 395 гг.

## B. – Эпохі праходжання Юпітэра па Стральцу

Выкарыстаем і для Юпітэра той жа метад. З прыведзенага намі малюнка неба (мал.5) з пазначаным на ім шляхам Юпітэра, або з адпаведнай каляндарнай даты відаць, што 10 кастрычніка 1889 ён праектаваўся з Зямлі амаль прама над λ-Стральца[153], г. азн. каля 18h. 23m. згодна з каардынатамі гэтага часу. Але менавіта тут і пачынаецца лук постаці Стральца. Пакуль планета не перайшла за гэтую кропку, яна яшчэ не перайшла ў Стральца.

У Яна Юпітэр названы **ярка-белым** канём, і затым у 6-ай главе паведамляецца, што “ў чалавека седзячага на ярка-белым кані быў у руках лук”, і што, акрамя таго, “яму быў дадзены вянок”. Ніякай іншай постаці з лукам і вянком, акрамя аднаго Стральца, няма сярод сузор'яў Задыяка. Г. азн., што гаворка ідзе, несумненна, пра Стральца. Сапраўды гэтак жа няма ў Сонечнай сістэме і ніякай іншай ярка-белай планеты, акрамя Юпітэра і Венеры. Але Венера ніколі не заходзіць на такую адлегласць ад Сонца, каб быць у Стральцу, калі Сонца знаходзіцца ў Панне, як паказана ў гл. 12, дзе гаворыцца пра “жанчыну, апранутую Сонцам”. Г. азн., гаворка ідзе, несумненна, пра Юпітэр, што пацвярджаецца і дадзеным яму эпітэтам “пераможац”.

Палічым жа зараз, калі Юпітэр пераходзіў за λ-Стральца, г. азн. уступаў у Стральца ў першыя чатыры стагоддзі хрысціянства. У 1889 юліянскім годзе, як

[153] На малюнках 4, 5 і 6 час паказаны згодна з новым стылем і таму над λ-Стральца Юпітэр прыходзіўся не 10 кастрычніка, а 28 верасня.

мы ўжо пазначылі, гэта было геацэнтрычна каля 10 кастрычніка, а Сонца ў гэты момант праектавалася як раз на сьцягно Панны, згодна з указаннямі Яна ў главе 12-ай. Г. азн., мы маем у гэтым выпадку як раз ўваход Юпітэра ў Стральца для назіральніка, які стаяў на вышэйадзначанай апакаліптычнай кропцы зямной арбіты, кропцы, якую Зямля праходзіла ў першыя стагоддзі каля 30 верасня.

Да 10-га кастрычніка 1889 юліянскага года прайшло 1888 гадоў і 283 дні, ці 689875 дзён. Відавочна, што калі і тут мы зробім гэтак жа, як з Сатурнам, г. азн. адкінем ад гэтага ліку дзён адзін або некалькі поўных зорных абаротаў Юпітэра, то рэшта пакажа нам достаткова дакладную дату для кожнага із папярэдніх уступленняў Юпітэра ў Стралец.

Адкінем, напрыклад, 159 поўных абаротаў Юпітэра, г. азн. 688881 дзён. У рэшце застанецца 994 дні, ці 2 гады і 263,5 дзён. Гэта азначае, што ў першы раз з часу нараджэння Хрыста Юпітэр уваходзіў у Стралец на 263,5 дзень 3-га года нашай эры. Калі да гэтай даты мы будзем пасьлядоўна дадаваць па аднаму зорнаму абароту Юпітэра (= 4332,585 дзён = 11 юліянскіх гадоў і 314,835 дзні), то і атрымаем ўсе наступныя даты, як яны паказаны ў прыкладаемай табліцы II.

Табліца II

**Юліянскі часы ўваходжання Юпітэра ў постаць Стральца, міма λ яго лука, для назіральніка, які стаяў на апакаліптычнай кропцы зямной арбіты**

1-ы раз у 3-м годзе на 263.5 дзень (у верасьні).
2-і раз у 15-м годзе на 213.085 дзень (у жніўні).
3-і раз у 27-м годзе на 162.660 дзень (у чэрвені).
4-ы раз у 39-м годзе на 111.650 дзень (у красавіку).
5-ы раз у 51-м годзе на 61.235 дзень (у сакавіку).
6-ы раз у 63-м годзе на 10.820 дзень (у студзені).
7-ы раз у 74-м годзе на 325.655 дзень (у лістападзе).
8-ы раз у 86-м годзе на 275.240 дзень (у верасьні).
9-ы раз у 98-м годзе на 224.825 дзень (у жніўні).
10-ы раз у 110-м годзе на 174.410 дзень (у чэрвені).
11-ы раз у 122-м годзе на 123.995 дзень (у траўні).
12-ы раз у 134-м годзе на 73.580 дзень (у сакавіку).
13-ы раз у 146-м годзе на 23.165 дзень (у студзені).
14-ы раз у 157-м годзе на 338.000 дзень (у снежні).
15-ы раз у 169-м годзе на 287.585 дзень (у кастрычніку).
16-ы раз у 181-м годзе на 236.170 дзень (у жніўні).
17-ы раз у 193-м годзе на 185.755 дзень (у ліпені).
18-ы раз у 205-м годзе на 135.340 дзень (у траўні).
19-ы раз у 217-м годзе на 84.925 дзень (у сакавіку).
20-ы раз у 229-м годзе на 34.510 дзень (у лютым).
21-ы раз у 240-м годзе на 349.345 дзень (у снежні).
22-і раз у 252-м годзе на 298.930 дзень (у кастрычніку).
23-і раз у 264-м годзе на 248.515 дзень (у верасьні).
24-ы раз у 276-м годзе на 198.100 дзень (у ліпені).
25-ы раз у 288-м годзе на 147.685 дзень (у траўні).
26-ы раз у 300-м годзе на 97.270 дзень (у красавіку).

27-ы раз у 312-м годзе на 46.885 дзень (у лютым).
28-ы раз у 323-м годзе на 361.690 дзень (у снежні).
29-ы раз у 335-м годзе на 311.255 дзень (у лістападзе).
30-ы раз у 347-м годзе на 260.860 дзень (у верасьні).
31-ы раз у 359-м годзе на 210.445 дзень (у ліпені).
32-і раз у 371-м годзе на 160.930 дзень (у чэрвені).
33-і раз у 383-м годзе на 109.615 дзень (у красавіку).
34-ы раз у 395-м годзе на 59.200 дзень (у сакавіку).

Так як Юпітэр, калі яго назіраць з той жа кропкі зямной арбіты, ніколі не застаецца ў адным сузор'і боле $11^{1/2}$ месяцаў, то ён мог быць у Стральцы толькі ў тыя із верасняў і кастрычнікаў першых чатырох стагоддзяў хрысціянства, якія непасрэдна ідуць за дадзенымі у гэтай табліцы датамі. Адсюль знаходзім:

Вынік 2-гі

**Калі Апакаліпсіс быў напісаны ў першыя чатыры стагоддзі хрысціянскай эры, то, па Юпітэру, гэта магло быць толькі ў наступныя гады:**

3; 15; 27; 39; 51; 63; 75; 86; 98; 122; 134; 158; 170; 181; 193; 205; 217; 229; 241; 253; 264; 276; 288; 300; 312; 324; 336; 347; 359; 371; 383; 395 гг.

## С. – Калі Юпітэр мог быць у Стральцу, а Сатурн у Скарпіёне, адначасова са знаходжаннем Сонца ў Панне?

Зараз параўнаем у храналагічным парадку атрыманыя намі (у выніку 1-м гэтай главы) гады знаходжання Сатурна ў Скарпіёне з гадамі знаходжання Юпітэра ў Стральцу (вынік 2-і) для назіральніка, заўсёды стаяўшага на **апакаліптычнай** кропцы зямной арбіты, якую праходзіла наша планета ў першыя стагоддзі хрысціянства каля 30 верасня.

Табліца III-я,

**якая паказвае, што на працягу першых чатырох стагоддзяў нашай эры адначасовае знаходжанне Сатурна ў Скарпіёне і Юпітэра ў Стральцы ў восеньскі час было толькі ў 4- м стагоддзі, у 395 годзе.**

(Немагчымасць ўжывання 336 года паказана ў тэксце.)

| I. У якія гады Юпітэр быў бачны ў Стральцу? | II. У якія гады Сатурн быў бачны ў Скарпіёне? |
|---|---|
| 1-ае стагоддзе | |
| у 3-цім | |
| | у 12-м |
| | у 13-м |
| у 15-м | |
| у 27-м | |
| у 39-м | |
| | у 42-м |
| | у 43-м |
| у 51-м | |
| у 63-м | |
| | у 71-м |
| | у 72-м |
| у 75-м | |

| I. В какие годы Юпитер был виден в Стрельце? | II. В какие годы Сатурн был виден в Скорпионе? |
|---|---|
| 3-е стагоддзе | |
| у 205-м | |
| у 217-м | |
| | у -218-м |
| | у 219-м |
| | у 220-м |
| у 229-м | |
| у 241-м | |
| | у 248-м |
| | у 249-м |
| у 253-м | |
| у 264-м | |
| у 276-м | |
| | у 277-м |
| | у 278-м |

| | |
|---|---|
| у 86-м | |
| у 98-м | |
| II-ое стагоддзе | |
| | у 101-м |
| | у 102-м |
| у 110-м | |
| у 122-м | |
| | у130-м |
| | у 131-м |
| у 134-м | |
| у 146-м | |
| у 158-м | |
| | у 160-м |
| | у 161-м |
| у 170-м | |
| у 181-м | |
| | у189-м |
| | у 190-м |
| у 193-м | |

| | |
|---|---|
| | у 279-м |
| у 288-м | |
| у 300-м | |
| у 4-ым стагоддзі | |
| | у 307-м |
| | у 308-м |
| у 312-м | |
| у 324-м | |
| у 336-м на ўваходзе | у 336-м на выхадзе |
| | у 337-м |
| у 347-м | |
| у 359-м | |
| | у 336-м |
| | у 337-м |
| у 371-м | |
| у 383-м | |
| у 395-м | у 395-м |
| | |

На працягу першых трох з чвэрцю стагоддзяў пасьля нараджэння Хрыстова не было ні аднаго выпадку, калі Юпітэр апынуўся б у Стральцы адначасова са знаходжаннем Сатурна ў Скарпіёне, як гэта патрабуецца ў главе 6 (верш. 8 і 2) Апакаліпсіса. Кожны год, калі Сатурн знаходзіўся ў Скарпіёне, Юпітэра не было ў Стральцу, і надварот.

Толькі ў 336 годзе мы ўпершыню сустракаем слабы намёк на такое супадзенне, але і гэтая дата непрыдатная, бо, пры больш дэталёвым вылічэнні выявілася, што ў 336 годзе Юпітэр ўжо выйшаў із плашчы Стральца і знаходзіўся ў прамежку паміж ім і Казярогам. Становішча Марса таксама выявілася нездавальняючым для гэтага года, і толькі 395 год на працягу ўсіх чатырох стагоддзяў выявіўся цалкам дакладна адпавядаючым Апакаліпсісу, ва ўсіх астранамічных дачыненнях[154].

Г. азн., бура з землятрусам, пра якую тут гаворыцца, пранеслася каля 30 верасня 395 юліянскага года, а бяручы да ўвагі ўказанне гл. 12 (арт. 1) Апакаліпсіса, што Месяц у гэты час быў у ніжняй частцы ног Панны, мы лёгка вылічым, што справа адбывалася менавіта вечарам 30 верасня 395 года, і ні днём раней, ні днём пазней.

## III. Іншыя астранамічныя спосабы, з дапамогай якіх атрымліваецца тая ж самая дата для часу ўзнікнення Апакаліпсіса і падцвярджаецца папярэдняе вылічэнне.

Такім чынам, час стварэння кнігі Яна запісаны, так бы мовіць, незнішчаемымі літарамі на самым небе, якое яшчэ ніхто не меў магчымасьці

---

[154] Згодна з каардынатамі 1905 года, на падставе вылічэнняў па табліцах Левер'е, атрымліваюцца для 30 верасня 395 года становішчы:
Юпітэр: $\alpha = 292{,}2$ (19h. 28m.) I $\delta = -22° 29'$
Сатурн: $\alpha = 241{,}17$ (16h. 5m.) I $\delta = -19° 4'$
Гл. Дадатак да гэтай кнігі.

падрабіць для пацверджання сваіх поглядаў пры палітычных ці рэлігійных звадах сярэдніх стагоддзяў, калі разгарачоныя або фанатызаваныя галовы, маючы жаданне чаго б гэта ні каштавала настаяць на сваім, не грэбавалі ніякімі сродкамі і завалілі нас цэлымі грудамі падробленых дакументаў.

Але цікавей за ўсё тое, што ў дадзеным выпадку мы можам вызначыць тую ж самую дату не толькі адным пазначаным мной спосабам, але і іншымі, таксама астранамічнымі сродкамі, незалежнымі ад першага. Можна, напрыклад, перамяшчэнні Юпітэра, якімі я карыстаўся вышэй, замяніць незалежнымі ад яго перамяшчэннямі Марса (вогненна-чырвонага каня пад Персеем, пра якога распавядаецца ў главе 6-ай) і перамяшчэннямі Месяца, для якога паказаны ў главе 13 маладзік, і ў выніку мы атрымаем зноў тую ж самую дату 30 верасні 395 года. Ян як быццам прадчуваў, што час стварэння яго кнігі можа быць згублены або падроблены, а таму і даў на гэты выпадак цэлы шэраг замаскіраваных толькі для недасведчаных астранамічных указанняў, пры дапамозе якіх было б магчыма не толькі вызначыць сапраўдны час напісання яго твору, але і пацвердзіць яго некалькімі астранамічнымі шляхамі.

Вось, напрыклад, некаторыя із гэтых падцверджанняў.

*1-ае падцверджанне*. У главе 1-ай сказана, што апісваемая навальніца адбылася ў нядзелю. Які дзень тыдня быў 30 верасня 395 года? Выкарыстовючы звычайныя таблічкі, якія змяшчаюцца ва ўсіх падрабязных календарах для вызначэння дня тыдня ў кожны дзень юліянскага месяца, знаходзім без цяжкасьцей: 30-е верасня 395 юліянскага года менавіта і было нядзеляй.

*2-ое падцверджанне*. У главе 6-ай сказана, што ў седзячага над вогненна-чырвоным канём (а адзінай вогненна-чырвонай планетай з'яўляецца Марс) быў у руцэ вялікі меч. З усіх фігур астранамічных сузор'яў над экліптыкай мае меч адзін Персей. Такім чынам, Марс быў пад Персеем у той час, калі Ян рабіў свае назіранні. Г азн., калі знойдзеная намі дата слушная, то так і выявіцца, а калі не, то ўжо просты разлік згодна з тэорыяй верагоднасьці сведчыць, што на выпадковае супадзенне тут спадзявацца немагчыма.

Ужываючы той жа метад вылічэння, які я патлумачыў на прыкладзе Юпітэра і Сатурна, я знайшоў, што 30 верасня 395 года Марс быў бачным із Зямлі пад №34 прамога узыход. згодна с сучаснымі каардынатамі, г. азн. у грудзях Авена (мал. 61).




Мал. 61. Марс пад Персеем у Авене (згодна з манускрыптам Grienberger'a).



Магчымая памылка не перавышае тут трох градусаў даўгаты[155], і яна для нас цалкам не мае значэння, так як Марс ўсё-такі застаецца пад Персеем, які прыкрывае зверху ўвесь Авен.

Такім чынам, становішча Марса таксама падцвярджае справядлівасць нашай першай высновы, што кніга Яна напісана восенню 395 года, таму што ўвесь верасень гэтага года Марс ішоў па Авену ў накірунку ад Цяля да Рыб папятным рухам, для таго, каб, спыніўшы яго пасьля выхаду із Авена ў Рыбы, зноў павярнуць назад і прайсьці ў наступныя месяцы пад тым жа Персеем із Авена ў Цяля прамым рухам.

Але чаму ж аўтар не сказаў прама, што на вогненна-чырвоным кані – Марсе – сядзеў Авен, а аддаў перавагу назваць постаць, якая сядзела над Авенам?

Перш за ўсё, таму, што ён прымаў зблiжэнне Персея з канём вайны – Марсам – за сімвал блізкага нашэсьця персаў, так як у главе 16-ай прама выказваецца, што высахла вада ў вялікай рацэ Эўфрат для таго, каб прыгатаваць шлях усходнім царам, першымі із якіх і з'яўляліся персідзкія.

З другога боку, у момант назірання Яна, г. азн. каля 4-5 гадзін вечара 30 верасеня 395 юліянскага года, Авен разам з Марсам быў яшчэ схаваны пад гарызонтам, рыхтуючыся да ўзыходжання, і яго становішча вызначалася па Пярсею, як бы ляжаўшаму на гэтай самай частцы гарызонту. Вельмі верагодна і цалкам згодна з містычным настроем аўтара, што ён палічыў гэта за прамое ўказанне з неба не згадваць, што Марс быў у Авене, а пазначыць яго месцазнаходжанне па тым із ляжаўшых над ім сузор'яў, якое ўжо знаходзілася над гарызонтам. Аднак ускосныя намёкі, што Марс быў менавіта тут, маюцца ў некаторых іншых месцах кнігі. Присутнасць у Авене гэтай планеты гневу і войнаў і павінна было даць Яну нагоду да высновы, што "заколаты Авен", нарэшце, разгневаны і выступае на вайну супраць сваіх ворагаў, і што вайна яго павінна будзе скончыцца праз 3½ гады, калі ў гэтае ж сузор'е зайдзе "перамагаючы яркі конь" Юпітэр.

Але якой бы ні была ў вачах чытача каштоўнасць гэтых маіх меркаванняў, факт застаецца фактам: Марс паказаны пад Персеем, і мы знайшлі яго там пад вызначанай намі іншымі шляхамі датай.

*3-яе падцверджанне*. Меркурый у главе 6-ай названы цёмным канём (ίππος μέλας – цёмны, змрочны, каламутны конь). Ні да якой іншай планет такі эпітэт не можа мець дачынення, да Меркурыя ж ён цалкам пасуе. Гэта самая малая із усіх пяці вядомых старажытным планет, і ў поўным сэнсе планета – невідзімка. Простым вокам яе можна назіраць ва ўмераных паясах Зямлі толькі пры выключных умовах, зрэдку восенню перад узыходам Сонца або вясной адразу пасьля заходу Сонца, ды і то толькі на працягу некалькіх хвілін, таму што яна хутка згасае ў промнях зары. Шмат каму із астраномаў паўночных краін ніколі не ўдавалася назіраць Меркурый простым вокам. На Міжземным жа моры, дзе атмасфеныя ўмовы лепшыя, яе час ад часу можна назіраць, хаця і не кожны год.

---

[155] Правяраўшыя мае вылічэнні па табліцах Левер'е пулкаўскія астраномы М. М. Каменскі і Н. М. Ляпін знайшлі прамое ўзых. Марса 32,52, г. азн. меншае, чым я, на 1,8, што тлумачыцца вялікімі нераўнамернасьцямі ў руху Марса. (Пазнейшая заўвага.)

Так як назіранні Яна адбываліся ў восеньскі час (калі Сонца бывае ў сузор'і Панны), то ён не мог назіраць вечарам Меркурый, таму што ў гэты час Меркурый бывае (нават у выпадках найбольшага аддалення ад Сонца) вельмі нізка над гарызонтам і губляецца ў промнях вячэрняга зарыва. Вось чаму ён і названы тут цёмным, г. азн. нябачным канём, падобна таму як цёмны Месяц бывае нябачным падчас навамесяччаа. Але Ян, які жыў пасьля знакамітага астранома Пталямея, ужо меў цалкам прыдатныя спосабы для вызначэння становішча гэтай планеты сярод сузор'яў Задыяка для кожняга тыдня. Гэтае становішча ён і паказвае вельмі дакладна ў той жа главе 6-ай, пазначаючы, што ў седзячага над цёмным канём былі ў рук Шалі (ζυγός – каромысла). Гэта самае слова – ζυγός – і ўжывалася ў грэцкай астраноміі і астралогіі для пазначэння **сузор'я Шаляў**, так што ніякіх непаразуменняў тут быць не можа. А пад седзячым на цёмным кані маецца на ўвазе, відавочна, сузор'е Змея, якое знаходзіцца прама над Шалямі.

У той жа самай 6-ай главе, як бы, для пазбягання нават ценю непаразуменняў адносна прыроды цёмнага каня, згадваецца і яго астралагічная спецыяльнасць. Меркурый у міфалогіі – бог гандлю, таму цалкам зразумелы і дадзены яму загад: “Дзённая порцыя хлеба за дынар, і за дынар жа тры дзённых порцыі ячменю! А алею і віна не пашкоджвай". З такім загадам можна было звяртацца толькі да адной планеты – Меркурыя.

Гэтая акалічнасць і дае нам новую выдатную магчымасць праверкі вылічанай намі даты. Калі наша дата слушная, то 30-га верасня 395 юліянскага года Меркурый быў у сузор'і Шаляў.

Так гэта і было ў рэчаіснасьці. Астранамічныя вылічэнні, зробленыя мной згодна з цыкламі яго праходжання па Сонцы, паказалі, што ў гэты дзень Меркурый быў у глыбіні сузор'я Шаляў. Ён рыхтаваўся перамяніць свой прамы рух на адваротны, на шляху да свайго ніжняга злучэння з Сонцам, якое знаходзілася, як мы ўжо ведаем, каля сцягна Панны, паблізу ад Шаляў[156].

*4-ае падцверджанне*. Пра Месяц сказана ў главе 12 цалкам вызначана, і прытым без усялякіх іншавыказванняў. Там непасрэдна паведамляецца, што ўнізе ног Панны знаходзіўся Месяц.

Гэта паказвае на маладзік у той жа самы дзень 30 верасня 395 года, таму што Месяц рухаецца вельмі хутка і праходзіць за суткі каля $13^{\circ 1/2}$, а Сонца, згодна з далейшымі паведамленнямі, знаходзілася ў гэты час ужо ў сцягне Панны. Нават у самы момант маладзіка можна было сказаць, што Месяц знаходзіцца “унізе ног” Панны, так як згодна са схіленнем ён сапраўды быў у ніжняй іх частцы па накірунку да гарызонта (мал. 62). Гэта адразу дае нам разгадку некаторых цёмных выказванняў, якія змяшчаюцца ў двух месцах Апакаліпсіса.

[156] Вылічэнні правяраўшых мяне пулкаўскіх астраномаў далі для Меркурыя вельмі блізкую да маёй велічыню: a = 299,3 = 15h. 16m. і b = – 3,1; як раз у глыбіні Шаляў.




Мал. 62. Становішча Сонца і Месяца 30 верасня 395 года (Месяц паказаны некалькі паўднёвей Сонца).

Калі я ў першыню прачытаў на прыканцы главы шостай выказванне: "і сонца стала змрочным, як валасяны мех[157], а Месяц (цёмны з нагоды маладзіка) ўвесь цалкам[158], як крывавая пляма", і "зоркі нябесныя пападалі[159] на зямлю", – мне адразу прыйшло ў галаву што тут гаворка ідзе пра сонечнае зацьменне. Да такой жа высновы прыводзіў і канец главы восьмай, дзе гаворыцца: "і была ўражана траціна Сонца і трэцяя частка Месяца".

Вось чаму, вырашыўшы пытанне пра тое, што 30-га верасня 395 года сапраўды быў момант маладзіка, я зараз жа скарыстаўся гэтай акалічнасьцю, каб паглядзець, ці не суправаджаўся гэты момант сонечным зацьменнем. У дадзеным выпадку пытанне вырашалася вельмі проста. У меўшымся ў мяне часопісе Knowledge, vol. 26, знаходзілася дакладная формула для вызначэння становішча Месяца для кожнага часу, і я з яе дапамогай вылічыў, што вечарам 30 верасня сапраўды было колападобнае сонечнае зацьменне, якое праходзіла праз Паўднёвую Амерыку[160].

[157] Σάκκος τρίχινος – валасяная сумка.
[158] Ὁλη – ўся, цэлая.
[159] Έπεσαν είς τήν γήν – сапсавана перапісчыкамі із έπησαν είς τήν γήν – выступалі перад зямлёй, прайшоўшае недасканалае; ад έπειμί – паўстаю перад кім, выступаю наперад, набліжаюся да чаго-небудзь, а είς азначае: пры, супраць, у прысутнасьці, на, ст. Вырабляць ад πίπτω – падаю – тут нельга.
[160] Згодна з табліцамі Oppolzer'a, узятым мною із бібліятэкі Пулкаўскай абсерваторыі, яно праходзіла, як паказана на прыкладзенай мапе (мал. 63). (Пазнейшая заўвага.)




Мал. 63. Шлях сонечнага зацьмення 30 верасня 395 года па Патмаскому часу.

З гэтага моманту для мяне сталі зразумелымі і вышэйпрыведзеныя два загадкавыя выказванні. Як адзін із дасведчаных астраномаў і астролагаў свайго часу, Ян не мог не ведаць Сароскі цыкл зацьменняў (праз кожныя 18 гадоў і 11 дзён), з дапамогай якога халдзеі ўжо задоўга да яго прадказвалі зацьменні. Гэты цыкл у яго час выкарыстоўвалі як грэцкія, так і егіпецкія астраномы. Ён не даваў Яну магчымасьці дакладна вылічыць час дня, пад час якога наступіць зацьменне, а разам з тым і пункты зямной паверхні, з якіх яно будзе відаць, але дзякуючы яму Ян добра ведаў, што ў гэты самы дзень зацьменне непазбежна і што, магчыма, яго ўжо бачаць дзе-небудзь на Зямлі, і “ўсе цары Зямлі бягуць хавацца ў пячоры гор”.

Ён, відавочна, чакаў яго ўвесь гэты дзень, для чаго і выйшаў на бераг Патмаса, а калі ў момант закрыцця Сонца тоўстымі навальнічнымі хмарамі раптам наступіў як бы вячэрні змрок і паказалася “ўгневанае аблічча” Сонца паміж імі, ён і зрабіў выснову, што чаканае ім зацьменне ўжо здзяйсняецца наверсе за хмарамі.

Што ж да таго, ці разумеў ён сапраўдную падставу зацьменняў Сонца, як наступства закрыцця яго Месяцам, то гэта вельмі сумнеўна. Яго ўласнае апісанне сведчыць, што ён проста прызнаваў гэтыя з'явы за асобныя адзнакі бога, падпарадкаваныя пэўнай заканамернасьці. Справа ў тым, што старажытных назіральнікаў цалкам збівалі з панталыку зацьменні **месяца**. Пакуль Зямля не лічылася такой жа планетай, як і ўсе іншыя, пакуль яе ўяўлялі, як і Ян, чатырохкутным дном сусветнай скрыначкі, прыкрытай шкляным каўпаком, па якім рухаюцца нябесныя сьвяцілы, – месяцовыя зацьменні не маглі быць растлумачаны, а гэта кідала цень таямнічасьці і на адпаведныя ім сонечныя зацьменні. Праўда, што каля паловы другога стагоддзя ўжо з'явілася кніга Пталямея, якая прадстаўляла Зямлю шарападобнай і спрабавала растлумачыць нябесныя з'явы вярчэннем вакол Зямлі Сонца і Месяца па цыклах, г. азн. колах (мал. 64), а астатніх планет па цыклах (званых у астраноміі дэферэнтамі ) і эпіцыклах, г. азн. надкругах, “як быццам бы кола было ў коле” (Езэкііль, 1). Але гэтая сістэма, дзякуючы змяшчэнню Зямлі ў цэнтр сусвету, з'яўлялася настолькі заблытанай, што магла абудзіць недавер у людзей, якія, як і Ян, лічылі Біблію за непасрэднае адкрыццё самога бога.




Мал. 64. Сістэма Пталямея (палова 2-га стагоддзя.)

Для чалавека з такім светапоглядам, якое выкладзена ў першых частках Кнігі Быцця, той факт, што месяцовыя зацьменні бываюць толькі ў ночы поўнага месяца, а сонечныя – у дні навага месяца, павінен быў ўяўляцца простым супадзеннем. Усё, што мог бы сказаць з гэтай нагоды Ян, які прытрымліваецца,

як мы бачылі із яго кнігі, біблейскага светапогляду, – гэта тое, што бог адкрыў старажытным халдзеям Сароскі цыкл зацьменняў і гэтым паведаміў людзям частку сваіх таямнічых наканаванняў. Але на пытанне, якім шляхам бог зацямняе сьвяцілы, ён, верагодна, адказаў бы, што “адным сваім ўсемагутным словам”, а правільнасць гэтых з'яў растлумачыў бы без ваганняў правільнасьцю саміх наканаванняў бога.

Але як бы ні думаў пра гэтыя пытанні Ян, із яго кнігі відавочна наступнае: ён ведаў загадзя, што ў дадзены дзень павінна адбыцца сонечнае зацьменне. А гэты факт служыць новым *падцверджаннем* правільнасьці нашай даты.

## IV. Заключэнне.

Такім чынам, шматлікія астранамічныя дадзеныя, раскіданыя па ўсім Апакаліпсісу, не пакідаюць ні найменшага сумневу, што навальніца, апісаная Янам, пранеслася над Патмас каля 5 гадзін вечара 30 верасня 395 года. Апісанага ім выгляду зорнага неба, па ўсёй верагоднасьці, наогул не было ні разу за ўвесь гістарычны перыяд часу[161], акрамя пазначанага тут дня. Калі б супраць гэтай даты існавалі цэлыя горы старажытных манускрыптаў, то і тады ўсе іх давялося б лічыць падробкамі.

Але на самай справе мы не маем пра яе за першыя чатыры стагоддзі ніякіх сур'ёзных паведамленняў, акрамя дзясятка ўзаемна аспрэчваючых адна другую цытат, галаслоўна прыпісваемых таму ці іншаму із хрысьціянскіх біскупаў, і дайшоўшых да нас толькі ў копіях сярэднявечных мніхаў. У самім жа “Адкрыцці ў навальніцы і буры”, як даволі добра захаваўшымся старажытным дакуменце, мы знаходзім, акрамя астраноміі, цэлы шэраг чыста гістарычных указанняў на яго прыналежнасць канцу чацвёртага стагоддзя, паводле нашых вылічэнняў.

Увесь яго змест сведчыць пра звады, якія адбываліся ў гэты час паміж рознымі сектамі хрысьціянскага свету, пра высокае дзяржаўнае становішча візантыйскага святарства, яго раскошу, уплыў і розныя заганы, кампраметуючыя яго ў вачах усіх шчырых і праўдзівых людзей таго часу.

Некаторыя із гэтых гістарычных сведчанняў я ўжо паведаміў у падрадковых заўвагах да свайго перакладу, іншыя ж самі сабой высвятляюцца далей.

Што ж да таго, што днём для выканання астралагічнага прадказання Янам была прызначана нядзеля 13 сакавіка 399 года нашага сучаснага летазлічэння, то гэты факт таксама надзвычай знамянальны і знаходзіцца ў поўнай згодзе з містычным стаўленнем аўтара да лічбаў і гадоў.

У сакавіку гэтага года ва ўяўленні шматлікіх старажытных хрысьціян, у тым ліку, відавочна, і ў аўтара, заканчваліся поўныя чатыры стагоддзі пасьля меркаванага імі часу нараджэння Хрыста. Справа ў тым, што наша сучаснае летазлічэнне было вынайдзена толькі ў 6-м стагоддзі каталіцкім манахам Дыянісіям Малым (Dionisius Exiguus), памёршым каля 556 года. Ён “прызначыў” нараджэнне Хрыста ў суботу 25 сьнежня 753 года ад заснавання Рыма

---

[161] Я працягнуў свае вылічэнні да 10 стагоддзя, але лічу залішнім прыводзіць іх тут з нагоды несумненнасьці, што справа адбывалася менавіта 30 верасня 395 года, а не пазней.

(відавочна, у ноч з суботы на нядзелю) і першым годам хрысціянскай эры прызначыў 754 год ад заснавання Рыма[162] (калі 25 сьнежня прыпадала ўжо на нядзелю). Гэта летазлічэнне было афіцыйна прынята ў Італіі толькі ў 10-ым стагоддзі, пры папе Яне XIII (968-970 гг.), а затым распаўсюдзілася і на іншыя краіны кантынентальнай Яўропы, дайшоўшы ў 14-м стагоддзі да Гішпаніі, у 15-м – да Грэцыі і ў 1700 годзе да Расіі.

У першыя ж чатыры стагоддзі нашай эры гэтага цяперашняга летазлічэння не было і ў згадках. Гады ў Рымска-Візантыйскай імперыі лічыліся ад меркаванага "заснавання Рыма", а год, месяц і дзень нараджэння Хрыста яшчэ не былі ўсталяваны афіцыйна. У адной із прамоваў, прыпісваемай Яну Хрызастому (якая адносіцца да першых гадоў 5-га стагоддзя), гаворыцца пра спрэчкі паміж сучаснымі яму хрысьціянамі адносна месяца і дня нараджэння Хрыста, а што да года яго нараджэння, то гісторыкі-багасловы і да гэтага часу вызначаюць яго па рознаму. Адны тэолагі 4-га і 5-га стагоддзя сцвярджалі, што ён нарадзіўся за 4 гады да прынятай намі зараз эры, а іншыя прызначалі гэтую падзею за два гады да яе, як і робяць да гэтага часу ангельскія багасловы.

Лічачы згодна з гэтым апошнім спосабам, мы знаходзім, што прызначаны Янам дзень 13 сакавіка 399 года, як час выканання яго астралагічнага прароцтва, называўся тады 13-м сакавіка 401-га года пасьля меркаванага нараджэння Хрыста, г. азн. тэрмін выканання пазначаны пачатковым годам новага, пятага, стагоддзя пасьля гэтай выбітной падзеі. Акрамя таго, не варта забывацца, што год у гэты час пачынаўся не са студзеня, як зараз, а з сакавіка, у якім было 20-га дня вясновае раўнадзенства. Згодна з жыдоўскім злічэннем з гэтага самага раўнадзенства і пачынаўся новы год, а грамадзяне Рымскай імперыі лічылі свой год з 1-га сакавіка.

Чаму ж аўтар прызначыў момант выканання свайго прадказання менавіта на 13-е сакавіка? – Відавочна, таму, што, акрамя астралагічных меркаванняў, гэта быў апошні нядзельны дзень чацвёртага стагоддзя, бо наступная нядзеля, 20-га сакавіка 399 года нашай эры, або 20 сакавіка 401 года ад меркаванага ім года нараджэння Хрыста, з'яўлялася нядзельным днём ужо новага, пятага, стагоддзя. На працягу гэтага знамянальнага тыдня паміж 13 і 20 сакавіка і павінна была адбыцца апісаная аўтарам барацьба Ісуса з яго візантыйскімі ворагамі-клерыкаламі і яго суд над імі, і новае пятае стагоддзе павінна было сысьці з нябёсаў ужо на абноўленую Зямлю.

Усё гэта цалкам супадае з містычным светапоглядам аўтара, згодна з якім уся гісторыя свету і людзей была размеркавана ў стройным парадку па гадах і днях. Мы гэта бачылі ўжо не раз у "Адкрыцці ў навальніцы і буры", дзе разам са звярыным лікам 666 фігуруюць і іншыя лічбы: сем ганцоў буры, сем вястуноў з чаркамі, чатыры жывёлы перад пасадам стваральніка сусвета і г. д. Усе гэтыя асобныя выкарыстанні лічбаў – толькі розныя праявы адной і той жа агульнай містычнай ідэі аўтара пра лічбу як выбітны фактар рэчаіснасьці.

# Частка IV

[162] Гэта быў передпершы год нашай эры, або мінус першы.

# Характарыстыка візантыйскай жыцця канца IV стагоддзя і пасланні аўтара Апакаліпсіса да сямі малаазійскіх згуртаванняў вернікаў

## І. Галоўныя фракцыі хрысціянскага свету на прыканцы чацвёртага стагоддзя.

Калі пры доўгіх бадзяннях па якой-небудзь вельмі цёмнай і дрэнна даследаванай навуковай вобласьці вам даводзіцца натрапіць на след якога-небудзь нечаканага адкрыцця, гэты след заўсёды мае для вас нешта прывабнае, і міжволі цягне за сабой усё далей і далей, як невядомая напалову заросшая сьцяжынка ў глыбіню цёмнага лесу. І вы ідзеце па ёй ў невядомыя месцы, збіваючыся з ледзь прыкметнага следу і зноў вяртаюцца на яго, пакуль сцяжынка не знікне цалкам ці не прывядзе вас да якой-небудзь населенай мясьціны, адвёўшы часам на такую вялікую адлегласць і ў такія аддаленыя месцы, якія вы і не збіраліся наведваць.

Дакладна тое ж здарылася і са мной, калі я зацікавіўся блізкай для мяне па звычайнаму роду заняткаў астранамічнай і темпесталагічнай часткай Апакаліпсіса. Яна на некаторы час завабіла мяне ў такую вобласць, якая, здавалася, не мела ніякага дачынення да фізіка-матэматычных навук: у гісторыю першых стагоддзяў хрысціянства. І ўсё гэта было цалкам непазбежна: адзін крок меў наступствам за сабой іншы, і спыніцца на адным, не перайшоўшы да іншага, азначала б пакінуць дарэмна ўсю працу.

Ледзь былі скончаны астранамічныя вылічэнні, нечакана паведаміўшыя мне даволі позні час стварэння Апакаліпсіса, як зараз жа з'явіліся пытанні: хто б мог быць яго аўтарам, якім быў яго далейшы лёс і з якой мэтай або праз якія нагоды візантыйскія тэолагі сярэдніх стагоддзяў прыпісалі яго цалкам іншаму часу і іншай асобе, і гэтым збілі з панталыку ўсіх наступных даследчыкаў?

На шчасьце, у маім распараджэнні ў Шлісельбургскім умацаванні, акрамя маіх ранейшых ведаў па гісторыі старажытнага свету, было некалькі падыходзячых для гэтага кніг: "Гутаркі святога Яна Златавуста" (шостае выданне, Масква, 1877), "Гісторыя першых чатырох стагоддзяў хрысціянства" Мураўёва (1866 г.) і 12 вялікіх тамоў "Жыціяў сьвятых", перадрукаваных з папраўкамі ў 1852 годзе з выдання 1689 г.[163]. Гэтыя апошнія кнігі, нягледзячы на сваю аднабаковасць, мелі для мяне асаблівую каштоўнасць, бо яны, можна сказаць, дакументальныя. Яны ўяўляюць із сябе большай часткай пераклады

[163] Пасьля вызвалення із Шлісельбургскага ўмацавання я зараз жа звярнуўся да замежных крыніцах, якія меліся ў Публічнай, Універсітэцкай і Акадэмічнай бібліятэках, каб папоўніць і выправіць гэтую манаграфію, але ў выніку, акрамя некалькіх падцверджанняў маіх высноваў, не знайшоў у іх нічога новага. Вось чаму я і друкую зараз маё даследаванне ў тым самым выглядзе, як яно было напісана ў маім "ранейшым жыцці", дапоўніўшы яго толькі некалькімі выказваннямі із кніг: Amedee Thierry: St Jean Chrysostome et l'imperatrice Eudoxie (Paris, 1872), Dialogus Historicus Palladii, Εωκράτου Σχολαστικοΰ 'Εκκλησιαστική' Ιστορία (у выданні Patrologiae cursus completus, 1859), Aime Puech: St Jean Chrysostome et les moeurs de son temps (Paris, 1891) і нек. інш. Усе гэтыя дапаўненні пазначаны адмысловымі адзнакамі ўнізе старонак. (Пазнейшая заўваг.)

старажытных візантыйскіх гісторыкаў і пісьменнікаў, сабраныя даверлівым і абмежаваным Макарыем Маскоўскім і рэдактаваныя пазней Зьміцерам Растоўскім, які браў іх у тым выглядзе, у якім яны былі напісаны, амаль не сьціраючы сваёй апрацоўкай арыгінальную афарбоўку дакументаў.

Паведамляць тут усё, прачытанае мной з гэтай нагоды, было б, вядома, недарэчным, а таму я і дам толькі вельмі кароткіх нарыс стану хрысціянскага свету падчас з'яўлення кнігі Яна, а таксама і яго ўласнага жыцця, пазбягаючы усякіх другарадных падрабязнасьцей.

На прыканцы чацвёртага стагоддзя, пры шостым візантыйска-рымскім імператары Хвядосе Першым (378-394), мы застаём Рымскую імперыю ў перыяд свайго канчатковага распадзення на дзве часткі: усходнюю і заходнюю.

Пачынаючы з Канстанціна Першага (325-337), які перанёс сталіцу імперыі із Рыма у Візантыю (330 г.) і які абвясьціў хрысціянства дзяржаўнай рэлігіяй, хоць сам і не хрысьціўся да самай сьмерці, дзяржава вельмі часта падзялялася паміж двума ці некалькімі суправіцелямі. Сыны і сваякі кожнага паміраючага імператара неадкладна пачыналі паміж сабой крывапралітныя вайны, пакуль адзін з іх не здолеў перабіць усіх сваіх братоў і суправіцеляў, каб дасягнуць адзінаўладдзя.

Вылічаны намі для кнігі Яна 395-ы год быў таксама і годам канчатковага распадзення імперыі на дзве палавіны, із якіх кожная пайшла з гэтага часу (з 17 студзеня 395 г.) сваім уласным шляхам, не выказваючы больш жадання ні да якіх далейшых аб’яднанняў.

На працягу ўсяго гэтага доўгага перыяду распадаў і злучэнняў абедзве часткі імперыі зведвалі пастаянныя напады звонку. Яшчэ ў 363 годзе, калі імператар Юльян быў забіты ў бітве з персамі, яго пераемнік Іявіян (363-364) заключыў з імі нявыгадную дамову з саступкай некалькіх гарадоў і выдачай непрыяцелю свайго хаўрусніка, армянскага цара. Але і гэта не мела наступствам згоду. Зараз жа пасьля смерці Іявіяна (364 г.), які памёр, не дайшоўшы да сваёй сталіцы Канстантынопаля, фарсі цар абвясьціў дамову скасаванай. Яго войска пачало пагражаць малаазійскім правінцыям аж да таго часу, калі, згодна з нашымі вылічэннямі, была напісана кніга Яна. Гэтым самым і тлумачыцца яго прадказанне, што высахне вада ў Еўфраце “для таго, каб адкрыць шлях царам із сонечнага ўзыходу”[164] – падзея, прадвызначаная згодна з яго пераканаеннямі знаходжаннем планеты Марса пад Персеем.

Вандроўныя гуны, хун-ну кітайскіх летапісаў, за 20 гадоў да з'яўлення Апакаліпсісу рушылі з унутранай Азіі праз раку Урал і, перайшоўшы праз Дон, пакарылі ў 375 г. жыўшых на захад ад іх вестготаў.

Іхныя ж суседзі і супляменнікі остготы, якія жылі паміж Бугам і вусьцем Дуная, напалоханыя гэтым нашэсьцем, перайшлі праз Дунай у Фракію і аддаліся пад заступніцтва візантыйска-рымскай імперыі. Але хутка ўціскі дасланых да іх карысьлівых намеснікаў выклікалі ў іх паўстанне. У 378 годзе остготы разбілі ўшчэнт пры Адрыянопалі пасланае супраць іх рымскае войска, і ўся краіна аж да Канстантынопаля стала “ахвярай варвараў”, якія, зрэшты, ужо даўно былі хрысьціянамі-арыянамі. Ацалелі толькі ўмацаваныя гарады імперыі. Толькі новы імператар Хвядос змог, нарэшце, заключыць з імі пагадненне і выдаліць іх назад

[164] Апакаліпсіс, гл. 9 і 16.

у Фракію. Але адразу пасьля яго смерці, 17 студзеня 395 года, незадоўга да стварэння “Адкрыцця ў навальніцы і буры”, яны зноў падняліся, і потым, парабаваўшы прыдунайскія вобласьці, у 396 годзе прыйшлі ў Эладу і на Пелапанес, як бы апраўдваючы прароцтва Яна. Аднак неўзабаве яны былі адціснуты назад рымскім палкаводцам Стыліхонам.

Дакладна гэтак жа рабавала краіну перад выхадам Апакаліпсісу і тая частка арыян-готаў, якая была паселена для абароны межаў малаазійскіх правінцый.

Поўная дэзарганізацыі панавала і на іншых ускраінах імперыі: алеманы спусташалі Галію і Рэцыю; сарматы і квады – Панонію; пікты, скоты, саксы, франкі і фрызы – Брытанію; маўрытанскія народы – правінцыю Афрыка. Па ўсёй Еўропе пачыналася нейкае ліхаманкавае імкненне “варварскіх” народаў перасяляцца значнымі масамі з усходу на захад, вядомае пад назвай вялікага перасялення народаў у IV і V стагоддзях.

Зразумела, што ўсё гэта павінна было ствараць ўсеагульную атмасферу турбот, асабліва спрыяльную для з'яўлення такіх кніг, як Апакаліпсіс, а таксама і для успрымальнасьці да іх чытаючай публікі.

Не менш трывожным было і ўнутранае становішча хрысьціянскай царквы, якая зараз дасягнула панавання над паганствам і з лютасьцю наносіла яму апошнія ўдары. Як толькі імператар Канстанцін Першы, перабіўшы сваіх сваякоў і суправіцеляў, зрабіўся ў 325 годзе адзінаўладным, ён заразу ж прызнаў хрысьціянскую рэлігію дзяржаўнай. Але ў ёй ужо адбываўся самаадвольны распад на розныя фракцыі, з іх непазбежнымі сваркамі, спрэчкамі і варожасьцю, і вось, з мэтай прымірэння, Канстанцін сабраў іх прадстаўнікоў у 337 годзе на “сусьветны сабор” у Нікеі, каля Канстантынопаля. Такім чынам, гэты знакаміты хрысціянскі сабор адкрыўся пад старшынством паганскага імператара, бо Канстанцін памёр неахрышчаным або хрысціўся толькі перад сьмерцю[165].

У выніку не толькі не атрымалася прымірэння, але адбыўся яшчэ большы распад хрысціянскай царквы на дзве ваяваўшыя паміж сабой фракцыі, нянавісць якіх адна да адной дайшла, нарэшце, да такой ступені, што яны ўзаемна абвясьцілі адна адной анафему і пры вулічных сутычках справа даходзіла не толькі да боек, але нават да кровапраліццяў.

Першая із фракцый, галоўнейшымі прадстаўнікамі якой на Нікейскім саборы былі Арый, Еўсевій Кесарыйскі і Еўсевій Нікамідзійскі, кіраваліся ў сваіх уяўленнях пра Егошуа-Езуса першапачатковымі поглядамі хрысьціян першага стагоддзя і прызнавала, што ён ёсць пераходная істота паміж богам і чалавекам (г. азн. напаловубог). Яна называла яго падобасутным богу[166].

Другая фракцыя кіравалася ўяўленнямі Мірлікійскага біскупа-цудатворца Мікалая і Аляксандра Александрыйскага з яго дыяканам Апанасам. Яна ўжо называла Егошуа (як і варта было чакаць з нагоды эвалюцыі уяўленняў) аднолькавасутным з богам[167], жадаючы сказаць гэтым, што ён іншае ўвасабленне або асоба (persona) той жа самай божай сутнасьці. Аднак, нягледзячы на гэта, фракцыя Мікалая-цудатворца і яго аднадумцаў прызнавала і стары біблейскі

---

[165] Шлосер і інш.

[166] Ὁμιούσιος – скарочана ад ὁμοί-ούιος – падобасутны.

[167] Ὁμο-ούσιος – скарачалі звычайна ў ὁμούσιος – аднолькава-сутны.

тэзіс, што “бог” быў адзіным, г. азн. не распадаўся на асобы, як “чалавецтва”. Ад злучэння разам гэтых двух непрымірымых адзін з адным уяўленняў з далучэннем да іх на роўных падставах яшчэ святога натхнення (πνεῦμα), якое, асяняючы чалавека, дае яму дар творчасьці і прадбачання, а згодна са саёй прыродай з’яўляецца духам (г. азн. адушаўлёным газам), – пазней паўстала вучэнне пра святую тройцу, якое захавалася і да гэтага часу ў большасьці хрысьціянскіх фракцый.

Падчас Нікейскага сабору ўся гэтая тэалагічная сафістыка толькі толькі выпрацоўвалася. Новая рэлігія павінна была развівацца тым жа шляхам, як і большасць іншых. Яе заснавальнік, Егошуа із Назарэта[168], з цягам часу павінен быў набываць усё больш і больш боскіх уласцівасьцей. З простага чалавека, якім яго лічылі сучаснікі, ён павінен быў – эвалюцыйным шляхам – ператварыцца спачатку ў напалову бога (як на гэта паказвае і сам прыметнік Хрыстос, звычайнае грэцкае слова, якое азначае: памазаны, выфарбаваны, прысвечаны ў высокі духоўны сан), а затым і у поўнага бога, які прыняў чалавечае аблічча.

Прыхільнікі Арыя не маглі, вядома, захаваць свае пераходныя уяўленні пра Егошуа, а таму із Нікейскага сабора нічога не магло атрымацца, акрамя канчатковага разрыву. Усё, чаму тут можна здзіўляцца і што варта было б спецыяльна растлумачыць, гэта гістарычныя падставы, дзякуючы якім арыяне адразу ж пасьля сьмерці Канстанціна Першага (337 г.) змаглі вярнуць сабе перавагу і пратрымацца як пануючая фракцыя цэлых 44 гады, аж да 381 года, калі новы імператар, Хвядос, зноў вярнуўся да прыхільнікаў Мікалая Мірлікійскага.

Нападкі Арыя на Нікейскім саборы ў 325 годзе, відаць, не былі пярэчаннямі чыста абстрактнага, тэарэтычнага характару, але насілі таксама (як гэта пастаянна бывае ва ўсе бурныя перыяды ўнутраных сутыкненняў паміж палітычнымі і рэлігійнымі фракцыямі) характар абвінавачвання процілеглага боку ў глупстве, няшчырасьці, шарлатанстве і г. д. і г. д. Для ілюстрацыі варта толькі паслухаць сучасных духоўных прамоўцаў, калі іх розныя фракцыі пачынаюць палемізаваць паміж сабой. А ў старажытнасьці гэта адбывалася яшчэ больш першабытна.

Гэтыя абвінавачванні з нейкай нагоды асабліва вывелі із раўнавагі біскупа Мікалая Мірлікійскага, празванага цудатворцам.

З нагоды зараз ужо даказанай падробленасьці большай часткі дакументаў, якія маюць дачыненне да Нікейскага сабору, і сумніўнасьці астатніх, мы можам толькі здагадвацца, што Арый выбраў менавіта яго прадметам нейкіх перасьцярог (магчыма, менавіта з нагоды якога-небудзь із яго не дайшоўшых да нас цудаў). Мікалай жа адказаў яму замест тлумачэнняў ударам па твары. На саборы адбыўся шум і замяшанне. Мікалая выгналі прэч, і пасьля яго галоўным абаронцам адзінасутнасьці Егошуа з богам стаў просты дыякан александрыйскага біскупа – Апанас, пазней ён стаў біскупам у той жа Александрыі.

Пасьля шматлікіх бурных сцэн сабор вырашыў канчаткова прызнаць Егошуа другім увасабленнем бога. Арыяне былі аддадзены анафеме, і імператар Канстанцін прызнаў сваёй дзяржаўнай царквой фракцыю мікалаітаў, як,

[168] Егошуа – праўдзівае імя Ісуса, як ён называў сябе сам і ўсе яго сваякі.

верагодна, арыянская фракцыя называла сваіх праціўнікаў пасьля асабістага сутыкнення свайго правадыра з Мікалаем[169].

У гэтым, згодна з маім перакананнем, і заключаецца разгадка слова “мікалаіты”, два разы сустракаючагася ў дакорлівым сэнсе ў аўтара “Адкрыцця ў навальніцы і буры” ў яго лістах да сямі малаазійскіх згуртаванняў, якія мы прыкладзем некалькі далей. Назва **мікалаіты** тут відавочна паходзіць ад Мікалая, падобна таму, як езуіты – ад Езуса (Iesus). Але ніякага іншага выбітнога Мікалая ў чацвёртым стагоддзі не было, а таму і ў Апакаліпсісе, як кнізе канца чацвёртага стагоддзя, гаворка можа быць толькі пра прыхільнікаў вучэння Мікалая Мірлікійскага, а не пра легендарных “мікалаітаў першага стагоддзя”, верагодна, ніколі не існаваўшых і прыдуманых у сярэднія стагоддзі, каб растлумачыць ужыванне слова "мікалаіты" ў Апакаліпсісе.

Нагоды, чаму назва гэтай фракцыі панаваўшай у Візантыі на прыканцы IV стагоддзя не дайшла да нас у візантыйскіх паведамленнях, цалкам зразумелыя. Кожная із двух фракцый называла сябе **ўніверсальнай** (па-грэцку **кафалічнай**), а другую лічыла адарваўшайся і называла яе згодна з імем набыўшага найбольшую вядомасць яе прадстаўніка на падзяліўшых іх назаўсёды Нікейскім саборы.

Што ж да таго, чым вызначыўся гэты прадстаўнік, ударам суперніка па твары або мастацтвам прамоўцы, не мела вялікага для старажытных: пра каго больш гаварылі, той і павінен быў даць сваё імя сваім прыхільнікам. На Мікалая ж арыяне асабліва моцна абураліся з часу Нікейскага сабора. Г. азн., у нашых захаваўшыхся мікалаіцкіх крыніцах сярэдніх стагоддзяў мы можам знайсьці толькі назву **арыяне**, як імя праціўнікаў, але не знойдзем **мікалаіты**, а ў арыянскіх крыніцах (на жаль, амаль цалкам зьнішчаных пад час сярэдніх стагоддзяў) мы ўсюды сустракалі б мікалаіты або афанасіты, але нідзе не сустрэлі б **арыяне**.

Такі спосаб наймення, па асабліва эфектным дзеячам, быў тым больш дарэчным і непазбежным, што партыя Мікалая (як мы ўжо заўважылі вышэй) не доўга пратрымалася ва ўладзе, і хутка сама стала апазіцыйнай дзяржавай фракцыяй. Зараз жа пасьля сьмерці Канстанціна, як толькі візантыйскі пасад заняў яго сын Канстанцый (337-361), пачаўся паварот на карысць арыян, якія хутка і замянілі пры двары прыхільнікаў Мікалая і Апанаса і, аддаўшы іх на скліканым Канстанцыем саборы анафеме, пачалі ставіцца да іх гэтак жа, як і тыя ставілісяч да іх на працягу свайго панавання.

Калі ў 361 годзе нарэшце памёр Канстанцый, яго пераемнік Юльян (Флавій-Клаўдзій, 361-363), расчараваўшыся ў абедзвюх, адмовіўся ад паслуг і той і другой із хрысьціянскіх фракцый і абвясьціў поўную верацярпімасць. Асабіста ён больш за ўсё спачуваў гнаным у гэты час багам старажытнага пантэона, за што і атрымаў ад хрысьціян назву **адрачэнца**. Затым, з абраннем ў

---

[169] Вось як апісваецца ў “Жыціях святых” напад Мікалая на Арыя, згодна са сведчаннямі Яна Студыйскага: “Боскай рэўнасьцю Мікалай, як другі Ілля, распаліўся, пасярод сабора адважыўся Арыя не толькі словам, але і справай пасароміць, ударыўшы яго ў шчаку. Праз што святыя айцы абурыліся, і за гэтую дзёрзкую справу забралі ў яго архіярэйскія адрозненні”. Але затым усё гэта неўзабаве яму было вернута. Цікава, што рымская царква доўга не жадала прызнаваць Мікалая святым, грэцкая ж аспрэчвала сапраўднасць яго парэшткаў у Бары. Тое ж самае знаходзім і ва ўсіх старажытных крыніцах, хоць падрабязнасьці і нагоды бойкі на Канстантынопальскім саборы ўсюды выкладаюцца відавочна тэндэнцыйна.

імператары малаазійскім войскам Іявіяна (363-364), які памёр ад раны ў Азіі раней свайго прыезду ў сталіцу, імперыя зноў вярнулася да хрысціянства, і пераемнік Іявіяна Валент (364-378) зноў абвясьціў дзяржаўнай царквой арыянскую.

Гэта працягвалася да самай яго сьмерці, якая назаўсёды паклала канец панаванню арыян. Як толькі новы імператар Хвядос Першы (378-394) уступіў на пасад, ён атачыў сябе "мікалаітамі", сярод якіх найбольш уплывовым быў у гэты час непрымірымы вораг Яна Хрызастома (меркаванага намі аўтара Апакаліпсісу) Феафіл, біскуп александрыйскі.

Скліканы імператарам у 381 годзе Канстантынопальскі сабор, які складаўся, як мяркуюць, выключна із усходніх біскупаў, без удзелу рымскіх, зноў аддаў арыян анафеме і, згодна з яго рашэннем, Хвядос пачаў іх жорстка пераследаваць разам з язычнікамі і ўсімі іншымі менш распаўсюджанымі хрысьціянскімі фракцыямі. На гэтым (першым Канстантынопальскім) саборы і была ўсталявана, як кажуць, другая палова вядомага "сімвала веравызнання", які захаваўся і да гэтага часу ў абедзвюх артадаксальных фракцыях "сусветнай" царквы.

Такая ў агульных рысах гісторыя папераменнага панавання двух галоўных хрысьціянскіх фракцый чацвёртага стагоддзя, аж да першага года валадараньня Аркадзя, калі, 30-га верасня 395 года, пранеслася над востравам Патмас тая навальніца з землятрусам, якая дала пачатак "Адкрыцьцю". Да якой із гэтых фракцый належаў яго аўтар?

Усё гаворыць, што ні да адной з іх. Гэта, паводле яго слоў, былі толькі "два рогі падобныя на рогі Авена", і абодва належалі другому зьверу – зьверу дзяржаўнай царквы – "які выказваўся, як цмок" і набыў такую ж улада, як і звер-імперыя[170].

Але акрамя гэтых двух змагаючыхся за ўладу фракцый, у хрысціянскім сьвеце чацвёртага стагоддзя было некалькі іншых, – параўнальна невялікіх, адасобленых гуртоў, – якія не маглі спадзявацца на выключнае панаванне, а таму і не былі яшчэ анафемізіраваны ні тым, ні другім бокам, займаючы паміж імі як бы прамежкавае, нейтральнае становішча. Асабліва значнай паміж імі з'яўлялася ў гэты час фракцыя **арыгенітаў**, распаўсюджаная невялікімі таварыствамі, галоўным чынам па Малой Азіі, Егіпту і Сірыі.

Сваё імя яна атрымала ад знакамітага александрыйскага навукоўцы Арыгена (185-254), вучня Амонія Сакса, філосафа неаплатонавай школы. Яго бацька, хрысціянін, быў закатаваны ў цырку падчас ганенняў пры Септыміі Северы, у 202 годзе, і гэта акалічнасць экзальтавала хлопчыка да крайняй ступені. Ён пачаў весьці самы суровы лад жыцця, прысвячаючы ўвесь свой час навукам і развагам. Кажуць, што яго здольнасьці былі такімі бліскучымі, што, нягледзячы на яго малады ўзрост, несумяшчальны з уяўленнямі старажытных пра адукаванасць і аўтарытэт, да яго натоўпамі прыходзілі вучні.

Калі яго слава, як прапаведніка і выкладчыка, была ўжо замацавана, александрыйскі біскуп Зьміцер выказаў намер утылізаваць яго для сваёй царквы і прызначыў яго пры ёй **апавяшчальнікам** (ангеласам).

---

[170] Апакаліпсіс, 13.

Прамым абавязакам асобы на гэтай пасадзе было “**агалошваць**” неафітаў, г. азн. выкладаць ім сутнасць хрысьціянскага вучэння і, акрамя таго, агучваць атрыманыя ад іншых хрысьціянскіх гурткоў весткі і паведамленні. Адсюль зразумела, чаму “Адкрыцьцё ў навальніцы і буры” і было адрасавана, як пабачым далей, ангеласам, г. азн. апавячшчальнікам або выкладчыкам сямі малаазійскіх згуртаванняў, быўшых, як пераканаемся далей, арыгеніцкімі.

Выкладанне Арыгена, а затым і яго пасьлядоўнікаў, арыгенітаў, было непараўнальна больш шырокім і разнастайным, чым у астатніх хрысьціянскіх фракцыях. Арыген далучыў сюды, акрамя біблейскіх паданняў і гісторыі хрысьціянства, яшчэ геаметрыю, астраномію, геаграфію, філасофію, логіку і іншыя “паганскія” навукі, імкнучыся заахвоціць сваіх слухачоў “вывучаць бога ў яго тварэннях”.

Вельмі магчыма, што гэтае незвычайна пашырэнне падрыхтоўчай праграмы і было нагодай яго разладу з біскупам Зьміцерам, так як у 229 годзе Арыген назаўжды пакінуў Александрыю і пераехаў у Кесарыю Палестынскую, дзе мясцовы біскуп Феактыст, пасьля пагаднення са сваім кіраўніком, біскупам Ерусалімскім Аляксандрам, прызначыў яго прэсьвітэрам (што азначае “старэйшы”). Арыген заснаваў тут новую школу з не меншым поспехам і з выкарыстаннем той жа самай шырокай праграмы. Гэта да такой ступені вывела із сябе яго былога біскупа Зьміцера, што ён зараз жа абвінаваціў Арыгена ў ілжывым тлумачэнні святых кніг і пусьціў яму наўздагон яшчэ абвінавачванні асабістага характару, верагодна, выкліканыя толькі прыпадкамі ўласнага раздражнення. Затым Зьміцер склікаў у Александрыі сабор сваіх падначаленых і анафемізаваў Арыгена ў сваёй дыяцэзіі.

Але гэта ніколькі не пашкодзіла Арыгену ў вачах яго новых кіраўнікоў. Відаць, цалкам наадварот: ён не толькі быў пакінуты на сваім месцы, нягледзячы на ўсе пратэсты Зьміцера, але і набыў вялікі ўплыў на навакольных біскупаў, якія прыязджалі да яго на нарады ў цяжкіх абставінах.

Сярод арыгінальных асаблівасьцей вучэння Арыгена было, між іншым, сцвярджэнне, што нябесныя свяцілы рухаюць “размешчаныя ў іх духі (πνεῦμα)”, якія, пераходзячы розныя ступені ачышчэння, набываюць усё больш і больш светлыя целы (або адзенне). Падобны ж погляд падзяляе і аўтар “Адкрыцця ў навальніцы і буры”, калі выказваецца ў главе VII пра тое, як перад бурай накладвалі пячаткі на зоркі.

Із астатніх жа пунктаў, у якіх Арыген разыходзіўся з поглядамі пануючай царквы, найбольш выдатнымі з'яўляюцца наступныя. Ён сцвярджаў, што чалавечая душа ствараецца раней нараджэння чалавека, і, такім чынам, на ёй няма **першароднага** граху, які перадаецца ад бацькоў дзяцей, як вучыць царква. Ён сцвярджаў, што пякельныя пакуты не вечныя, так як гэта супярэчыла б міласэрднасьці бога, і што зямны рай і шмат якія іншыя месцы біблейскіх кніг трэба разумець алегарычна. Тэолагі яму прыпісваюць больш за тысячу размоваў і шмат іншых твораў. Але якія з іх сапраўды належаць яму і якія падроблены, – усё гэта яшчэ пытанні будучыні.

Невялікі перыяд уціскаў падчас царавання Максіміна (235-238) вымусіў пяцідзесяцітрохгадовага Арыгена бегчы із палестынскай Кесарыі ў іншую, больш аддаленую. Затым ён пасяліўся ў Тыры, адкуль ездзіў у Ахайю і Басру

месапатамскую, але пасьля зноў вярнуўся ў Тыр. Тут ён мірна аддаваўся літаратурным працам, пакуль новы перыяд уціскаў пры Дэцыю ў 253 годзе не захапіў і яго, ужо шасьцідзесяцівасьмігадовага старога. Яго аддалі на катаванні, пасьля якіх ён і памёр у наступным годзе.

Нягледзячы на анафему, якую Арыген зведаў з боку свайго першага біскупа – Зьміцера Александрыйскага, яго папулярнасць была надзвычай вялікай ва ўсім хрысьціянскім свеце трэццяга і чацьвёртага стагоддзяў. Ён лічыўся адным са знакаміцейшых із хрысьціянскіх пісьменнікаў. Дзякуючы вялікім патрабаванням да сваіх пасьлядоўнікаў у дачыненні да разумовага развіцця, ні сам Арыген, ні яго вучні не маглі, вядома, ўтварыць шматлікую фракцыю. Яны складалі аж да 553 года (калі іх усіх аддалі анафеме на пятым сусьветным саборы) асаблівы навуковы гурт, да якога з падазрэннем ставіліся як арыяне, так і мікалаіты. Калі-нікалі іх абвінавачвалі ў чарнакніжжы, але яны, як мы згадвалі вышэй, яшчэ не былі анафемізаваны нікім, акрамя Зьміцера Александрыйскага.

У той час, пра які мы гаворым, г. азн. у год напісання "Адкрыцця ў навальніцы і буры", гэтая фракцыя была па-ранейшаму нешматлікай, але ў наступныя ж гады пасьля яго з'яўлення яна набыла (відавочна, дзякуючы яму) нечаканае распаўсюджванне. Да яе часова далучыўся (у 398 г.) нават біскуп іерусалімскі Ян, пасварыўшыся за гэта з непрымірымым ворагам арыгенітаў, кіпрскім біскупам Епіфанам. У гэтым-та гурце, як мы пабачым далей, лічыўся і аўтар "Адкрыцця ў навальніцы і буры".

Але перш чым мы пяройдзем да высвятлення яго асобы, закончым пераклад яго кнігі і прывядзем тут асобна сем яго пасланняў да малаазійскіх аргенітаў. Толькі ім адным, на маю думку, і адрасаваў ён сваю кнігу, выключыўшы ўсе астатнія хрысьціянскія фракцыі, як чужыя. Гэтыя лісты складаюць цалкам 2-ю і 3-ю главы "Адкрыцця ў навальніцы і буры", але так як іхны змест не мае ніякага дачынення да астатніх глаў кнігі, а устаўлены яны туды адмыслова, як бы ў выглядзе прадмовы, змешчанай праз памылку ў сярэдзіну кнігі (чым моцна псуецца складнасць яе выкладання), то я і вырашыў перавесьці іх асобна.

Склад іх таксама цалкам адмысловы: гэта пераймание звычайнай форме старазапаветных прароцтваў, дзе павучанні напісаны не ад імя самога аўтара, а як бы пад дыктоўку размаўляючага з ім бога.

## II. Пасланні Яна да сямі малаазійскіх згуртаванняў яго аднадумцаў, устаўленыя пасярэдзіне "Адкрыцця ў навальніцы і буры" (главы II і III Апакаліпсіса)

Апавяшчальніку [171] згуртавання ў Эфесе напішы: так паведамляе трымаючы сем светачаў у сваёй правай руцэ[172] і абыходзячы (*кругам неба*) сярод сямі залатых сьвяцільнікаў (*г. азн. ужо вядомае нам гнеўнае аблічча Сонца, якое выглянула ў шчыліну паміж двума пластамі навальнічнай хмары, сімвал ўгневанага Ісуса*): ведаю твае справы, і працы, і цярпенне, і што ты не здольны

---

[171] Ангелос: τώ άγγέλω τής έν 'Εψέσω έκκλησίας.

[172] Περιπατ έω – абыходжу вакол чаго-небудзь, шпацырую.

пераносіць благіх[173]. Ты выпрабаваў выхваляўшыхся, быццам бы яны пасланнікі Ісуса, але на самой справе не такія, і знайшоў, што яны хлусы. Ты абачлівы і валодаеш цярпеннем, змагаўся за мяне і не зьнемагаў. Але маю супраць цябе тое, што ты пакінуў сваё першае захапленне (*тут гульня слоў: άγα'πη азначае адначасова і шанаванне, і вячэрнія сходы хрысьціян першых стагоддзяў*). Згадай жа ад чаго ты адпаў, зразумей жа сваю памылку і згадай першапачатковыя справы[174]. А калі не так, то я хутка прыйду да цябе і зрушу твой сьвяцільнік з яго месца. Але ёсць у цябе заслуга ў тым, што ты ненавідзіш учынкі мікалаітаў, якія ненавіджу і я. Хто мае вуха, хай пачуе тое, што натхненне прамаўляе сходам! Пераможца будзе сілкавацца ад дрэва жыцця, якое знаходзіцца пасярод божага саду[175].

Апавяшчальніку згуртавання ў Сьмірне напішы: так паведамляе першы і апошні, які быў мёртвы і ажыў (*г. азн. тое ж сімвалізуючае Ісуса гнеўнае аблічча Сонца, якое ў гэты самы дзень зведала зацьменне і зноў зазззяла*): ведаю твае справы, смутак і беднасць (*хоць на самай справе ты заможны*), і даносы ад тых, якія кажуць, што яны іудэі, але не такія, а зборышча перашкоды (*паміж богам і людзьмі*)[176]. Не бойся таго, што табе давядзецца зведаць. Вось даносчык будзе зняволіваць некаторых із вас у турмы, каб спакусіць, і будзе вам смутак каля дзесяці дзён (*згодна з нейкімі астралагічнымі меркаваннямі*). Будзь верны да сьмерці, і я дам табе Вянок Жыцця (*сузор'е Вянка*?[177]). Маючы вуха, хай пачуе тое, што натхненне кажа згуртаванням. Пераможца не зведае другую сьмерць!

Апавяшчальніку згуртавання ў Пергаме напішы: так паведамляе маючы востры меч з двума завастрэннямі (*тое ж гнеўнае аблічча Сонца, папярок якога ляжала верацёнападобнае воблака*): ведаю твае справы і тое, што ты жывеш там, дзе пасад даносчыка (*верагодна, нейкага біскупа, які займаўся вышукам і здзясняў цуды з "залатой чаркай"*, гл. главу 17), і абараняеш маё імя, і не адмаўляешся верыць мне нават у такія дні, у якія сярод вас, дзе жыве перашкаджальнік, забіты мой верны прыхільнік Анціпа (*верагодна, выкрыўшы гэтага біскупа*[178]). Але я крыху не ўхваляю цябе за тое, што ў цябе там ёсць падзяляючыя вучэнне Валаама (*старажытнажыдоўскага прарока*), які навучыў Валака[179] (*цара язычніцкіх маавітаў*) адмовіцца ад спакушэння сыноў Ізраіля-

---

[173] Κακός – благі, баязлівы, пахабны.

[174] Τά πρώτα έργα ποίησον – дзе ποιέω азначае "ствараю, пераймаю, аднаўляю, наладжваю".

[175] Г. азн. нябеснага скляпення з яго звярамі-сузор'ямі. Тут стаіць παράδεισος – вялікі парк з жывёламі, ад персідзкага слова paradaiza – сад, парк. Гэтае слова звычайнае на-фарсі і на-старажытнагрэцкай мовах, і толькі мы надаём яму выключны сэнс эдэма, з Адамам і Евай.

[176] Сатана (шатан) па-жыдоўску азначае "перашкода".

[177] Падобна таму, як далей у лісьце да Фіятырскага згуртавання аўтар абяцае вернаму ва ўзнагароду ранішнюю зорку – Венеру.

[178] Указанне на Анціпу ў дадзеным лісьце само зрабілася падставай да ўзнікнення падання пра пакутніка Анціпу, пергамскага біскупа (гл. "Жыція святых"), але яно такое безсэнсоўнае і сшыта белымі ніткамі на хуткую руку грунтуючыся на гэтых самых лістах Яна, што пра яго не варта і разважаць. Варта пашукаць гэтае імя на прыканцы чацвёртага стагоддзя.

[179] Вось зьмест падання пра Валаама і Валака (кніга Лічбаў, 22-25). Валаам быў прарокам, які жыў на Еўфраце. Маавіцянскі цар Валак прыслаў да яго пасланнікаў з падарункамі, запрашаючы яго да сябе, каб ён пракляў народ ізраільскі, які прыйшоў з Майсеем із пустыні і пасяліўся побач з яго краінай. Але ноччу да Валаама прыйшоў бог і запытаў: "Якія гэта людзі ў цябе? Не хадзі з імі. Не праклінай гэты народ, таму што ён багаславёны". Але Валаам ўсё-такі паехаў. І вось асліца, на якой ён выправіўся, пабачыла перад сабой анёла з аголеным мячом і спынілася. Валаам пачаў біць яе, але бог адчыніў вусны асьліцы, і яна

Багаборцы: каб яны елі прысвечанае выявам і праступііраваліс (*з уладамі, πορνεῦσαι*). Такім чынам[180], і ў цябе выявіліся прыхільнікі вучэньня мікалаітаў, якое я ненавіджу. (*Нагадаем, што фактычным кіраўніком мікалаіцкай фракцыі стаяў у 395 годзе жорсткі вораг Яна Хрызастома – Феафіл Александрыйскі*.) Выпраўся ж, а калі не, хутка прыйду да цябе і буду ваяваць з імі мячом маіх вуснаў. У каго ёсць вуха, хай пачуе тое, што натхненне прамаўляе згуртаванню! Пераможцы дам сілкавацца ад схаванага нябеснага хлеба[181], і атрымае ён ад мяне белы выбарчы камень і новае званьне, выразанае на гэтым камені, якога не ведае ніхто, акрамя атрымліваючага[182].

Апавяшчальніку згуртавання ў Фіятырах напішы: так паведамляе дзіця бога, у якога вочы як вогненнае полымя, а ногі падобныя бронзе (*тая ж грозная постаць у аблоках*): ведаю справы твае, і павагу, і паслугі, і вернасць, і цярпенне, і што апошнія справы твае большыя за першыя. Але маю крыху супроць цябе за тое, што ты дазваляеш тваёй гаспадыні[183] * Іезабелі (*імя, часта даваемае Янам Хрызастомам варагаючай з ім фракцыі візантыйскага святарства*), якая называе сябе правазвесніцай, вучыць і зманьваць маіх служак і прасьцітуіраваць (*са свецкай уладай*) і есьці прысвечанае выявам (*адсюль відаць, што і тут гаворка ідзе пра тых жа мікалаітаў, з якімі фіятырская абшчына арыгенітаў, верагодна, жыла ў хаўрусе і добрай згодзе*). Я даў ёй час пакаяцца ў сваёй прадажнасьці, але яна не пакаялася. Вось я скіну яе на насілкі, а прасцітуіруючых зь ёю ў вялікую скруху, калі не пакаяцца ў сваіх учынках, і дзяцей яе аддам сьмерці, і даведаюцца ўсё, што я – выпрабоўваючы сэрцы і вантробы, і кожнаму із вас аддам па вашых справах. Усім жа астатнім у Фіятырах, якія не прытрымліваюцца яе вучэння і не ведаюць так званых

---

спытала: “Што я табе зрабіла? За што ты б'еш мяне вось ужо трэцці раз?” Валаам адказаў: “За тое, што ты абразіла мяне”. Асьліца адказала: “Ці не я твая асьліца, на якой ты ездзіў з пачатку і да гэтага дня? Ці мела я звычку так ставіцца да цябе?" Валаам адказаў: “не”, і тут пабачыў анёла, загарадзіўшага сабой дарогу. І прамовіў яму анёл: “За што ты біў асьліцу тваю аж тры разы? Я выйшаў, каб перашкодзіць табе”. Валаам выказаў шкадаванне пра свой учынак і гатоўнасць вярнуцца назад. Пабачыўшы гэта, анёл, наадварот, дазволіў яму пайсьці да Валака, але каб ён прамаўляў толькі тое, што яму будзе загадана. І вось замест праклёну Валаам у прысутнасьці Валака тройчы дабраслаўляе народ ізраільскі. Пасьля гэтага “Валаам падняўся і пайшоў назад у сваю мясьціну, а Валак таксама пайшоў сваёй дарогай. І жыў Ізраіль у Сіціме побач з маавітамі, і пачаў народ жыць сумесна з дочкамі Маава, і запрашалі яны народ да ахвяраванняў багам сваім, і еў народ іхныя ахвяраванні і кланяўся багам іхным. І прыляпіўся Ізраіль да Ваал-Фэгора, і ўспыхнуў гнеў Гасподні на Ізраіль”. Такім чынам, мы бачым, што ў сучаснай Бібліі, цалкам адпавядаючай лацінскай Вульгаце, няма ні аднаго намёку на тое, што Валаам, адʼяжджаючы, даў Валаку параду спакусіць такім шляхам Ізраіль. Г. азначае, рукапіс 4-га стагоддзя, якім карыстаўся Ян, быў іншым, дзе выказвалася менавіта ў такім выглядзе, як цытуе гэтае месца сам Ян.

[180] Οὖτως або οὑτωσί – вось так-та, пры такіх абставінах.

[181] Ἀπό τοῦ μάννα τοῦ κεκρυμμένου, дзе μάννα азначае крупы, манна, нябесны хлеб. Звяртаю ўвагу на тое, што прыметнікам да гэтага слова выкарыстана κεκρυμμένος, а не μυστηρικός – містычны – належачы да сакрамэнтаў, як пра чарку з віном ў гл. 17-й.

[182] Тут ужыта ψήψος – каменьчык, гладкі ручны галыш, балатыровочны шарык, прысуд, рашэнне, так як у старажытнасьці выбары выраблялiся, відаць, балаціроўкай камянямі, белымі і чорнымі, магчыма, і з адпаведнымі надпісамі на іх. Звычайны ж камень па-грэцку πέτρος.

[183] 13) τήν γυναίκα συῦ 'Ιεζαβήλ – тваёй гаспадыні Іезабелі. Слова γυνή азначае не толькі жанчына, але ў пераносным сэнсе “гаспадыня”. Іезабель была легендарная жонка легендарнага цара Ахава, ладзіўшая вялікія шанаванні ідалаў і раззлаваўшая гэтым прарока Іллю (3-я кн. Царстваў, гл. 16-22).

сакрэтаў[184] перашкаджальніка, я кажу, што не ўскладу на вас іншага цяжару. Толькі да канца трымайце тое, што маеце, пакуль я прыйду. Пераможцы (*сімвалізіруемаму сузор'ем Геркулеса*) і выконваючаму мае справы дам уладу над змеямі[185], і будзе ён пасьвіць іх жалезнай дубінай (мал. 65) і разаб'е іх дашчэнту, як гліняны посуд, як і я (*Хрыстос, сімволізіруемы Змеяносцам*) прыняў (*пасвіць змея*) ад бацькі майго. І дам пераможцу ранішнюю зорку (*Венеру, якая знаходзілася ў Змееносцы*[186] *пад Геркулесам*). Хто мае вуха чуць ды пачуе тое, што натхненне выказвае згуртаванням.

---

[184] Τά βάθη τοΰ σατανά – вельмі цяжка перакласьці, не разумеючы загадзя, у чым справа. Τό βάθος – азначае глыбіня і вышыня, частата і шматлікасць; тут, відаць, трэба разумець нейкую рэлігійную таямніцу, якая глыбока схавана ад неазнаёмленых.

[185] У Вульгаце і звычайных сучасных выданнях тут знаходзіцца (відаць) памылка. Замест έπί τών οφιών – над змеямі, грэчаскія перапісчыкі напісалі έπί τών έθνών – над народамі, і ў выніку сталася, што аўтар гэтай кнігі, у якога ўсюды праглядвае павага да чалавецтва, набыў намер разбіць ўсе народы жалезнай палкай, як гліняныя пасудзіны. Але сэнс першапачатковага тэксту тут цалкам зразумелы – гаворка ідзе пра Змеяносца, топчучага нагамі смерць – скарпіёна і ўзносіўшагася да пасада неба – полюса, і пра Геркулеса, топчачага нагой галаву Цмока (мал. 65) і збіваючага дубінай змей. Відавочна, што першыя чытачы, якім Ян паслаў сваё прароцтва, былі так непрыемна здзіўлены і перапужаны рыхтуемай для іх узнагародай “пасвіць змей”, што не хацелі гэтаму верыць, і западозрылі апіску ў рукапісе. Папраўка ж тут была надзвычай лёгкай, і пры не цалкам разборлівай манеры пісання рукапісу грэцкае слова “змеі” без цяжкасьцей магло быць лёгка палічана за “народы”. Сапраўды, параўнайце, напрыклад, два выказванні: έπί τών οφιών – над змеямі; έπί τών έθνών – над народамі. Пры моцнай нежаданні пасьвіць змей і пры моцным жаданні пасвіць народы як было не палічыць аднаго выказвання за невыразна напісанае іншае? Толькі пасьля таго, як астранамічныя вылічэнні паказалі мне, што ў гэты самы дзень (30 верасня 395 юліянскага года) “ранішняя зорка” Венера была ў Змеяносцы, пад Геркулесам, збіваўшым дубінай змей, я і зразумеў, у чым справа. Адсюль можна прыйсьці да высновы, што аналагічнае выказванне ў адной із песень, якія прыпісваюцца Давыду, трапіла ў яе із апакаліпсіса.

[186] Згодна са зробленым мной вылічэннем ранішняя зорка, або планета Венера, знаходзілася ў гэты час як раз каля ног сузор'я Змеяносца, або Афіуха. Яна была ў гэты момант у перыядзе сваёй вечаровай бачнасьці, але грэкі ўжо даўно ведалі, што гэта тая ж самая ранішняя зорка. Сэнс гэтага месца такі, што Егошуа-Ісус, сімвалізіруемы Змеяносцам (Афіухам), абяцае даць знаходзіўшуюся зараз у яго ранішнюю зорку топчучаму галаву Цмока Геркулесу, сімвалізуючаму ўсіх верных і збіваючаму дубінай змей. Мы бачым, што і тут усё тая ж астралогія.




Мал. 65. Сузор'е Змяносца, які топча нагою сьмерць (Скарпіёна), і сузор'е Геркулеса, які топча Цмока і пасьвячага змей (яго дзяцей) жалезнай дубінай. Ранішняя зорка, Венера знаходзілася 30 верасня 395 года каля правай пяты Змяносца і паказана ў ёй цёмным кружком.

Апавяшчальніку згуртавання ў Сардах напішы: так паведамляе маючы сем натхненняў і сем зорак (*Вялікай Мядзведзіцы*): ведаю твае справы, ты носіш імя (*арыгеніта*) як быццам жывы, але ты мёртвы. Прачніся і мацуй астатніх, блізкіх да сьмерці, таму што я не знайшоў твае справы здзейсненымі перад маім богам. Згадай, як шмат[187] ты атрымаў і пачуў, захавай жа гэта і выпраўся. Калі ж не будзеш адчуваць, прыйду на цябе нечакана, як злодзей, і ты не даведаешся, у які час я прыйду да цябе. Аднак ёсць у Сардах некалькі імёнаў (*ὀνόματα*), якія не запляміліі свайго адзення, і будуць яны абходзіць са мной (*у выглядзе новых зорак, вакол нябеснага полюса*) у светлых адзеннях, таму што яны беззаганныя.

[187] Πῶς – як шмат.

Пераможца будзе апрануты ў светлае адзенне. Я не выкрасьлю яго імя із кнігі жыцця, але прызнаю яго перад маім бацькам і перад яго вястунамі. Хто мае вуха чуць ды пачуе тое, што натхненне выказвае згуртаванням!

Апавяшчальніку згуртавання ў Філадэльфіі напішы: так паведамляе беззаганны і праўдзівы, маючы ключ шануемага[188], які адмыкае так, што ніхто ўжо не адчыніць. Ведаю твае справы. Вось я адчыніў перад табой дзьверы, і ніхто не можа зачыніць іх. У цябе няшмат магутнасьці, але ты захаваў маё вучэнне і не адмовіўся ад майго імя. Вось я зраблю хлусамі ўсіх із супольнасьці перашкоды, якія сцвярджаюць, што яны іудзеі, але не такія на справе. Вось прымушу іх прыйсьці і пакланіцца перад тваімі нагамі, і даведаюцца, што я цябе паважаю. За тое, што ты захаваў запавет мой пра цярпенне, і я абараню цябе ад гадзіны адкуплення, якая павінна наступіць для ўсяго сусьвету, каб выправіць жывучых на Зямлі. Вось прыйду хутка. Захавай, што маеш, каб ніхто не выкраў твайго вянка. Пераможцу зраблю калонай у храме майго бога і атачу сьцяной[189], каб ён не выйшаў зноў, і напішу на ім імя майго бога і імя майго збудавання, новага царства сусвету, сыходзячага з нябёсаў ад бога, і маё новае званне. У каго ёсць вуха, хай пачуе тое, што натхненне выказвае згуртаванням!

Апавяшчальніку згуртавання ў Лаадыкіі напішы: так паведамляе праўда, верны і сапраўдны сведка, пачатак божага тварэння: ведаю твае справы, – ты ні халодны, ні гарачы! Але вось ты ні халодны, ні гарачы, а цёплы, і маю я жаданне выбляваць цябе із маіх вуснаў! Ты кажаш: “я заможны, я назапасіў дабра і ні ў чым не маю патрэбы”, а не ведаеш, што ты няшчаслівы і варты жалю, і бедны, і сьляпы, і голы! Раю табе купіць у мяне золата, ачышчанае полымем, каб узбагаціцца табе сапраўды, і светлае адзенне, каб апрануцца і не выяўляць сораму за сваю нагату! Працяры лепш[190] свае вочы, каб бачыць. Я выкрываю і вучу ўсіх тых, каго шаную. Будзь жа руплівым і пакайся. Вось я стаў каля дзвярэй і стукаюся. Калі хто пачуе мой стук і адчыніць дзверы, увайду да яго і буду ёсць з ім, і ён будзе есьці са мной. Пераможцу дазволю сесьці побач са мной на маім пасадзе, як і я перамог і сеў з маім бацькам на яго пасад! Хто мае вуха чуць ды пачуе тое, што натхненне выказвае згуртаванням!»

Тут заканчваюцца лісты Яна да малаазійскіх згуртаванняў яго аднадумцаў.

Чытач бачыць, як я ўжо папярэджваў, што гэтыя сем лістоў цалкам не маюць ніякага дачынення да астатняга зместу кнігі. Але і яны цікавыя ў пэўным сэнсе для гісторыі таго часу. Яны паказваюць, што аўтар не належаў да панаваўшай пры ім царквы, інакш ён не адрасаваў бы свае пасланні выключна сямі малаазійскім гарадам, як быццам бы іншых не варта было і папярэджваць пра такую важную рэч, як хуткае прышэсьце Хрыста на Зямлю. Ва ўсякім разе, ён не выключыў бы Рым, які з часоў Пятра быў натуральным цэнтрам хрысьціянства, нягледзячы на ўсе ганенні першых стагоддзяў, ці нават дзякуючы менавіта ім.

---

[188] Τοΰ Δαβίδ – гульня слоў, так як слова דבד (ДБД-Давыд) па-жыдоўску азначае “каханы”.

[189] 19) έξω – будучае ад έχω – абдымаю, атачаю.

[190] Έγχρίσαι κολλούριον τοΰς όφθαλμούς σοΰ. Κολλύρα – асаблівы род даўгавата-круглага хлеба, але гэтае слова тут відавочна не падыходзіць. Перакладчыкі Вульгаты, а за імі і астатнія, лічылі, што гаворка ідзе пра нейкую мазь для вачэй – калурыі. Але як жа тут можа быць вінавальны склон? Відаць, κολλούριον тут проста ўжыта замест καλλούριον, а гэта апошняе ёсць мясцовая форма памяншальнае ад καλλίων і азначае “лепш”.

Із адной гэтай акалічнасьці відаць, што ён належаў да нейкага із невялікіх гуртоў, якія мелі ў 395 годзе аўтаномную арганізацыю толькі ў гэтых сямі гарадах, а ў астатніх месцах не адасабляліся ад якой-небудзь із двух галоўных фракцый – арыян і мікалаітаў. Згодна з самым астралагічным характарам кнігі не цяжка бачыць, што яна найбольш адпавядае духу арыгенітаў, ўводзіўшых у сваю тэалогію не толькі вузкае вывучэнне Біблії, але і ўсе сучасныя ім паганскія навукі, асабліва астраномію і астралогію, так як у вывучэнні неба – меркаванага жыллём бога – яны імкнуліся, згодна з Арыгенам, вывучыць яго самога. Да гэтага ж прыводзяць і іншыя гістарычныя факты, як мы пабачым далей.

# III. Норавы візантыйскага святарства на прыканцы IV стагоддзя[191]

*Звычаі заможных на прыканцы IV стагоддзя былі яшчэ занадта часта паганскімі звычаямі, панаваўшымі на працягу існавання ўсёй імперыі. Раскоша была незвычайнай, дэбош ўсеагульным і вольным.*

**Aime Puech**

Апакаліптычнае апісанне **Вялікай Самапрадажніцы**, “апранутай ў жэмчуг, вэлюм і каштоўныя камяні”, “перасследуючай праведнікаў” і “прастытуіруючай з зямнымі царамі”, да таго ярка малюе норавы візантыйскай царквы канца чацвёртага стагоддзя пры яе пышным патрыярху Нектарыі, што ўжо па аднаму гэтаму кнігу Яна было б неабходна аднесьці да дадзенага часу.

Вось як апісвае гэтыя норавы французскі акадэмік Цьяры[192].

“Пры пералічэнні заганаў (візантыйскага) святарства Паладый адзначае тры, якія ўжо самі па сабе павінны былі б мецъ наступствам гібель царквы: юрлівасць, абжорства і прагнасць. Гэта была “сапраўдная маці ўсіх заганаў[193] (апакаліптычная “маці блудадзеяў і мярзотаў Зямлі”), так як яна іх зачынала ў сваім чэраве і песьціла іх”.

“Загана юрлівасьці, якую Паладый ставіць у віну візантыйскаму святарству[194], выяўлялася асабліва ў звычаі жыць з **сёстрамі-агапетамі** (*ўмілаванымі сёстрамі*) або падводзімымі жанчынамі (*mulieribus sub-introductis*). Гэты даволі нядаўні звычай, калі верыць Яну Хрызастому (*г. азн. самому аўтару Апакаліпсіса, як пабачым далей*), да такой ступені квітнеў і так паўсюль распаўсюдзіўся падобна пустазеллю, што заразіў зараз увесь хрысьціянскі свет (*г. азн. царкву*), як на Усходзе, так і на Захадзе, і пагражаў перайсьці ў царкоўнае ўзаконенне... Дарэмна пратэставалі навукоўцы, дарэмна анафеметызавалі саборы, і самі грамадзянскія законы лютавалі супраць гэтага сужыцця святарства з дзяўчатамі і іхнае прастытуяванне, настолькі ж пагібельнае для дысцыпліны, як і ганьбаваўшае рэлігію, – злоўжыванне супрацівілася ўсім лекам... Частка

[191] Уся гэтая глава дададзена мной пасьля вызвалення са Шлісельбургскага ўмацавання да першапачатковага тэксту кнігі.
[192] Amedee Thierry: St Jean Chrisostome et 1'imperatrice Eudoxie. 1872 p. 24 etc.
[193] Malorum omnium metropolium avariciam: Palladius. Dialogus, p. 18.
[194] Intendit (Chrisostomus) sermonem adversus fictam sororiam, ut vocant, vitae societatem, revera autem adversus inverecundam et improbam vitam cum mulieribus illis, quae dicuntur subintroductae (Pallad., Ibid.)

святарства, заражаная гэтай заганай, складала магутную арганізацыю (***вялікую цьвярдыню Апакаліпсіса***), аб якую разбіў сабе галаву не адзін дактрынёр і не адзін біскуп...

Ян Хрызастом (у 397 годзе) не першы раз знаходзіўся ў стане гэтай небяспечнай барацьбы. Калі ён быў яшчэ дыяканам у Антыёхіі (г. азн. за некалькі гадоў да напісання ім у 395 годзе “Адкрыцця ў навальніцы і буры”), ён напісаў два знакамітыя трактаты – першы на адрас сучаснага святарства, а другі – на адрас дзяўчат, якія аддавалі сябе дэбошу гэтага ілжывага братэрства”...

“Суровы хірург заклікаў (у 397 годзе) на свой суд тых, якія жылі такім чынам, выгнаў адных і выкрыў іншых”... “Зло за зло, – казаў ён ім, – я аддаю перавагу зводнікам перад такімі служкамі царквы, як вы”... “Увойдзем, – казаў ён, – у памяшканне, дзе яны жывуць разам з дзяўчатамі, і выкажам здагадку спачатку, што дзяўчына бедная. Бедная і таму вымушана працаваць сваімі рукамі. Святар заўсёды каля яе, іх пакой агульны, іхная мэбля агульная. Якое відовішча, скажыце мне, паўстае перад вамі ў жыллі чалавека, прызначыўшага сябе згодна са сваім становішчам адасобленым разважанням? Жаночыя спадніцы, паясы і мітры, вісячыя разам на сьценах. У пакоі ладаніца, калаўрот, верацяно... Такія ўпрыгожванні святарскага жылля!”

“Зараз выкажам здагадку, што “духоўная сястра” заможная... Патрэбна, каб у яе ні ў чым не было недахопу, бо самі свецкія матроны менш патрабавальныя, чым гэтыя дзявіцы, і святар павінен іх усім забяспечыць. Колькі патрэбна намаганняў, каб задаволіць яе! Ён бяжыць спачатку да гандляра срэбнымі вырабамі, каб даведацца, ці гатовы посуд, ці прыдатнае для ўжывання люстэрка яго дамы, ці будзе атрымана ў належны час амфара віна ці флакончык з духмяным алеем. Ад прадаўца срэбнымі вырабамі ён бяжыць у касметычную лаўку, так як гэты род кабет схільны да касметыкі, і яна ім патрэбна разнастайная і каштоўнаая[195]. Святар тлумачыць прадаўцу, якім з іх аддае перавагу яго дама... Затым ідуць ганляры матэрый і дыванамі... Увесь дзень святара праходзіць у беганіне з крамы ў краму, яго душа больш не ў царкве, а на базары!..“

“Але вось засноўваецца базіліка... Колькі прафанацыі, колькі новых скандалаў чакае нас у ёй! Святар чакае каля дзвярэй з'яўлення сваёй дамы, і калі яна праходзіць, ён ідзе перад ёю, як яе еўнух ці яе брамнік. Ён пракладае ёй дарогу, рассоўваючы плячамі натоўп, і атрымлівае ўздоўж усяго шляху ўсмешкі публікі. І бывае, што ён не толькі не чырванее, як варта было б, але ганарыцца гэтым. Калі набліжаецца жахлівы момант сакрамэнту, дама дапамагае яму ў гэтым, святар паварочвае да яе галаву і як быццам раіцца з ёй поглядам”... “У гэтых жанчын манія браць удзел ва ўсім, яны буруць удзел у вырашэнні царкоўных пытанняў і сеюць ўсюды сваркі”.

“Другой заганай, уразіўшай канстантынопальскае святарства, было абжорства, схільнасць да ласункаў, запал да піраванняў – адным словам, глотка, як энергічна гаворыцца на лацінскай мове. Святары і дыяканы праводзілі ў горадзе ў раскошы і задавальненні самае сьпешчанае і самае шыкоўнае жыццё".

[195] Hinc iterum ad unguentarium currit collocuturus de aromatibus dominae: uruntur autem virgines unquentis et variis, et pretiosis. Chrisost. de Subintroductis, p. 242.

“Ліхазьдзірства было трэцяй і найбольш смяротнай язвай гэтага распутнага святарства”... “Зрабіўшыся (супраць волі) спадчыннікам пышнага Нектарыя, які прынёс з сабой на біскупскую катэдру звычаі раскошы, не саступаючы ў гэтым гарадзкім прэфектам, Ян Хрызастом з самага пачатку прызначыў для сябе справай гонару знішчыць гэтую пышнасць”"[196].

“Ён загадаў прадаць усе шаўковыя і залатыя ўпрыгожванні, якімі драпіравалі алтары базілік пры яго прыбыцці, усе пурпурныя тканіны і каштоўнае святарскае адзенне[197]. Пышныя мармуровыя абкладкі і маналітныя слупы, якія Нэктарый прызначыў для ўпрыгожвання царквы Настассі і якія ляжалі на зямлі ў чаканні архітэктара, былі таксама прададзеныя з аўкцыёну. Ён разбіў і прадаў святыя чаркі[198], якія каштавалі велізарных грошай, і пажадаў мець толькі самыя простыя[199]”. Ён прызначыў пакаянне або распусьціў большую частку дыяканаў, якія вялі вельмі свецкае жыццё і нярэдка выкарыстоўвалі сьвятыні і алтары для сваіх любоўных прыгод”.

Уся гэтая выпіска із кнігі Амедэо Цьяры “Св. Ян Хрызастом і імператрыца Еўдаксія” да такой ступені адпавядае апісанню вялікай вавілонскай цьвярдыні, якое мы ўжо чыталі ў Апакаліпсісе, а роля вялікага прарока гэтага часу, Яна Хрызастома, так падыходзіць да ролі аўтара “Адкрыцця ў навальніцы і буры”, што шукаць іншага было б цалкам недарэчна. Аднак, прыняўшы пад увагу, што большасць сучасных тэолагаў павінны будуць з прадузятасьцю паставіцца да майго даследавання, выкажам меркаванне, што ўсё гэта яшчэ патрабуе доказаў. Пачнем разбіраць пытанне сістэматычна, як быццам мы не маем яшчэ ніякіх указанняў на асобу аўтара Апакаліпсіса, а толькі ведаем із нашых астранамічных вылічэнняў, што кніга была напісана пад непасрэдным уражаннем навальніцы, пранёсшайся над Патмасам 30 верасня 395 юліянскага года і землятрусу, ускалыхнуўшага выспу ў гэты ж самы дзень.

# Частка V

## Асоба аўтара “Адкрыцця ў навальніцы і буры”. Ян Златавуст як рэвалюцыянер і дэмагог

Галоўнейшыя крыніцы:

- Dialogus Historicus Palladii episcopi Helenopolis cum Theodoro, ecclesiae Romanae diacono de vita et conversatione beati Joannis Chrysostomi, episcopi Constantinopolis.
- Σωκράτους Σχολαστικοῦ 'Εκκλησιαστική' Ιστορία.

---

[196] Thierry, p. 34.

[197] Г. азн. усе пышныя ўборы вялікай апакаліптычнай цьвярдыні: “Грузы золата і срэбра, і каштоўных камянёў, і пацерак, і тонкага палатна, і шоўку, і пурпуру, і кіпарысавага дрэва, і вырабаў із слановай косткі, і усялякіх вырабаў із каштоўнага дрэва, жалеза, медзі і мармуру”...”і карыцы, і курэнняў, і мірры, і ладану, і віна, і алею (Апакал. 18, 12 і 13)”.

[198] Залатую чарку вялікай самапрадажніцы.

[199] A. Thierry. St Jean Chrysostome, 34. 10) Amedee Thierry. St Jean Chrisostome et imperatrice Eudoxie. Paris, 1872.

[Абедзве кнігі ў выданні Patrologiae Cursus Completus. Patrologiae Graecae tomus 57. 1858.]

- Жыції святых. 1852 г.
- Amedee Thierry. St Jean Chrysostome et 1'imperatrice Eudoxie. Paris, 1872.
- Aime Puech. St Jean Chrysostome et les moeurs de son temps. Paris, 1891.
- Мурашак. Гісторыя першых чатырох стагоддзяў хрысьціянства. 1866 г.
- Ερμείου Σωζομενοῦ 'Εκκλησιαστική' Ιστορία. 1858 г.

## I. Асноўныя патрабаванні, якім павінен задавальняць аўтар "Адкрыцця ў навальніцы і буры".

Само "Адкрыцьцё ў навальніцы і буры" дае цэлы шэраг указанняў на асобу свайго аўтара. Вось, напрыклад, некаторыя з іх:

1. Аўтара звалі Янам.

2. Ён жыў у Малой Азіі ці каля яе.

3. Ён жыў на прыканцы чацвёртага стагоддзя.

4. У 395 годзе ён быў не вельмі малады, таму што піша як чалавек, які мае аўтарытэт у сямі гарадах Малой Азіі, і не вельмі стары, так як захаваў да гэтага часу усё сваё ўяўленне і ўражлівасць да навакольных з'яў прыроды.

5. Ён валодаў незвычайным літаратурным талентам і вялікім красамоўствам, як гэта відаць із "плачу моцных над гібеллю вялікай цьвярдыні" і іншых раздзелаў кнігі.

6. Яго звычайнай мовай была грэцкая. Склад, якім ён піша, выяўляе руку маючую вопыт а таму не выклікае сумненняў, што ён напісаў не толькі адзін гэты твор, але і шэраг іншых кніг на грэцкай мове, пра якія не магло не застацца гістарычных успамінаў.

7. Ён нарадзіўся ў заможнай сям'і, так як каштоўныя камяні былі для яго настолькі звычайнай рэччу, што ён без тлумачэнняў ужывае іх для вызначэння адценняў ранішняга неба або аблокаў, цалкам не даючы сабе справаздачы ў тым, што для большасьці людзей назвы гэтых рэдкіх рэчаў – простыя гукі, не выклікаючыя ніякіх ўяўленняў. Такую памылку пастаянна дапускаюць аўтары, якія з дзяцінства звыкліся да чаго- небудзь вельмі рэдкага для астатніх.

8. Ён атрымаў бліскучую згодна са сваім часам адукацыю, таму што выдатна валодаў астраноміяй, матэматыкай і г. д. Дапусціць, што гэта быў рыбак, або пастух, або што-небудзь у такім родзе, было б проста смешным.

9. Ён быў хрысьціянскім тэолагам.

10. Ён быў рэвалюцыянерам і рэспубліканцам, так як кідае грымоты і маланкі на зямных цароў.

Але ў першыя стагоддзі нашай эры выбітныя літаратары, паэты і рэвалюцыянеры былі не настолькі частымі сярод грэкаў, каб іх даводзілася доўга вышукваць, калі і імя, і месца, і час іхнага жыцця цалкам дакладна вызначаны. Можна з упэўненасьцю сказаць, што калі хоць адзін із малаазійскіх Янаў канца IV-га стагоддзя выявіцца задавальняючым усім гэтым патрабаванням, то шукаць другога ўжо няма патрэбы.

Вось чаму, як толькі былі закончаны мае астранамічныя вылічэнні, якія паказалі на 395 год, я зараз жа звярнуўся да гісторыі першых чатырох стагоддзяў хрысьціянства і адразу натыкнуўся на такую старажытную знакамітасць, імя якой дайшло і да нашых дзён: на выдатнага візантыйскага дэмагога, прамоўцу і пісьменніка, Яна Антыяхійскага, празванага Хрызастомам, або Залатавустам.

Усё ў яго біяграфіі адпавядала пералічаным мной патрабаванням і сведчыла, што аўтарам быў менавіта ён, і што непрымірымая нянавісць да яго візантыйскага імператара і клерыкалаў была ў прамой сувязі са стварэннем гэтай самай кнігі. Вось яго сціслая біяграфія, якую я складаю галоўным чынам на падставе старажытнагрэцкіх паданняў пра яго асобу. Якія ні бедныя і аднабаковыя гэтыя крыніцы, але іхная фактулагічная частка цалкам дастатковая, каб даказаць справядлівасць маёй здагадкі, што ён быў сапраўдным аўтарам вывучаемай намі астралагічнай кнігі канца IV стагоддзя[200].

## II. Легенды пра дзяцінства Яна Антыяхійскага і яго маладосць да з'яўлення “Адкрыцця”.

Ян Хрызастом, знакаміты візантыйскі рэвалюцыянер і пратэстант супраць панаваўшай пры ім дзяржаўнай царквы (узведзены пасьля сьмерці невядома якімі спосабамі ў яе ўласныя святыя), нарадзіўся, відаць, у 354 або 355 годзе, г. азн. за 41 год да з'яўлення “Адкрыцця ў навальніцы і буры”[201]. Яго бацькі, язычнікі, былі вельмі заможнымі людзьмі прывілеяванага стану, і далі яму бліскучую згодна з тым часам адукацыю. Яго бацька быў вайсковым кіраўніком на імя Секунд, а яго маці звалася Анфуса[202]. Яны жылі ў Антыёхіі Сірыйскай, якая знаходзіцца каля вусьця ракі Аронт, якая зьлівалася з Кіпрскім залівам недалёка ад паўднёвага берага Малой Азіі, і валодалі ў гэтай мясцовасьці вялікімі маёнткамі.

Пасьля выхаду із дзіцячага ўзросту Яна спачатку аддалі Лібанію сафісту і Андрагафію філосафу[203] для навучання астралогіі, матэматыцы, геаграфіі і ўсім тагачасным навукам.

Згодна са сведчаннем Лібанія, ён далучыўся да хрысьціянства ў 370-м годзе з дапамогай Мялецыя[204], біскупа Антыяхійскага, непрызнаваемага тагачаснай дзяржаўнай царквой. Згодна ж з іншымі, больш пэўнымі крыніцамі, Ян прыняў хрысьціянства толькі на 23-м годзе жыцця, пасьля таго, як памёрла яго маці. Яго бацька памёр калі Яну не было яшчэ і пяці гадоў, пакінуўшы яго маці Анфусу вельмі маладой удавой. Ёй было з невялікім дваццаць гадоў, і акрамя Яна, у яе не было ніякіх іншых дзяцей.

Дасягнуўшы васямнаццацігадовага ўзросту (г. азн. прыблізна ў 372 годзе, калі дзяржаўнай царквой была яшчэ арыянская), Ян выправіўся ў Афіны, каб

---

[200] Зараз, прагледзеўшы пасьля вызвалення са Шлісельбургскага ўмацавання шэраг іншых (замежных) біяграфій Яна, магу дадаць, што яны мне далі толькі адны новыя падцверджанні. Пазнейшая заўвага.

[201] 1) Із яго біёграфаў Tillemont схіляецца да 347 года, а Stilting – да 344. Я аддаю перавагу непасрэднай даце візантыйскіх біёграфаў, прыводзімай у старажытных кнігах.

[202] 2) Σωκράτου Σχολαστικού 'Εκκλησ' Ιστορία, T.VI, κεψ. γ.

[203] Σωκρ. Σχολ., T.VI, κεψ. γ.

[204] Aime Puech: St Jean Chrysostome el les moeurs de son temps. Paris, 1891.

закончыць у тамтэйшай знакамітай школе сваю адукацыю. Гэтая школа была паганскай, і ў ёй выкладаліся ў поўным памеры ўсе навукі таго часу. Колькі гадоў Ян прабыў там – невядома. Мы ведаем толькі, што, пасьля заканчэння курса з бліскучымі вынікамі, ён вярнуўся назад у Антыёхію у поўным узбраенні сучасных яму ведаў, але, відаць, з пабітым сэрцам і з містычнымі схільнасьцямі, якія развіліся на гэтай глебе.

Яны-та, можна думаць, і захвоцілі яго на дваццаць трэццім годзе прыняць хрысьціянства, паддаючыся ўмаўленням сябра свайго дзяцінства, нейкага Васіля, які стаў хрысьціянскім біскупам ў вельмі раннім узросьце.

Што было нагодай яго разчаравання, не цяжка здагадацца ўжо толькі праз тое, што пра яе цалкам замоўчваюць яго візантыйскія біёграфы. Ён тады быў ва ўзросьце, калі для кожнага не знявечанага чалавека надыходзіць патрэба ў каханні, а ў той жа час абавязкова з'яўляецца і прадмет, на які яно павінна накіравацца. Па ўсёй верагоднасьці, тое ж адбылося і з Янам у Афінах, і вельмі магчыма, што нечаканая сьмерць каханай дзяўчыны і выклікала ў яго той раптоўны парыў містыцызму і патрэбнасьці ў пустэльніцстве, які прывёў яго да прыняцця хрысьціянскай рэлігіі, абяцаўшай яму спатканне ў замагільным жыцці.

Гэтае захвочванне было такім моцным, што Ян хацеў зараз жа выдаліцца ў горы, у адзін із кляштароў, але прашэнні маці паспелі адхіліць яго ад такога намеру. Аднак у хуткім часе памёрла і яго маці, і яго больш нічога не стрымлівала. Ян раздаў жывучым у нястачы ўсю сваю маёмасьць, вызваліў усіх сваіх рабоў і рабыняў, і пасяліўся ў адной із адасобленых пустыняў, у гарах паблізу Антыёхіі, верагодна, у Малой Азіі, прылеглай да гэтага горада.

Усё гэта здарылася амаль за 17 гадоў да з'яўлення “Адкрыцця ў навальніцы і буры”, каля 378 года, калі Яну было прыблізна 24 гады. У гэты час дзяржаўнай царквой у Візантыйска-Рымскай імперыі ўсё яшчэ была арыянская. Гурт арыгенітаў, да якога Ян згодна са сваім высокім узроўнем адукацыі павінен быў непазбежна адчуваць асаблівую сімпатыю[205], яшчэ не вызначыўся нічым асаблівым із усіх астатніх фракцый, якія не належалі да пануючай царквы. Вельмі магчыма, што арыгеніты знаходзіліся ў той час яшчэ ў добрых дачыненнях і з "мікалаітамі", абвясьціўшымі на Нікейскім саборы адзінасутнасць Ісуса з богам, хаця гэтая апошняя фракцыя была ўжо неаднаразова анафематызавана панаваўшай арыянскай царквой, а арыгеніты яшчэ не былі нікім праклятыя.

Ад гэтага перыяду яго жыцця захавалася, як кажуць, некалькі напісаных ім кніг, напрыклад, кніга “пра гора сэрца” і далікатна-падбадзёрваюча-павучальнае пасланне “Да падшага мніха Хведара”. Наколькі сапраўдныя і не сапсаваныя перапісчыкамі з’яўляюцца гэтыя кнігі, змест якіх, дарэчы, цалкам адпавядае яго пяшчотнаму і, відаць, цалкам разбітаму ў гэты перыяд часу сэрцу, сказаць цяжка, таму што ўвесь гэты перыяд яго жыцця перапоўнены легендарнымі паведамленнямі.

Распавядаецца, напрыклад, што жыўшы ў той жа самай горнай адзіноце надзвычай “празорлівы” старац Ісіхія падгледзеў у адну ноч, калі ўсе астатнія

---

[205] У гэтым пазней яго і абвінавацiў сабор біскупаў: “Origenistas suscepit et eos qui sum ecclesia communicant in carcerem detrusos non curavit sed in ipsa mortuos neque omnino respexit” (Act. Synod, ad Quercum apud Phot. 59).

спалі, як у пакой Яна таемна зайшлі два чалавекі. Адзін з іх падаў яму скрутак папірусу і прамовіў:

– Прымі гэты скрутак з маёй рукі. Я Ян, ляжаўшы на грудзях ўладара падчас таемнай вячэры. Я адтуль запазычыў боскае **Адкрыцьцё** (*па-грэцку: Апакаліпсіс*). І табе бог дае пазнаць (*із яго*) усю глыбіню мудрасьці, каб ты накарміў людзей нятленнай ежай і мудрасьцю і замкнуў ерэтычныя і юдэйскія[206] вусны, вымаўляючыя беззаконьні на нашага бога.

Затым у сярэднявечных візантыйскіх дакументах, нашых адзіных крыніцах [207], змешчаны ўсе звычайныя, так бы мовіць, гераічныя подзвігі, неабходныя, на думку старажытных хрысьціянскіх гісторыкаў, для біяграфіі кожнага прарока: і вылячэнне вока, шмат месяцаў боўтаўшагася на шчацэ ў аднаго вельмі добрага чалавека, і забойства містычным спосабам ільва-людаеда, якога ніхто не мог забіць зброяй, – адным словам, поўны аксэсуар разнастайных **неверагодных** апавяданняў. Зрэшты, яны непараўнальна лепш змешаных з імі **верагодных**, г. азн. праўдападобных выдумак, таму што гэтыя апошнія ў некаторых выпадках цалкам немагчыма адрозніць ад сапраўдных падзей.

Толькі што прыведзенае апавяданне пра наведванне Яна іншым, больш старажытным Янам, я знарок прывёў амаль цалкам з агоды таго, што яно з'яўляецца як бы адгалоскам існаваўшай некалі думкі, што "Адкрыцьцё ў навальніцы і буры", хоць і было сапраўды апублікавана Янам Антыяхійскім, але на самай справе належала пяру іншага, яшчэ больш вялікага Яна, "рыбака із Генісарэцкага возера". Мы бачым тут як бы кончык таго маста, па якому ў пятым стагоддзі быў зроблены пераход ад аднаго Яна да другога: спачатку Ян Антыяхійскі быў абвешчаны не самастойным аўтарам Апакаліпсіса, а толькі яго перадатчыкам, ці нават плагіятарам кнігі, якая належыла на самай справе непасрэднаму вучню Хрыста, а затым, каб не абуджаць сумневаў у сапраўднасьці кнігі, было замоўчана і само пасярэдніцтва другога Яна. Але пра гэта мы будзем разважаць яшчэ шмат, далей, пры выкладанні апошніх перасследванняў Яна.

Прайшло чатыры гады знаходжання Яна ў яго горным кляштары ў бесперапынных занятках навукамі і тэалагічнымі разважаннямі. Ён жыў у месцах, далёкіх ад шумнага свету, а ў гэтым свеце тым часам адбываліся вельмі важныя падзеі і перамены. У першы ж год яго знаходжання ў кляштары памёр імператар Валент (364-378 гг.), і з яго сьмерцю моцна пахіснуўся пры двары ўплыў арыян. Чым яны заслужылі няласку новага імператара, Хвядоса, невядома, але ён відавочна пачаў узвышаць іхных ворагаў, мікалаітаў. На трэццім годзе свайго валадараньня ён склікаў, нарэшце, так званы другі, г. азн. Канстантынопальскі, сабор (381 г.) супраць тагачаснага канстантынопальскага біскупа Македонія. Гэты вярхоўны прэлат, адпаведна з яго арыянскім веравызнаннем, прызнаваў Ісуса толькі падобасутным богу, а святога духу (г. азн. святое натхненне, якое дае людзям празарлівасць і творчыя здольнасьці думкі) – простай прыладай Ісуса, як сярэдняй істоты паміж богам і чалавекам.

---

[206] Жыціі святых. Лістапад, выд. 1852 г. Згадайце словы пра іудэйствуючых у лісьце да сьмірскага згуртавання ў Апакаліпсісе.

[207] Я прагледзеў некаторыя з іх у Публічнай бібліятэцы і, акрамя недарэчнасьцей, амаль нічога новага не знайшоў. Пазнейшая заўвага.

Сабор (які складаўся, як мяркуюць, толькі із прадстаўнікоў усходняй царквы, без удзелу заходніх, падуладных Рыму) пракляў гэтыя арыанскія погляды, а разам з імі асудзіў таксама і згуртаванне апамееў, пасьлядоўнікаў Асція і Яўномія, якія сцвярджалі, што Езус не падобны богу-бацьку. На гэтым жа саборы быў, як сцвярджаюць, канчаткова сфармуляваны і звычайны сімвал веры, як абавязковы для кожнага прававерната хрысьціяніна, і ўсталявана яшчэ некалькі правілаў, лік якіх розны ў розных старажытных аўтараў.

Ян, заўважым між іншым, не быў запрошаны ці не паехаў сам на гэты сход, нягледзячы на тое, што быў ужо вядомым хрысьціянскім пісьменнікам і красамоўным прапаведнікам, і, нягледзячы на тое, што на саборы маглі прысутнічаць не толькі самыя нязначныя прасьвітары, але і дыяканы. Як жа ён паставіўся да пераменаў у асноўных дагматах хрысьціянскай рэлігіі, абвешчаных на гэтым саборы?

Пераглядаючы захаваўшыяся крыніцы і дакументы, мы знаходзім, што каля гэтага самага часу або толькі крыху пасьля яго ён таемна збег са свайго кляштара... Сапраўды, лічачы найбольш верагоднай датай яго нараджэння 354 год, як гэта паказана ў Мінеях, і прыняўшы да увагі, што 18-ці гадовым ён з'ехаў у Афіны заканчваць сваю адукацыю, дзе прабыў каля 4 гадоў, а затым прыблізна праз год памёрла яго маці, мы прама падыходзім да 377 года як часу, калі ён прыняў хрысьціянства і пайшоў са свету ў кляштар. Дадаўшы ж да гэтай даты тыя чатыры гады, якія Ян, згодна са сведчаннем гісторыкаў, правёў у кляштары, мы і атрымліваем для часу яго уцёкаў знамянальны 381 год, калі Канстантынопальскі сабор абвясьціў пануючай фракцыяй “мікалаіцкую” і аддаў анафеме “арыянства”.

У гэтым жа годзе[208], як кажуць, праціўнік дзяржаўнай царквы антыяхійскі біскуп Мялецій прызначыў Яна сваім дыяканам.

Яго візантыйскія біёграфы, вядома, не робяць гэтых непрыемных для іх храналагічных параўнанняў. “Прабыўшы ў тым кляштары чатыры гады, – сведчаць яны, – і, пажадаўшы маўклівага жыцьця, Ян сышоў адтуль таемна ў пустыню і, знайшоўшы нейкую пячору, пасяліўся ў ёй і прабыў у ёй два гады, жывучы адзін у думках пра Бога”[209].

Аднак просты здаровы сэнс кажа, што для раптоўнага збягання Яна з яго кляштара адразу пасьля Сусьветнага сабору, на які яго не запрасілі, меліся з яго боку важкія падставы. Наша супастаўленне часоў і падзей відавочна паказвае, што збяганне Яна было ў сувязі з пераменамі, якія адбыліся ў хрысьціянскай царкве і нават у самой рэлігіі з часу ўцараваньня Хвядоса. Перад гэтай падзеяй, пры панаванні арыян, насельнікі янава кляштара належалі, па ўсёй верагоднасьці, да ліку гнаных, якімі ў той час былі ўсе не-арыяне, а пасьля ўцаравання Хвядоса, калі ўсё перавярнулася на адваротны бок, яны лёгка маглі прызнаць сябе салідарнымі са стаячымі зараз ва ўладзе “мікалаітамі”, г. азн. той фракцыяй новай дзяржаўнай царквы, на чале якой стаяў у гэты час, як пабачым далей, люты вораг Яна – Тэафіл Александрыйскі.

У выніку гнаныя таварышы Яна раптам (з 381 г.) самі ператварыліся ў ганіцеляў і анафематызатараў. Да цараваньня Хвядоса і Канстантынопальскага

---

[208] Aime Puech: St Jean Chrysostome et les moeurs de son temps. Paris, 1891 г.

[209] Жыція святых. Лістапад. Выд. 1852 г.

сабора яны самі папракалі арыян за хаўрус са свецкай уладай супраць астатніх хрысьціянскіх фракцый і выказвалі, верагодна, гэты папрок, як заўсёды ў падобных выпадках, у прынцыповых формах, называючы арыанскую фракцыю “вялікай вавілонскай цвярдыняй”, а зараз яны самі занялі яе месца.

Асобы з неразвітым маральным пачуццём зараз жа знаходзяць сабе ў падобных выпадках апраўдальныя матывы і імгненна забываюцца пра ўсё, што самі ж сцвярджалі раней. Але Ян, як усё паказвае, не належаў да іх ліку. У яго была адна і тая ж мараль, як для іншых, так і для сябе, а таму, пры гэтай нечаканай змене, яму, вядома, не заставалася нічога іншага, як, выкарыстаўшы ўсе захады, перакананні і згадкі пра мінулыя выказванні наконт якога б та ні было хаўрусу са свецкай уладай, аддаліцца ад сваіх былых таварышаў, не развітаўшыся з імі ні адным словам.

Паданне пра яго двухгадовае знаходжанне ў пустыні, у дагэтуль невядомай нікому пячоры, можна думаць, такая ж легенда, як і сотні іншых, якімі перапоўнена яго жыццё. Калі б такая пячора існавала, то яна даўно была б месцам пілігрымства вернікаў. Прытым жа Ян, гарачы і красамоўны прапаведнік, не быў такім, якія збягалі ад людзей.

Ды і часу для падобнага анахарэтства мы не знаходзім у храналогіі яго жыцця. Супастаўляючы ўсе вядомыя нам факты, мы прыходзім да высновы, што ён уцёк із кляштара прама ў Антыёхію, да арыгеніцкага біскупа Мялеція, які і прызначыў яго сваім дыяканам у тым жа 381 годзе, г. азн. хутка пасьля 1-га Канстантынопальскага сабора[210].

У Антыёхіі, якая па значнасьці і велічыні была тады трэццім горадам Візантыйскай імперыі, у гэты час існаваў моцны раскол паміж хрысьціянамі. Адна іх партыя належала да пануючай зараз у Візантыйскай імперыі фракцыі мікалаітаў і спалучалася з яе намінальным кіраўніком – папай. Яна мела сваім, г. азн. адзіна артадаксальным, біскупам у Антыахіі спачатку Паўліна, а потым Эвагрыя. У момант вяртання Яна ў храме Паўліна прапаведаваў вядомы ненавіснік арыгенітаў і асабісты вораг самога Яна – Еранім Блажэнны, прызначаны прэсьвітэрам Паўліна яшчэ ў 379 годзе.

Другая партыя антыяхійскіх хрысьціян не прызнавала ні Паўліна, ні Гераніма, і абірала сабе сваіх біскупаў, не належаўшых да пануючай царквы і зведваўшых абвінавачванне ў арыгенітстве. Яе кіраўніком спачатку быў Мялецій[211], а затым Флавіян. Апошняга нават патрабавалі ў Рым для апраўдання ад абвінавачвання ў ерасі, але ён адмовіўся ехаць, не прызнаючы папу сваім кіраўніком.

У іх-та, г. азн. у Мялеція і яго пераемніка Флавіяна, а не ў артадаксальнага Паўліна, і пасяліўся Ян пасьля свайго двухгадовага знаходжання невядома дзе. Мялецій прызначыў яго сваім дыяканам, а Флавіян у 386 годзе – прасьвітэрам[212].

Дзейнасць прасвітара, асабліва апазіцыйнага, да якіх належаў Ян, не была яшчэ ў гэты час той чыста звычаёвай, як зараз у артадаксальных цэрквах. Яна зводзілася, галоўным чынам, да навучання не толькі рэлігійнага, але і часта

[210] Aime Puech, p. 381.

[211] Паездка Мялеція ў Канстантынопаль для пастаўленьня Рыгора Назіанзіса (Жыція, лістапад) – відавочна легенда, так як канстантынопальскія патрыярхі высьвячаліся згодна са звычаем фракійскімі.

[212] Aime Puech: St. Jean Chrysostome et les moeurs de son temps. Paris, 1891 г.

навуковага характару і да палемікі з супернікамі, із якіх самым галоўным у Антыахіі быў, як мы ўжо адзначылі вышэй, Еранім Блажэнны. Паміж прамовамі, прыпісваемых Яну, мы знаходзім, напрыклад, нават такія, дзе разважаецца пра фізіялогію, астраномію і г. д.

Але больш за ўсё слухачоў уражваў у іх не змест, а тое, што ён іх прамаўляў прама, а не чытаў па рукапісу. "Раней яго не бачылі і не чулі ў тым горадзе (заўважце, у адным із галоўных!), каб без кнігі ці хартыі прапаведавалі слова Божае: ён быў першым такім прапаведнікам"[213].

Чытаючы яго прамовы ў сучасных выданнях, мы перш за ўсё павінны мець на ўвазе наступную важную акалічнасць: тую што карыстаючыся грэцкім альфабэтам немагчыма пісаць не толькі стэнаграфічна, але нават бегла, а г. азн., што ўсе ўзоры яго прамоваў, якія дайшлі да нас у творах сярэднявечных манахаў, варта лічыць падробленымі або складзенымі пазней па памяці кім-небудзь із яго слухачоў. У іх захаваліся, верагодна, адны толькі тэмы, а ўсё астатняе належыць складальнікам і карэктарам, або, ва ўсякім выпадку, у іх змяшчаецца шмат староннiх дадаткаў і паправак.

Справа ў тым, што старажытныя кляштарскія перапісчыкі чужых рукапісаў амаль ніколі не маглі ўстрымацца ад іх карэктавання, калі справа мела дачыненне да рэлігійных уяўленняў аўтараў. Усё, што здавалася ім у вуснах паважаемага імі пісьменніка не артадаксальным, тлумачылася імі на свой лад і перадавалася ад яго імя ў скажоным выглядзе, ці проста выкідвалася прэч пры перапісцы, як дададзенае туды папярэднім перапісчыкам, і замянялася сваімі ўласнымі прыдумкамі, нярэдка з цалкам супрацьлеглым значэннем.

Але з якім бы недаверам ні ставіліся мы да сапраўднасьці або ідэнтычнасьці дайшоўшых да нас прамоваў Яна і ўсіх старажытных прамоўцаў наогул, – ужо адно яго найменне "**Златавуст**" дастаткова паказвае, што яго павучанні вызначаліся незвычайнай для таго часу прывабнасьцю.

Кожны раз, як у Антыахіі станавілася вядома, што Ян будзе выказваць павучанне, яго прыхільнікі кідалі ўсе свае звычайныя заняткі і беглі да яго ў царкву. Аднак з гэтага яшчэ не вынікае, што Ян выказваўся вельмі зразумела і папулярна. Цалкам наадварот: яго прамовы вызначаліся той жа самай асаблівасьцю, якую мы так добра бачым у "Адкрыцці ў навальніцы і буры". Яны заўсёды характарызаваліся сваёй паэтычнасьцю, перамешанай з не вельмі зразумелымі для недасведчаных, але ўражваючымі сваёй нечаканасьцю алегорыямі.

Усе прызнаюць, што тэмы яго павучанняў адрозніваліся незвычайнай разнастайнасьцю. У стаўленні да грамадзкіх пытанняў ён, несумненна, быў вельмі радыкальным і моцна схільным да сацыялізму. "Яму, – выказваецца адзін із найноўшых французскіх гісторыкаў[214], – здаралася выказваць пра нагоды няроўнасьці паміж людзьмі ідэі, у якіх мы са здзіўленнем заўважаем надзвычайнае падабенства з ідэямі Русо"... "Усё зло паходзіць ад гэтага халоднага слова, маё і тваё (першы ліст да Цімафея, 12). Згодна з паходжаннем жа і прыродай усе людзі аднолькавыя, маюць тыя ж патрэбы і тыя ж правы... Г. азн., камунальны стан больш натуральны, чым ўласнасць... Ніхто не спрачаецца

[213] Жыція, лістапад.
[214] Aime Puech, page 67.

праз тое, што агульнае: ні праз сонца, ні праз паветра, ні праз ваду, якімі ўсе карыстаюцца на роўных правах. Няма сварак з нагоды грамадзкай уласнасці: плошчаў, порцікаў і збудаванняў, на якія ўсе маюць права”.

У гэтым становішчы знакамітага прапаведніка пры непрызнаваемым пануючай царквой біскупе Флавіяне і прабыў Ян да 387 года. І вось, як раз праз некалькі месяцаў пасьля прызначэння гэтага “правадыра народа” прэсьвітэрам у апазіцыйнай царкве Флавіяна, насельніцтва Антыёхіі паўстае супраць візантыйскага палітычнага і рэлігійнага дэспатызму і разбівае на плошчах горада статуі тагачаснага імператара Хвядоса, яго жонкі, ужо памёршай да гэтага часу, Флакілы, і яго дзяцей, нашчадкаў пасада, Аркадзя і Ганорыя.

Раззлаваны Хвядос адразу выправіў у Антыёхію сваё войска, і пачаліся катаванні і дазнанні. Шмат жыхароў разбеглася па наваколлях, а замест іх у Антыёхію збіраліся, гатовыя на сьмерць падзвіжнікі із суседніх пустынных месцаў і кляштароў з выкрываннямі ўладаў.

Вядомы пустэльнік Македоній, які прыбег са сваіх гор, спыніў на вуліцы царскіх саноўнікаў, дасланых на суд, і “загадаў ім злезці з коней”. Пачуўшы яго імя, забабонныя прадстаўнікі ўлады пакорліва падпарадкавліся, а ён прамовіў ім доўгае павучанне на тэму, што “медныя постаці нішто ў параўнанні з постацямі жывымі і разумнымі”, якіх яны зараз губяць, і пагражаў ім гневам нябеснага бога за іхную жорсткасць.

Усё гэта паказвае, што знішчэнне ўзведзеных у Антыёхіі статуй адбылося не з нагоды нейкага чыста грамадзянскага сутыкнення накшталт стэрэатыпнага “павелічэння нейкіх падаткаў”, а праз рэлігійныя нагоды, меўшыя вынікам напружанае становішча і ў іншых месцах. Гэтым напружаным становішчам таксама тлумачыцца і тое, чаму паехаўшы адразу ж у Канстантынопаль (ці выкліканы туды для апраўдання) біскуп Яна, Флавіян, змог вясной 388 года пераканаць Хвядоса спыніць сваю помсту і не знішчаць Антыёхію, як ён пагражаў, да шчэнту.

Але чаму ж для апраўданняў паехаў менавіта кіраўнік Яна, непрызнаны і падазроны для пануючай царквы біскуп Флавіян, а не афіцыйны і адзіна прызнаны для Антыёхіі біскуп Паўлін? Ужо гэта адно паказвае, што знішчэнне статуй адносілі на рахунак паствы Флавіяна і Яна, і што навальніца насуналася менавіта над іхных прыхільнікаў, а не на артадаксальных прыхільнікаў Паўліна.

Ці браў Ян нейкі ўдзел у знішчэнні гэтых імператарскіх статуй? Можна думаць, што так. Ён быў прыроджаным дэмагогам, як характарызуе яго візантыйскі пісьменнік Зосім[215]. Із яго далейшай біяграфіі мы пабачым, што падчас свайго знаходжання ў Канстантынопалі, праз 10 гадоў пасьля гэтых падзей, ён пачаў кідаць у сваіх прамовах грымоты і маланкі, як толькі на адной із плошчаў горада ўзвялі статую імператрыцы Еўдаксіі. Ён патрабаваў у сваіх павучаннях яе зрынання з калоны, нягледзячы на выклікаемы гэтым гнеў імператрыцы. Несумненна, што такога ж меркавання ён прытрымліваўся і ў Антыёхіі. Ці не былі сапраўды яго павучанні так жа (накшталт маючыхся ў Апакаліпсісе пра прыхільнікаў малюнкаў) нагодай знішчэння імператарскіх статуй і тут? Прыпісваемыя яму прамовы “Пра статуі да антыяхійскага народу”,

[215] Ἠν γάρ ό άνθροπος λογον ύπαγαγέσται δεινός – быў ён чалавек незвычайны для правадырства над звар'яцеўшым натоўпам. Ζοσ. V, 23).

складзеныя згодна з успамінамі або проста складзеныя за яго яго прыхільнікамі пад час сярэдніх стагоддзяў, нічога не кажуць пра статуі і пра неабходнасць іх знішчэння. Але тон іх усё ж такі характэрны.

“Можна падумаць, – выказваецца адзін із яго найноўшых біёграфаў[216], – што ён падзяляе віну вінаватых, што ён адчувае, як адзін із саўдзельнікаў, жах іхнай небяспекі, што пагібель, якая пагражае ім, пагражае і яму”.

Але калі нават у гэты час Ян і не быў такім рэзкім праціўнікам з'яўлення на гарадзкіх плошчах якіх бы там ні было імператарскіх выяваў, як пазней у Канстантынопалі, то ўсё ж відовішча жорсткасьцей, якія суправаджалі дазнанне гэтай справы, павінна было выклікаць у ім нянавісць да грамадзкага і духоўнага дэспатызму візантыйскіх імператараў. І яна, сапраўды, не загасла ў яго на працягу ўсяго наступнага перыяду яго жыцця, аж да самай сьмерці.

Варожае стаўленне да візантыйскага самаўладдзя яшчэ больш абвастрылася ў яго ў 393 годзе пасьля крывавай расправы імператара Хвядоса над жыхарамі Фесалонік (зараз Салонікі) за нейкае абурэнне, падставы якога яшчэ не высветлены гісторыкамі. Гэтая расправа была такой жорсткай, што ўсхвалявала грамадзкае меркаванне нават і ў заходняй палове Візантыйска-Рымскай імперыі, і міланскі біскуп Амўросій, пры праездзе імператара праз Мілан, забараніў яму наведванне свайго храма ў выглядзе пакарання за яго дзікія дзеянні ў Фесалоніках.

Сапраўды гэтак жа не магло не адбіцца на стаўленні Яна да Візантыйскай імперыі пачаўшыяся ў 394 годзе, г. азн. усяго за год да вылічанага намі часу напісання Апакаліпсіса, жорсткіе рэлігійныя пераследы, якія зведалі аднолькава як язычнікі, так і ўсе хрысьціяне, якія не належалі да пануючай мікалаіцкай царквы. Яны ўсе былі пазбаўленыя ўсіх грамадзянскіх і асабістых правоў, нават права перадаваць сваю маёмасць па спадчыне. Яны не маглі больш ні прадаваць, ні купляць чаго-небудзь без спецыяльнага пасведчання ў прававерры або добранадзейнасьці, як пра гэта і гаворыцца ў 13-ай главе Адкрыцця: “і вось ён пастанаўляе зараз, каб усім, і вялікім і малым, і заможным і бедным, і вольным і рабам, выдавалі асаблівыя адзнакі (згодна з даследваннямі Ньютана, крыжы †) для нашэння іх на правай руцэ ці на галаве, для таго, каб не маглі ні купляць, ні прадаваць усе тыя, хто не мае на сабе адзнакі звера або яго імя (лацінянін), або лічбавага адлюстравання яго імя (666)”.

Усе гэтыя пераследы павінны былі моцна ўздзейнічаць на Яна. Яны былі накіраваны супраць яго аднадумцаў, таму што, як мы ўжо ведаем, ён належаў да прыхільнікаў непрызнанага дзяржаўнай царквой і адмовіўшагася ехаць да папы для апраўдання Флавіяна, а не да прыхільнікаў Паўліна, адзінага афіцыйна прызнанага антыяхійскага біскупа.

Але што ж сталася з Янам пасьля знішчэння статуй у Антыёхіі? На працягу ўсіх сямі гадоў, прайшоўшых ад антыяхійскай расправы да напісання “Адкрыцця ў навальніцы і буры”, 30 верасня 395 года (і адбыўшайся ўслед за гэтым сьмерці імператара Хвядоса), мы знаходзім прабел у яго біяграфіі. Згодна з некаторымі крыніцамі і супастаўленнямі мы можам толькі здагадвацца, што зараз жа пасьля знішчэння статуй у Антыёхіі ён быў зняволены Хвядосам ў адзіночнае зняволенне ў тым жа самым кляштары, із якога, як мы ўжо ведаем, ён

[216] Aime Puech. St Jean Chrysostome, p. 25-26.

збег у 381 годзе. Але праз два гады знаходжання, як выказваецца гісторык, "у маўклівай адзіноце" ён, відаць, зноў збег адтуль, набыўшы за гэты час моцны рэўматызм ў нагах, не пакідаўшы яго да канца жыцця.

І мы не можам запоўніць гэтага сямігадовага прабелу ў яго біяграфіі да сьмерці Хвядоса, калі не прызнаем, што ён быў аўтарам "Адкрыцця", і такім чынам, як відаць із самой яго кнігі, бадзяўся ў гэты час па Малой Азіі, дзе арганізаваў гурты сваіх аднадумцаў у Лаадыкіі, Філадэльфіі, Сардах, Фіятырах, Пергаме, Сьмірне і Эфесе, якім і адрасаваў пазней, на 41 годзе жыцця, сваю кнігу, пасьля таго як трапіў, згодна са сваім асабістым жаданнем ці зноў быў сасланы Хвядосам, на адасобленую выспу Патмас.



Мал. 66. Ян на скале.

## III. Гвалтоўнае пастаўленне Яна на канстантынопальскую катэдру пасьля з'яўлення "Адкрыцця". Яго жыццё да 13 сакавіка 399 года, калі быў прызначаны тэрмін выканання гэтага астралагічнага прароцтва (перыяд ад 30 верасня 395 г. да 13 сакавіка 399 г.)

Бываюць выпадкі, калі, не маючы на руках ніякіх летапісных звестак, сучасны гісторык валодае поўнай магчымасьцю апісаць грамадзкі настрой якой-небудзь выключнай эпохі непараўнальна больш дакладна і праўдзіва, чым маглі б паведаміць яму гэта старадаўнія летапісцы. Ведаючы, напрыклад, што 20 лістапада 393 года нашай эры было сонечнае зацьменне, цэнтр якога праходзіў праз Грэцыю, Канстантынопаль і Малую Азію, і што неба там было ў гэты час

яснае, сучасны гісторык мае поўную магчымасць апісаць усеагульную паніку ў малаадукаваных пластах канстантынопальскага грамадства, суправаджаўшую гэтую з'яву, якая мела месца за два гады да з'яўлення Апакаліпсісу. Калі ён застанецца ў межах належнай умеранасьці і будзе кіравацца тым, што ў аналагічных выпадках адбывалася і ў іншых краінах, якія стаялі на тым жа ўзроўні цывілізаванасьці, то яго выява будзе цалкам дакладнай і нават шмат лепшай за тыя, якія маглі б дайсьці да яго праз старажытных летапісцаў. У ёй не будзе, ва ўсякім разе, ні "лятучых драконаў", ні "галасоў нябачных анёлаў", ні "памёршых, якія з'явіліся са сваіх трунаў", і ніякіх іншых непраўдападобных, ці яшчэ горш – цалкам праўдападобных – прыдумак і прыкрас, з якімі старадаўнія легкаверныя гісторыкі пастаянна перамешваюць рэчаіснасць, асабліва калі яны належаць да святарства.

У такім жа становішчы мы знаходзімся і ў дачыненні да таго часу, калі раптам з'явілася кніга Яна. Мы ведаем, які жах наводзіла нават у сярэднія і новыя стагоддзі тая дзікая фантасмагорыя, якой ўяўляўся малаадукаванаму чытачу змест "Адкрыцця ў навальніцы і буры". І ўвесь гэты жах наводзілі апакаліптычныя пачвары Яна ўжо і тады, калі яго кніга даўно адышла ў мінулае, а таму і выкананне прароцтва мімаволі адносілася чытачамі да далёкай будучыні. Можна ж уявіць сабе, якім было непасрэднае ўражанне ад з'яўлення Апакаліпсісу, калі кожны разумеў яго сэнс літаральна і чакаў пачатку прадказваемых бедстваў кожную хвіліну! Праглядаемая ў кожнай радку шчырасць аўтара і яго глыбокая вера ў свае ўласныя словы, хаос дзікіх вобразаў, паспешліва нагрувашчаных адзін на другі, і захапляючы лірызм некаторых выказванняў, – усё гэта выключала ўсякую думку пра наўмысны падман. Кніга Яна павінна была выклікаць сярод хрысьціянскіх чытачоў, і нават у існаваўшым сярод іх паганскім свеце, такую паніку, якой яшчэ не бывала ў гісторыі чалавечых забабонаў[217].

Факт гэтай панікі настолькі ж несумнеўны, як несумненна і існаванне самога Апакаліпсісу. У кожным горадзе і мястэчку, дзе з ім знаёміліся ўпершыню, ён павінен быў мець наступствам усеагульны жах сярод вернікаў. Пачынаючы ад Эфеса, куды ён патрапіў першым, гэты жах павінен быў распаўсюдзіцца разам з кнігай у Смірну, Пергам, Фіятыры, Сарды, Філадэльфію і Лаадыкію, а затым пракаціцца нястрымнай хваляй і па ўсім астатнім хрысьціянскім сьвеце, па меры таго як з першапачатковага рукапісу рабіліся новыя копіі і траплялі ў іншыя гарады. Вядома, павольнасць капіявання, рэдкасць і каштоўнасць папіруса і нясхільнасць старадаўніх сектантаў дзяліцца сваімі сакрэтамі з прадстаўнікамі варожых ім веравызнанняў павінны былі, асабліва ў першыя месяцы, моцна затрымліваць распаўсюджванне кнігі, і, па ўсёй верагоднасьці, першыя копіі яе выйшлі за межы Малой Азіі не раней 396 года.

У гэты час Хвядос быў ужо некалькі месяцаў у труне, і, "фатальны згодна з лікам", сёмы імператар Аркадзь заняў яго месца ў Візантыі. Новаму імператару было ў гэты час не больш за 19 гадоў, ён толькі што адружыўся з дачкой аднаго франкскага вайсковага правадыра – Еўдаксіяй, дзяўчынай такой жа забабоннай,

---

[217] Падобная паніка мела месца ў 1000 і ў 1492 г. нашай эры, калі мінула 7000 гадоў "ад біблейскага стварэння сусвету" у 5508 годзе да Р.Х.

як і ён сам, але непараўнальна больш жывой і энергічнай. Аркадзь пры сваёй бесхарактарнасьці і млявасьці зараз жа патрапіў пад уладу сваёй жонкі, якая і пачала кіраваць праз яго пасрэдніцтва ўсёй імперыяй.

Як ні былі зацікаўлены скампраметаваныя "Адкрыццём" прадстаўнікі пануючай мікалаіцкай фракцыі ў тым, каб кніга Яна не дайшла да імператарскай пары, але гэта, вядома, было немагчыма з нагоды вырабляемага ёю громавога ўражання і жаху, распаўсюдзваўшагася сярод саміх мікалаітаў. Рана ці позна яна павінна была дайсьці да Аркадзя і Еўдаксіі і ўразіць іх жахам яшчэ больш, чым усіх астатніх прыхільнікаў хаўрусу царквы з дзяржавай.

Што ж было ім рабіць у гэтай немінучай бядзе? Вядома, нічога іншага, як паклікаць самаго першавесніка бедстваў і прызнаць яго сваім уласным прарокам. Усё, што яму было заўгодна загадаць, неадкладна выканаць, усё, што ён не прыме, неадкладна аддаць анафеме... За ўсё, чым зграшылі, неабходна прасіць шчырае прабачэнне і даць клятвеннае абяцанне выправіцца!

Усё гэта ў дакладнасьці і адбылося з Янам у сталіцы Візантыі. У 397 годзе (г. азн. каля года з паловай пасьля таго, як Ян напісаў сваю кнігу і выкліканая ёю паніка ўжо паспела дайсьці да Канстантынопаля) памёр, вельмі дарэчы, хворы і састарэлы біскуп Нэктарый. І вось, як кажа адзін із самых прававерных гісторыкаў на сваёй напаловуцаркоўнай мове, візантыйская імператарская пара "і ўсё канстантынопальскае сьвятарства, і навакольныя біскупы, і ўвесь народ", ледзь дачакаўшыся дня сьмерці свайго біскупа, ужо "патрабуюць аднагалосна", каб на яго месца пасадзілі, "мінаючы ўсіх карысьлівых шукальнікаў пасады"[218], нікога іншага як простага і да гэтага часу афіцыйна непрызнанага прасвітара Яна, пасвечанага сектанцкім біскупам Флавіянам і ніколі не быўшага ў Канстантынопалі!

Але як жа паставіўся да гэтага сам Ян, якога так нечакана ўзвысілі? У гэты час мы зноў застаём яго на радзіме, у Антыёхіі, куды ён, верагодна, быў спецыяльна выкліканы Флавіянам і старымі знаёмымі для настаўленняў з нагоды таго ж самага Апакаліпсіса. Спецыяльны імператарскі пасланнік, у суправаджэнні ганаровай варты, хутка прыехаў у Антыёхію і падаў Флавіяну ўказ выправіць у Канстантынопаль Яна, прызначаемага першым біскупам, "патрыярхам" ўсходняй царквы. Але Ян, відавочна, прыняў гэта за хітрык, каб выклікаць яго на расправу, і схаваўся ад імператарскага пасланніка ў храм, як рабілі ўсе людзі, якія баяліся перасьледу ўладаў, "і ўся Антыёхія збеглася да гэтага храма для таго, каб яго абараняць".

Не маючы магчымасьці нічога зрабіць з Янам і абараняўшым яго насельніцтвам, ўрачыстае пасланніцтва вярнулася ні з чым да імператара і імператрыцы. Пры звычайных умовах аслушнікі імператарскага ўказа зведалі б пакаране. Непакорлівы Ян быў бы выпраўлены ў зьняволеньне, а на прапанаванае яму высокае месца быў бы прызначаны "адзін із карыслівых шукальнікаў гэтай пасады". Але тут, відавочна, было не да таго, і вось імператарская ўлада робіць цалкам небывалы ўчынак...

Новаму імператарскага пасланніку, адзь'ютанту Астэрыю, было загадана выкрасьці яго із Антыёхіі. Антыяхійскі гарадзкі кіраўнік завабіў Яна ў

[218] Мураўёў. Гіст. першых. чатырох стагоддзяў хрысьціянства., стар. 336.

прадмесьці горада[219], як бы на нараду з нагоды рэлігійных сумневаў, і калі той, нічога не падазраючы, прыйшоў да яго, яго з разнастайнымі ўшанаваннямі і паклонамі гвалтоўна пасадзілі ў калясьніцу і, атачыўшы канвоем, дрыжаўшым ад жаху і глыбокай павагі, выправілі ў Канстантынопаль...

І вось, 26-га лютага 398 года[220], як раз за год да тэрміну выканання прароцтва (прызначанага на 13 сакавіка 399 года), Ян прыбыў у сталіцу Візантыйскай імперыі... "І выйшаў да яго (вядомага пад вартай, каб не збег) увесь горад са шматлікімі вяльможамі, дасланымі імператарам сустракаць яго, і быў прыняты з ушанаваннямі[221] ад цара і ўсяго сабора[222] і народа, і ўсе радаваліся з нагоды такога царкоўнага светача (якога за два гады таму не прызнавалі сваім)".

Якім чынам атрымалася прымусіць Яна (пасьля таго, што ён пісаў у сваім "Адкрыцці") пагадзіцца заняць пасаду канстантынопальскага вярхоўнага біскупа? Па ўсёй верагоднасьці, усеагульныя слёзы, раскаянне і прашэнні народа моцна размягчылі яго сэрца, і ён вырашыў маліць за іх бога сярод выкліканай ім самім ўсеагульнай панікі і чакання заканчэння свету[223].

Але факты кажуць, што і гэта ён зрабіў не адразу. Ён не жадаў прыняць прызначэння, пакуль не склічуць ў Канстантынопалі сабор із прадстаўнікоў усяго святарства Візантыйскай імперыі, і гэта патрабаванне было адразу выканана імператарам Аркадзем. Усе першарадныя біскупы былі адразу ж выкліканы ў сталіцу. Нават закаранелы вораг Яна, Тэафіл Александрыйскі, быў вымушаны пагадзіцца праз баязнь уласнага асуджэння... "і сам высьвеціў Яна".

Разглядаючы гэты незвычайны сабор у сувязі з тым фактам, што Ян быў прывезены гвалтоўна і што ў "Адкрыцці" ён грозна выкрываў пануючую фракцыю Феафіла (г. азн. мікалаітаў), нам зразумела нежаданне Феафіла і іншых яго прыхільнікаў, яшчэ не цалкам страціўшых галаву, ехаць на гэты сабор. Як бы ні запэўнівалі нас артадаксальныя гісторыкі, што гэты сабор быў скліканы толькі таму, што "імператар жадаў урачыстага пастаўленьня Яна"[224], але гэта простыя словы, таму што ні для каго іншага не збіралі сусветных сабораў, ні раней, ні пазней Яна, а прысвячалі прама, выклікаючы для гэтага фракійскага біскупа[225]. Ды і склікаць сабор у тыя часы, пры дрэнных шляхах стасункаў, было далёка не лёгка.

Нагода ж збірання ў дадзеным выпадку становіцца цалкам зразумелай, як толькі мы ўзгадаем некаторыя месцы "Адкрыцця". Відавочна, што яго аўтар не жадаў і не мог прыняць пасаду кіраўніка ўсходняй царквы, пакуль асобы, з якімі

---

[219] Dialogue historic. Palladii, episcopi Helenopolis cum Theodoro diacono, dialogus V.

[220] Aime Puech. St Jean Chrysostome, 286.

[221] Жыціі, лістапад.

[222] Διά δέ τό όξιόπιστον τής χειροτονίας παρήσαν έκ βασιλικοῦ προστάγματοσ πολλοί τε καί άλλοι έπίσκοποι καί δή καί ό τής Αλεξανδρεία Θεόφιλος Σωκράτους Σχολαστικοῦ Εκκλησιαστική Ιστορια Κεφ. β, Τομος VI, стр. 661.

[223] Эдыкт імп. Аркадзя і Ганорыя на пачатку 399 года забараніў якія б то ні было тэатральныя пастановы па нядзельных днях, а ў 400 годзе вясной да іх дадалі яшчэ тыдзень перад Вялікаднем і тыдзень пасьля яго і г. д. (Aime Puech. Page 282). Такая была паніка перад пачаткам пятага стагоддзя. Заўважым, што ў візантыйцаў новы год пачынаўся з вясны.

[224] Мураўёў. Гісторыя першых чатырох стагоддзяў хрысціянства, стар. 336-337.

[225] Там жа, стар. 345.

яму давядзецца стасавацца як з сабратамі, не далі яму ўрачыстага абяцання не рабіць больш учынкаў, за якія ён кідаў на іх грымоты і маланкі.

І калі ўсе гэтыя абяцанні былі яму дадзены біскупамі, уражанымі жахам ад перспектывы хуткага прышэсьця Хрыста, як яно апісана ў "Адкрыцці", Ян, верагодна, і пагадзіўся лічыць іх за сваіх.

На паніку ж сярод хрысьціян і, як яе вынік, незвычайную рэлігійную настроенасць пры яго прызначэнні на пасаду аднагалосна паказваюць ўсе крыніцы. "Рысталішчы і амфітэатры, – высакамоўна выказваецца Мураўёў у сваёй "Гісторыі першых чатырох стагоддзяў хрысьціянства"[226], – часова апусьцелі (*на працягу першага года яго знаходжання*), як асушваюцца берагі ад хваляў, зганяемых моцным ветрам. Народныя хвалі хлынулі ў царкву. Катэдра зрабілася занадта аддаленай, каб можна было чуць яго словы, і ён "быў вымушаны прамаўляць із амбона пасярод царквы".

Што ж ён прапаведаваў у гэты час? Я ўжо не раз пазначаў, што ідэнтычнасьці дайшоўшых да нас прамоваў усіх старажытных выступоўцаў нельга давяраць цалкам. Усе яны моцна скажоныя старажытнымі карэктарамі, правіўшымі прамовы ўсіх, каму яны спачувалі, у адпаведнасьці са сваім светапоглядам, а із выказванняў ворагаў абавязкова рабілі глупства і недарэчнасць, не кажучы ўжо пра шматлікія прамыя падлогі. Але калі мы дапусьцім, што тыя прамовы, якія прыпісваліся Яну за гэты перыяд, не вельмі пераіначаны, то яны вельмі характэрныя. У шмат якіх із іх ён прама выказваецца пра блізкі прыход Ісуса, і раз ці два намякае на 400 год пасьля яго нараджэння, што і адпавядае вылічанымаму намі 399 году, так як час нараджэння Егошуа лічыўся за год ці за два да пачатку нашай эры.

"Уладар блізка: чакайце яго. Мы не далёкія ад выканання (прадказання), і свет ужо схіляецца да канца. Пра гэта сведчаць войны, бедствы і землятрусы. Гэта сведчыцца збядненнем шанавання. Як цела ў перадсьмяротнай агоніі адчувае разнастайныя болі, як будынак перад крушэннем губляе адвальваючыяся дошкі даху і сьцен, так і бедствы, якія нарынулі з усіх бакоў, абвяшчаюць заканчэнне свету". Такія ж месцы мы знаходзім і ў іншых прыпісваемых Яну прамовах[227].

Ва ўсіх іх гучыць, акрамя таго, яшчэ адна струна, цалкам адпавядаючая дадзенаму моманту. Ён усюды выказваецца пра бязмежную божую міласэрднасць да каючыхся грэшнікаў і пра неабходнасць не адчайвацца у сваім выратаванні нават і пры самых жудасных грахах, калі хто паспее ў іх своечасова раскаяцца: "Нават свайго ўласнага здрадніка Юду, – кажа ён у сваёй першай жа прамове гэтага перыяду,[228] – дараваў бы Хрыстос, калі б той не запаў у адчай і не павесіўся. Раскаяўся Юда. Зграшыў, сказаў ён, прадаўшы кроў невінаватую. Пачуў гэтыя словы спакуснік, зразумеў, што той уступае на лепшы шлях і пачынае ісьці да выратавання, і спалохаўся выпраўлення. Міласэрднага, маўляў, маеце ўладара: калі Юда меў намер яму здрадзіць, ён заплакаў сьлязьмі над ім і шмат ўмаўляў яго (гэтае ўмаўленьне адсутнічае ў дайшоўшых да нас евангеллях). У колькі ж разоў хутчэй ён прыме таго, хто каецца... І прыгнаў яго

---

[226] Стар. 333.

[227] Aime Puech. St. Jean Chrysostome, p. 310.

[228] Сьвятога Яна Златавуста павучанні. Выд. 1877 г.

да павешання, і вывеў із дзейснага жыцця, і пазбавіў яго імкнення да пакаяньня. А тое, што Юда выратаваўся б, калі б застаўся жывы, пацвярджаецца лёсам распінацелей, таму што Ісус выратаваў вешаўшых яго на крыжы і на самім крыжы маліў пра іх бацьку”...

Усе дзевяць прамоваў, якія складаюць гэтую серыю павучанняў, уяўляюць толькі розныя матывы на тую ж самую тэму, цалкам адпавядаючы стану ўсеагульнага жаху і пакаяньня перад заканчэннем свету. Але ёсць і іншыя тэмы, магчыма належачыя да таго ж першага году яго знаходжання ў Канстантынопалі.

У адной із гэтых прамоваў Ян раіць, напрыклад, заможным людзям “ўставаць ноччу са сваіх шыкоўных ложкаў і назіраць перамяшчэнні нябесных свяцілаў пасярод глыбокай маўклівасьці і вялікай цішыні ночы, асвяжаючай і палягчаючай душу, таму што змрок і спакой ночы абуджаюць глыбокую павагу, а людзі, якія ляжаць на сваіх ложках, як у магілах, адлюстроўваюць заканчэнне свету”.

За два гады, прайшоўшыя з таго часу, як ён складаў на зацішнай выспе сваё “Адкрыцьцё”, яму, вядома, шмат давялося пражыць і перадумаць. У той час як усіх астатніх людзей, з кожным новым месяцам набліжэння тэрміну, ахоплівала ўсё большая і большая паніка, у яго самога ўсё больш і больш павінна было ўзнікаць сумневаў у тым, што яго прадказанне споўніцца ў той самай форме, у якой ён меркаваў. У тым, што яно было боскага паходжання, ён, як мы пабачым далей із некалькіх яго павучанняў, не сумняваўся да самага канца. Але адсутнасць шматлікіх із прадказаных ім прамежкавых падзей ужо павінна была прымусіць яго здагадвацца, што бог паставіўся да яго так жа, як да прарока Ёны, якому ён даручыў абвясьціць пагібель вялікага горада Нінэвіі, а потым пашкадаваў горад з нагоды ўсеагульнага раскаяння яго жыхароў і пашкадаваў яго, пакінуўшы Ёну плакаць пад кустом. Ці шкадаваў і Ян пра тое, што частка із прадказаных ім бедстваў была ўжо адменена богам? Відаць, не, таму што ён быў вельмі мяккасэрдны. Яго “вялікая цьвярдыня Брама госпада” зараз ўяўлялася яму каючайся Магдалінай, якой яна, несумненна, і была ў гэтыя прамежкавыя гады, калі ўсе мікалаіцкія біскупы лічылі, што дамоклаў меч ужо апускаецца на іхныя галовы.

І вось, у рэшце рэшт, Яну, які не назіраў прадказаных ім бедстваў, відаць, стала здавацца, што Бог зліатаваўся над грэшнымі біскупамі і адмяніў вялікую частку прызначаных для іх у “Адкрыцці” пакаранняў. Прынамсі, у шмат якіх із прыпісваемых яму за гэты час павучаннях наўпрост гаворыцца, што бог часта натхняе сваіх пракаў на такія прароцствы, якім не наканавана спраўдзіцца, з адзінай мэтай напалохаць грэшнікаў, каб прывесьці іх да раскаяння і затым адмяніць прызначаную для іх кару. Надзвычай цікавыя некалькі месцаў, якія знаходзяцца ў некаторых із гэтых прамоваў, але я буду цытаваць іх далей, так як шмат якія з іх адносяцца ўжо да 399 і 400 гадоў, калі прароцтва зведала канчатковае фіяска, і на Яна пачала паднімацца бура.

У гэты ж час, г. азн. ад яго гвалтоўнага прызначэння на канстантынопальскую катэдру 26 лютага 398 года і да канца 400-га года (калі разам са шчаслівым заканчэннем чацвёртага стагоддзя ўсе раптам апомніліся), яго дзейнасць была накіравана галоўным чынам на знішчэнне разнастайных

заганаў, назапашаных у візантыйскай царкве, на скарачэнне фармальнага боку яе набажэнстваў, на наладжванне вячэр згодна з ўзорам старажытных хрысьціян (як пра гэта і пісаў ён у “Адкрыцці” ў пасланні да эфескага згуртавання сваіх аднадумцаў) і на прымірэнне паміж сабой варагуючых фракцый хрысьціянскага свету.

Перш за ўсё, вядома, ён паспрабаваў прымірыць абнавіўшуюся у яго вачах панаваўшую фракцыю са сваім былым біскупам Флавіянам, не прызнаваемым ёю за біскупа нават і пасьля ўзвелічэння Яна. З гэтай мэтай у Рым згодна з яго жаданнем выправіліся вярэйскі біскуп Акакій і прэсьвітэр Ісідор. Тое, што раней лічылася немагчымым, зараз вырашылася вельмі лёгка: яны хутка вярнуліся і прывезлі **таварыскія граматы** Флавіяну[229], а з ім, відавочна, і ўсім арыгенітам.

Сапраўды гэтак жа ён змог схіліць да сябе і арыян. Варожасць паміж імі і мікалаітамі была такой вялікай, што паміж абедзвюма фракцыямі пастаянна адбываліся пабоішчы на вуліцах Канстантынопаля і іншых гарадоў, асабліва калі сустракаліся дзве супрацьлеглыя рэлігійныя працэсіі. Прымірыць іх было б цалкам немагчыма ў звычайны час, але Яну ў яго выключным становішчы ўдалося зрабіць нават гэта, хоць і на кароткі час. Арыянская фракцыя паставілася да яго настолькі добра, што гоцкія арыяне прасілі яго ўласнаручна высьвеціць да іх у біскупы прасвітара Ўлінаса, што і было выканана Янам.

Зараз, калі мы ведаем час стварэння “Адкрыцця” і змаглі ўжо пераканацца, што яго аўтарам быў сам Ян, мы можам прама сказаць, што ў першыя гады яго кіравання не было і не магло быць ні мікалаітаў, ні арыян, і ніякіх іншых хрысьціянскіх сект: усе былі арыгенітамі, ці, дакладней, іаанітамі, як і называліся ў той час прыхільнікі Яна. Потым, калі мінулі гэтыя жудасныя тры гады штодзённага чакання заканчэння свету, калі наступіла новае пятае стагоддзе і сам Ян, без сумневу, абвясьціў, што Бог злітаваўся над грэшнікамі і адклаў на доўгі тэрмін свой прыход на Зямлю, усе ранейшыя захапленні, як зараз пабачым, выліліся з новай магутнасьцю і змялі з твару зямлі і самога Яна, і ўсіх яго сяброў, і прыхільнікаў...

[229] Мураўёў. Гісторыя першых чатырох стагоддзяў хрысціянства, стар. 314 і 315.



Мал. 67. Шлях Апакаліпсіса па Малой Азіі.

# IV. Фатальны дзень 13 сакавіка 399 года. Фіяска астралагічнага прадказання. Спробы Яна апраўдацца.

Я не буду спыняцца на шэрагу цудоўных здарэнняў, якімі аздобілі старажытныя візантыйскія гісторыкі ўвесь гэты перыяд жыцця Яна, каб із майго апавядання не атрымалася аповядання падобнага на тысячу і адна ноч. Я прама перайду да ракавога для яго дня 13 сакавіка 399 года, калі, згодна з яго астралагічнымі вылічэннямі, Ягня із сузор'я Авена павінна было спусьціцца на Зямлю на ярка-белым кані – Юпітэры. Пра тое, што сыходжаньне Хрыста на Зямлю мела адбыцца ў гэты самы нядзельны дзень, верагодна, ведаў толькі ён адзін, так як ён зашыфраваў яго ў 11, 12 і 19-й главах “Адкрыцця” настолькі добра, што цэлых паўтары тысячы гадоў ніхто нічога не мог разабраць. Але можна думаць, што ў агульным выглядзе ён не раз намякаў і нават проста паведамляў сваім сябрам у інтымных размовах, што ўсё скончыцца ў 399 годзе і што наступнае за гэтым пятае сагоддзе ўжо будзеце “царствам ўладара нашага Ісуса Прысвечанага”[230].

Ад яго асабістых сяброў гэтае паведамленне непазбежна павінна было распаўсюдзіцца і далей ад вуха да вуха. У рэшце рэшт, ні для каго із вернікаў не заставалася таямніцай, што падзея звязана з апошнімі гадамі чацвёртага

[230] У прамовах, якія прыпісваюцца Яну Антыяхійскаму (Златавусту), ёсць прамыя ўказанні на гэтую дату: на 400-ы год п а с ь л я нараджэння Хрыста (399-й нашай эры). См. Aime Puech: St Jean Chrysostome et les moeurs de son temps, 1891, p. 311.

стагоддзя ад нараджэння Хрыстова, хоць дакладна “пачатку” пятага стагоддзя ніхто не ведаў, таму што час нараджэння Егошуа-Ісуса не быў тады афіцыйна вызначаны. Чатыры стагоддзі былі дадзены людзям, каб яны паверылі ў яго, а пятага ўжо не будзе, думалі ўсе прыхільнікі Яна, і гэта цалкам адпавядала паданням старажытных, што ўсё ў свеце звязана з лічбамі...[231]

Але вось, калі староннія асобы яшчэ працягвалі ў жаху чакаць выканання прароцтва, фатальны дзень для Яна ужо мінуў, і нічога асаблівага не адбылося ў прыродзе... Як перанёс гэта Ян? Указанні на гэта мы знаходзім у яго ўласных прамовах з нагоды прарока Ёны. Гісторыя абодвух прарокаў такая падобная, што я вырашыў прывесьці караценькае біблейскае паданне пра Ёну амаль цалкам:

“І было слова ўладара да Ёны, сына Амафіі: устань, ідзі ў вялікую цьвярдыню Нінэвію[232] (*як і Яну было загадана прапаведаваць супраць вялікай цьвярдыні Вавілона*) і павучай у ёй, бо зладзействы яе дайшлі да мяне.

І ўстаў Ёна, каб бегчы ў Тарсіс ад постаці ўладара (*як, магчыма, і Ян на Патмас*)... Але паднялася бура, і маракі выкінулі ў мора Ёну, бо даведаліся гэтыя людзі, што ён уцякае ад постаці ўладара, як ён сам паведаміў ім.

І загадаў валадар вялікаму кіту праглынуць Ёну. І быў Ёна ў чэраве гэтага кіта тры дні і тры ночы. І памаліўся Ёна валадару, богу свайму, з чэрава кіта... І бог загадаў кіту выкінуць Ёну на сушу.

І ўстаў Ёна, і пайшоў у Нінэвію згодна са словам валадара. Нінэвія ж была горадам вялікім у бога, на тры дні хады.

І пачаў Ёна хадзіць па гораду і прапаведаваць, кажучы: “яшчэ **сорак** дзён[233] – і Нінэвія будзе разбурана!” І паверылі нінэвіцяне Богу, і абвясьцілі пост, і апрануліся ў рубішчы ад вялікага зь іх да малога (*як і канстантынопальцы пры Яне*). І дайшло гэтае слова нават да цара Нінэвіі, і ён устаў (*як Аркадзь ў Яна*) з пасаду свайго і зняў з сябе царскае адзеньне, і апрануўся ў рубішча, і сеў на попел.

І пабачыў бог справы іхныя, што яны звярнулі з благога шляху свайго, і пашкадаваў бог насылаць пакуты, якія абяцаў, што навядзе на іх, і не навёў.

Ёна моцна засмуціўся праз гэта і быў раздражнёны. І маліўся ён валадару, і прамовіў: “О, валадар! Ці не гэта гаварыў я, калі яшчэ быў у краіне маёй? Таму я і збег у Тарсіс, я ведаў, што ты бог добры і міласэрдны, шматцярплівы і шматлітасьцівы, і пашкадуеш пра бедствы. (*Чытач сам бачыць, што гэтыя разуменні пра Бога носяць відавочна хрысьціянскі, а не старажытна-біблейскі характар.*) І зараз, валадар, вазьмі душу маю ад мяне. Бо лепей мне памерці, чым жыць (*ілжэпрарокам*)”.

І адказаў валадар: “Няўжо гэта засмуціла цябе так моцна?” А Ёна выйшаў із горада і сеў каля ўсходняга боку. Ён зрабіў сабе будан і сеў пад ім у цень, каб пабачыць, што будзеце з горадам. І вырасьціў валадар-бог расліну, і яна паднялася над Ёнам, каб над галавой яго быў цень і каб пазбавіць яго ад засмучэньня. Ёна вельмі ўзрадаваўся расьліне. І зладзіў бог так, што на другі

[231] Я ўжо згадваў, што аналагічныя прадказанні былі зроблены на 1000-ы год нашай эры і на 7000-ы ад біблейскага стварэння сусвету.

[232] Я перакладаю тут грэцкае слова “поліс” – цвярдыняй, так як яно перакладзена гэтым словам у Апакаліпсісе.

[233] У спісах 4-га стагоддзя было толькі 3 дні, як у прароцтве Яна 3? гады.

дзень, як толькі занялася зара, чарвяк падтачыў расьліну, і яна засохла. А калі ўзышло сонца, навёў бог сьпякотны ўсходні вецер, і сонца пачало пякчы галаву Ёны, так што ён зьнямог і прасіў сабе сьмерці, і прамовіў: “Лепш мне памерці, чым жыць”.

І прамовіў бог Ёне: “Няўжо так моцна засмуціўся ты за расліну?” Ёна адказаў: “Вельмі засмуціўся, нават да сьмерці”. Тады валадар прамовіў: “Ты шкадуеш пра расьліну, над якой ты не працаваў і якую не вырошчваў, якая за адну ноч вырасла і за адну ж ноч і прапала. Ці не мне ж пашкадаваць Нінэвію, вялікую цьвярдыню, у якой больш за дваццаць тысяч чалавек, не ўмеючых адрозьніць правую руку ад левай, і мноства быдла?”

Гэтая кароценькая легенда так дыхае новазапаветнымі ўяўленнямі пра бога першых стагоддзяў хрысьціянства, і так нагадвае гісторыю самога Яна, якой яна ўяўляецца пасьля майго вылічэнні часу “Адкрыцця”, што я не раз думаў, ці не належыць яна ўжо пачатку пятага стагоддзя, і ці не ляжыць у яе падмурку гісторыя самога няўдалага прароцтва Яна? Нават імя Ёна лёгка магло быць толькі замежным вымаўленнем імя Яна, бо ператварылася ж імя Ян у розных народаў у Яна, Жана, Джона і г. д.?

Аднак такой здагадцы супярэчаць шматлікія спасылкі на паданне пра Ёну (*адносімыя некаторымі сярэднявечнымі тэолагамі да 862 г. да Р. Х.)* у прамовах, якія прыпісваюцца самому Яну, а для астранамічнай праверкі часу свайго ўзнікнення легенда пра Ёну не дае ніякіх свдчанняў[234]. Але для нас у дадзеным выпадку гэта не мае значэння. Калі разглядаемая легенда хрысьціянскага паходжання, то яна, несумненна, мае дачыненне да Яна, жыццё якога перапоўнена разнастайнымі легендамі, і паказвае, як ён сам, яго наваколле і ўвесь народ на ўсходзе патлумачылі няўдачу прадказання. Калі ж яна больш ранняга паходжання, то яна ж і павінна была паслужыць яму тлумачэньнем яго ўласнага становішча. Сапраўды, у прамовах, якія прыпісваюцца Яну, і адносяцца да яго канстантынопальскай дзейнасьці, мы знаходзім цэлы шэраг спасылак на Ёну і іншых прарокаў, прадказанні якіх адмяняліся богам. Такімі спасылкамі як быццам апраўдваецца ён сам, ці, хутчэй, апраўдваюць яго пазнейшыя аўтары, якія складалі па чужых ўспамінах гэтыя прамовы. Вось, напрыклад, некалькі выказванняў са збору яго (?) павучанняў “Пра пакаянне”, выдадзеным у Маскве ў 1877 г. шостым выданнем на царкоўнаславянскай мове.

У першым павучанні гаворыцца: “Горад Нінэвія ўвесь выратаваўся гэтым спосабам (*г. азн. пакаяўшыся ў сваіх грахах і просячы бога злітавацца над сабой*), хаця Божы прысуд прыводзіў іх у адчай, бо не паведаміў ім прарок, што выратуюцца, калі пакаюцца, а проста папярэдзіў: “яшчэ тры дні – і Нінэвія загіне” (*у лацінскай Вульгаце і сучасных спісах замест трох дзён – сорак*). Аднак хаця і бог пагражаў і прарок крычаў, а таксама і папярэджванне не ўтрымоўвала ў сабе ніякай адтэрміноўкі або ўмовы, яны не ўпалі духам і не пакінулі добрых надзеяў. Для таго-та і не перадаў бог ўмову і не паведаміў, што калі пакаюцца, то выратуюцца, **каб таксама і мы, чуючы (*зараз*) Божае вызначэнне, якое вымаўляецца без ўмовы**, не адчайваліся і не слабелі, бачачы такі прыклад”. Падкрэсленыя словы тут характэрныя: мы вельмі часта чуем “Божыя прысуды, вымаўляемыя без умоваў”, каб пра іх варта было згадваць ні з таго, ні з сяго ў

[234] Месца ў Лукі (XI, 29-30) можна лічыць занесеных перапісчыкамі.

звычайны час. Па ўсёй верагоднасьці, гэтае месца менавіта і мае дачыненне да тагачаснага чакання другога прышэсьця Хрыста і да прадказаных ў "Адкрыцці" бедстваў.

У другім павучанні прыводзіцца прыклад нявыкананага прароцтва Іліі Ахаву: "І прапануе Ілія Ахаву вызначэнне такімі словамі: Так кажа бог: за тое, што ты забіў Навуфея і ўзяў у спадчыну сабе яго вінаграднік, і праліў кроў невінаватага чалавека, так пральецца і твая кроў і сабакі выліжут яе, і прадажныя жанчыны абмыюцца ў ёй (у Вульгаце і сучасных спісах апошні выраз адсутнічае, ды і ўсё месца рэдагуецца інакш, гл. 3-я Царстваў, гл. 21, на прыканцы). Але Ахаў прызнаўся ў няпраўдзе, і бог адмяніў прызначаны для яго прысуд". "Аднак перад гэтым, – працягвае Ян у сваёй прамове, – папрасіў прабачэння бог у Іліі, каб ён не выявіўся ашуканцам і не зведаў такія пакуты, якія зведаў Ёна... Што ж бог сказаў Іліі? Бачыў ты (прамовіў ён), як пайшоў Ахаў, плачучы і наракаючы перада мной? Не зраблю, як ён заслугоўвае па сваёй злосьці (у Вульгаце і сучасных спісах гаворыцца, што бог толькі перанёс помсту з бацькі на сына)". Затым і ў гэтым павучанні зноў паўтараецца ўсё апавяданне пра Ёну, а астатні яе змест усё – пра надзею на міласэрнасць Божую да ўсіх каючыхся грэшнікаў.

У пятым павучанні аўтар зноў вяртаецца да Ёны і, паўтарыўшы ўсё апавяданне пра яго няўдалае прароцтва, робіць такую выснову: "Чаго ж дзеля, божа, прадвяшчаеш бедствы?" *Для таго*, адказвае ён, *каб не зрабіць мне таго, што прадказваю*. Для гэтага ён і геенаю пагражаў нам (*верагодна, у нядаўнім "Адкрыцці ў навальніцы і буры"*), каб не паслаць нас у яе: "хай, маўляў, напалохаюць вас словы, а не засмуцяць учынкі!"

У сёмым павучанні паказваецца на сэнс сямідзённай адтэрміноўкі падзення Ерыхона і гаворыцца: "Ты моцны (божа) зрушыць горы з месца і паваліць іх у мора, а аднаго зацятага горада не хочаш сьцерці, але сем дзён прызначаеш да яго спусташэння! Навошта? Не магутнасць мая, адказвае ён, не мае моцы, а міласэрнасць павольная! Даю сем дзён, як Нінэвіі тры дні, і можа стацца, што горад гэты прыме пропаведзь пра пакаянне і ўратуецца!" Тут праглядаецца такое моцнае жаданне аўтара падабраць із Бібліі як мага больш прыкладаў адносна адмененых богам прароцтваў, што ён запаў нават у міжвольную нацяжку, надаючы такое тлумачэнне загаду бога Ісусу Навіну (Навін, глава 6) сем дзён абыходзіць Ерыхон з трубнымі гукамі, раней чым ўпадуць яго сьцены. У Бібліі няма і намёку на магчымасць такога тлумачэння, якое дае гэтым абыходам Ян.

Нарэшце, у чацвёртым павучанні гэтай серыі (якое, па ўсёй верагоднасьці, было апошнім з іх, так як іх парадак не вызначаны), мы чытаем: "Калі мы былі збянтэжаныя ад голаду і мору, ад граду і бездажджоўя, ад пажараў і непрыяцельскага нашэсьця, ці не ўсякі дзень базілікі былі перапоўнены з нагоды збіраючагася народу?.. Калі ж адмяніў бог гэты гнеў і, спыніўшы нягоды, усталяваў цішыню *пасьля такой буры*, мы зноў вярнуліся да нашых ранейшым заняткаў. І хаця я не пераставаў пра гэта прадказваць і паведамляць *у самы час спакусы*, аднак вы ніколькі не скарысталіся гэтым. Вы выкінулі ўсё гэта із вашых думак, як сон у мінуўшую ноч. Таму і баюся я зараз больш, чым тады, як бы не наклікаць вам на сябе нягод больш цяжкіх, чым першыя, і каб не атрымалі вы ад бога невылечваемай раны".

У гэтым павучанні адчуваецца як быццам ужо заспакаенне публікі ад ўсеагульнай панікі, якая была нагодай гвалтоўнага прызначэння Яна ў Канстантынопаль, калі “цыркі і амфітэатра апусьцелі, як асушваюцца берагі ад хваляў, зганяемых моцным ветрам”. Вядома, я далёкі ад думкі (як ужо не раз згадваў) лічыць гэтыя прамовы стэнаграфічнымі запісамі са слоў самога Яна, а не складзенымі за яго пазней па ўспамінах або паданнях. Параўноўванне тых із іх, якія дайшлі да нас у двух старажытных копіях, дастаткова паказвае, што да іх ставіліся безцырымонна[235]. Аднак некаторыя асаблівасьці прыводзімай намі серыі выяўляюць іх вялікую праўдападобнасць. На карысць гэтага сведчыць, перш за ўсё, поўная адсутнасць у іх якіх бы там ні было спасылак на “Адкрыцьцё ў навальніцы і буры” і на евангелле ад Яна, хоць шматразова цытуюцца тры астатнія евангеллі, а таксама шматлікія кнігі із Бібліі і асабліва пасланні Паўла.

Мімаволі адчуваецца, што гэтыя прамовы былі рэдагаваны людзьмі, для якіх яшчэ не былі згублены веды пра прыналежнасць Апакаліпсіса гэтаму самаму Яну. Нават у тых месцах, дзе адмыслова гаворыцца пра другое прышэсьце Хрыста, як, напрыклад, у прамове “У дзень сыходжання Святога Духа”, рэдактар не адважыўся выкарыстаць цытаты із “Адкрыцця”: “Калі жадаеце, паведамлю вам і нешта жахлівае, але не для таго, каб засмуціць, а каб выправіць вас. Тады вогненная рака[236] пацячэ перад пасадам гэтым (*г. азн. небам*), тады скруткі папірусу адкрыюцца, і будзе праведзены суд жахлівы і грозны, і будуць прачытаны запісы нашага жыцця, як і ў зямных судах. Пра скруткі ж тыя шмат згадвалі пракрокі”.

У падцверджанне гэтых слоў перадатчык Яна прыводзіць цытаты із Майсея і Давыда, словы Ісуса ў Лукі, затым цытуе Малахію, прыповесьці Саламона і пасланне Паўла да Каласян[237]. Адным словам, ён выбірае ўсе макулінкі із таго “старога і новага запаветаў”, якія былі пры ім, а пра галоўнае із усіх найноўшых прароцтваў, і прытым такое, якое зараз прыпісваецца самаму шануемаму із вучняў Ісуса, ні аднаго слова! Калі б гэтыя прамовы былі рэдагаваны пазней, і прытым чалавекам, якія не ведаў пра стварэнне “Адкрыцця” самім Янам, то ён, напэўна, перапісаў бы тут усю 20 главу “Адкрыцця”, спецыяльна прысвечаную гэтаму “жахліваму і грознаму суду” і гэтай “вогненнай рацэ ці лагуне”.

[235] Параўнайце, напрыклад, гутарку пра Юду Іскарыёцкага, якая патрапіла ў той жа самы цытуемы намі зборнік у двух спісах: першы варыянт пад назвай “У святы і вялікі чацвер”, а ў другі пад назвай “Пра божую вячэру”.

[236] Цікава, што ў асяроддзі рускага народа яшчэ ў сярэдзіне 19-га стагоддзя захавалася ўяўленне пра вячэрняе зарыва як пра полымя над вогненнай ракой, бягучай за гарызонтам. Такімі былі мае ўласныя дзіцячыя ўяўленні пра яго, атрыманыя ад старой няньки. Калі Яна пыталіся пра месца, дзе знаходзіцца пекла, ён адказваў, што за межамі той прыкрытай шкляным каўпаком скрыначкі, якую яго сучаснікі і ён сам лічылі сусветам. Гэта цалкам адпавядае паданням, які адлюстраваны ў гл. 14, ст. 20, дзе вогненная паласа вячэрняга зарыва змяшчаецца па-за “цвярдыняй”. Гл. Aime Puech: St Jean Chrysostome et les moeurs de son temps. Paris, 1881, page 194.

[237] Вось гэтыя цытаты цалкам, у Майсея: “Прабач ім грахі іхныя, а калі не, дык сатры і мяне із кнігі, у якую ты ўпісаў” (Зыход 32, 32). У Лукі: “Радуйцеся таму, што імёны вашы напісаны на нябёсах” (10, 20). У псальмах (138, 16): “У тваёй кнізе запісаны ўсе дні мне назначаныя, калі не было яшчэ ні аднаго з іх”. У Малахіі (3, 16): “Перад постаццю яго пішацца памятная кніга пра тых, што баіцца госпада”. А ў доказ таго, што пры нашым раскаянні “грахі не толькі згладжваю” (із гэтых скруткаў), але пры гэтым і вычышчаюцца, каб “і адзнакі ад чарнілаў не заставалася”, прыводзіцца цытата ад Паўла: “вынішчыў (Ісус) вучэннем сваім напісаны супраць нас рукапіс (Каласянам 2, 14).

Параўноўваючы ўсе прыведзеныя месцы пра Ёну і іншыя не апраўдаўшыяся прадказанні, нельга не заўважыць, што аўтар гэтых прамоваў імкнецца чамусьці паказаць на іх пры ўсякай зручнай нагодзе. Чаму ж ён выяўляе такую цікавасць да гэтай тэмы пра няўдалыя прадказанні, якой пазбягаюць ўсе астатнія пісьменнікі, якія намагаюцца пераканаць, што рашэнні бога адмяніць нельга? Таму, адкажу я, што яму была патрэба апраўдаць імі, як у сваіх вачах, так і ў вачах іншых, адмену прароцтва Яна. Прамова, у якой Ян павінен быў афіцыйна апавясьціць да 399 або 400 года, што ўсе прадказаныя бедствы, а з імі і сам прыход Езуса на Зямлю адкладваецца, з нагоды ўсеагульнага пакаяння, на нявызначаны час, не дайшла да нас, ды і не магла дайсьці, пасьля таго як само прароцтва вырашылі прыпісаць іншай асобе і часу. Дробныя ж адгалоскі другарадных апраўданняў Яна, выказваемых пры іншых падыходзячых выпадках, як мы зараз бачым, захаваліся ў адрывістых нататках, усё адно, ці уяўляюць яны ўласныя прамовы Яна, ці рэдагаваны за яго праз некалькі дзясяткаў гадоў па ўспамінах яго прыхільнікамі.

Мяркуючы па некаторых із цытаваных намі месцаў і па наступных паводзінах Яна, можна думаць, што пасьля першага перыяду засмучэння ад няўдачы, калі ён, верагодна, як і Ёна, маліў бога пра смерць, да яго зноў вярнуліся і вера і бадзёрасць, і ён залічыў сябе нават да ліку тых пракакаў, якіх бог загадзя папярэдзіў пра адмену свайго рашэння. Яго погляды на “боскае натхненне” давалі яму поўнае права зрабіць такую выснову. Пасяліўшы ў яго душы шкадаванне да каючыхся грэшнікаў, дапусціўшы яго выкраданне із Антыёхіі і не выканаўшы шэрагу прамежкавых прароцтваў, бог як бы загадаў яму ўсумніцца самому ў няўхільнасьці прароцтва і супакойваць усіх надзеяй прабачэння ў выпадку пакаяння...

Прынамсі, Ян цалкам так і дзейнічаў у Канстантынопалі. Ён увесь час павучаў пра пакаянне, як сродак атрымаць прабачэнне ад бога, і энергічна знішчаў шматлікія заганы святарства ў сваім “патрыярхаце”, да якога належала 6 біскупстваў Фракіі, 11 Малой Азіі і 11 Понта[238]. У той час, як усе астатнія із вядомых нам старажытных прапаведнікаў вызначаліся легкавернасьцю да ўсяго цудоўнага і распаўсюджвалі ўсякія небыліцы, якія хадзілі ў іхны час, з мэтай падцверджання сапраўднасьці свайго вучэння, адзін Ян адважыўся у прынцыпе адкінуць магчымасць тварыць цуды ў яго час. “З якой нагоды зараз спынілася і аднялася ў людзей гэтая магчымасць (*даказваць сваю правату цудамі*)? Не таму, каб бог меў жаданне нас пакрыўдзіць, але, наадварот, каб ушанаваць! Жадаючы паказаць нашу веру, ён робіць так, што мы і без рэчаісных доказаў верылі яму. Тыя (ранейшыя) не паверылі б нябачным доказам, калі б загадзя не атрымалі цудаў і закладаў, а я і без таго веру. Вось нагода, праз якую зараз не бывае цудаў”.

# V. Паездка Яна ў Азію. Шалёныя праследы яго і арыгенітаў.

[238] Мураўёў. Гісторыя першых чатырох стагоддзяў хрысьціянства, стар. 340.

Вельмі цікавы з нашага боку гледжання таямнічы з'езд малаазійскіх і некаторых іншых біскупаў у Канстантынопалі ў 400 годзе, г. азн. адразу пасьля фіяска апакаліптычнага прадказання Яна. Навошта яны з'язджаліся? Старажытныя гісторыкі не пажадалі паведаміць гэтага нашчадкам. Толькі Паладый няпэўна намякае на з'езд, але не паведамляе пра яго мэты[239].

Зараз мы напрасткі можам сцвярджаць, што сябры Яна з'язджаліся для абмеркавання таго, што ім рабіць зараз, калі Ісус не з'явіўся ў прызначаны яму тэрмін. Тым жа самым тлумачыцца і яго трохмесячная вандроўка па Малой Азіі пасьля свята каляд у гэтым жа 400 годзе.

Мы дрэнна ведалі б псіхалогію старажытных, калі б дапусьцілі, што жыхары і ўлады маглі выпусьціць яго із Канстантынопаля раней таго, калі была канчаткова адменена пагражаўшая ім пагібель, г. азн. раней 25 снежня 400 года. Як бы ні супакойваў іх Ян пасьля 13 сакавіка 399 года, але ў вачах людзей, не разумеючых яго астралогіі, падзея непазбежна павінна была быць злучанай з заканчэннем першых чатырох стагоддзяў, і раней за гэты тэрмін ім немагчыма было супакоіцца. А раптам Ян хітруе? Адпусьцяць яго із горада, а ў гэты самы момант і пашле Бог усе прадказаныя бедствы? Не, няхай ужо лепш ён застаецца закладнікам. Бог яго пашкадуе і не разбурыць горад абяцаным землятрусам, такім землятрусам, “якога не было яшчэ з тых часоў, як людзі жывуць на Зямлі”. І можна быць упэўненым, што ўсе пільна сачылі, як бы прарок не збег, так як і прывезены ён быў гвалтоўна, пад вартай...

Ды і сам Ян не мог быць цалкам упэўнены да гэтага часу, што Ісус не прыйдзе зусім. Ён мог адтэрмінаваць толькі свой прыход да заканчэння поўных чатырох стагоддзяў. Усё гэта так адпавядае лічбавым уяўленням аўтара “Адкрыцця”, ды і ўсіх старажытных.

Сама астралогія ні трохі не супярэчыла гэтаму, таму што апошняе праходжанне Сонца, Месяца, Меркурыя, а магчыма і яшчэ нейкай із планет праз злавеснае сузор'е Скарпіёна павінна было скончыцца толькі 8 снежня 400 года[240].

Але вось і гэтыя небяспечныя дні прайшлі добра. Ян, вядома, супакоіў усіх у Канстантынопалі і атрымаў, нарэшце, адпачынак для таго, каб з'ездзіць у Малую Азію і асабіста растлумачыць рэчаіснасць у тых сямі гарадах, якім ён непасрэдна адрасаваў сваё прароцтва.

Ён спешна выправіўся ў Эфес і іншыя малаазійскія гарады, “нягледзячы на зімовы час і дрэнны стан здароўя”. Нагоды, выстаўляныя для гэтага візантыйскімі гісторыкамі, такія ж супярэчлівыя і незадавальняючыя, як і нагоды ўсіх іншых незвычайных здарэнняў у жыцці Яна пасьля з'яўлення “Адкрыцця”.

Чаму ён не мог пачакаць нават двух-трох месяцаў да пачатку лета і “паехаў, нягледзячы на хваробу і рэўматызм ў нагах”? Таму, адказвае нам Паладый[241], што Яўсевій, біскуп валенцінапольскі, абвінаваціў Антонія, біскупа эфескага, “у карысталюбстве”, але прымірыўся з ім раней, чым паспеў прыехаць Ян для разляду справы, ды і сам гэты Антоній памёр, але эфеская абшчына усё-

[239] Tertia decima indictione venerunt Constantinopolim episcopi necessitatum quarundam gratia (Pallad. Dial., P. 50).

[240] Зараз праходжанне Сонца заканчваецца толькі каля 17 юліянскага сьнежня з нагоды недакладнасьці зорнага года з юліянскім.

[241] Pallad. Dial., P. 50.

такі “маліла Яна прыйсьці асабіста, каб пасяліць у ёй спакой”, і Ян паспяшаўся (9 студзеня 401 г.) “на жаласны яе кліч”[242].

Для нас зараз цалкам зразумела і гэтая спешность, і блытаніна візантыйскіх гісторыкаў, якія не жадалі паведамляць сапраўдную падставу. Аўтару “Адкрыцця” было абсалютна неабходна здзейсніць гэтую паездку і патлумачыцца з “сям'ю малаазійскімі гарадамі”, куды ён паслаў сваю кнігу, асабіста і на месцы, нягледзячы ні на што і пры першай жа фізічнай магчымасьці. Калі сам бог, згодна са словамі Яна, “просіць прабачэньня” перад сваімі прарокамі за адмену іх прадказанняў, то як жа прароку не паспяшацца папрасіць прабачэння перад тымі, каго ён ненаўмысна падмануў? Вядома, пры гэтым яму ніхто не перашкаджаў заняцца і некаторымі прыватнымі справамі, накшталт прызначэння на месца памёршага эфескага біскупа Антонія свайго дыякана Гераклida або пазбавіць пасады цэлы шэраг варожых яму біскупаў[243].

Але мэта склікання ім малаазійскіх біскупаў спачатку ў Канстантынопаль, а затым у Эфес на нейкія таемныя нарады для нас зараз відавочная. Ён павінен быў растлумачыць, нарэшце, сваім субратам па веравызнанні метад свайго прадказання і тое, што ўсе грозныя фігуры звяроў і выявы разнастайных бедстваў былі яму паказаны толькі сімвалічна у выглядзе воблакаў навальніцы і сузор'яў неба. Тут жа ён мог паведаміць ім і сваю тэорыю “святога натхнення”, г. азн. растлумачыць ім, што гэта азначае – быць у такім захопленым стане, калі і верыш, і паважаеш, і адчуваеш усёй істотай сваё адзінства з навакольным светам, і бачыш ва ўсіх з'явах навакольнай прыроды таямнічыя адгалоскі на кожнае сваё пачуццё.

Як маглі паставіцца да гэтага яго празаічныя слухачы, не толькі ніколі не адчуваўшыя нічога падобнага, але нават не будучы ў стане ўявіць гэта ў іншых? Наступная гісторыя Яна відавочна паказвае гэта. У той жа момант на яго галаву, і наогул на арыгенітаў, паднялася цэлая бура ва ўсёй усходняй царкве. Усе раскаяўшыяся перад тым прадстаўнікі яго “вялікай цьвярдыні”, усе “прагныя суіскальнікі яго пасада” зараз падняліся на яго і яго прыхільнікаў з тым большай злосьцю, чым мацнейшымі былі на працягу гэтых трох гадоў іхны жах і прыніжэньне. А яму, усё яшчэ перакананаму, што сам бог даў яму прароцтва і затым адмяніў яго з нагоды ўсеагульнага пакаяння, нічога не заставалася, як адказваць ім ударам на ўдар, што ён і зрабіў пры сваім аб'ездзе Малой Азіі. Але гэта толькі падліло алею ў агонь.

Не паспеў ён вярнуцца ў Канстантынопаль, як там, карыстаючыся яго трохмесячнай адсутнасьцю, замяняўшы яго “сябар Северыян”, біскуп гавальскі, пачаў цішком настройваць супраць яго маладую імператрыцу Еўдаксію, якая кіравала сваім чалавекам Аркадзем, а праз яго і ўсёй Візантыйскай імперыяй. Якія сродкі ён ужыў, не цяжка здагадацца. У “Адкрыцці” мы знаходзім не адно выказванне “пра жанчыну, апранутую ў парфіру і ў пурпур і валадарачую над зямнымі царамі” (як Еўдаксія над сваім чалавекам), а таксама пра Іезабэль, жонку Ахава, “прасьцітуірующую і з’ядаючую прынесенае ў ахвяру выявам”. Усё гэта, як мы ведаем, мела дачыненне да царквы, але выказвалася ў такой

[242] Жыціі святых. Лістапад. Мурашак. Гісторыя перш. 4 стагоддзяў хрыст., стар. 341. Amedee Thierry. St Jean Chrysostome et 1'imperatrice Eudoxie, і іх першакрыніца – Palladius. Dialogus, p. 53.
[243] Una die sexdecim episcopos deposuisse et suos loco illorum ordinasse (Pallad. Dial., P. 49).

алегарычнай форме, што для асоб, якія звыкліся з інтрыгамі, было лёгка пераканаць імператрыцу, што словы Апакаліпсіса мелі дачыненне менавіта да яе.

Сапраўды, мы і знаходзім у візантыйскіх гісторыкаў, што нядобразычлівасць імператрыцы было выклікана тым, што ён называў яе ў сваіх прамовах Іезабэллю, прасьцітуіруючай з зямнымі царамі.

Якое ўражанне павінны былі вырабіць такія інсінуацыі на маладую жанчыну, якой не было і 25 гадоў, і якая, наколькі вядома, ніколі не мела іншых каханых[244], акрамя свайго чалавека, зразумець не цяжка. Як бы пацвярджэннем гэтаму няправільнаму тлумачэньню павучанняў Яна з'яўлялася таксама і яго відавочнае ўхіленне ад усялякіх асабістых стасункаў з імператарскай парай. У супрацьлегласць ўсім сваім папярэднікам і ўсім наступным канстантынопальскім біскупам, Ян ніколі не хадзіў на імператарскія балі і ўрачыстыя прыёмы, але праводзіў час у сябе дома ў чытанні кніг.

Аднак інсінуацыі Севярыяна яшчэ не прынеслі Яну асаблівай шкоды. Архідыякан Серапіён паказаў яму, пры яго вяртанні із Малой Азіі, на таемнага ворага і Северыян быў часова выдалены са сталіцы.

Бура, якая павінна была скінуць Яна, падымалася на яго пасьля яго паездкі ў Малую Азію адусюль, але першы яе ўдар упаў не на яго, а на яго прыхільнікаў-арыгенітаў у Ягіпце, і нанёс гэты ўдар не хто іншы, як яго старадаўні вораг, Тэафіл, біскуп александрыйскі. Гэта быў той самы біскуп, які спаліў у 389 годзе ў Александрыі цэлы гарадзкі квартал, дзе знаходзіўся знакаміты храм Сэрапіса[245], які служыў александрыйскім універсітэтам і змяшчаў у сабе шмат помнікаў старажытнасьці і навуковых скарбаў, а таксама і знакамітую александрыйскую бібліятэку, дзе знаходзілася ў гэты час да 42000 скруткаў папіруса, із якіх жрацам, заспетым знянацку пажарам, удалося выратаваць вельмі нешматлікія.

У перыяд панікі 398-399 года і Тэафіл, як і ўсе астатнія, ператварыўся ў яніта і нават, як мы ўжо ведаем, уласнаручна высьвеціў Яна канстантынопальскім вярхоўным біскупам, як найстарэйшы із усіх біскупаў, якія прыехалі[246] 26 лютага 398 года ў Канстантынопаль для Яна, не жадаўшага быць стаўленікам імператара і таму патрабаваўшы сабора[247].

Але зараз Тэафіл стаў на чале ворагаў Яна адразу пасьля таго, як высветлілася няўдача прароцтва, г. азн. яшчэ на прыканцы 401 года або ў самым пачатку 402, пачаў інтрыгаваць супраць прарока. Гэта, вядома, адразу адштурхнула ад яго ўсіх шчырых янітаў, першымі із якіх і былі арыгеніты. Паміж імі ў той час асабліва вызначаліся ў Александрыі чатыры брата: Дыяскор, Амоній, Еўсевій і Яўхім, празваныя **доўгімі братамі**, таму што, згодна з выказваннем Сазамена, “не малыя былі целам”[248].

---

[244] Інсінуацыі Зосіма супраць імператарскага адз'ютанта Яна выдумана, відаць, ужо пазней: Plerique perhibebant (loannem) ejus filii, quern Arcadius habebat patrem esse (Zosim. V. 18). Thierry, 5.
[245] Socr. V, 16.
[246] Звычайна ж канстантынопальскага біскупа высьвячаў фракійскі біскуп (Мураўёў, стар. 345).
[247] Quiconque n'admirait pas Origene et ne se declarait point son disciple fut taxe par lui d'anthropomorphisme et d'heresie... tel etait a cette epoque, c'est– a– dire dans les dernieres annees du IV siecle, le zele origeniste de Theophile (A. Thierry. St Jean Chrys., p. 116).
[248] Жыціі. Лістапад. Socr. VI, 7. Sozom. VI, 30.

У перыяд узвышэння Яна да яго заляцаліся не толькі александрыйцы, але і сам Тэафіл. Старэйшага з іх, Діяскора, ён прызначыў "супраць волі" біскупам гермапольскім[249], а астатніх угаварыў "застацца з сабой і прымусіў прыняць ад сябе месца прэсвітараў". Так працягвалася да 401 года, калі, пасьля няўдачы прароцтва, Тэафіл раптам абвясьціў сябе ворагам арыгенітаў. Доўгія браты не пажадалі далей быць у яго ў якасьці прэсвітараў. Яны сышлі ў Нітрыйскую пустыню ў Ягіпце[250], куды ў гэтыя трывожныя гады ўжо збеглася ратавацца ў пустэльным подзвігу перад канцом свету некалькі тысяч чалавек.

Тэафіл загадаў падначаленым сабе біскупам разагнаць іх усіх з гор і пустыняў, як шкодных ерэтыкоў. Гэта зараз жа і было выканана яго руплівымі і падбадзёрыўшыміся зараз памочнікамі.

Выгнаннікі-нітрыйцы сышліся ў Александрыі, і некаторыя з іх пайшлі да Тэафіла тлумачыцца, так як арыгеніты ў гэты час яшчэ не былі адлучаны ніякім саборам. Але Тэафіл, "паглядзеўшы на іх", згодна з выказваннем Міней, "налітымі крывёю вачамі, і, хрыплы ад лютасьці, рушыў на іх, як апантаны дэманам". Закінуўшы за шыю Амонія свой амафор (*г. азн. доўгі кавалак палатна накшталт ручніка, пашытага пятлёй, якія і да гэтага часу носяць праваслаўныя біскупы*), ён збіў яго да крыві сваімі рукамі, крычучы: "ерэтык, праклляні[251] Арыгена!" Гэтак жа ён збіў і акрывавіў і іншых дэпутатаў і выгнаў усіх "з сорамам".

Збітыя пустэльнікі не адракліся ад Арыгена. Яны пайшлі назад, у свае хаціны на Нітрыйскую гару. А Тэафіл склікаў у Александрыі, на прыканцы 401 або на пачатку 402 г., сабор сваіх біскупаў і аддаў анафеме усіх чатырох братоў і ўсіх іх сужыцеляў у Нітрыі, як арыгенітаў і чарнакніжнікаў, знайшоўшы нейкіх сведак, якія бачылі іх пагружанымі, магчыма ў астралагічныя, заняткі па начах. Разам з імі быў праклляты і яшчэ адзін сьвятар, старац Ісідор, якога Тэафіл абвінаваціў у нейкім "ненатуральным граху".

Атрымаўшы пастанову сабора, Тэафіл неадкладна выправіўся з ім да гарадзкога епарха (г. азн. вайсковага і грамадзянскага кіраўніка). Узяўшы ў яго пяцьсот ваяроў, ён пайшоў з імі ў тую вобласць Ягіпта, дзе была Нітрыйская гара. Экспедыцыя знарок была наладжана такім чынам, каб зрабіць напад на прытулак арыгенітаў ноччу, нечакана. Ваяры кінуліся з усіх бакоў на гару і пачалі разбіваць дзверы пячор і хацін. На падставе шукання забароненых кніг яны разрабавалі ўсю маёмасць пустэльнікаў, перабілі большасць з іх і затым спалілі іхнае жыллё.

Усё гэта адбылося 10 ліпеня[252] 402 года. Усе, хто мог, разьбегліся ў цемры па наваколлі разам з чатырма "доўгімі братамі", якія схаваліся ў яры, і Ісідорам, які таксама знайшоў прытулак на Нітрійскай горы пасьля свайго выгнання із Александрыі. Спачатку ўцекачы кінуліся ў суседні Ерусалімскі патрыярхат. Але вярхоўны біскуп гэтай вобласьці Сілуян, які ў перыяд панікі таксама абвясьціў

---

[249] Чытач бачыць, што панаваўшая царква ў перыяд панікі прысвяціла прымусам да сябе ў біскупы не аднаго Яна, але і іншых арыгенітаў.

[250] Disciples fideles de 1'ecole d'Alexandrie, ils (les Longs-Freres) professaient dans les retraites de Nitric et de Scete un origenisme eclectique" (Thierry, p. 117).

[251] Ammonio viro grandaevo, cum malis ejus plagas inflixisset et pugnis nares ejus cruentasset, inclamans his vocibus: "Haeretice, anathematiza Origenem!" (Pallad. Dial., P. 22). Thierry, p. 121.

[252] Thierry, 125. Жыціі. Кастрычнік. Мурашак, стар. 343. Thierry, page 124.

сябе арыгенітам і янітам, зараз паставіўся да іх як да ерэтыкоў, і яны пайшлі далей шукаць абароны ў самога Яна. Ян іх супакоіў, размясьціў у сябе пры царкве Настассі ў Канстантынопалі, а Тэафілу напісаў ліст, у якім пераконваў яго зняць з іх адлучэнне, так як яны "правільна выказваліся пра бога"[253].

У адказ на гэта ён атрымаў ад Тэафіла ліст, які пагражаў яму самому. Уцекачы-арыгеніты ўвесь гэты час утрымліваліся Янам на сродкі адной заможнай маладой жанчыны, вядомай канстантынопальскай велікасвецкай прыгажуні Алімпіяды, рана страціўшай свайго чалавека і перадаўшай Яну ўсю сваю маёмасць на дапамогу бедным і ўладкавання прытулкаў для хворых і вандроўнікаў. Яна ўвесь час была ў сяброўскіх дачыненнях з Янам і служыла дыяканісай пры адной із яго лепшых базілік. Гэтая іх інтымнае сяброўства і паслужыла для яго ворагаў падставай абвінаваціць Яна, між іншым, і ў неманашым ладзе жыцця.

Выгнаныя арыгеніты, бачачы беспаспяховасць заступніцтва Яна, падалі ў 402 г. скаргу імператару на Тэафіла, і запатрабавалі свецкага суда над ім, насуперак умаўленьням Яна, не дапускаўшага ніякіх прашэнняў да імператарскай улады па рэлігійных пытаннях.

У выніку выйшла новая бяда для прарока. Тэафіл спісаўся са славалюбным кіпрскім біскупам, св. Епіфанам[254], які таксама ператварыўся пасьля канчатковага фіяска прароцтва (г. азн. у 401 годзе) у жорсткага ворага Яна і арыгенітаў. Да Тэафіла далучыўся і блажэнны Еранім, супернік Яна з тых часоў, калі абодва былі адначасова ў Антыёхіі ў двух варагуючых хрысьціянскіх партыях. І вось, пад зручнай падставай разглядання справы Тэафіла, шматлікія зараз ворагі Яна пачалі ладзіць у Канстантынопалі новы сусьветны сабор для нечаканага суда над самім Янам і арыгенітамі.

Усё гэта падобна на раман, а, між іншым, гэта рэчаіснасць. Былі пасланыя граматы і рымскаму папу Інакенцію, каб ён даслаў на гэты сабор прадстаўнікоў заходняй царквы. Але папа, відаць, не пажадаў браць удзел у справе, і яго прадстаўнікі не прыехалі на той нязначнай падставе, што чакалі "яшчэ аднаго запрашэння".

У выніку гэты сабор адбыўся ў лютым 403 г. з прадстаўнікоў адной мікалаіцкай фракцыі візантыйскага святарства. Ні ўсходняя, ні рымская царква зараз не лічаць яго сваім саборам, а называюць "разбойніцкім", аналагічна таму "разбойніцкаму сабору" (Synodus latronus), які праз 45 гадоў адбыўся ў Эфесе (у 449 годзе) пад старшынствам Дыяскора Александрыйскага і пастанавіў, быццам бы чалавечая натуру Езуса была цалкам паглынута божай.

Асабліва шчыраваў супраць Яна і арыгенітаў св. Епіфан кіпрскі. Яшчэ падчас падрыхтоўкі сабора ён так задзірыста ставіўся да прарока, што ўсе артадаксальныя біёграфы Яна вымушаны замяняць факты фразамі. "Абгаварыў Тэафіл (выказваецца аўтар Міней) Яна, кажучы, што ён ерэтык: арыгенітаў да сябе прыняў і прычашчаецца з імі. Епіфан жа лагодным быў. Не распазнаўшы хітрасьці Теафілавай, прыняў на веру хлусню, згодна з напісаным: "незласлівы надае веру кожнаму слову". Моцна ратуючы за пабожнасць, ён пракляў (яшчэ да

[253] "Ut communionem eis restitueret, quippe qui de Deo recte sentirent". Sozom. VIII, 13.

[254] Se cum illo sentire scrpisit, et Origenis libros tanquam hujus– modi dogmatum auctoris calumniari coepit. Sozom. VIII, 13.

свайго прыезду ў Канстантынопаль) мясцовым саборам сваіх кіпрскіх біскупаў арыгенавы кнігі і напісаў Яну, каб той зрабіў тое ж самае. Але Ян, не спяшаючыся да гэтага, практыкаваўся ў божым пісанні”[255].

Кажучы прама, Ян адмовіўся наадрэз анафемітызаваць арыгенавы кнігі, якія, верагодна, і змяшчалі тыя астралагічныя веды, якімі ён кіраваўся пры складанні “Адкрыцця”. Такая ўпартасць прарока, пасьля відавочнай няўдачы яго прароцтва, да таго раззлавала састарэлага св. Епіфана, які звыкся за сто з гакам гадоў свайго жыцця да павагі, што ён прымчаўся ў Канстантынопаль яшчэ за некалькі тыдняў да вызначанага тэрміну. У знак таго, што ён не прызнае Яна за біскупа, ён высадзіўся ў 7 кіламетрах ад Канстантынопаля і, самавольна зайшоўшы ў мясцовую царкву, якая знаходзіцца ў падпарадкаванні Яна, пачаў дзейнічаць у ёй, як у сваёй уласнай.

Ён там самавольна адслужыў літургію і прысьвяціў аднаго чалавека ў дыяканы, насуперак царкоўным пастановам, якія забаранялі біскупу прысвячаць каго-небудзь у чужой епіскапіі[256]. Затым, прыйшоўшы ў Канстантынопаль і пасяліўшыся ў прыватным доме, ён адмовіўся нават бачыцца з Янам, адказаўшы яго пасланнікам: “Пакуль Ян не прагоніць прэч із горада Дыяскора і яго схімнікаў і не падпіша адмовы ад арыгенавых кніг, я не буду мець стасункаў з Янам”[257].

Імператарская пара ўжо была моцна настроена супраць Яна з самай яго паездкі па Малой Азіі, і зараз, вызваліўшыся ад жаху, настолькі ж жадала яго выдалення із Канстантынопаля, як раней яго прыбыцця ў яго. Таму Епіфан адразу ж паспяшаўся ў палац, дзе быў прыняты як збаўца, з разнастайнымі адзнакамі павагі, і не раз меў сакрэтныя нарады адносна спосабаў пазбаўлення Яна пасаду. Ён да таго захапіўся, што хацеў нават ўсенародна выкрыць Яна ў адным із галоўных гарадзкіх храмаў, у саборы Апосталаў, і праклясьці, як ерэтыка, але разважлівыя людзі ўстрымалі яго, паказаўшы, што з гэтага, пры незвычайнай папулярнасьці Яна ў народзе, нічога не выйдзе, акрамя збіцця самага Епіфана.

Тым часам пачалі збірацца і іншыя прадстаўнікі візантыйскага святарства. Прыехаў Тэафіл, прывёўшы з сабою для імператарскай пары і іх бліжэйшых саноўнікаў некалькі галер, “напоўненых індыйскімі рэзкімі прыправамі і садавінай, і каштоўнымі матэрыямі, шаўковымі і золататканымі”. Разам з ім прыехала “шмат” мікалаіцкіх біскупаў, прэсвітараў і дыяканаў. Арыяне, арыгеніты, яніты і ўсе астатнія хрысьціянскія секты, акрамя пануючай, былі выключаны, як гэта рабілася і на ўсіх іншых “сусветных саборах”.

Галоўнымі правадырамі гэтай зграі, акрамя Тэафіла і св. Епіфана, былі Акакій, біскуп вярэйскі, і Антыох пталемаідзкі. Із самога патрыярхата Яна да іх далучыліся ўжо вядомы нам Сяверыян гавальскі, настройваўшы супраць прарока імператрыцу пад час яго паездкі па Малой Азіі, і фракійскі біскуп Павел гераклійскі, які заняў старшынскае месца ў дзень прысуду над Янам, так як першапачатковы старшыня, Тэафіл Александрыйскі, у гэты дзень адмовіўся

[255] Жыціі. Лістапад.
[256] Thierry, p. 153.
[257] Thierry, p. 155.

першапрысутнічаць[258]. Да іх жа далучыліся некалькі біскупаў Малой Азіі, якія пакінулі Яна і арыгенізм пасьля яго падарожжа да іх. Астатнія із патрыярхату Яна (да сарака біскупаў, якія засталіся і да гэтага часу вернымі яму) сабраліся каля яго. Іх не дапусьцілі на нараду, як ерэтыкоў.

## VI. Асуджэнне і адлучэнне Яна ад царквы. Яго выратаванне дзякуючы канстантынопальскаму землятрусу 403 г.

Пасяджэнні сабора пачаліся ў сакавіку 403 года ў царкве Пятра і Паўла, якая знаходзіцца ў Халкедонскім прадмесьці Канстантынопаля, дзе знаходзіўся і імператарскі палац. На трохразовае патрабаванне з'явіцца туды для апраўдання Ян адказаў рашучай адмовай, матывуючы яе тым, што сабор складаецца выключна із прадстаўнікоў варожай яму фракцыі, суда якой ён не прызнае. Ён нават вымавіў супраць іх у сваёй базыліцы грамавую прамову[259], якая змяшчала, як кажуць, такія словы:

“Збярыце да мяне ганебных пракрокаў, ядучых ежу Іезабэлі (г. азн. знаходзячыхся на ўтрыманні Візантыйскай імперыі), каб я паведаміў ім, як Ілля: да якога часу будзеце вы кульгаць на абедзве вашы нагі? Калі ёсць валадар-бог, ідзіце ўслед за ім, а калі ежа Іезабэлі ёсць ваш Бог, дык хай званітуе вас, калі вы яе ясьце!”[260].

Гэтыя словы пазначалі, як мы зараз ужо ведаем, сабраўшуюся судзіць яго мікалаіцкую фракцыю візантыйскага святарства, якую Ян ў лісьце ў Фіятыры (“Адкрыцьцё”, глава 2-я) алегарычна называў Іезабэль, жонка біблейскага цара Ахава. Але зараз яны былі ператлумачаны як намёк на імператрыцу Еўдаксію і яшчэ больш раздражнілі яе супраць прарока. Сам імператар даслаў яму загад ісьці на суд, але Ян і ў гэтым выпадку адмовіўся, не прызнаючы за імператарам права ўмешвацца ў рэлігійныя справы.

У выніку ў Канстантынопалі выявілася два саборы. Адзін із янітаў, як называлі ў гэты час прыхільнікаў Яна, вылучаючы іх із арыгенітаў у асобную секту, і другі – із прадстаўнікоў чыстага мікалаіцства. Першы сабор заклікаў да сябе на суд Тэафіла за расправу над ягіпецкімі арыгенітамі, другі ж патрабаваў да сябе на суд самага Яна, і прытым у абразлівай форме, не называючы яго нават біскупам.

Пагадненне паміж імі выявілася немагчымым. Тры яніцкія біскупы, якія з'явіліся ў Халкедонскае прадмесьце у якасьці пасланнікаў ад Яна, былі схоплены іх супернікамі і пабіты.

---

[258] Thierry. St Jean Chrysostome, p. 202.

[259] Шмат хто із гісторыкаў лічаць ўсю гэтую прамову, акрамя слова І е з а в е л ь, апакрыфічнай, або адносяць да больш позняга перыяду. См. Aime Puech. St Jean Chrys., P. 301.

[260] Жыціі. Лістапад. Можна думаць, што Ян, у сваю бытнасць вярхоўным канстантынопальскім біскупам, забараняў царкве рабіць паслугі і падтрымку імператарскай уладзе і прымаць ад урада афіцыйную дапамогу ў выглядзе розных даходных артыкулаў, якія ў той час даваліся замест заробкаў як свецкім, так і духоўным асобам імперыі. Гэтая-та нагода і павінна была выклікаць супраць яго ўсеагульнае раздражненне святарства, калі прароцтва не спраўдзілася.

На дванаццатай нарадзе мікалаіцкага сабора, дзе прысутнічала 45 сябраў, Яна, згодна з Фоціем і іншымі візантыйскім клерыкаламі, абвінавацілі:

1) У тым, што ён выказваўся, быццам “царкоўны алтар поўны мярзотаў”[261], – відавочнае ўказанне на тое месца главы 17 Апакаліпсіса, дзе Ян выказваецца: “у руцэ яе (г. азн. Вялікай цьвярдыні Брамы госпада) была залатая чашка, напоўненая **мярзотай і нечыстотамі яе безсаромнасьці**”.

2) У тым, што называў імператрыцу Еўдаксію Іезабэллю[262], відавочна пераінчваючы ў гэтым сэнс тое месца главы 11 Апакаліпсіса, дзе Ян кажа апавяшчальніку Фіятырскага згуртавання вернікаў: “Маю супраць цябе трохі за тое, што ты дазваляеш гаспадыні тваёй Іезабэлі, якая называе сябе правазвесніцай, вучыць і перахопліваць маіх служак, і прастытуіравацца, і есьці прысвечанае выявам”. Слова Іезабэль (жонка біблейскага цара Ахава) ўжывалася Янам ў сэнсе алегарычнай назвы дзяржаўнай царквы і ў іншых яго прадказаннях, акрамя Апакаліпсісу, але яны былі вымаўлены ўжо пасьля гэтага суда.

3) У тым, што усклікнуў аднойчы падчас царкоўнай службы: “**я страчваю розум ад шанавання**!”[263]

4) У тым, што арыгенітаў лічыў за сваіх, а тых, якія стасаваліся з дзяржаўнай царквой, не лячыў у вязніцы.[264]

5) У тым, што прымаў язычнікаў, якія блага ставіліся да хрысьціян, даваў ім абарону ў царкве і маліўся за іх,[265]

і нарэшце,

6) У выкраданні нейкай царкоўнай маёмасьці.

Гэты таямнічы апошні пункт асабліва цікавы з нашага пункту гледжання. Пра тое, каб Ян выкраў нешта із матэрыяльных багаццяў, вядома, не магло быць і гаворкі з боку яго хітрых ворагаў, якія не жадалі, замест абвінавачвання Яна, самім зведаць выбух народнага і грамадзкага абурэння. Усім была вядома прастата яго жыцця, адзення і ўсяго матэрыяльнага атачэння, якой ён так рэзка адрозніваўся ад сваіх папярэднікаў. Усе ведалі і тое, што ён раздаў бедным і маючым патрэбу сваю вялікую спадчыну, ды і зараз вызначаўся дабрачыннасьцю, сродкі для якой яму дастаўляла Алімпіяда, якая перадала ў яго распараджэнне ўсе прыбыткі са сваіх вялізных маёнткаў каля Канстантынопаля.

Г. азначае, што абвінавачванне, узводзімае на Яна, магло мець дачыненне толькі да яго адзінага і ўсім вядомага багацця, надаваўшага яму такую павагу ў асяроддзі публікі, да яго літаратурных твораў, якія імкнуліся прадставіць выкрадзенымі ў выглядзе нейкіх старажытных манускрыптаў, яшчэ невядомых публіцы, і выдаваемых ім за свае. Падобная інсінуацыя нацэльвалася на адзінае слабое месца Яна, так як яна разбурала яго велізарны аўтарытэт як вялікага пісьменніка і пакідала яго, так бы мовіць, голым і безаабаронным перад яго ворагамі. Усякае матэрыяльнае абвінавачванне было б даравана яму народам

[261] Quod adversus ecclesiam loquitur, illius altare furiarum plenum appellans (Act. Synodic, ad Quercum apud Phot. 59).

[262] Erat criminem laesae majestatis convictum in Augustam, ut ipsi retulerunt, quod earn vocasset Jezabel (Palladius: Dialog., P. 30, канец гл. VIII).

[263] Quod in ecclesia gloriando dixisset: amo et insanio (Act. Synod. Ad Querc. Apud Phot. 59, з абвінавачванняў Ісаака).

[264] Origenistas suscepit et eos, qui cum ecclesia communicant in carcerem, detrusos non curavit (ibid).

[265] Ethnicos qui christianos male tractaverint suscipit et habet in ecclesia et illes praeest (ibid).

дзеля яго натхнённай працы, ды ніхто б і не паверыў абвінавачванню яго ў **звычайным** карысталюбстве.

Калі параўнаць гэты пункт абвінавачвання з тым фактам, што належачае яму “Адкрыцьцё ў навальніцы і буры” прыпісвалася з пачатку сярэдніх стагоддзяў іншай асобе, то міжвольна прыходзіць у галаву думка, што яго абгаварылі на гэтым саборы менавіта ў тым, быццам бы пад час свайго збягання ў 381 годзе із горнага кляштара паблізу Антыёхіі ён вынес адтуль знаходзіўшыяся там старажытныя рукапісы, якія належалі шануемаму вучню Хрыста, Яну, і выдаў іх пазней за свае.

Тэафіл, бяспрэчна, не спыніўся б перад падобным абвінавачваннем. Яно адразу забірала ў Яна аўтарытэт вялікага хрысьціянскага пісьменніка, а разам з тым рабіла “Адкрыцьцё ў навальніцы і буры” (распаўсюджванне якога было зараз, вядома, такім шырокім, што яго ўжо нельга было знішчыць) са зброі, накіраванай супраць мікалаіцкай фракцыі, яе уласнай і надзвычай магутнай прыладай для запалохвання паствы і ўсіх яе праціўнікаў.

Доказам грунтоўнасьці такога абвінавачвання мог служыць для ворагаў Яна і той факт, што прароцтва не спраўдзілася, а, такім чынам, не было зразумета і самім Янам, які выдаваў сябе за яго аўтара.

Аспрэчваць падобнае абвінавачванне, выказанае саборна, з самім св. Епіфанам на чале, было цалкам немагчыма ў вачах старажытнага чалавека, так як гэта азначала б забіраць славу ў аднаго із самых шануемых вучняў Хрыста, а, такім чынам, быць ворагам і самога Хрыста.

У выніку пазней магла нарадзіцца ў асяроддзі страціўшых надзею прыхільнікаў Яна і тая легенда, якую мы ўжо прыводзілі раней г. азн. легенда пра тое, як шануемы вучань Хрыста, Ян із Генісарэцкага возера, з'явіўся да абвінавачанага Яна ноччу ў яго кляштар каля Антыёхіі і перадаў яму у рукі скрутак з “чароўным адкрыццём” (па-грэцку: Апакаліпсіс) для таго, каб Ян даведаўся із яго ўсю глыбіню мудрасьці.

Але, як бы там ні было, прысуд быў, нарэшце, вымаўлены, і Ян быў прызнаны вінаватым, пазбаўлены пасады і нават адданы анафеме[266].

Пастанова сабора пра адлучэнне[267] і зняволенне Яна была адразу перададзена для выканання імператарскай пары. А ў Канстантынопалі тым часам адбылося паўстанне на карысць гнанага прарока, якога надзвычай паважалі жыхары.

Велізарны натоўп народа сабраўся да жылля Яна. Адны лаялі імператара і імператрыцу, іншыя – Тэафіла і яго аднадумцаў. Толькі вечарам вайскоўцы выцягнулі Яна із яго царквы і ноччу перавезлі на азіяцкі бераг Басфора. Там яго пасадзілі на карабель і павезьлі ў зьняволеньне ў Прэнет, каля Нікамідзіі.

Але падарожжа працягвалася толькі адзін дзень. На наступную ж ноч, у першыя дні траўня 403 г., у Канстантынопалі адбыўся невялікі землятрус[268], ад якога некалькі будынкаў далі расколіны, але іншай шкоды не было. Гэта

[266] Жыцціі. Лістапад. Sic ab Ecclesia expulsus est loan– nes misso ad it comite cum militari manu non secus ac ad praelium adversus barbaros. Eijectus venit in praediola ad praenetum Bithyniae (Pall., Cap. IX, p. 30).

[267] Яго абвінаваўца на другім саборы (гл. далей) выказваўся: Ян больш ні біскуп, ні святар. Ён выкінуты із улоння царквы, і мы не можам ні слухаць яго абарону, ні стасавацца з ім пад пагрозай анафемы (Thierry, p. 247).

[268] Яно пачалося ў Гебдомскім предмесьці (Thierry. St Jean Chrysostome, 221).

стыхійная з'ява (хоць і не рэдкая ў Канстантынопалі) адразу павярнула справа зусім у іншы бок. Ды гэта і зразумела. Згадайце толькі, колькі разоў у “Адкрыцці” гаворыцца пра землятрус, ад якога “вялікі горад” [269] павінен раскалоцца на тры часткі, і Зямля павінна здрыгануцца, і пасланнікі нябесныя залямантаваць. Народ паспеў прывыкнуць да думкі, што адно толькі знаходжанне Яна і ратавала сталіцу імперыі ад кары. І вось зараз, калі Яна асудзілі і выдалілі, яго прароцтва і пачынае выконвацца.

Натоўпы народа выйшлі на вуліцы і плошчы і крычалі: “Увесь горад разбурыцца, калі Ян не будзе вернуты!” Спалоханая імператрыца забылася ў гэты момант на ўсе сапраўдныя ці ўяўныя крыўды, атрыманыя ёю ад Яна, і ўсю сваю зласьлівасць да яго, назапашаную за апошнія два гады пасьля агульнага заспакаення. У тую ж ноч яна напісала да яго пераканаўчы ліст. “Малю тваю светласць не верыць, што я ўдзельнічала ў тым, што адбылося з табой. Я не вінаватая ў тваёй крыві. Гэта злыя і амаральныя людзі зладзілі змову супраць цябе! Бог сведка ў праўдзівасьці маіх слоў, як і ў слязах, якія я прыношу яму ў ахвяру”.[270]

Увесь Басфор, сведчаць гісторыкі, пакрыўся лодкамі якія шукалі Яна. Мармуровае мора “было поўна пасланых”, “народ шумеў на плошчах, адусюль падымаліся крыкі на несправядлівы сабор і на Тэафіла”. Сяверыян, біскуп гавальскі, думаючы утаймаваць народ дакорамі Яна, яшчэ больш распаліў гнеў, і натоўпы народа кінуліся на палац.

Пачуўшы каля брамы палаца, што ўжо пасланы саноўнік для вяртання Яна, натоўп адхлынуў да ўзмор'я чакаць яго прыбыцця. Калі яго карабель, нарэшце, з’явіўся ўдалечыні, жанчыны і дзеці кідаліся ў лодкі, каб ехаць да яго насустрач. Але Ян, высадзіўшыся на бераг сярод чакаўшых яго 30-40 біскупаў якія засталіся яму вернымі да канца, адмовіўся заходзіць у горад, пакуль новы “вялікай сабор” (г. азн. складзены із прадстаўнікоў усіх хрысціянскіх фракцый) не апраўдае яго ад накладзенага на яго абвінавачвання.

Але яго ніхто не хацеў слухаць. Са свечкамі ў руках і са спевамі уведзеных ім гімнаў канстантынопальскія грамадзяне і грамадзянкі пад прымусам пацягнулі яго із прадмесьця ў горад. Паставіўшы яго ў звычайную базіліку, на звычайную катэдру, яны не разышліся да таго часу, пакуль ён не выказаў ім адтуль заспакойваючую прамову і не паабяцаў застацца ў іх, як быў, вярхоўным біскупам, не звяртаючы ўвагі на рашэнне сабора і адлучэнне ад царквы.

А што ж сам сусьветны сабор?..

Значная частка яго біскупаў ужо паспела збегчы із горада той жа раніцай і зараз плыла дадому з усёй моцы, а наперадзе ўсіх імчаўся па хвалях св. Епіфана кіпрскі. Ён так спешна збег, што даў гэтым нагоду абараняючым яго артадаксальным гісторыкам сцвярджаць, быццам бы ён, атрымаўшы раптоўны дар прароцтва, з'ехаў яшчэ да вымаўлення прысуду над Янам.[271]

---

[269] Па-грэцку поліс азначае адначасова і горад, і дзяржаву (для апошняга разумення не было іншага слова), і суграмадзянства, і ўмацаванне, і цьвярдыню.

[270] Thierry. St Jean Chrysostome, 221.

[271] Візантыйскі пісьменнік Сакрат паведамляе, што, згодна са славамі некаторых, Епіфан з’ехаў із Канстантынопаля да таго раздражнёным, што ўжо із карабля паслаў перадаць Яну: “Спадзяюся, што ты не памрэш біскупам!” А Ян адказаў яму: “Спадзяюся, што ты не даедзеш да хаты!” “(Spero te non

Фактам жа застаецца тое, што Епіфан, раней за ўсіх прыскакаўшы судзіць Яна і задзіраўшы яго ўсімі спосабамі яшчэ да сабора, несумненна быў, магчыма разам з Еранімам Блажэнным, адным із галоўных абвінаваўцаў Яна. Дзякуючы гэтаму ён зараз перапалохаўся так моцна, што пры сваім старэчым веку (яму, кажуць, было, нягледзячы на яго гарачнасць, за сто гадоў) ужо не змог пераадолець свайго жаху, і памёр на палове дарогі ад Канстантынопаля, не даехаўшы да сваёй выспы Кіпра. Гэта здарылася 12 траўня, а таму мы можам вызначыць, што пасяджэнні сабора скончыліся ў першыя дні таго ж месяца або, у крайнім выпадку, не раней канца красавіка 403 года.

На астатніх біскупаў сабора, хто спазніўся з'ехаць із Канстантынопаля, накінуліся жыхары сталіцы. Яны напалі на прыехаўшых з Тэафілам святароў і пагражалі патапіць самага Тэафіла. Кроў пацякла па ўзмор'і, куды суддзі прыбеглі садзіцца на свае караблі. Сяверыян, Антыёх і іншыя ворагі Яна разьбегліся із горада ў вялікім жаху, хаця імператар склікаў іх зноў для апраўдання Яна... Ноччу ўзышоў на карабель сам “зганьбаваны” Тэафіл[272]. Ён так перапалохаўся, што зноў прымірыўся з выгнанымі ім арыгенітамі і дазволіў ім усім вярнуцца да яго ў Ягіпет. Але толькі два із “доўгіх братоў” вярнуліся ў свае разбураныя хаціны на Нітрыйскай гары, а астатнія ўжо памёрлі ў Канстантынопалі.

## VII. Ян у ролі канстантынопальскага вярхоўнага біскупа, пазбаўленага пасады саборам і не прызнаваемага нікім, акрамя народа. Новы суд над ім, яго зняволенне, спасылка і сьмерць у выгнанні.

Такім чынам, стыхійная з'ява прыроды, землятрус, як быццам знарок прыйшоў на выручку Яна і аднавіў яму, як аўтару “Адкрыцця ў навальніцы і буры”, амаль увесь яго ранейшы аўтарытэт. Калі б пасьля гэтага Ян стаў жыць згодна з прыкладам сваіх папярэднікаў, імкнучыся падтрымаць добрыя адносіны з імператарскай уладай, або, скажам прама, пакінуў бы свае рэспубліканскія перакананні, засвоеныя ім, верагодна, яшчэ ў афінскай паганскай школе, то ён, без сумневу, пражыў бы шчасліва да канца свайго жыцця.

Але нічога гэтага Ян не зрабіў. Як у “Адкрыцці” ён называў хаўрус царквы з дзяржавай яе прастытуяваннем, так называў ён яго і зараз. Як тады ён заклікаў нябесных птушак злятацца, каб пажэрці трупы цароў і палкаводцаў, забітых мячом Егошуа-Ісуса, так і зараз ён усё яшчэ спадзяваўся, што пачуецца ж, нарэшце, над іхнымі галовамі той грамавы ўдар з сям’ю грукатамі, пра якія “голас з неба” паведаміў яму: “схавай, што казалі сем грымот, не пішы гэтага” (Апак., 10,4).

Прышэсьце Хрыста, як мы бачылі са шматлікіх месцаў Апакаліпсісу, было для яго разам з тым і пачаткам усеагульнай роўнасьці і братэрства, калі ўсе

moriturum esse episcopum!” Ioannem vicissim illi sic respondisse: Spero te non perventurum esse in patriam. Socr. VI, 14).

272 Мураўёў, стар. 349.

“будуць сядзець побач з Хрыстом”. Ён і зараз працягваў ставіцца да імператара і імператрыцы гэтак жа вольна і незалежна, як і да апошняга із іхных падданых, не прымаючы ніякіх прыбытковых прывілеяў ад імперыі і не робячы ёй у сваю чаргу ніякіх паслуг для падтрымання яе аўтарытэту сярод насельніцтва.

Падставы для сутыкнення з імператарскай уладай павінны былі пры такіх умовах узнікаць самі сабой. Усе ведалі пра адмоўнае стаўленне Яна да візантыйска-рымскай дэспатыі, увасобленай ім у “Адкрыцці” ў выглядзе пачвары з сям’ю галовамі, на якіх знаходзілася сем карон з блюзнерскімі тытуламі і дэвізамі. Кожны чым-небудзь пакрыўджаны імператарам або імператрыцай зараз жа бег скардзіцца на іх да грознага прарока, а Ян лічыў сваім абавязкам выслухаць іх, і, калі знаходзіў скаргу справядлівай, заступаўся за іх перад уладарамі імперыі.

Аднак у першыя месяцы пасьля новага ўсталявання ў Канстантынопаль яго аўтарытэт, як прарока, зноў падняўся да такой ступені, што частыя заступніцтвы за гнаных і пакрыўджаных уладамі не маглі прынесьці яму вялікай шкоды.[273]

Да яго, несумненна, ставіліся пры двары з вялікім жахам, як пра тое і сведчаць некаторыя легенды, прыводзімыя яго візантыйскімі біёграфамі. “Пазбаўлены пасады саборам” Ян працягваў заставацца на сваёй высокай пасадзе, не маючы ніякіх шчырых сяброў, акрамя благагавеўшай перад ім прыватнай публікі, і ніякага магутнага заступніка, акрамя вярнуўшага яго сюды Пасейдона, узрушальніка зямлі.

Усё, здавалася, пайшло па-ранейшаму. Яго шаноўная дыяканіса, знакамітая канстантынопальская прыгажуня Алімпіяда[274], працягвала заставацца з ім у самым далікатным сяброўстве нягледзячы на дыфамацыі сабора. Старадаўнія біёграфы з гэтага моманту непарыўна звязваюць яе лёс з лёсам самога Яна. Яны не паказваюць для яго ніякіх іншых сяброў, якія пацярпелі б за яго пазней у такой жа ступені, як яна, ці складалі б у яго далейшым жыцці такое ж неад'емнае звяно. Ці маем мы права зрабіць із гэтага выснову, што і “на яго сумны закат мільганула каханне усмешкай развітальнай”?

У Яна, як мы не раз бачылі, было вельмі далікатнае і кахаючае сэрца. Падчас яго гвалтоўнага прывозу ў Канстантынопаль, аточанага арэолам натхнёнага прарока, пасвечанага ва ўсе таямніцы бога і прыроды, ён быў яшчэ не настолькі стары, каб выключаць магчымасць ўзнікнення ў дачыненні да яго з боку канстантынопальскіх дам больш далікатных пачуццяў, чым павага. Яму тады было трохі больш за 45 гадоў[275], ды і гэты ўзрост магчыма быў да некаторай ступені тэндэнцыйна перабольшаны, так як для сярэднявечных гісторыкаў, выкінуўшых із яго жыцця “Адкрыцьцё”, павінна было здавацца мала верагодным яго занадта ранняе ўзвышэнне.

Пры такіх абставінах было б цяжка чакаць, каб яго сэрца засталося халодным і неспагадлівым на тое абажанне, з якім сустрэлі яго ў

[273] Thierry. St. Jean Chrysostome et 1'imperatrice Eudoxie. 1881, p. 226.

[274] Tamen cum genere et opibus, atque cognitione plurium scientarium, necnon ingenio liberali, et forma, atque aetatis flore exor-nata esset (Pallad. Dial., 64).

[275] Ён нарадзіўся ў 354 візантыйскім годзе, што соответствуете 354-355 юліянскі, так як візантыйскі год пачынаўся з сакавіка, а прывезлі Яна ў Канстантынопаль на прыканцы лютага 398 юліянскага года. Thierry налічваў яму каля 50 гадоў.

Канстантынопалі ўсе жанчыны, якія пакланяліся яму, вядома, непараўнальна больш, чым самому богу, якога яны ніколі не бачылі.

Пры такіх умовах і сяброўства паміж Янам і Алімпіядай магло лёгка ператварыцца ў каханне пры іх пастаянных сустрэчах. Але само сабой зразумела, што, разглядаючы адносіны паміж мужчынай і жанчынай з чыста манаскага пункту гледжання, іх набожныя жыццяпісальнікі ўсімі намаганнямі імкнуліся пераканаць чытача, што паміж імі не было нават і платанічнага кахання, а не толькі такога, у якім абвінавацiў іх сабор, калі патрабаваў ад Яна тлумачэння, чаму ён раптам сярод службы ўсклікнуў: "гіну, страчваю розум ад кахання!"[276].

У сваім імкненні пераходзячы мяжу разумнага, яны даводзяць справу ў гэтым выпадку аж да смешнага, чым і выяўляюць сваю таемную мэту. Так, напрыклад, у Мінеях распавядаецца між іншым, быццам Алімпіяда была да такой ступені сарамлівай, што ніколі ў жыцці не хадзіла нават у лазню, таму што "сама сябе саромелася, не жадаючы глядзець на сваё аголенае цела, а калі была патрэба вымыцца, то яна заходзіла ў пасудзіну, напоўненую цёплай вадой, у адной кашулі і мылася ў той посудзіне, не здымаючы яе"[277].

Яна была народжана ў Канстантынопалі, дачка сенатара Анісія Секунда. Яшчэ да дасягнення паўналецця яе адружылі з сынам епарха Няўрэдзія, памёршага праз два ці паўтара гады пасьля вяселля, пакінуўшы яе спадчынніцай "вялікіх багаццяў і незлічоных маёнткаў", якія належалі, галоўным чынам, яе ўласнаму памёршаму бацьку. Імператар Хвядос, які яшчэ валадарыў у той час, пачаў яе сватаць за свайго сваяка Ялпідзія. Але ганарлівая прыгажуня не пажадала гэтага нарачонага, за што і наклікала на сябе незадавальненне імператара і накладанне апекі на сваю маёмасць. Гэта паднявольнае становішча працягвалася, верагодна, да самай сьмерці Хвядоса, хоць адзін із манаскіх біёграфаў Алімпіяды і сведчыць, быццам Хвядос, пачуўшы пра тое, што яна з нагоды сваёй незвычайнай сціпласьці "нават у лазню не ходзіць", зноў дазволіў ёй валодаць сваімі маёнткамі.[278]

Дапускаючы, што апека з яе была знята зараз жа пасьля сьмерці Хвядоса, г. азн. у жудасныя апакаліптычныя гады, мы лёгка зразумеем і тое выкарыстанне, якое здзейсніла са сваімі вялікімі прыбыткамі гэтая, відаць, яшчэ зусім маладая жанчына. Яна пачала раздаваць іх на дапамогу бедным і хворым, "вязням у вязніцах і знаходзіўшымся ў далёкім выгнанні" і на розныя дабрачынныя справы. У той час, калі Ян быў упершыню пад прымусам прызначаны ў Канстантынопаль, яна, як гаворыцца ў Мінеях, ужо была прысвечана ў званне дыяканісы яго папярэднікам Нектарыем. Але, бяручы да ўвагі, што Нэктарый і Ян належалі да цалкам процілеглых хрысьціянскіх фракцый – Нэктарый да дзяржаўнай царквы, а Ян – да яе ворагаў,[279] – непараўнальна больш верагодна, што яна была прысвечана самім Янам ў яго ўласныя дыяканісы пасьля таго, як перадала яму ўсю сваю маёмасць і прыбыткі.

[276] "Amore pereo et insanio!" Act. Syn. ad Quereum apud Phot., 59.

[277] Жыціі, ліпень.

[278] Жыціі, за ліпень месяц. Іншыя, менш наіўныя біёграфы сведчаць, што апека была адменена з нагоды яе ўласнага прашэння (Palladius. Dial., 65).

[279] Прытым жа Нэктарый цалкам ні пра што не клапаціўся, акрамя баляў і папоек. Ён быў прызначаны канстантынопальскім біскупам прама із гарадзкіх прэфектаў, яшчэ паганцам.

Нэктарый жа быў прыдуманы, верагодна, адмыслова для таго, каб паказаць, што яна мела дачыненне да царквы яшчэ раней з'яўлення Яна і паступіла ў дыяканісы без яго асабістага ўплыву.

Да яе-та ў маёнтак, як мы ўжо ведаем, і змясьціў Ян збегшых да яго із Ягіпта арыгенітаў, а таму зразумела, што і на яе распаўсюдзілася незадавальненне мікалаіцкага сабора. Нечаканая развязка з дапамогай землятрусу і хуткія ўцёкі ўсіх сябраў сабору перашкодзілі далейшым паседжанням, на якіх, верагодна, былі б таксама анафеметызаваны і арыгеніты, і Алімпіяда, як адна із іх. Намёкі на такі яе лёс мы і маем у саміх Мінеях:

“Ён жа (*г. азн. агульны казёл адпушчэння гэтага сабора, неутаймавана руплівы Тэафіл*) гневаўся на Яна і рабіў замах зьняславіць оную (Алімпіяду), але ні ад каго не было веры варожым яго паклёпам”[280]. “Ян жа, – працягвае аўтар, – духоўна паважаў яе, як некалі святы апостал Павел Пярсіду, пра якую піша: “цалуйце Пярсіду, каханую, якая шмат працавала для Госпада”. Алімпіяда ж святая зрабіла не менш за Пярсіду, шмат працуючы ў імя госпада і служачы сьвятым зь вялікай верай і цёплым шанаваннем. Калі ж Ян быў гнаны невінаватым са свайго пасада, блажэнная Алімпіяда з іншымі сумленнымі дыяканісамі плакала аб тым шмат”[281].

Але вось зараз Ян вярнуўся да іх у новым арэоле таямнічай магутнасьці, і ўсё зноў пайшло па-ранейшаму паміж вернымі сябрамі. Аднак гэты мір і цішыня працягваліся толькі два месяцы.

У ліпені таго ж 403 года на адной із галоўных канстантынопальскіх плошчаў, недалёка ад храма св. Сафіі, была ўзведзена на мармуровай калоне статуя імператрыцы Еўдаксіі[282]. На гэтай жа самай плошчы звычайна ладзіліся ў святочныя дні галоўныя народныя забавы: балаганы, спевы, скокі і музыка.

Ян, як мы ўжо ведаем са шматлікіх месцаў “Адкрыцця”, не цярпеў імператарскіх выяваў у публічных месцах. Ён, відаць, заўсёды падазраваў, што гэта толькі першы крок да залічэння імператараў у святыя з боку дзяржаўнай царквы, як гэта і было зроблена ўжо з Кастусём Першым. Згадайце выказванні пра выявы звера у главе 13 “Адкрыцця ў навальніц і буры”, а таксама і тую акалічнасць, што, калі Ян 17 гадоў таму назад быў яшчэ прапаведнікам у арыгеніцага біскупа Флавіяна ў Антыёхіі, народ знішчыў там выявы тагачаснага імператара Хвядоса і яго нашчадкаў, цяперашніх імператараў Візантыі і Рыма – Аркадзя і Ганорыя. Я ўжо меў выпадак пазначыць, што гэтае знішчэнне адбылося не без уплыву яго прамоваў “пра статуі да антыяхійскага народу”, – не тых прамоваў, якія палічылі паведаміць нам пазнейшыя рэдактары ці іхныя складальнікі па чутках і ўспамінах, а тых, якія Ян сапраўды прамаўляў. За гэтыя менавіта прамовы, як я спрабаваў даказаць, і давялося яму, верагодна, бегчы із Антыёхіі, бадзяцца па Малой Азіі і трапіць, нарэшце, на выспу Патмас, а яго біскупу Флавіяну давялося ехаць ці быць прама прывезеным у Канстантынопаль для апраўдання перад імператарам.

---

[280] Жыціі. Ліпень.

[281] Там жа.

[282] Argentea statua Eudoxiae Augustae supra columnam purpu– ream erecta fuerat. Socr. VI, 18.

“З паніклым чалом, – кажа пра гэтую падзею яго гісторык, – пайшоў ён да царскіх палацаў, як бы сам вінаваты ў мецяжы Антыёхіі[283]”, а імператар Хвядос нават “не дазволіў Флавіяну застацца на свята Вялікадня ў Царградзе”, г. азн., выказваючыся прама, прагнаў яго адразу прэч са сталіцы.

Пацвярджэннем погляду на антыяхійскае знішчэнне імператарскіх статуй ў 387 годзе як на вынік павучанняў Яна з'яўляюцца і яго паводзіны ў гэтым выпадку, пры аналагічным пастаўленні статуі імператрыцы ў Канстантынопалі. Ён зараз жа публічна выказаў пратэст супраць гэтага манумента і вымавіў з царкоўнай катэдры грамавую прамову, не перададзеную нам вернападданніцкімі візантыйскімі гісторыкамі. Але ўсе яны сведчаць, што прамова была адной із самых запальваючых[284], і ўвесь горад прыйшоў у хваляванне.

Калі Ян з'явіўся пасьля гэтага з нейкім патрабаваннем (магчыма, для перамоваў з нагоды гэтай самай статуі[285]), імператрыца загадала выгнаць яго із палаца, а Ян у адказ забараніў пускаць яе ў сваю базіліку. Апавяданне пра гэтую апошнюю падзею, ператварыўшыся ў легенду, настолькі цікавае, што я перадаю яго цалкам, захаваўшы і сам легендарны характар выкладання старадаўняга летапісца.

“Калі надышло свята Ўзвышэння сумленнага крыжа (14 верасня), і сабраўся ўвесь народ у царкве, і прыйшоў у яе цар са сваімі вяльможамі, – падышла да царквы таксама і царыца са сваімі прыдворнымі. Калі ж пабачыла брація, што яна ідзе, зачыніла перад ёю царкоўную браму, не дазваляючы ёй зайсьці ў сярэдзіну... Усе яе служкі залямантавалі: адчыні спадарыні царыцы! Але адказала брацыя: патрыярх (Ян) загадаў яе не пускаць! Яна ж перапоўнілася сорамам і гневам і прамовіла, галосячы (на вуліцы): глядзіце і зразумейце ўсе, якое ганьбаванне творыць мне гэты гняўлівы чалавек! Усе ў царкву заходзяць без забароны, адной мне забараняе! Няўжо я не магу адпомсціць яму і прагнаць яго з катэдры!”

“Пакуль яна крычала такім чынам, адзін із прыйшоўшых з ёю (ваяроў) агаліў свой меч і працягнуў сваю руку, жадаючы ударыць мячом у дзверы. І раптам ўсохла яго рука і была нерухомай, быццам мёртвая. Пабачышы ж тое, царыца і ўсе зь ёю моцна спалохаліся і вярнуліся назад”.[286]

Легендарны характар апавядання і цудоўнае дапаўненне пра руку галантнага ваяра, які пажадаў прабіць мячом дарогу для маладой імператрыцы,

---

[283] Мураўёў, стар. 313.

[284] Там жа. “*Contra eos qui haec agebant linguam suam denuo armavit*” (Socr. VI, 18).

[285] *У Жыціях (Лістапад) распавядаецца, што гэта было з нагоды адабрання царыцай вінаградніка ў “Феагноставай удавы”. Але калі я параўнаў гэтае (белетрыстычнае па свайму зместу) апавяданне з біблейскім сказаннем пра адабранне Навуфеева вінаградніка царыцай Іезабэллю (кн. 3 Царстваў, гл. 21), то пабачыў, што ўвесь змест перапісаны адтуль, нават з захаваннем у некаторых выпадках тых жа знакаў прыпынку, толькі імя адной царыцы заменена імем іншым і замест адной удавы пастаўлена іншая. Чаму аўтар палічыў неабходным выкарыстаць падстаўную нагоду, пра гэта лёгка здагадацца. Як зараз пабачым, развязка гэтай гісторыі адбылася пад час святкавання Ўзвышэння крыжа, г. азн. 14 верасня (юліянскага) 403 года, як і варта было быць згодна з лагічным развіццём падзеі адносна статуі Еўдаксіі. Аўтар жа перанёс яе на вясну гэтага года, калі збіраўся першы суд над Янам, а свята Ўзвышэння крыжа так і не адважыўся перарабіць у нейкае із весновых святаў! З нагоды гэтага ўся гісторыя пра сварку Яна і Еўдаксіі апынулася без усякай нагоды, і яна была запазычана із біблейскай легенды пра Іезабэль.*

[286] *Жыціі, лістапад.*

паказваюць толькі, як моцна была ўзбуджана народнае ўяўленне щчынкам Яна. Відавочна, што для такога ўчынку, як і для выгнання грознага прарока из палаца, павінны былі існаваць вельмі важныя падставы.

А між тым тэолагі паведамляюць толькі прыдуманую імі, ці, дакладней, прама перапісаную із Бібліі падставу. Яны нам паведамляюць пра “Феагноставу ўдаву”, не жадаўшую прадаць імператрыцы свой вінаграднік[287] ні “за якія грошы” і не жадаўшую абмяняць яго на які-небудзь іншы, чым быццам бы і выклікана было падарожжа Яна з хадатайніцтвам да імператрыцы і яго выгнанне із палаца.

Супастаўленне найважнейшых падзей у іх лагічнай пасьлядоўнасьці (як усталяванне статуі Еўдаксіі ў ліпені ці ў жніўні 403 года і недапушчэнне Еўдаксіі ў храм Яна на свята Ўзвышэння крыжа 14 верасня) прыводзіць да высновы, што ўсё гэта адбылося менавіта з нагоды згаданага манумента. Нягледзячы на ўсе прамовы і перакананні Яна, статуя, відаць, не была знятая (інакш гісторыкі не прамінулі б згадаць пра гэта).

І вось Ян, не прыняты імператрыцай або прама выгнаны ёю прэч, калі прыйшоў у апошні раз пераконваць яе, вырашыў не пускаць яе ў сваю царкву, матывуючы гэта тым неабвяргаемым для яго доказам, што, “калі ты хочаш стаяць на гарадзкой плошчы багіняй, то навошта ж ісьці да мяне ў храм, ведаючы, што я не прызнаю ніякіх багоў, акрамя аднаго нябеснага”.

Але што ж рабіў імператар, які знаходзіўся ўнутры храма з усёй сваёй світай, і чуў адтуль, як яго жонка “лямантуе” з іншага боку брамы? Візантыйскія гісторыкі кажуць, што ён “маўчаў, як быццам нічога не ведаў”, і гэта вельмі праўдападобна. Слабахарактарны і забабонны Аркадзь баяўся, як полымя, і грознага прарока, і сваёй уласнай жонкі, якая, нягледзячы на сваю маладосць, моцна трымала яго ў сваіх руках і задавала яму вялікія наганяі за кожнае непаслушэнства. Пад час гэтага жудаснага для яго моманту сутыкнення двух яго ўладароў ён, верагодна, жадаў толькі аднаго: збегчы куды-небудзь у пустыню і схавацца там навекі, каб ніколі больш не трапляцца на вочы ні прароку, ні жонцы.

Але гэта яму не было наканавана. Прастаяўшы ў трымценьні да канца службы, ён павінен быў вярнуцца дадому. Што там зрабіла з ім імператрыца, як яна сустрэла яго і як ён апраўдваўся перад ёю ў сваіх паводзінах, – хай гэта апіша які-небудзь таленавіты раманіст. Але вынік гэтай сямейнай спрэчкі быў вельмі засмучаючы для Яна.

Імператар разаслаў да ўсіх біскупаў візантыйскай царквы граматы для склікання новага сусветнага сабора, каб судзіць Яна, і пасьля гэтага ні разу не заходзіў да яго ў базіліку.

І вось у Канстантынопаль зноў з’ехаліся ўсе ранейшыя біскупы, акрамя памёршага Епіфана і акрамя Тэафіла, які на гэты раз разважліва ўстрымаўся і паслаў замест сябе і поўнага зходу сваіх біскупаў толькі траіх із апошніх.

Усе чакаемыя сябры сабора паспелі з'ехацца ў Канстантынопаль вельмі хутка пасьля калядных святаў, г. азн. на пачатку 404 года[288]. Галоўнымі ворагамі

[287] Марнасць гэтай выдумкі прызнаецца ўжо даўно некаторымі гісторыкамі, гл., Напр., Aime Puech: St Jean Chrys., 294.

[288] Гэта азначае, праз шэсць гадоў пасьля гвалтоўнага змяшчэння Яна.

Яна зараз выявіліся Лявонцій, біскуп анкірскі, і вядомыя нам па ранейшаму сабору Акакій, Антыёх і Сяверыян. А з боку абаронцаў Яна выдаваўся, кажуць, састарэлы Элпідзій, біскуп Лаадыкіі, г. азн. таго самага горада, які Ян ў "Адкрыцці" лічыў адным са сваіх, але папракаў яго за тое, што ён "ні халодны, ні гарачы, а цёплы"[289].

Адбыліся моцныя спрэчкі паміж ворагамі і прыхільнікамі Яна на гэтым саборы. Але Ян абвясьціў і яго некампетэнтным для сябе і адмовіўся прыйсьці для тлумачэнняў, верагодна, на той падставе, што большасць яго сябраў была на ўтрыманні ў дзяржавы.

Пасьля некалькіх бурных паседжанняў новага сабора (на які, заўважым, таксама не з'явіліся прадстаўнікі заходняй царквы) была вынесена рэзалюцыя. Яна не прызначала Яну ніякай новай правіны, толькі прызнала большасьцю галасоў, што першы сабор над ім быў настолькі ж правільны, як і ўсе папярэднія сусветныя саборы, і таму, як кажуць, яму задалі толькі адно пытанне:

"Якім чынам ён, быўшы пазбаўлены пасады, адважыўся зноў узысьці на катэдру[290] раней іншага сабору, які б зьняў з яго адлучэнне?"

Ян жа, згодна са сведчаннем гісторыкаў, адказаў ім:

"Я не быў на тым судзе, не шукаў паразумення з маімі супернікамі, не бачыў абвінавачванняў, узводзімых на мяне, і не атрымліваў прысуд. Цары мяне прагналі і тыя ж цары зноў вярнулі".

Але сабор не прыняў да ўвагі гэтае тлумачэнне Яна, і аддаў яго анафеме[291], а Ян па-ранейшаму не звярнуў ніякай увагі на сваё адлучэнне і нават на прызначэнне замест сябе ў якасьці канстантынопальскага біскупа Арзаса. Ён працягваў прапаведаваць і кіраваць сваім патрыярхатам на чале застаўшыхся ў яго сарака або каля таго біскупаў, якія зваліся янітамі, у адрозненні ад "зрынутых" яшчэ да гэтага часу арыгенітаў. Амаль усе жыхары сталіцы засталіся вернымі яму і зараз. У тыя храмы, у якіх прапаведвалі яго супернікі, ніхто не хацеў ісьці із прыватнай публікі.

Так прайшоў амаль увесь Вялікі пост[292], і набліжаўся Вялікдзень 404 года, прыпадаўшы ў мікалаітаў у гэтым годзе на 17 красавіка. Імператар Аркадзь, відаць, ні разу не біваўшы ў царкве з часу недапушчэння ў яе сваёй жонкі, паслаў, згодна са сведчаннем Паладзія і некаторых іншых, да Яна, кажучы яму:

"Сыдзі із царквы, таму што ты анафеметызаваны і мне немагчыма ўвайсьці ў базіліку, пакуль ты ў ёй".

Ян жа быццам бы прапанаваў яму (калі адвжыцца пасьля мінулага землятрусу) выгнаць сябе другі раз:

---

[289] Глядзі. Лісты да сямі згуртаванняў у "Адкрыцьці".

[290] De hoc uno quaestionem habendam esse, quod post depositionem absque synodi auctorttate, suo ipsius arbitrio, in episcopalem sedem invasisset. Socr. VI, 18 (Thierry, 244).

[291] Згодна з 4-ым канонам Антыяхійскага сабора 341г.: Si quis episcopus aut presbyter jure aut injuria depositus per se redeat ad ecclesiam, absque synodo, talis non habeat locum defensionis, sed absolute expe 11 atu r. Palladius. Dialogus, p. 31 (Thierry, 246 et 283).

[292] Palladius. Dialogus, 32.

“Не пайду, пакуль не буду прагнаны гвалтоўна. Пашлі сваіх, каб выкінулі мяне, і тады я буду мець тое прабачэнне, што пакінуў царкву не згодна са сваёй воляй, а будучы прагнаны царскай уладай!”[293].

Але перспектыва другога землятрусу, відаць, вельмі непадабалася імператару і імператрыцы. Хадзіць жа ў пустуючыя мікалаіцкія храмы, у той час калі ўвесь народ збіраецца ў Яна і яго прасьвітараў янітаў, было, вядома, крыўдна для самалюбства.

Нарэшце, каб уладзіць справу, кімсьці быў прыдуманы вельмі дасьціпны і цалкам адпавядаючы наіўным поглядам таго часу спосаб. Для таго, каб бог не мог разбурыць горад землятрусам, не выпускаць із яго Яна, а трымаць пад хатнім арыштам у яго звычайным жыллі, дзе яму б давялося таксама загінуць пад развалінамі [294] . Гэтага бог, вядома, не дапусціць, так як у Бібліі распавядаецца, што ён не раз шкадаваў цэлыя гарады дзеля некалькіх жыўшых у іх праведнікаў. А цэрквы, у якіх яшчэ заставаліся верныя Яну прасьвітары, трэба проста забраць у іх і перадаць святарам цяперашняга афіцыйнага біскупа Арзаса. Цалкам так, ва ўсякім разе, і было зроблена.

У адзін цудоўны дзень да дзвярэй памяшкання Яна быў прыстаўлены вайсковы каравул, які не дазваляў Яну пакінуць сваё жыллё на працягу двух месяцаў.

Але вось 17 красавіка 404 г. наступіў Вялікдзень, і Ян больш трымацца не быў здольным. Ён вырваўся са свайго зняволення [295] і пачаў звычайную ўрачыстую службу ў храме св.Сафіі.

Перапалоханая варта пабегла паведамляць уладам. Вайсковыя атрады разагналі людзей, якія маліліся са зброяй у руках. Забіўшы і параніўшы шмат народу, яны зноў завалодалі Янам і пасадзілі яго пад хатні арышт. Яго ацалеўшыя прыхільнікі пабеглі скончыць службу ў канстантынопальскіх лазнях.

Пачалося, як бачыць чытач, нешта накшталт таго, што было ў Рыме ў першыя стагоддзі хрысціянства. Забраныя цэрквы заставаліся пустымі, а народ ішоў маліцца ў лазні да янітаў. Прадстаўнікі пануючай фракцыі візантыйскага святарства выправілі да іх вайсковага правадыра Лукія з чатырмастамі ваярамі із царскай варты. Ён быў абраны знарок, як чалавек паганскага веравызнання, які не баяўся гневу хрысьціянскага прарока.

Лукій зьявіўся ў лазні і загадаў янітам разысьціся, але яны не звярнулі на яго ніякай увагі. Раззлаваны непадпарадкаваннем, ён скокнуў у галоўны вадаём, дзе знаходзіліся ў гэты час ахрышчваемыя неафіты, галоўным чынам жанчыны і дзяўчаты, і пачаў разганяць іх направа і налева ўдарамі палкі, а яго ваяры тым часам разрабавалі іхнае адзенне, якое ляжала каля вадаёма. Некалькі чалавек былі забіты і паранены, астатнія, як мужчыны, так і жанчыны, голымі выскачылі прэч із вадаёма і разбегліся хто куды мог[296].

---

[293] Si autem id vis, vi me e) icito, ut deserti ordinis excusationem habeam tuam auctoritatem. Pallad. Dial., 33 (Thierry, 263).

[294] Divinae (Arcadius) irae eventum expectans: ut si quid ipsi triste accideret, citius ilium ecclesiae redderet et deum placaret. Pallad. Dial., 33 (Thierry, 263).

[295] Le samedi saint en eftet, des le matin 1'archeveque, rompant sa captivite, se rendit a la basilique (Thierry, 264).

[296] Nudae mulieres cum viris metu mortis aut turpitudinis, turpi fugae se dabant. Palladius. Dialogus, 33 (Thierry, 271).

На другі дзень шмат хто із новаахрышчаных янітаў бадзяліся па-за горадам без прытулку. Імператар Аркадзь сустрэўся з адным із гэтых натоўпаў і загадаў разагнаць як ерэтыкоў.

Сам Ян знаходзіўся ўвесь гэты час пад хатнім арыштам. Хутка ў народным асяроддзі пайшлі чуткі, што да яго ўжо два разы падсылалі наёмных забойцаў, але абодва замахі не мелі поспеху дзякуючы выпадковым здарэнням[297].

Грамадзяне наладзілі добраахвотную варту каля жытла Яна, змяняючы адны другіх. Так прайшло амаль два месяцы да свята Пяцідзесятніцы, і ніякіх пагібельных з'яваў у прыродзе не адбылося. Народ знаходзіўся ў чаканні.

Чаму ж не адбылося абурэння на карысць Яна? Нават і гэта зразумела, калі прымем да ўвагі псіхалогію старажытнага чалавека. Навошта дапамагаць Яну, калі яму, у выпадку патрэбы, дапаможа сам Бог? Бо зараз канец свету адкладзены на няпэўна доўгі час, а Бог не пакарае нявінных за вінаватых, як гэтаму навучаў і сам Ян. Насельніцтву сталіцы з нагоды гэтага, верагодна, было нават цікава паглядзець, як бог паб’е ударам грому з сям’ю грымотамі, імператара з імператрыцай і ўсіх іхных дарадцаў – мікалаітаў за супраціўленне прароку. Ды і сам Ян пры яго наіўным светапоглядзе, верагодна, лічыў, што бог абароніць яго ў рашучую хвіліну, як ужо абараніў пры першым выгнанні, і таму не клапаціўся пра тое, каб шукаць актыўнай падтрымкі сярод спачуваючай яму народнай масы.

Уся гэтая цішыня як у прыродзе, так і ў народным асяроддзі падбадзёрыла ворагаў Яна на новы наступальны крок. Чаму б, здавалася ім, не паспрабаваць зараз перавесьці Яна куды-небудзь паблізу ад горада, так, каб у выпадку патрэбы зараз жа можна было вярнуць назад, перш чым адбудуцца сур’ёзныя бедствы? Усе наступныя дзеянні супраць Яна паказваюць выкананне менавіта гэтай праграмы.

Як толькі шчасліва прайшло ўрачыстае святкаванне Пяцідзесятніцы[298], прыпадаўшай згодна з правіламі Нікейскага сабора, на 6 чэрвеня 404 года[299], ворагі Яна пабачылі ў гэтым новы доказ божай абыякавасьці да гэтай справы і пачалі падгаворваць імператара выправіць яго ў Нікею, паблізу ўсходняга берага Мармуровага мора, недалёка ад Канстантынопаля, але на іншым баку пралива.

Праз пяць дзён імператар пагадзіўся, і за Янам быў пасланы з ваярамі той жа самы вайсковы правадыр Лукій, які разганяў яго прыхільнікаў із лазняў. Напалоханы магчымасьцю ад’езду Яна і новага землятрусу, народ рыхтаваўся да супраціву і сабраўся ў велізарнай колькасьці каля галоўнага ўваходу ў яго дом, дзе стаяў падрыхтаваны як быццам бы для яго конь. А выпраўленыя за Янам, зайшоўшы ў дом, пачалі між тым пераконваць яго выйсьці з процілеглага боку, “каб не быць яму вінаватым у вялікім кровапраліцці”[300].

Ці гэтыя перакананні падзейнічалі на Яна ці ён проста страціў волю супраціўляцца свайму таемнаму звязенню. У царкоўным прытворы ён развітаўся

[297] Vir quidam daemoniacus aut daemoniacum simulans depren– ditur, pugionem habens, tanquam ad loaimem occidendum paratus. Sozomen, VIII, 21 (Thierry, 290).

[298] Palladius. Dial., 35.

[299] Яніты, верагодна, святкавалі гэтае сьвята, як і Вялікдзень, згодна з правіламі старажытных хрысьціян, як было да Нікейскага сабора.

[300] Pallad. Dial., 36.

са сваімі вернымі біскупамі і прасьвітарамі, а ў хрысьцільный пакоі[301] развітаўся са сваімі шануемымі дыяканісамі, ужо вядомай нам Алімпіядай і яшчэ трыма іншымі: Проклай, Пентадзіей і Сільвіяй, дачкой маўрытанскага цара. Усе яны горка плакалі, як плакаў і ён сам, развітваючыся з імі.

Затым яго правялі праз маленькую брамку, выходзіўшую да Басфора, пасадзілі ў невялікую лодку і прывезлі ў Віфанію, г. азн. вобласць на супрацьлеглым, азіяцкім баку Басфора, дзе знаходзіўся горад Нікея.

А народ на працягу ўсяго гэтага часу чакаў яго на процілеглым баку дома, дзе знарок трымалі прыведзенага для яго каня. Скрадзены шэсць гадоў таму назад із Антыёхіі каб выправіць яго ў Канстантынопаль, Ян зараз быў скрадзены і з яго.

Так і павінна было здарыцца. Жахлівыя апакаліптычныя гады прайшлі, паніка мінула, і ад непакладзістага прарока, патрабаваўшага ад служак Хрыста адрачэння ад усіх зямных выгод, трэба было так ці інакш пазбавіцца...

Ашуканы народ, які чакаў Яна з процілеглага боку дома, нарэшце здагадаўся, у чым справа, і кінуўся у сярэдзіну будынка, разламаўшы таранам браму. Але было ўжо позна. Будынак быў узяты прыступам у абараняўшых яго жаўнераў пасьля кровапралітнага змагання, але памяшканне Яна выявілася пустым...

Старадаўнія візантыйскія аўтары не маглі, вядома, пакінуць і гэтае яго другое выгнанне без спецыяльных цудаў і адпаведных легенд.

І вось, кажуць яны, “загарэлася полымя у яго царкве ад пасаду, не праз нейкую чалавечую правіну, а ад боскага гневу, і раптам паднялося ў вышыню і разлілося па ўсёй царкве. А так як дзьмуў моцны вецер, то полымя выйшла із царквы і, ідучы высока па паветры, прамінула рынкі і апусьцілася, як мост, на палац, у якім здзяйсняліся ўрачыстасьці і спаліла яго ў канец. І можна было бачыць жудасны цуд: полымя, як адушаўлёнае, хадзіла навакол у вобразе змея і ела далёкія храмы. А тыя, якія былі паблізу базілікі Яна, засталіся цэлымі, каб было ўсім вядома, што не так сабе, а дзякуючы гневу божаму адбыўся той пажар”.[302]

Ворагі ж Яна сцвярджалі, што пасад, на якім ён служыў, запаліла з адчаю яго дыяканіса Алімпіяда падчас паўстання, якое адбылося ў Канстантынопалі пасьля адвязення з яго Яна[303]. Прэфект сталіцы, які разглядаў справу, прызнаў гэта абвінавачванне правільным, і прысудзіў ёй выплаціць вялікі штраф з яе маёнткаў.

Пасьля гэтага яна ўжо не пажадала ці не мела магчымасьці заставацца ў Канстантынопалі і пераехала ў Кізік, але і там яе не пакінулі ў спакоі. Праз некаторы час яе выслалі ў Нікамідзію, адкуль яна вяла дзейнае і далікатнае ліставанне з Янам, выгнаным ўжо на далёкія ўскрайкі імперыі.

Спачатку пасьля адвозу Ян быў пакінуты пад вартай у Нікеі, паблізу сталіцы, для таго каб можна было зараз жа вярнуць яго назад, калі з горадам здарыцца нейкая бяда. Але і зараз не адбылося нічога асаблівага ў прыродзе, а таму ў сярэдзіне лета, верагодна, на пачатку ліпеня, яго адважыліся, нарэшце,

---

[301] Ingressus autem baptisterium. Pallad. dial., 36.

[302] Pallad. Dial., 37.

[303] Aime Puech. St Jean Chrysostome et les moeurs de son temps, p. 42, Zosim. V. 24.

выправіць у аддаленую спасылку, у горад Кукус ў Малой Арменіі[304], пастаянна спусташаемаму нашэсьцямі ісаўраў.

Біскупы дзяржаўнай царквы не пускалі яго падчас падарожжа ў свае гарады[305]. Але так як нутро Малой Азіі была ў гэты час перапоўнена не толькі артадаксальнымі, але і арыянскімі і іншымі сектантамі, не прызнаваўшымі пануючую царкву і якія дзе-нідзе мелі таксама сваіх біскупаў, то час ад часу для Яна ладзіліся і спачувальныя сустрэчы. Так, пры пераходзе праз Кападокію і цясніны Таўрыі горнае насельніцтва вітала яго з вялікім спачуваннем. Жанчыны і дзеці плакалі, выходзячы яму насустрач, і ён сам быў усхваляваны да слёз.

Найбольш варожы прыём быў яму выказаны мікалаіцкім святарствам у Кесарыі. Мясцовы біскуп Фарэтрый, раззлаваны ветлівай сустрэчай, выказанай жыхарамі яго горада Яну (у тым ліку нават прэфектам з жонкай і шмат кім із навукоўцаў), падгаварыў супраць яго манахаў, якія жылі ў наваколлі горада, каб тыя прагналі яго прэч. Яны з крыкамі сабраліся вакол яго дома, карыстаючыся адсутнасьцю трыбуна, які павёў войска супраць ісаўраў[306], і прымусілі яго выдаліцца.

“У гарачы поўдзень Ян быў вымушаны пакінуць Кесарыю пасярод народнага плачу і ў цёмную поўнач бегчы із прылеглай вёскі, таму што разнеслася вестка пра нашэсьце ісараў”[307].

Сярод змроку і замяшання насільшчыкі перакулілі яго насілкі (бо з нагоды рэўматызму ён не мог больш ехаць на кані), і ён пешшу працягваў падарожжа праз горы. Восенню 404 года, пасьля сямідзесяцідзённага падарожжа, Ян, нарэшце, дасягнуў да месца свайго прызначэння, Кукуса ў Малой Арменіі, і знайшоў гасцінны прыём ў доме свайго аднадумца, заможнага грамадзяніна Дыяскора. Там жа чакалі яго “знакамітая родам” дыяканіса Сабіна і прэсьвітар Канстанцый із Фінікіі, верагодна, таксама сасланы сюды, ды і сама Сабіна наўрад ці добраахвотна выдалілася ў такое аддаленае і небяспечнае месца.

Як раз у гэты час, 6 кастрычніка 404 года, памёрла імператрыца Еўдаксія, якую артадаксальныя гісторыкі спрабавалі выставіць яго галоўным ворагам. Але гэта ніколькі не змяніла яго лёс, таму што яна была, як мы зараз бачым, толькі прыладай яго ворагаў.

Першай справай Яна пасьля яго размяшчэння на месцы было напісаць да сваёй каханай Алімпіяды[308], і перапіска іх працягвалася без перапынку настолькі часта, наколькі дазваляла павольнасць тагачаснай выпадковай пошты. За два гады свайго знаходжання ў Кукусе Ян паслаў ёй, як кажуць, сямнаццаць лістоў,

---

[304] Eum in parvum quoddam ac desertum Armeniae oppidum re– legarunt, cui nomen est Cucuso. Theodor, V, 34 (Thierry, 331).

[305] Жыціі. Лістапад.

[306] Thierry, 352, і Aime Puech: St Jean Chrysostome et les moeurs de son temps. Paris, 1891, page 263. Цікава, што калі ён сустрэў на сваім шляху манаха-анахарэта (Neander, II, p. 185), ён перш за ўсё быў здзіўлены бяздзейнасьцю, на якую той сябе асудзіў, пачаў пераконваць яго ў тым, што актыўнае жыццё была прыемным “валадару”. У выніку пустэльнік пакінуў сваё анахарэтства і пайшоў у горад. Гэта яшчэ адна падстава сумнявацца ў былым анахарэтстве самога Яна падчас яго маладосьці (Aime Puech: St. Jean Chrysostome, p. 264).

[307] Мураўёў, стар. 335.

[308] Уяўляюць цікавасць у адным із гэтых лістоў яго словы: De Isauris autem nihil est quod post hac metuas... Neminem enim tarn me. tuo quam episcopos, paucis relictis. Chrysostome. Epist. 14 ad Olimppiad. (нікога не баюся больш, чым біскупаў).

а гэта магло быць толькі ў тым выпадку, калі кожны з іх пісаў адказ неадкладна пасьля атрымання ліста ад іншага і адсылаў яго з першай жа магчымасьцю, так як рэгулярнай пошты тады не было.

Дзякуючы патрыярхальнасьці старадаўняй жыцця, Яну лепш і вальней жылося ў сваім выгнанні, чым гэта было б у цяперашні час пры аналагічным самаўладным ладзе. Арыяне яшчэ панавалі ў гэтай мясцовасьці (асабліва дзякуючы готам, паселеным для абароны ўсходніх ускраін пры Хвядосе). Біскуп горада, верагодна, таксама арыянін, прыняў Яна вельмі гасьцінна, і быў нават гатовы дапусціць яго выказваць павучанні са сваёй катэдры, чаго ні ў якім разе не дазволіў бы мікалаіт, так як Ян быў аддадзены анафеме[309]. Але Яну было, верагодна, адмыслова забаронена публічна выказваць павучанні і ён, як кажуць, не мог скарыстацца гэтай прапановай.

Яго пераследуемыя прыхільнікі ў Малой Азіі, Сірыі і Ягіпце ўсё яшчэ працягвалі змагацца з пануючай фракцыяй, хоць і безнадзейна. Калі ў Антыёхіі памёр даўшы Яну прытулак пад час яго маладосьці, пасьля яго збягання із кляштара, арыгеніцкі біскуп Флавіян, народ хацеў абраць на яго месца яніта Канстанцыя, быўшага прэсьвітэрам у Флавіяна. Але тыя ж самыя, ужо вядомыя нам па дзейнасьці двух сабораў, ворагі Яна, біскупы Акакій, Антыёх і Сяверыян скарысталіся днём, калі ўвесь народ пайшоў у гіпадром на спаборніцтвы[310] і падмосткавыя пастановы. Яны таемна сабралі сваіх прыхільнікаў, абралі ў Антыёхіі біскупам мікалаіта Парфірыя, а самі затым збеглі з горада. На наступны дзень адбылося сутыкненне народа з імператарскімі ўладамі, якія падтрымалі Парфірыя, і грамадзяне былі заспакоены войскам. Але яніты і арыгеніты ўсё-такі не жадалі мець ніякіх дачыненняў з навязаным ім біскупам.

У іншых месцах адбывалася падобнае. Пры часовым аб’яднанні ўсіх хрысьціянскіх фракцый пад сцягам нейтральнага янітства пад час нядоўгага знаходжання Яна на чале ўсходняй царквы ён прызначыў, між іншым, біскупам над готамі Ўлінаса, і яны прызналі гэтага біскупа, нягледзячы на сваё арыянства. Зараз жа, пасьля сьмерці Ўлінаса, якая адбылася падчас спасылкі Яна, готы зноў вярнуліся да арыянства, і гісторыя застае іх такімі нават у сярэднія стагоддзі.

Усе слабыя, маладушныя і карыслівыя прыхільнікі, якія далучыліся да Яна падчас яго ўзвышэння, зараз перайшлі, як заўсёды, да пануючай фракцыі. У галоўным із сямі гарадоў, куды ён адрасаваў дзевяць гадоў таму назад сваё знакамітае “Адкрыцьцё”, у Эфесе, ішлі ганенні на яго аднадумцаў і на іхнага біскупа Геракліда. Іншы із яго прыхільнікаў, біскуп Меруфас, спачуваўшы яму некаторы час нават і ў выгнанні, перайшоў на бок ворагаў і абвясьціў сябе “мікалаітам”, як толькі выйшаў спецыяльны імператарскі ўказ, пазбаўляўшы катэдраў усіх тых біскупаў, якія не жадалі падпарадкоўвацца артадаксальным біскупам-патрыярхам: Арзасу ў Канстантынопалі, Тэафілу ў Александрыі і Парфірыю ў Антыёхіі.[311]

---

[309] У Канстантынопалі ў гэты час нават не пускалі ў цэрквы нікога, хто пры ўваходзе не згаджаўся анафеметызаваць асабіста Яна. Thierry. St. Jean Chrys., 362.

[310] Quum urbs tota more recepto ad spectacula in loco Daphnes effusa esset. Niceph. XIII, 30. Thierry, 379.

[311] Si quis episcoporum cum Theophilo, Attico, Porphyrio com-mumnicare noluerit, extortis ecclesia esto et facultatibus privatum. Niceph. XIII, 30. Thierry, 750.

У гэтых цяжкіх абставінах, калі Яну нічога не заставалася рабіць, як сядзець дома ў сваім выгнанні і чытаць кнігу Ёвы пра пакорлівую цярплівасьць, ён і сам, відаць, страціў сваю дзіцячую веру ў хуткае прышэсьце Егошуа-Хрыста і ўсталяванне разам з ім на зямлі ўсеагульнай роўнасьці і братэрства сярод несмяротных праведнікаў, жывучых згодна з рэспубліканскімі пачаткамі старажытнай Грэцыі.

Застаўшаясе непараканым і несправядлівае пазбаўленне пасады і спасылка ў Кукус павінны былі паказаць яму, што і землятрус пасьля яго першага выгнання мог быць выпадковай з'явай, а не наступствам непасрэднага брання богам удзелу ў справе абароны свайго прарока.

Ці не падобнаму настрою варта прыпісаць і тое, што, жорстка пераследуемы ўсходняй царквой, ён зараз звярнуўся за абаронай ужо не толькі да аднаго бога, як рабіў раней, а таксама і да не браўшай удзелу ў пераследаваннях яго і арыгенітаў заходняй царквы? Ён прасіў, як кажуць, папу Інакенція заступіцца за сябе і сваіх прыхільнікаў ва ўсходняй імперыі. У гэтым звароце з яго боку тады не было ніякай унутранай супярэчнасьці яго рэлігійным перакананням. Заходняя царква ў той час не пераследавала арыгенітаў і не ўхваляла іхныя пераледы на Ўсходзе. Яна не была, як усходняя пры імператарах Хвядосе і Аркадзі, "мікалаіцкай" і нават не прызнавала цудатворца Мікалая за свайго святога. Акрамя таго, цалкам магчыма, што менавіта ў гэты самы час, пад непасрэдным уражаннем выхаду "Адкрыцця", заходняя царква перастала падносіць сваёй пастве "залатую чарку", пра мікалаіцкае стаўленне да якой так непачціва адгукнуўся Ян у Апакаліпсісе, хоць самы факт адмены мог быць афіцыйна прыняты і значна пазней. Заходняя царква не прызнавала над сабой улады візантыйскага імператара, бо пасьля смерці Хвядоса, у самы год выхаду "Адкрыцця", Візантыйска-Рымская імперыя канчаткова распалася на дзве незалежныя часткі. Акрамя таго, духоўныя ўладары заходняй царквы – папы – ніколі не станавіліся ў такое рабскае становішча да імператарскай улады, як гэта было на Усходзе і асабліва абурала Яна.

Чатыры яніцкія біскупы адвезлі пасланне Яна ў Рым, разам з пасланнямі іншых верных яму біскупаў. Папа Інакенцій, добразычліва прыняў гэтае пасланне, паспрабаваў пісьмова схіліць ўсходнюю царкву і Аркадзя да прымірэння з Янам і янітамі і склікаць трэцці сусьветны сабор у Фесалоніках для таго, каб зноў абмеркаваць справу Яна.

Аднак, нягледзячы на смерць імператрыцы Еўдаксіі, памёршай праз год пасьля выгнання Яна і абранай старажытнымі тэолагамі ўсходняй царквы казой адпушчэння за іхныя ўласныя справы, нішто не дапамагло. Падстаўная Іезабэль, Ірадыяда і "вялікая прастытутка", быўшая быццам бы галоўнай вінаватай пагібелі Яна, знікла з падмосткаў гісторыі адразу пасьля яго прыбыцця ў спасылку [312], а тая сапраўдная Іезабэль, да якой мелі дачынннне ўсе гэтыя дакорлівыя эпітэты, яшчэ заставалася на Зямлі і працягвала па-ранейшаму "валадарыць над зямнымі царамі". Папскія пасланнікі не былі нават дапушчаны да візантыйскага імператара, а ўзяты пад варту адразу пасьля прыезду і, пасьля цяжкага адваротнага плавання па бурнаму мору, высаджаны на калабрыйскім

[312] Яна памёрла 7 кастрычнік 404 года. Thierry. St. Jean Chrysosto-me et 1'imperatrice Eudoxie. Paris, 1872, p. 364.

беразе Італіі. Прыехаўшыя ж з імі ў складзе амбасады былыя біскупы Яна Кірыяк, Яўлісій, Дзімітрыян і Паладый былі схоплены, насуперак усім пагадннням пра амбасады, і паселены ў зьняволеньні ў аддаленыя пустыні усходу, на мяжы Аравіі, дзе вандравалі дзікія сарацыны.

Самога Яна за гэтую новую спробу супраціву мікалаітам было загадана перавесьці із Кукуса ў армянскае ўмацаванне Арабіссу, каб перашкодзіць яго стасункам з аднадумцамі. Але і тут гэта не атрымалася, дзякуючы патрыярхальнасьці старадаўніх нораваў параўнальна з сучаснымі. Ён па-ранейшаму ліставаўся з Алімпіядай і падахвочваў сваімі пасланнямі заходніх біскупаў Рыма, Медзюлана (Мілана), Аквілеі і Карфагена да склікання новага сусветнага сабора...

А імператар Аркадзь, імем якога візантыйскае святарства пазбавіла Яна пасады, па-ранейшаму дрыжаў кожны дзень, чакаючы землятрусу ў пакаранне за выдаленне прарока, але нічога не адважваўся зрабіць на яго карысць праз жах перад клерыкальнай партыяй... Ён толькі напісаў жаласлівае пасланне сінайскаму пустэльніку Нілу, просячы яго памаліцца за выратаванне горада, але Ніл, як кажуць, адказаў яму такім, чыста апакаліптычным, лістом: “Як буду я маліцца пра горад, руйнуемы гневам Божым, няспынна чакаючым яго грымотаў, я, згрызаемы смуткам, хвалюемы духам, разьдзіраемы сэрцам ад лішку лютасьці, напоўніўшай Візантыю? Навошта паверыў ты ворагам Яна? Пакайся!”.[313]

Але ўсё гэта выклікала супраць Яна толькі большую жорсткасць у асяроддзі мікалаітаў, не могучых даравацьь яму яго мінулыя выкрыванні і прыніжэньні. Замест вяртання Яна і безстароннягa разгляду яго справы, якое магло б выкрыць іхныя падробкі адносна “Адкрыцця” і некаторых іншых кніг, прыпісаных імі на саборы 403 года іншай асобе, ворагі Яна летам 407 года перакаланалі імператара выслаць яго яшчэ далей, на вельмі негасьціннае і дзікае ў той час ўзбярэжжа Каўказа, ва ўмацаванне Піфіён (зараз Піцунда) у Абхазіі. Тры месяцы везлі хворага Яна, з разнастайнымі прыніжэннямі, але яму ўжо не было наканавана дасягнуць месца свайго прызначэння.

На шляху ён памёр, каля 14 верасня 407 года, на пяцьдзесят трэццім годзе ад нараджэння і быў пахаваны ў зямлю сваёй вартай паблізу адасобленага паселішча Каманы.

# VIII. Цяжкасьці ў разуменні лёсу Яна, калі не лічыць яго аўтарам Апакаліпсіса.

Чытач сам бачыць, што “Адкрыцьцё ў навальніцы і буры” настолькі ж патрэбна для разумення жыццёвага шляху Яна, наколькі і сам ён патрэбны для разумення некаторых месцаў “Адкрыцця”. І Апакаліпсіс, і жыццёвы шлях Яна з'яўляюцца няскончанымі, пакуль яны паасобку. Уся біяграфія Яна без “Адкрыцця” з’яўляецца нейкай суцэльнай фантасмагорыяй, пры якой наступныя падзеі не з’яўляюцца наступствам папярэдніх, а адначасовыя не стасуюцца паміж сабой.

[313] Quomodo a me petis, ut orare digner... Nil. Epist. 233 ad Arcad.

Сапраўды, кім быў Ян Антыяхійскі? Спачатку вучоны язычнік з бліскучай згодна са сваім часам адукацыяй і бліскучымі перспектывамі на будучыню, затым пустэльнік-аскет, раздаўшы ўсю сваю маёмсць бедным і схільны да сузірання нябачнага свету і містыцызму, а пасьля гэтага збеглы манах, які прытуліўся ў якасьці прапаведніка ў арыгеніцкага біскупа Флавіяна, не прызнаваемага ў якасьці біскупа афіцыйнай царквой.

Затым ідуць: знішчэнне царскіх статуй ў Антыёхіі і неадкладная паездка яго біскупа Флавіяна ў Канстантынопаль для нейкіх апраўданняў. Поўная адсутнасць паведамленняў пра жыццё Яна пасьля гэтага часу да 398 года. І раптам прызначэнне гэтага апазіцыйнага і непрызнанага прапаведніка на пасаду вярхоўнага канстантынопальскага біскупа, з тытулам патрыярха і неабмежаваным уплывам, як раз праз два гады пасьля вылічанай намі даты складання Апакаліпсісу, калі ўжо паспела разыйсьціся значная колькасць копій з гэтай кнігі!

Потым мы назіраем: адчайны супраціў гэтаму нечаканаму ўзвышэнню як яго самога, так і яго антыяхійскіх прыхільнікаў. Яго выкраданне із Антыёхіі і прывоз у Канстантынопаль пад вартай, каб не збег. Яго ўрачыстую небывалую сустрэчу усімі станамі сталіцы. Яго адмова прыняць прапанаванае прызначэнне да склікання да яго на сабор астатніх біскупаў Усходу. Скліканне гэтага сабора і аднагалоснае зацвярджэнне ім Яна, – усеагульны інтарэс насельніцтва да яго базылікі ў апошнія тры гады чацвёртага стагоддзя і яго павучанні пра бязмежную міласэрнасць бога да пакаяўшыхся грэшнікаў, з дзіўнай схільнасьцю вяртацца пры кожнай зручнай нагодзе да адменены богам прароцтваў.

Затым з першым пераvалам у пятае стагоддзе, калі фіяска апакаліптычнага прароцтва стала відавочным, ідуць адно за адным:

– Шалёнае ганеньне на арыгенітаў пасьля нейкай яго тлумачальнай вандроўкі ў Малую Азію,

– Прызначэнне над ім суда і яго “асуджэнне” ўсеагульным саборам за тое, што абразіў усходнюю царкву і нейкую Іезабэль, тады як шэсць гадоў таму назад тыя ж самыя біскупы сілком прызначалі яго сваім правадыром,

– Надмерна моцная паніка ў асяроддзі ўсяго насельніцтва Канстантынопаля пры маленькім, не меўшым наступствам влікай шкоды землятрусе пасьля яго выгнання, неадкладна прыведзенага ў сувязь з гэтым землятрусам,

– Лямант, што разбурыцца ўвесь горад, калі Ян не будзеце вернуты,

– Яго новае ўрачыстае прызначэнне насуперак “асудзіўшаму” яго сабору,

– Яго павучанні пра знішчэнне выстаўленай на плошчы статуі імператрыцы, якія нагадваюць пра знішчэнне пры ім жа статуй усяго імператарскага сямейства ў Антыёхіі,

– Сварка за гэта з імператрыцай і імператарам,

– Другі саборны суд над ім з другім “асуджэннем” ужо выкінутага із царквы,

– Незвычайныя цырымоніі пры яго выдаленні із горада па этапах: спачатку хатні арышт у самім горадзе, затым зняволенне па суседству са сталіцай у Нікеі, каб у выпадку небяспекі можна было вярнуць яго ў Канстантынопаль, і, нарэшце, (ужо пасьля сьмерці быццам бы пакрыўджанай ім

